ББК 81.2Бел
Б43

Рэдактар
В.П.Лемцюгова, кандыдат філалагічных навук

Рэцэнзенты:
А.Я.Супрун, доктар філалагічных навук,
Р.У.Краўчук, кандыдат філалагічных навук

Беларуская анамастыка, 2 : [Зборнік/Рэд. В.П.Лемцюгова]. — Мн.: Навука і тэхніка, 1981. — 211 с.
80 к.

Кніга складаецца з артыкулаў, у якіх даследуюцца тры асноўныя кола анамастыкі — айконімы, мікратапонімы і антрапонімы. Ана[illegible]ча не выкарыстаны матэрыял, аўтары робяць спробу растлумачыць некаторыя заканамернасці ўзнікнення уласных геаграфічных назваў і асабовых імён, паказаць тэрыторыю распаўсюджвання асобных словаўтваральных мадэлей.

Разлічана на лінгвістаў, этнографаў, географаў, гісторыкаў.

Б $\frac{70105 - 126}{М316 - 81}$ 250—80 4602010000

ББК 81.2Бел
4Бел

# П Р А Д М О В А

У зборнік "Беларуская анамастыка" ўключаны артыкулы, падрыхтаваныя беларускімі анамастамі ў 1976--1978 гг. /у папярэднім, які выйшаў у 1977 г., змешчаны працы, выкананыя ў 1973 -- 1975 гг./. Анамастыка прадстаўлена трыма яе асноўнымі раздзеламі: антрапаніміяй, айканіміяй і мікратапаніміяй. Усе артыкулы напісаны на новым матэрыяле, у іх даследуюцца тэарэтычныя пытанні анамастыкі, канкрэтныя пытанні семантыкі і словаўтваральнай структуры антрапонімаў і тапонімаў, пытанні ўзаемадзеяння і ўзаемаадносін паміж агульнымі і ўласнымі назвамі, а таксама прычыны і спосабы пранікнення іншамоўных элементаў у беларускую тапаніміію і ступень іх адаптацыі. У асобных артыкулах знайшлі адлюстраванне асаблівасці функцыяніравання антрапонімаў і тапонімаў, пытанні, звязаныя з выкарыстаннем геаграфічнай тэрміналогіі пры ўтварэнні ўласных геаграфічных назваў. Некаторыя з аўтараў прапануюць сабраны імі ў палявых умовах мікратапанімічны матэрыял, пададзены ў выглядзе невялікіх слоўнікаў.

Увогуле інтарэсы аўтараў самыя розныя. У цэлым тэматычная накіраванасць артыкулаў з"яўляецца адлюстраваннем агульнага напрамку і стану анамастычных даследаванняў у Беларусі.

У канцы кнігі змешчаны бібліяграфічны ўказальнік па беларускай анамастыцы, які ахоплівае перыяд 1975--1978 гг.

Гэты зборнік, як і папярэдні, з"яўляецца сведчаннем узрастаючай цікавасці да праблем анамастыкі ў Беларусі. Разнастайнасць тэматыкі, навізна пастаноўкі і вырашэння асобных пытанняў, безумоўна, прыцягнуць увагу спецыялістаў па анамастыцы. Пытанні больш канкрэтныя і пытанні практычнага характару зацікавяць шырокае кола даследчыкаў анамастыкі, лінгвістаў, гісторыкаў, географаў.

М.В.Бірыла

# УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ АНТРАПОНІМЫ З АДМОЎЕМ НЕ- ТЫПУ НЕЖДАН, НЕДБАЙ, НЕБАБА, НЕКРАС, НЕВАШ, НЕТРЕБА

Артыкул з"яўляецца часткай працы, адзін з фрагментаў якой, прысвечаны разгляду чатырох мадэлей антрапонімаў з адмоўем не- /"не- + корань дзеяслова", "не- + корань дзеяслова з прыстаўкай", "не- + корань дзеяслова + канчатак -а", "не- + корань дзеяслова з прыстаўкай + канчатак -а"/, ужо апублікаваны[1].

Да прыняцця хрысціянства імёны з адмоўем не- складалі адну з груп так званых прафілактычных, абаронных імён, закліканых па ўяўленню старажытных людзей папярэдзіць адмоўнае ўздзеянне "ндобрай сілы" на лёс асобы, якую хацелі абараніць. Відавочна, аналагічнае значэнне імёны з адмоўем не- мелі і на працягу двух трох стагоддзяў і пасля прыняцця хрысціянства. Такое дапушчэнне можна зрабіць на падставе вывучэння імён-кампазітаў, якія ўжываліся яшчэ у XII--XIII стст. Усходнеславянскія пісьмовыя крыніцы фіксуюць антрапонімы з адмоўем не- аж да канца XVII ст., а сляды іх даволі выразна захаваліся ў сучаснай усходнеславянскай айканіміі і антрапаніміі /прозвішчах/.

I. У гэтым артыкуле разглядаюцца антрапонімы, матываваныя дзеяслоўнымі асновамі, назоўнікамі, прыметнікамі, займеннікам і прыслоўямі, у прыватнасці -- мадэлі:

---

[1] Бірыла М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем не- тыпу Невор, Непосед, Недвига, Недомолва. -- Беларуская анамастыка. Мн., 1977, с. 128--169.

адмоўе не- + дзеепрыметнік з суфіксам -/а/н, -/е/н, -/о/м, -/а/м, -/й/м, -т, -ящ, -ущ, -л /Неждан < не- + Жданъ, Неведом< не- + вѣдомъ, Немыт < не- + мытъ, Непитущой < не- + питущой, Недбал < не- + дбалъ/;

адмоўе не- + дзеяслоўная аснова на -й ці адмоўе не- + дзеяслоўная аснова + суфіксы -/а/й, -/е/й, -/у/й /Недбай < не - + + дбай/ю/ ці не- + дба/ти/ + -й, Негрей < не- + грей/ю/ ці не + гре/ти/ + -й/;

адмоўе не- + дзеяслоўная аснова + суфікс -л /Недбала < не- + + дба/ти/ + -л/а/;

адмоўе не- + назоўнік /Набаба < не- + баба/;

назоўнік з адмоўем не- ў ролі антрапоніма /Невежа < невежа/;

адмоўе не- + корань прыметніка /Некрас < не- + крас/ивый/;

адмоўе не- + прыметнік /Небелый < не- + бѣлый/;

адмоўе не- + займеннік /Неваш < не- + ваш,Несвой< не- + свой/;

прыслоўе з адмоўем не- ў ролі антрапоніма /Нельга < нельга/.

Кожная мадэль даследуецца ў асобным параграфе, у рамках якога антрапонімы аналізуюцца ў слоўнікавых артыкулах, змешчаных у алфавітным парадку. Разглядаюцца імёны, зафіксаваныя ў розных пісьмовых крыніцах, і імёны, рэканструяваныя на аснове сучасных рускіх, украінскіх і беларускіх прозвішчаў, а таксама айконімаў -- галоўным чынам па даных другой палавіны XIX ст.

Асноўная задача артыкула -- устанавіць утваральныя асновы і паказаць семантычныя класы лексікі, якая выкарыстоўвалася пры ўтварэнні імён з адмоўем не-. У слоўнікавых артыкулах прыводзіцца апелятыўны матэрыял, які, на думку аўтара, служыў базай пры ўтварэнні імён. Са спасылкай на крыніцу пасля лічбы I падаюцца зафіксаваныя антрапонімы з адмоўем не-, а таксама рускія, беларускія і украінскія прозвішчы, а пасля лічбы II -- айконімы, якія маюць тую ж утваральную аснову, што і разглядаемае імя. Прозвішчы і айконімы выкарыстоўваюцца ў якасці дадатковай ілюстрацыі пры фіксаваных імёнах і для рэканструкцыі імён, невядомых па пісьмовых крыніцах. Рэканструяваныя імёны адзначаюцца зорачкай.

2.1. Імёны, утвораныя ад кароткіх і поўных дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу з суфіксам -н/ый, ой/, -ен.

*НЕДАН параўн. ст.-р., ст.-б. дати 'даць' /Ср., КССБМ/.

II. Неданово Маск.

НЕЖДАН парaЎн. ст.-р., ст.-б. ждати, жьдати 'чакаць' /Ср., КССБМ/. I. Неждан Никитин сын Ресцова сел. 1564, Неждан Киреев сел. Суздальскага п. 1579, Неждан Дутьянчиков ноЎгарадскі пам. 1595, Поп Клементий по прозвищу Неждан Васильев сын Лентьева 1601, Неждан Петров сын кастрамскі ямщчык 1605, Неждан Федоров 1613, Неждан Иванов сын сел. 1621, Неждан Ильин сын Усов кастрамскі дв. 1642 /Туп./. II. Нежданова Вяцк., Нежданова Слобода Цв., Нежданово Кастр., Смал., Цв., Неждановка Вар., Суч.: у УССР -- Нежданівка Харк. в.

НЕЗВАН парaЎн. ст.-р., ст.-б. звати, зъвати 'клікаць, зваць', 'называць', 'запрашаць' /Ср., КССБМ/, ст.-б. незваный 'няўзваны'. I. Незван Дмитрий Степанович Ртищев ХУ ст. /Вес./.

НЕЗНАН парaЎн. ст.-р., ст.-б. знати 'ведаць' /Ср., КССБМ/. I. Мирошка Незнанич пасаднік ноЎгарадскі 1189 /Туп./, Незнан сел. ноЎгарадскі ХУI ст., Юрий Незнанов НоЎгарад 1570 /Вес./. II. Незнаново Раз., Смал., Незнановка Тамб. Суч.: у УССР -- Незнанів Льв. в.

*НЕПОЗНАН парaЎн. ст.-р. познати 'даведацца, уведаць', 'заЎважыць, пазнаць' /Ср./, гл. ст.-б. непознаный 'непазнаны; нявывучаны' /КССБМ/. II. Суч.: у УССР -- Непізнаничі Жыт. в.

*НЕПРОЗВАН парaЎн. ст.-р. прозвати 'назваць, даць назву' /Ср./. I. СБП НепразванаЎ /БА II 299/.

НЕСМЕЯН парaЎн. ст.-р. смѣятися 'смяяцца', 'насміхацца' /Ср./. I. Несмеян швец у Луцкім п. 1586, Несмеян рязЎскі баярын ХУI ст., Несмеян, да Олексей, да Иван Матвеевы дети Гольцова пам. разанскі 1616, Несмеян Чаплін пісец арзамаскі 1620, Несмеян Иванов сын Чаплин дв. маскоЎскі 1625, Несмеян Жехов стралецкі сотнік у Маскве 1622, Несмеян Логвинов тое ж 1633 /Туп./, Иван Несмеянов Суздаль ХУ ст., Григорий Иванович Несмеян Чаплин 1649 /Вес./, Василья Несмеяна 1588 Гр. /АВАК XXI 289/. II. Несмеянов Кур., Несмеяновская НоЎг.

*НЕСТАН парaЎн. ст.-р. стати 'стаць, спыніцца', 'стаць, Ўстаць, узняцца'; 'застацца' /Ср./. II. Суч.: у БССР -- Нястанавічы Гом. з.; у УССР -- Нестанічі Льв. в.

2.1.1. НЕБАЖЕН I. Небажен Пятого Федищев -- Зубатого Кастрама 1560 /Вес./.

*НЕБУЧЕН параўн. ст.-р. бучати, бучити 'раўці' /Ср./, ст.-б. бучне, бучны, бучан. II. Небученово Кастр.

*НЕЗДЕН параўн. ст.-р., ст.-б. дѣти 'рабіць, распараджацца', дѣти, дѣяти 'гаварыць' /Ср., КССБМ/. II. Незденово Цв.

2.1.2. *НЕВЕНЧАНЫЙ I. СУП Невінчаний /Дав. 164/.

*НЕПОКУПНЫЙ I. СБП Непакупны /БА II 299/.

НЕСОЛЕНОЙ I. Несоленой /Сел. 137/.

НЕТЕСАНЫЙ I. Нетесаный Иван сел. арзамаскі 1585 /Вес./.

*НЕУМЫВАНЫЙ I. СБП Неўмываны /БА II 299/.

2.2. Імёны, утвораныя ад каротніх і поўных дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу з суфіксам -т.

*НЕБЫТ параўн. ст.-р. быти 'быць, існаваць', 'адбывацца', 'знаходзіцца' /Ср./, ст.-б. небытие, небытье, небытность /Нас. АУ/. I. Небытов Опас Ноўгарад 1570 /Вес./. II. Суч.: у БССР — Небытаў Гом. в.

*НЕДЕТ параўн. ст.-р. дѣяти, дѣти, дѣю 'гаварыць', дѣяти 'рабіць', 'дзейнічаць', 'чапаць' /Ср./. II. Недетово Кал.

*НЕДУТ параўн. ст.-р. дути 'дуць, дзьмуць' /Ср./. II. Недута Ноўг.

*НЕКРЫТ параўн. ст.-р. крыти 'крыць, рабіць страху', крытися 'хавацца' /Ср./. II. Некрытовка Том. Суч.: у УССР — Некритове Льв. в.

*НЕКУТ параўн. ст.-р. кути, ковати 'куць, каваць', 'закоўваць' /Ср./. II. Некутиха Кастр.

*НЕМЫТ параўн. ст.-р. мыти 'мыць', мытися 'мыцца' /Ср./. II. Немытовка Раз., Немытовский Тамб.

*НЕПОРОТ параўн. ст.-р. пороти 'пароць, распорваць, разразаць' /Ср./. II. Суч.: у БССР — Нипораты Віц.; у УССР — Непоротове Черн.в.

*НЕУМЫТ параўн. ст.-р. умыти 'абмыць, памыць, умыць', 'абліць, арасіць', умытися 'памыцца, умыцца' /Ср./. I. Неумытовы сяляне курмышскія 1624 /Вес./.

2.2.1. НЕГНУТОЙ I. Негнутой ХУП ст. /Туп./.

НЕМЫТЫЙ I. Немытый Григорий сел. курмышскі 1624 /Вес./.

НЕМЯТОЙ, НЕМЯТЫЙ I. Немятой Андреев сын Тишков баярын маскоўскі 1562, Гур Немятой пад"ячы маскоўскі 1689 /Туп./, Немятый Дичков Баймаков 1545, Немятый Александрович Кутузов ХУІ ст. /Вес./. II. Немятова Раз.

НЕПОКРЫТЫЙ І. Непокрытый Иван сел. арзамаскі 1600 /Вес./.

*НЕШИТОЙ І. СУП Нешитой /фіксацыя аўтара/.

2.3. Імёны, утвораныя ад дзеепрыметнікаў залежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі -ом, -ам, -им.

НЕВЕДОМ параўн. ст.-р., ст.-б. вѣдати 'ведаць', 'кіраваць, заведваць', вѣдѣти 'ведаць', 'умець' /Ср., КССБМ/, ст.-б. невѣдомый / Нас. АУ 225/. І. Неведом Пасмуров Язнков Арзамас 1613 /Вес./. ІІ. Суч.: у БССР -- Невядомшчына Віц. в.

*НЕВИДОМ параўн. ст.-р., ст.-б. видѣти 'бачыць', 'глядзець' /Ср., КССБМ/, ст.-б. неведомый. І. Митко Невидомов казак 1699 /Туп./.

*НЕЗНАМ параўн. ст.-р., ст.-б. знати 'ведаць, знаць' /Ср., КССБМ/, рус. незнам 'незнаёмы чалавек' /Даль/. І. СБП Нязнамаў /БА П 301/, СРП Незнамов /Бенс./. ІІ. Незнамово Кастр., Кур.

НЕЛЮБИМ параўн. ст.-р., ст.-б. любити 'кахаць', 'любіць, аддаваць перавагу, мець схільнасць' /Ср., КССБМ/, ст.-б. нелюбимый /КССБМ/. І. Нелюбим Дорофеев сел. арзамаскі 1613 /Вес./.

*НЕНАРОКОМ параўн. ст.-р., ст.-б. нарѣкати 'называць' /Ср./, ст.-б. ненарок /КССБМ/. ІІ. Ненарокомовка Сар.

*НЕОПАЛИМ параўн. ст.-р. опалити 'апаліць', 'спаліць' /Ср./, ст.-б. неопалимый /КССБМ/. ІІ. Суч.: у УССР -- Неопалимівка Кір.в.

2.4. Імёны, утвораныя ад дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу з суфіксам -л ці ад формы прошлага часу.

*НЕБЫВАЛ параўн. ст.-р., ст.-б. бывати 'бываць, станавіцца', 'прыходзіць' /Ср., КССБМ/, ст.-б. небывалый. ІІ. Небывалово Смал.

*НЕБЫЛ параўн. ст.-р., ст.-б. быти 'быць, існаваць', 'адбывацца', 'знаходзіцца' /Ср., КССБМ/, ст.-б. небылый /КССБМ/. ІІ. Суч.: у УССР -- Небилів І.-Ф.в.

*НЕДБАЛ параўн. ст.-б. дбати 'дбаць, рупіцца, клапаціцца' /КССБМ/, недбале, недбало, недбалый /КССБМ/. І. Пронец Недбалович 1589 Бр. п. /АВАК ХУШ 78/.

*НЕДОСТАЛ параўн. ст.-р. достати; не достати 'не хапаць, не даставацца' /Ср./, ст.-б. достати 'дастаць' /КССБМ/. ІІ. Недосталь Палт.

НЕДРЫГАЛ параўн. ст.-р. дрыгатися 'дрыжаць' /Ср./, ст.-б. дригати 'т.с.' /КССБМ/. І. Ян Недрыгал Чаркаск 1552, Ивашка Недрыгалов Пуціўль /Туп./.

НЕЕЛ параўн. ст.-р., ст.-б. ѣсти 'есці' /Ср., КССБМ/, ст.-б. неедший 'які не еў' /КССБМ/. I. Семен Неел халоп. 1481 /Вес./. II. Неелово Пск., Смал. /3/, Уладз., Цв., Пенз., Сар.

*НЕЖИЛ параўн. ст.-р., ст.-б. жити 'жыць', 'пражываць, жыць' /Ср., КССБМ/. II. Нежилово /2/, Нежиловка Уладз. Суч.: у БССР — Нежылішкі Віц. в.

*НЕКИПЕЛ параўн. ст.-б. кипети, некипелый /КССБМ, Нас. АУ/. II. Некипелова Перм.

*НЕКРЫЛ параўн. ст.-р., ст.-б. крыти, крити 'крыць, рабіць страху', крытися 'хавацца' /Ср., КССБМ/. I. Дементий Некрылов Валуйск 1675 /Туп./. II. Некрылов Вар.

*НЕМОКЛ параўн. ст.-р., ст.-б. мокнути 'мокнуць' /Ср.,КССБМ/. II. Немокли Смал.

НЕПОСПЕЛ параўн. ст.-р. поспѣти 'паспець, успець' /Ср./. I. Непоспел Григорьев казак 1633 /Туп./.

*НЕПОЧАЛ параўн. ст.-р. почати 'пачаць' /Ср./. I. СБП Непачаловіч /БА II 299/.

*НЕРОСЛ параўн. ст.-р. расти, рости 'расці, падрастаць' /Ср./ II. Нерослова Херс., Нерослиха Ніж.

2.5. Імёны, утвораныя ад дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі -ящ, -ущ.

НЕПИТУЩОЙ I. Роман Непитущой зах. 1577, двор земянский Григоровое Непитущее зах. 1545 /Туп./.

*НЕПОМНЯЩИЙ I. СБП Няпомняшчы /БА II 302/.

Дэрываты мадэлі "адмоўе не- + дзеепрыметнік" складаюць 10% усіх разгледжаных. Зарэгістраваныя антрапонімы: Неждан, Незван, Незнан, Несмеян, Небажен, Невенчаный, Недочищеный, Непокупный, Несоленой, Нетесаный, Неумываный, Неведом, Нелюбим; Негнутой, Немытый, Немятой, Немятый, Непокрытый, Нешитой; Непитущой, Непомнящий; Недрыгал, Неел, Непоспел; рэканструяваныя па антрапонімах: Непрозван; Невидом, Незнам; Небыт, Неумыт; Недбал, Некрыл, Неочал; рэканструяваныя па айконімах: Недан, Непознан, Нестан, Небучен; Ненароком, Неопалим; Недет, Недут, Некрыт, Некут, Немыт, Непорот; Небывал, Небыл, Недостал, Нежил, Некипел, Немокл, Недоел. Матываваны яны адпаведнымі дзеепрыметнікамі без адмоўя ці семантычна ўтворанымі ад іх антрапонімамі: бажен, Бажен : бажати; бучен, Бучен : бучити; бывал, Бывал : бывати; ведом, Ведом : вести; был, Был : быти; гнутой, Гнутой : гнути,

3. Імёны, утвораныя ад дзеясловных асноў цяперашняга часу на -й пры дапамозе адмоўя не- ці ад іншых асноў пры дапамозе адмоўя не- і суфіксаў -/а/й, -/е/й, -/у/й.

3.1. *НЕДБАЙ параўн. рус., укр., бел. дбати /дбаю/. II. Недбаевка Чарн.

НЕЗНАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. знати /знаю/ 'ведаць' /Ср., КССБМ/. I. Анофрей прозвище Незнай сел. сольвычагодскі /Туп./, СБП Нязнаеў /БА II 301/.

НЕЛОМАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. ломати /ломю/ 'ламаць' /Ср., КССБМ/. I. Неломай Остафьев сын Олферьева Дурново дв. маскоўскі 1585 /Туп./.

*НЕМЕШАЙ параўн. ст.-р. мѣшати /мѣшаю/ 'мяшаць, замешваць' /Ср./. II. Немешаево Вяцк. Суч.: у УССР -- Немішаеве Кіеў. в.

*НЕМОГАЙ параўн. ст.-р. мочи /могу/ 'магчы' /Ср./, ст.-б. могти, могчы 'т.с.', немогливый, немогучий 'слабы, які не можа' /КССБМ/. I. СБП Немогай /БА II 299/.

НЕПХАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. пьхати, пъхати /пъхаю/ 'піхаць, таўхаць' /Ср., КССБМ/. I. Иван Непхай 1528 Гр. /АВАК УП 9/. П. Непхаево Кур.

НЕПЫТАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. пытати /пытаю/ 'пытаць', 'дапытваць, весці допыт' /Ср., КССБМ/. I. Яков Непытаев сел. белаэерскі 1673 /Туп./, Непытай Рукавов 1543, Непытай Тимофеев сел. арзамаскі 1586 /Вес./.

*НЕРУБАЙ параўн. ст.-б. рубати /рубаю/ 'сячы', рубатися 'біцца мячамі' /КССБМ/. II. Нерубайка Херс. Суч.: у УССР -- Нерубаівка, Нерубайка Кір. в.

*НЕРУШАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. рушати 'разбураць', 'парушаць', 'перасоўваць, перамяшчаць' /Ср., КССБМ/. II. Суч.: у УССР -- Нерушай Ад.в.

НЕСВЕТАЙ параўн. ст.-р. съвѣтати /съвѣтаю/ 'згаворвацца, сумесна задумваць што-небудзь' /Ср./. I. Несветай Копылов Ноўгарадская вобл. 1595 /Туп./. II. Несветай Екац., Несветаевка Сар., Несветаевская, Несветаевский Вяцк.

НЕСВИТАЙ параўн. ст.-р. свитати /свитаю/ 'развідніваца, днець, світаць' /Ср./. I. Несвитай Осипович Головкин 1565, Несвитай Дмитриевич Тютчев 1613, Василий Несвитаев Белвозера 1612 /Вес./. II. Несвитаево Уладз.

НЕСПРАШИВАЙ параўн. ст.-р., ст.-б. съпрашивати /съпрашиваю/ 'распытваць' /Ср., КССБМ/. I. Неспрашивай Алексеевич Измайлов 1603 /Вес./.

*НЕСТУКАЙ параўн. ст.-б. стукати /стукаю/ 'стукаць' /КССБМ/. II. Суч.: у УССР -- Нестукаївка Луг. в.

НЕУСЫПАЙ параўн. ст.-р. усыпати /усыпаю/ 'паміраць', усъпити 'Усыпіць, супакоіць, уціхаміраць' /Ср./, ст.-б. усыпати /усыпаю/ 'насыпаць' /КССБМ/. II. Неусыпай Лазарь Никонов сел. разанскі 1613, Неусыпай сел. курмышскі 1625 /Вес./.

*НЕХОТЯЙ параўн. ст.-р., ст.-б. хотѣти 'хацець, жадаць', "патрабаваць, дабівацца' /Ср., КССБМ/. II. Нехотяевка Чарн.

НЕЦВЕТАЙ параўн. ст.-р. цвьсти /цвьту, цвѣту/ /Ср./, рэг. бел. цвесці. I. Треня Нецветай сел. сольвычагодскі 1629 /Туп./, СБП Нецвятай /БА II. 303/, СРП Нецветаев /Бенс./.

*НЕЧИНАЙ параўн. ст.-р. чинити /чиню/ 'устройваць', 'выраблянь, нарыхтоўваць', 'рабіць' /Ср./. II. Нечинаевшина Вяцк.

*НЕЧУНАЙ параўн. ст.-р. чунути /чуну/ 'сарамаціць, ушчуваць, лаяць' /Ср./. II. Нечунаева Перм., Том., Нечунаево Ніж., Нечунайка Том., Нечунаевская Вяцк. /2/.

3.2. *НЕВЕДРЕЙ ад вѣдрѣти 'распагоджвацца'? I. Богдан Неведреев баярын пскоўскі 1608 /Туп./, Неведриев Федор Исаевич Пскоў 1597 /Вес./.

*НЕГРЕЙ параўн. ст.-р., ст.-б. грѣти. I. СБП Нягрей /БА II 301/, СРП Негреев /Бенс./, СУП Негрій /Дав. 164/.

*НЕДОЖДЕЙ параўн. ст.-р. дождати, дожду 'дачакаць, дачакацца'. I. СУП Недождій /Дав. 164/.

НЕПОГОДЕЙ параўн. ст.-р. годити 'гадзіць', годитися 'згаджацца', 'быць задаволеным' /Ср./, ст.-б. погодити, погодитися 'памірыцца, згадзіцца' /Нас. АУ/. I. Непогодей Иванович Чуркин Арзамас 1578 /Вес./.

НЕПРОЛЕЙ параўн. ст.-р. пролити /пролию и пролью/ 'разліць, выліць' /Ср./. I. Семен Непролей Гаврилович баярын смаленскі 1386 /Туп./.

*НЕСТЕЛЕЙ ад сътьлати 'слаць'? Параўн. ст.-р. стеля 'страха, столь' /Ср./. I. СУП Нестелій /Дав. 165/. II. Суч.: у УССР--Нестеліївка Херс.

*НЕСТУЛЕЙ параўн. ст.-р. сътулитися 'схавацца, стуліцца, затуліцца' /Ср./. II. Нестулеевка Палт.

*НЕХОТЕЙ параўн. ст.-р., ст.-б. хотѣти 'хацець, жадаць', 'патрабаваць, дабівацца' /Ср., КССБМ/, ст.-б. хотѣй заг. лад ад хотѣти /Нас. АУ/. II. Нехотеевка Кур. /2/, Чарн., Нехотиевка Екац.

3.3. НЕВРУЙ, НЕВРЮЙ параўн. ст.-б. врети 'кіпець; бурліць, пераліваццa' /КССБМ/, магчыма, ад рус. врать. I. Ивашко Неврюев стралецкі сотнік 1556 /Туп./, Михаил Игнатьевич Неврюй Коржавин 1528, Иван Михайлович Неврюев Угліч 1571 /Вес./. СБП Няўруеў /БА II 303/. II. Невруево Большое, Невруево Малое Уладз.

*НЕДЕЛЮЙ параўн. ст.-р. дѣлити /дѣлю/ 'дзяліць', 'надзяліць' /Ср./. I. СБП Недзялюеў /БА II 298/.

*НЕМУДРУЙ параўн. ст.-р. мудравати /мудрую/, мудрити /мудрю/ 'развaжаць, думаць' /Ср./. II. Суч.: у УССР — Немудруі Сум.в.

НЕПЛЮЙ параўн. ст.-р. плѣвати, плевати /плюю/ 'пляваць' /Ср./, магчыма, ад загаднай формы.I. Микита Федков сын Неплюев пам. 1495, Тимофей Неплюев Ноўгарад 1650, Леонтий Романов сын Неплюев стольнік маскоўскі 1678 /Туп./, Федор Иванович Неплюй Кобылин ХУ ст., Иван Кузьмич Неплюй Бровцын 1550 /Вес./. СУП Неплюй /Дав. 165/. II. Неплюев Чарн. /2/, Неплюева Екац./2/, Неплюева Большая, Неплюева Малая, Неплюевка Кур. Суч.: у УССР— Неплюеве, Неплюівське Сум. в.

*НЕПОЦЕЛУЙ параўн. ст.-р., ст.-б. поцѣловати /поцѣлую/ 'пацалаваць' /Ср., КССБМ/. I. Непоцелуева Афимья удава 1623 /Вес./.

*НЕСТРУЙ? II. Неструев Чарн.

НЕТРЕБУЙ параўн. ст.-р. трѣбовати /трѣбую/ 'мець патрэбу' /Ср./. I. Андрэй Нетребуй сел. важскай вобл. 1552, Кузьма Нетребуев ХУ ст., Дмитрий и Михаил Осипович Нетребуевы Соль Галіцкая ХУІ ст. /Вес./.

У пераважнай большасці антрапонімы, аднесеныя да дэрыватаў з суфіксам -ай, па структуры супадаюць з асновай дзеясловаў цяперашняга часу /ці з формай другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу/. Напрыклад, Недбай : не дбаю, не дбай; Незнай : не знаю, не знай; Неломай : не ломаю, не ломай; Немешай : не мешаю, не мешай; Непхай : не пхаю, не пхай; Непытай : не пытаю, не пытай; Нерубай : не рубаю, не рубай; Нерушай : не рушаю, не рушай; Несветай : не светаю, не светай; Несвитай : не свитаю, не свитай; Неспрашивай : не спрашиваю, не спрашивай; Нестукай : не стукаю, не стукай; Неусыпай : не усыпаю, не усыпай. Відаць,

генетычна тут суфікс - j , а папярэдні галосны -- тэматычная галосная дзеясловаў на -ати. Выразны суфікс -ай зафіксаваны ў антрапонімах Негодяй, Немогай, Нехотяй, Нецветай, Нечинай, Нечунай. Можна думаць, больш старажытнымі з"яўляюцца антрапонімы першай групы, а антрапонімы другой групы -- інавацыі, акрамя Негодяй, які семантычна з апелятыва негодяй. З ліку ўтварэнняў на -ай зарэгістраваны: Негодяй, Негунай, Незнай, Неломай, Немогай, Непхай, Несветай, Несвитай, Неспрашивай, Неусыпай, Нецветай; рэканструяваны па айконімах: Немешай, Нерубай, Нерушай, Нестукай, Нехотяй, Нечинай, Нечунай. Матываваны дзеясловамі: годити, ?гунати, дбати, знати, ломати, мешати, могти, пхати, пытати, рубати, рушати, свѣтати, свитати, спрашивати, стелити, стукати, усыпати, хотѣти, цвѣсти, чунути.

З ліку ўтварэнняў на -ей структуру, роўную аснове дзеясловаў цяперашняга часу /ці форм другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу/, маюць: ?Неведрей : не ведрею, не ведрей; Негрей : не грею, не грей. Усе іншыя антрапонімы маюць суфікс -ей: Недождей ждати, не жду, не жди; Непогодей : погодити, не погожу, /не/ погоди; Непролей : пролити, не пролью, не пролей; Нестулей : стулити, не стулю, не стулишь; Нехотей : хотети, не хочу, не хоти. Зарэгістраваны: Негрей, Недождей, Нельзей, Непогодей, Непролей, Нестелей; рэканструяваны па антрапонімах: Неведрей, Неведрий; рэканструяваны па айконімах: Нестулей; Нехотей. Матываваны дзеясловамі: ведрѣти, грѣти, дождати, погодити, пролити, стелити, стулити/ся/, хотети.

Сярод дэрыватаў з -уй аснову цяперашняга часу дзеясловаў /ці форму загаднага ладу другой асобы адзіночнага ліку/ паўтараюць: Немудруй : не мудрую, не мудруй; Неплюй : не плюю, не плюй; Непоцелуй : не поцелую, не поцелуй; Нетребуй : не требую, не требуй. Зарэгістравана Неплюй, рэканструяваны па айконімах Непоцелуй, Неструй.

4. Імёны, утвораныя пры дапамозе адмоўя не- і суфіксаў -ала /-ало/, -айло, -ило ад дзеяслоўных асноў.

4.1. *НЕДБАЛА, НЕДБАЛО параўн. ст.-б. дбати 'дбаць, руплівіцца, клапаціцца', недбале, недбало /КССБМ/. І. СБП Нядбала /БА II 301/.

*НЕДОПЫТАЛА, НЕДОПЫТАЛО ад допытати, параўн. ст.-р., ст.-б. пытати 'пытаць, распытваць, дапытваць, весці допыт' /Ср., КССБМ/. І. СБП Недапытальскі /БА II 298/.

НЕУСТАВАЛА, НЕУСТАВАЛО ад уставати, параўн. ст.-р. устати 'спыніцца, перапыніцца', 'супакоіцца', 'змарыцца, утаміцца' /Ср./. I. Микита Неуставала сел. луцкі 1649 /Туп./.

4.2. *Недбайло гл. Недбала. I. СБП Нядбайла /БА II 301/.

*НЕДРЫГАЙЛО параўн. ст.-р. дрыгатися 'дрыжаць' /Ср./. I. Максим Недрыгайлов пам. 1691 /Туп./. II. Суч.: у УССР — Недригайлів Сум. в.

*НЕЗАВЕРТАЙЛО, вілаць, ад завертати 'заварочваць'. II. Незавертайловка Херс.

*НЕСВЕТАЙЛО гл. Несветай. I. СУП Несвітайло /Дав. 165/.

*НЕТАЙЛО параўн. ст.-р. таити 'ўтойваць, скрываць', 'заглушаць у сабе' /Ср./. II. Нетайловка Екац. Суч.: у УССР — Нетайлове Дан. в.

*НЕТРЕПАЙЛО параўн. ст.-р. трепати 'пастукваць, пашлёпваць' /Ср./. I. СУП Нетріпайло /Дав. 165/.

НЕЧИТАЙЛО параўн. ст.-р., ст.-б. читати 'чытаць' /Ср., КССБМ/. I. Феско Нечитайло сел. сўруцкі 1683 /Туп./.

4.3. *НЕЖИЧИЛО параўн. ст.-б. жичити 'жадаць' /КССБМ/. I. Нежичилы сяляне 1594 Аршанскі п. /АВАК УШ 473/.

*НЕМЫЛО ад мыти? II. Немылы Ноўг.

*НЕХОТИЛО ад хотѣти. II. Нехотилово Ноўг.

У ліку антрапонімаў з суфіксамі, у склад якіх уваходзіць зычны -л-, зарэгістраваны: Недбала, Неуставала; Недбайла, Несветайло, Нечитайло; рэканструяваны па антрапонімах: Недригайло, Нетрепайло; рэканструяваны па айконімах: Незавертайло, Нетайло, Нежичило, Немыло, Нехотило. Матываваны яны дзеясловамі дбати, допытати, дрыгати, жичити, завертати, мыти, свѣтати, таити, трепати, уставати, хотѣти, читати.

5. Антрапонімы, утвораныя семантычным шляхам ад назоўнікаў з адмоўем не- ці ад назоўнікаў пры дапамозе адмоўя не-.

НЕБАБА не-баба. I. Небаба Запарожскае войска 1651 /Туп./.

*НЕБАЙ не-бай, магчыма, і ад баяти. II. Небаевка Чарн.

*НЕБАКА не-бака, параўн. рус. бака 'страказа', 'дрэўны грыб, трут' /Даль/, аднак хутчэй ад бакулить, бакать 'гаварыць, гутарыць' /Даль/. II. Небакино Пск.

*НЕБЕДА не-беда. II. Небедины Палт.

*НЕБОГА параўн. небога рус. 'бядняк, няшчасны' /Даль/, укр.

'пляменніца' /Грынч., бел. нябога 'пляменніца' II.Небоги Пск., Небожинской Чарн. Суч.: у УССР -- Небіж Жыт. в.

*НЕБОЛДА параўн. ст.-р. неболда 'цяжкі молат' /Словарь русского языка XI--XУII вв., т.5/, магчыма, ад не-болда. II. Неболдино Ніж.

НЕБРАТ не-брат. I. Небрат Языков Мурам 1543 /Вес./. II. Суч.: у УССР -- Небрат Кіеў. в.

НЕВДАХ параўн. укр. невдаха 'няўдачнік', 'няздольны, няўмелы' /Грынч./. I. Невдах Будькович Кіеў 1633 /Туп./.

*НЕВЕДРЯ ці НЕВЕДРО параўн. рус. неведря 'слабы, хваравіты чалавек' /Даль/, магчыма, і не-ведро, параўн. рус. ведро, ведрие 'добрая пагода' /Даль/, г.зн. неведро 'невясёлы, пахмурны чалавек'. I. Богдан Неведрев углічанін 1669 /Туп./. II. Неведрово Кастр., Пск.

НЕВЕЖА параўн. рус. невежа 'неадукаваны, цёмны чалавек' /Даль/. I. Невежа Зыков сын Обобурова 1500, Невежа Псковитин 1524, Невежа Копнин маскоўскі баярскі сын 1526, Невежа Чириков маскоўскі баярскі сын 1556, Невежа 1567, Невежа Дмитров сын Самарын смаленскі вотчыннік 1610, Невежа Емецкий смаленскі памешчык 1610, Невежа Яковлев разанскі памешчык 1616 ; Невежа Данилов сын рузскі вотчыннік XУП ст. /Туп./ ; Андрей Данилович Невежа-Квашнин XУ ст., Невежа Михайлович Жеребцов, Невежа Прокофьевич Лодыгин XУI ст., Федор Васильевич Невежин 1534. П. Невеж Смал., Невежина Пенз., Невежино Вал., Кастр., Пенз., Пск., Тульск., Уладз., Ярасл.

НЕВЕР параўн. рус. невер 'чалавек, які не верыць, бязбожнік' /Даль/, магчыма, і ад вѣрити. I. Невер Бармин баярын маскоўскі 1377, Невер Волочкович паўдн.-зах. 1477, Невер Яхнов 1498, Невер Симонов сел. уладзімірскі 1542, Невер Щуйгін землеўл. маскоўскі 1551, Невер Рагозинин сел. суздальскі 1579, Невер Харитонов сын сел. салігаліцкі 1600 /Туп./, Невер Бармин дв. XIУ ст., Невер Григорьевич Апроксин Ноўгарад 1545, Невер Тимохин Заворов там жа, Истома Демидов-Неверов 1569 /Вес./. СБП Няввраў, Невяровіч, Невяроўскі. П. Неверов Вяцк., Неверова Раз., Цв., Неверова /Неверово/ Маск., Неверовка Кастр., Уладз. Неверова Слобода Уладз. Неверово Вал., Кастр. /4/, Ніж. /3/, Уладз. /2/, Цв. /2/, Яросл., Неверовская Вал., Неверовские вы-

селки Раз., Неверовское Вал., Яросл., Неверь Арл., Неверьево Цв. Суч.: у БССР -- Невярова, Невярышкі Віц. в./Рап. 1977/, Няверава, Нявэрышкі I, Нявэрышкі II там жа, Няверавічы, Няверашчына Мін. в. /Рап. 1981/, у УССР -- Невирівка Жыт. в., Невір Вал. в.

*НЕВОЛЯ параўн. рус., укр. неволя, бел. няволя 'залежны, паднявольны стан'. Федка Иванов сын Неволин 1689 /Туп./; укр. Неволя /Худаш 149/. II. Неволина Перм., Екац., Неволино Перм., Неволиха Цв.

*НЕГАТЬ не-гать, магчыма, непасрэдна з негать рус. 'грузкая, нягачаная дарога' /Даль/. II. Суч.: у БССР -- Негаціна Віц. в. /Рап. 1977/.

*НЕГНЕВ не-гнев, магчыма, і ад гнѣвати/ся/. II. Негневичи 1473 /РИБ 27 88/, з Негневич 1511 /АСД 6/. II. Суч.: у БССР -- Вялікія Негнавічы, Малыя Негнавічы Мін. в. /Рап. 1981/.

НЕГОДА параўн. рус., укр. негода, нелагода /Даль, Грынч./. I. укр. Негода /Худаш 118/. II. рус. Негодицы 1499--1551 /Купч. 243/.

НЕГОДЯЙ параўн. рус., ст.-б. негодяй, магчыма, і ад годити 'гадзіць, дагаджаць', ст.-б. негодитися 'не гадзіцца, быць непрыгодным' /КССБМ/. I. Оким Негодяев 1430, Онцифор Негодяев сел. каля Шаксны 1483, Петрец Негодяев сын х. пераяслаўскі, Федко Негодяев сел. 1539, Афонасий Терентьев сын Негодяев вотч. дэмітраўскі ХУП ст. /Туп./; Негодяй сел. растоўскі 1501, Калина Негодяй Сергеев х. ноўгарадскі 1594, Верига Негодяев Разань 1550, Иван Негодяев х. ноўгародскі 1602 /Вес./. II. Негодяева Вяцк., Маск., Перм., Негодяево Вал., Смал., Уладз., Цв., Негодяевская Яросл., Негодяевское Вал., Яросл., Негодяиха Вал., Уладз., Цв., Негодяйка Яросл.

*НЕГОСТЬ параўн. рус. негость 'сем'янін, блізкі чалавек' /Даль/, магчыма, і ад гостити. I. Ефим Негостев вотч. кольскі 1607 /Туп./.

*НЕДАР не-дар, магчыма, і ад дарити. II. Недаровка Тульск.

*НЕДОВЕСОК параўн. ст.-р., ст.-б. довесити. I. Кондратий Олексеевич Недовесков дв. 1612, Леонтий Недовесков пад'ячы варонежскі 1631, Ларион Недовесков вотч. 1682 /Туп./, Недовесков Семён Борисович Масква 1578 /Вес./.

*НЕДОГАРОК параўн. ст.-б. недогарок. II. Недогарки Палт. Суч.: у УССР -- Недогарки Кір. в., Палт. в.

*НЕДОЕДОК I. Сесь Недоедкович мешч. пінскі 1629 /Туп./.

НЕДОЛЯ параўн. рус., укр. недоля, бел. нядоля 'няшчасце, цяжкі лёс, цяжкае жыццё'. I. Недоля /Худаш 117/.

*НЕДОМЕРОК II. Недомерки Пск.

*НЕДОНОСОК ст.-б. недоносок. I. СУП Недоносок /Дав. 164/.

*НЕДРУГ рус., укр., ст.-бел. недруг 'непрыяцель, вораг'. I. Недругов Назарий Бадеин Яраслаўль 1568 /Вес./.

НЕДЬЯК не-дьяк. I. Ивашко Онцыфоров сын Недьяк важскі сел. 1552, Недьяк халоп 1557, Недьяк Иванов сын растоўскі прыказчык 1613 /Туп./, Недьяк Андреев пад"ячы ноўгарадскі 1567, Иван Недьяков 1594 /Вес./. II. Недьяково Тульск.

*НЕЖАЛЬ не-жаль, магчыма, і ад жалѣти. II. Суч.: у БССР -- Нежалішкі Віц. в. /Рап. 1977/.

*НЕЖАР не-жар, параўн. таксама укр. нежар 'няскошаная трава, якая перазімавала на корані' /Грынч./. II. Суч.: у БССР -- Няжараўка Мін. в. /Рап. 1981/.

*НЕЖГУТ не-жгут, параўн. рус. жгут 'што-небудзь скручанае вяроўкай', 'пяньковы факел' /Даль/. II. Нежгутово Цв.

*НЕЗВАД не-звад/а/, параўн. укр. звада 'сварка, раздор' /Грынч./, магчыма, і ад звадитися /Грынч./. II. укр. Село на Днепре Незвадичи 1545 /Купч. 245/.

*НЕЗВЕР не-звір, параўн. укр. звір 'аўраг, лагчына', 'звер' /Грынч./. I. Суч.: у УССР -- Незвір. Вал. в.

*НЕКАША не-каша. Истома Некашин сел. Суздальскі 1579 /Туп./, Некашин Истома сел. з Шуі 1579 /Вес./.

*НЕКВАС не-квас, магчыма, і ад квасити. II. Неквасово Смал.

*НЕЛОЙ не-лой, параўн. бел. лой 'топлены баранаў тук'. II. бел. з Нелоевич 1567 /РИБ 33 1183/.

*НЕЛЮД параўн. рус. 'дрэнныя людзі' /Даль/, укр. 'бесчалавечны, жорсткі чалавек' /Грынч./, параўн. ст.-бел. нелюдз/с/ко, нелюдзкость /КССБМ/. II. Нелюдово Ярасл.

*НЕПРАВДА рус., укр. неправда, бел. няпраўда. I. СБП Няпраўда /БА П 302/.

*НЕПУТЬ параўн. рус. непуть 'бесталковы чалавек' /Даль/, магчыма, і ад укр. непутити 'перашкаджаць, стаяць на дарозе, збіваць з толку' /Грынч./. II. Непуть Чарн.

НЕРАТАЙ не-ратай. I. Нератай 1539 /Туп./.

*НЕРЖА не-ржа? II. Нержа Пск.

*НЕРОВНЯ параўн. рус. неровня, укр. нерівня, бел. няроўня 'не пара для шлюбу, няроўны з кім-небудзь па становішчы'. II. Неровнин Чарн.

*НЕРЫБА не-рыба. I. Нерыбин Никифор Никифорович 1662 /Вес./.

*НЕСОН не-сон. I. СБП Нясон, Нясонаў /БА II 302/. II. Несоново Смал.

НЕСОСЕД не-сосед. I. Несосед Семёнович Пестов 1571 /Вес./.

*НЕСТУК не-стук, магчыма, і ад стукати. II. Нестук Палт.

НЕСЫН не-сын. I. Несын Зеленович сел. мазырскі 1552, Несын Глушанин пушкар мазырскі 1552, Павел Несын сел. паўдн.-зах. 1684 /Туп./; укр. Несін /Худаш 134/.

*НЕТОПОР не-топор. II. Нетопорово Смал.

НЕУГОД параўн. рус. неугода 'чалавек, якому нельга ўгадзіць' /Даль/, магчыма, і ад угодити. I. Неугод Федоров сын Юрьева дв. маскоўскі 1505 /Туп./, Неугод Степанович Головнин Волагда 1596, Неугод Давид Неферьевич Арбузов Арзамас 1585 /Вес./. II. Суч.: у БССР — Неугадава Віц. в. /Рап. 1977/.

НЕУДАЧА параўн. рус. неудача, укр. невдача, бел. няўдача. I. Неудача Мишохин пад"ячы у Наўгародчыне 1595, Неудача Ховралев дзьяк маскоўскі 1605, Неудача Остафьевич Плещеев ваявода верхатурскі 1605 /Туп./; Неудача Цыплятов Монастырев XVI ст., Иван Евстафьевич Неудача Плещеев /Вес./. II. Неудачино Кастр.

*НЕЦВЕТ не-цвет. I. СБП Няцвет /БА II, 303/.

6. Антрапонімы, утвораныя ад прыметнікаў.

6.1. Антрапонімы, утвораныя семантычным шляхам ад кароткіх прыметнікаў.

*НЕВЕЛЬ 'невялікі'. I. СУП Невелич /Дав. 164/. II. Невелино, Невелиха Пск., Невель Херс. Суч.: у УССР — Невельске Дан. в., у БССР — Невель Бр. в. /Рап. 1980/, Нявелічы Мін. в. /Рап. 1981/.

*НЕВЕСЕЛ 'невясёлы'. II. Невесель Смал.

*НЕКЛЮД 'няўклюжы, нескладны'? II. Няклюдава Віц. в. /Рап. 1977/.

НЕКРАС параўн. ст.-р., ст.-б. некрасивый. I. Некрас цівун Кіеўскага мітрапаліта 1461, Лаврик Некрас Малгин сын Пераслаўскі п. 1491, Некрас Гародзенскага паг. 1495, Ивашко Дюкин да его дети Некрас да Ивашко пам. Ноўгародскай вобл. 1495, Борис да Олексейко Некрас Семеновы дети Базарова пам. Міхайлаўскага паг. 1495, Некрас Порецкий пам. Еглінскага паг. 1495, Митя Нек-

рас Иванов сын Холяков пам. Яжалобіцкага паг. 1495, Некрас Григорьев сын Мякинина пам. у Вялікапарожскім паг. 1495, Некрас х. у Фралоўскім паг. 1498, Некрас Васильев сын Юрьева б.Маскоўскага мітрапаліта 1500, Некрас Семенков х. Гародзенскага паг. 1500, Некрас Гридин сын Крекшина пам. у Кіненскім паг. 1500, Некрас Григорьев Кузминский ноўгарадскі землеўл. 1500, Некрас Назимов пам. у Замозкім паг. 1500, Некрас Рукавов пам. у буркоўскім паг. 1500, Некрас х. 1506, Некрас Игнатьев сын Федосеева Мозолев 1509, Некрас Харламов маскоўскі дзьяк 1516, Некрас Овсяников сын х. 1518, Некрас Иванов сел. Юр"еўскага п. 1525, Некрас Попов сын Ильин 1529, Некрас Иванов сын Петрова ХУI ст., Некрас Шилов 1535, Некрас Филипов бежыцкі сел. 1536, Некрас Семенов сын Бронников Москва 1538, Некрас Старадубскі сел. 1539, Некрас Офонасьев сын Моисеева пам. у Дзягожскім паг. 1539, Некрас Онаньин уладзімірскі сел. 1542, Некрас Панин сел. Валагодскага п. 1554, Некрас Клементьев сын сел. Пераслаўскага п. 1556, Некрас Пахотин Суздальскі сел. 1556, Некрас Бурдукин яраслаўскі сел. 1556, Некрас Иванов сын Черневского Белазерскі пасадскі 1560, Олехно Некрас канюшы у Літоўскім кн. 1516, Некрас Семенов бежацкі сел. 1536, Иван Некрас дв. Літоўскага караля 1541, Некрас Михайлов Маскоўскі рам. 1585 /Туп./ ; Некрас Васильевич Фомин 1496, Тарас Андреевич Некрас Аничков ХУI ст. /Вес./. II. Некрасов Перм., Чарн., Некрасов Двор Вал., Некрасова Кал. /3/, Кур., Перм. /4/, Смал. /3/, Херс., Некрасова Большая, Некрасова Малая Раз., Некрасово Ноўг. /4/, Смал., Некрасовка Вал. /4/, Кал., Пск. /2/, Раз. /2/, Тульск., Уладз., Цв. /2/, Чарн., Ярасл. /2/, Некрасовщина Вал., Некрасовы Вяцк., Некрасы Перм., Некрасина Маск., Некрасиха Вал., Кастр., Смал., Уладз., Цв., Некрасовская Вал./4/, Некрасовский Тамб., Некрасовское Вал., Некрасовы Гривы Ноўг. Суч.: у БССР -- Някрасаў, Някрасава Гом. в., у УССР -- Некрасове Він. в., Кір. в., Крым. в., Сум. в., Некрáсовка Крым. в. /2/.

НЕКРАСА ж., магчыма,ад м. Некрас. Некраса Шишулина халопка Суздаль 1565 /Вес./.

НЕЛЕП параўн. ст.-б. нелепо "непрыгожа" /КССБМ/. I. Нелеп Скробович рацежкі сел. 1565, Тимофей Нелепов Запарожскі казак 1653 /Туп./ ; Лукаш Андреевич Нелеп 1567 Мін. II. 1228. II. Суч.: у БССР -- Нелепава Мін. в. /Рап. 1981/.

*НЕЛЮБ парау́н. рус., укр. нелюб 'нелюбімы, нямілы' /Дабр., Грынч./. II. Бел. Нелюбовичи 1563 /Купч. 243/. Суч.: у БССР — Нелюбы Мін. в./Рап. 1981/.

*НЕМИЛ 'нямілы'. I. Немилов Кузьма Ржэу́ 1660 /Вес./. II. Суч.: у УССР — Немилів Льв. в.

НЕСУЖ 'нясуджаны'. II. Несуж.

НЕСЫТ I. Несыт Григорьевич Головленков ХУI ст., Несыт Елизарович 1571 /Вес./. II. Несытово Ніж., Несытово Новое, Несытово Старое Маск.

НЕХОРОШ I. Нехорош Семичев пам. Ноу́гарад ХУI ст. /Вес./. II. Нехорошева Том., Нехорошево Ніж., Нехорошкова Перм., Нехорошиха Ноу́г.

*НЕХУЖ 'не горшы'. I. СБП Нехужэнка /БА II 299/.

6.2. Антрапонімы, утвораныя семантычным шляхам ад поу́ных прыметнікау́.

НЕБЕЛЫЙ I. Небелый Федор Рудаков Болотников 1571 /Вес./. П. Суч.: у УССР — Небелівка Кір. в.

НЕБОГАТОЙ, НЕБОГАТЫЙ I. Небогатой Исаков сын Дубровин Москва 1509, князь Дмитрей Небогатой вотч. клінскі ХУI ст., Небогатой Степанов Угліцкі ман. 1647, Данило Небогатов дзьяк маскоу́скі 1693 /Туп./; Небогатый Исаакович Дубровин 1509 /Вес./. II. Небогатовское Пск.

НЕДОБРОЙ, НЕДОБРЫЙ I. Недоброй Григорьев 1558, Недоброй Павлов маскоу́скі стралец 1605, Богдашко Васильев сын Недобрый данскі казачы атаман 1616, Недобрый Ушаков Аўгустов Пераяслау́ 1555 /Вес./. II. Недоброво Вал., Тамб.

НЕДУЖНЫЙ ст.-бел. недужный 'хворы' /КССБМ/. I. Недужный Иван Васильевич Голохвостов ХУ ст. /Вес./.

НЕЖИВОЙ, НЕЖИВЫЙ I. укр. Неживий /Худаш. 149/. СБП Нежывы, Нежывёнак /БА II 298/. II. Неживов, Неживые Перм.

*НЕЛЕГКОЙ I. Иван Нелехково сел. 1557 /Туп./.

НЕМЕЛКИЙ I. Ян Немелкий 1635 Віц. /ИЮМ XXIУ 235/.

НЕНАДОБНОЙ I. Ивашко Ненадобной сел. угліцкі 1506 /Туп./.

НЕОБЫШНЫЙ I. Необышный Фрол сел. курмышскі 1624 /Вес./.

*НЕПЕВНЫЙ ст.-бел. непевный 'недаставерны, ненадзейны' /Нас. АУ, КССБМ/. I. СБП Няпэу́ны /БА II 302/.

НЕПОРОЗЖИЙ 'непорожний'? I. Непорозжий Проня сел. белеу́скі 1627 /Вес./.

*НЕРАВНЫЙ II. Неравново Маск.

НЕРЕЗВОЙ, НЕРЕЗВЫЙ. I. Сенька Нерезвой Апрелев сын 1530 /Туп./; Нерезвый Иван Федоров ямшчык з Волагды 1600 /Вес./.

*НЕСКОРОМНЫЙ. I. СБП Нескаромны /БА II 299/.

*НЕСКУЧНЫЙ. II. Нескучново Кастр., Нескучная Екац., Сар., Нескучное Пенз., Смал., Цв., Ярасл.

НЕСМЕЛЫЙ. I. Савка Несмелый м. белацаркоўскі 1654 /Туп./.

НЕХОРОШИЙ, НЕХОРОШЕЙ. I. Нехороший Ермолин сын Гаврилов б. ноўгарадскі 1599, Федор Нехороший Лупихин 1609, Нехороший Бабкин суздалец 1609, Юрий Нехороший пам. 1610, Нехороший Вельяшев прыказчыка анежскі 1612, Данила да Нехороший, да Григорий да Сергей -- Смирного дети Ракова 1613, Нехорошей Тогуркин сібірскі казак 1613, Нехороший Глебов свіяжскі галава 1614, Нехороший Фирсов маскоўскі пад"ячы 1626, Нехороший Степанов сын Новокрещенов вяземскі дв. 1642, Нехороший Иванович Юматов мурамскі пам. 1653 /Туп./; Нехороший Илья Александрович Хлопов ХУІ ст., Нехороший Слотов сын Воронин Кострома ХУІ ст. /Вес./.

НЕЩАСНЫЙ I. Нещасний /Худаш 149/.

7. Антрапонімы, утвораныя пры дапамозе адмоўя не- ад займеннікаў.

*НЕВАШ не-ваш. II. Невашево Ноўг.

НЕМОЙ не-мой, магчыма, і ад мыти /мою, заг. мой/. I. Немой /Сел. 137/. II. Немоево Пск. Суч.: у УССР -- Немія Він. в.

НЕНАШ не-наш. I. Ненаш Мокринский казацкі галава 1609, Ненаш Григорьев сын Веселькин, Ненаш Федоров сын Шеталов, Ненаш Семенов сын Каменев памешчыкі разанскія 1616, Минска Ненашего аскольскі стралец 1623, Иван Матвеев сын Ненашев томскі казак 1688 /Туп./; Ненаш Михайлович Запольский Разань 1584, Ненаш Федорович Любавский Разань 1597, Ненашев Киприан сел. белеўскі 1627 /Вес./. II. Ненашево Тульск., Уладз.

НЕСВОЙ не-свой. I. Несвой Григорий сел. Ноўгарад 1545, Несвой Обрывков прыказны разанскі 1610 /Вес./. II. Несвоевка Чарн.

8. Ад займеннікаў з адмоўем не- семантычным шляхам утворан антрапонім

*НЕКТО I. Нектов Никита сел. Юр"еўскі 1609 /Вес./. II. Нектиха Вал.

9. Антрапонімы, утвораныя семантычным шляхам ад прыслоўяў з адмоўем не-.

НЕЛЬГА I. Нельга /Худаш 149/. СБП Нельга /БА II 299/, СУП Нальга /Дов. 165/. П. Нельгино Пск., Нельжичи Чарн. Суч.: у УССР — Нельгiвка Зап. в.

НЕНАД ад ненадо. Василь Лелетович сынов мае два Кузьма и Ненад 1595, Трохим Гаврилович сынов мае шесть: Ралко, Исай, Онопрей, Иван, Ненад, Пилип 1595 /Туп./; Ненад Омеля Кович Горелядович 1567 Пінскі п. СБП Нянадзік, Нянадавец /БА II 302/ Ненадовичи Слонімскі п. 1565 /АВАК XXII 169/. П. 1213. Суч.: у УССР — Ненадиха Кіеў. в., Ненадівка Днеп. в.

НЕТРЕБА I. Алексей Нетреба сел. заходні 1651 /Туп./. СУП Нетреба /Дов. 165/. П. Нетребово Цв., Яросл., Нетребин Чарн., Нетребивка Екац., Нетребовка Пад., Нетребовская Яросл. Суч.: у УССР — Нетреба Ров. в. /2/, Нетребівка Віц. в.; БССР Нятреба Бр.в. /Рап. 1980/.

## Алфавітны паказальнік антрапонімаў


Небаба
Небажен
Небай
Небака
Небеда
Небелый
Небога
Небогатой
Небогатый
Неболда
Небрат
Небучен
Небывал
Небыл
Небыт
Неваш
Невдах
Неведом
Неведрей
Неведро
Неведря
Невежа
Невель
Невенчаный
Невер
Невесел
Невидом
Неволя
Неврүй
Неврюй
Негать
Негнев
Негнутой
Негода
Негодяй
Негость
Негрей
Недан
Недар
Недбай
Недбайло
Недбал
Недбала
Недбало
Неделюг
Недет
Недоброй
Недобрый
Недовесок
Недогарок
Недоедок
Недождей
Недоля
Недомерок
Недоносок
Недопытала
Недостал
Недруг
Недрыгал
Недужный
Недут
Недьяк
Неел

Нежаль
Нежар
Нежгут
Неждан
Неживой
Неживый
Нежил
Нежичило
Незабудка
Незавертайло
Незвад
Незван
Незверь
Незнай
Незнам
Незнан
Некаша
Неквас
Некипел
Неклюд
Некрас
Некраса ж.
Некрыл
Некрыт
Некто
Некут
Нелеп
Нелой
Неломай
Нельга
Нельзей
Нелюб
Нелюбим
Нелюд
Немелкий
Немешай
Немил
Немогай
Немой
Немокл
Немудруй
Немыло
Немыт
Немытый
Немятой
Немятый
Ненад
Ненадобной
Ненароком
Ненаш
Необышный
Неопалим
Непевный
Непитущой
Неплюй
Непогодей
Непознан
Непокойко
Непокрытый
Непокупный
Непомнящий
Непорозжий
Непорот
Непоспел
Непоцелуй
Непочал
Неправда
Непрозван
Непролей
Непуть
Непхай
Непытай
Неравный
Нератай
Нерезвой
Нерезвый
Нержа
Неровня
Неросл
Нерубай
Нерушай
Нерыба
Несветай
Несветайло
Несвитай
Несвой
Нескоромный
Нескучный
Несмелый
Несмеян
Несон
Несосед
Неспрашивай
Нестан
Нестелей
Неструй
Нестук
Нестукай
Нестулей
Несуж
Несын
Несыт
Нетайло
Нетесаный
Нетопор
Нетреба
Нетребуй
Нетрепайло
Неугод
Неудак
Неудача
Неумываный
Неумыт
Неуставала

| | | |
|---|---|---|
| Неуставало | Нехотей | Нецветай |
| Неусыпай | Нехотило | Нечинай |
| Нехорош | Нехотяй | Нечунай |
| Нехорошей | Нехуж | Нешитой |
| Нехороший | Нецвет | Нещасный |

## Спіс крыніц, з якіх выкарыстаны айконімы


1. А.Крылов. Населенные места Подольской губернии. Каменец-Подольск, 1905.

2. Списки населенных мест Российской империи: т.6. Владимирская губерния. СПб , 1863 ; т.7. Вологодская губерния. СПб , 186( т.9. Воронежская губерния. СПб , 1876 ; т.10. Вятская губерния. СПб , 1876 ; т.13. Екатеринославская губерния. СПб , 1866 ; т.15. Калужская губерния. СПб , 1863 ; т.18. Костромская губерния. СПб , 1877 ; т.20. Курская губерния. СПб , 1868 ; т.24. Московская губерния. СПб , 1862 ; т.25. Нижегородская губерния. СПб , 1863 ; т.29. Орловская губерния. СПб , 1871 ; т.30. Пензенская губерния. СПб , 1869 ; т. 31. Пермская губерния. СПб , 1862 ; т.33. Полтавская губерния. СПб , 1862 ; т.34. Псковская губерния. СПб , 1885 ; т.35. Рязанская губерния. СПб , 1862 ; т.38. Саратовская губерния. СПб , 1862 ; т.40. Смоленская губерния. СПб , 1869 ; т. 42. Тамбовская губерния. СПб ,1868 ; т.43. Тверская губерния. СПб , 1862 ; т.44. Тульская губерния. СПб , 1862 ; т.47. Херсонская губерния. СПб , 1868 ; т.48. Черниговская губерния. СПб , 1866 ; т.49. Ярославская губерния. СПб , 1865.

3. Список населенных мест Витебской губернии. Под ред. А.П. Сапунова. Витебск, 1906.

4. Список населенных мест Волынской губернии. Житомир,1911.

5. Список населенных мест Киевской губернии. Киев, 1900.

6. Список населенных мест Минской губернии. Сост. В.С. Ярмолович. Мн., 1909.

7. Список населенных мест Могилевской губернии. Под ред. Г.П.Пожарова. Могилев, 1910.

8. Список населенных мест Новгородской губернии, вып. I. Новгородский уезд. Новгород, 1907 ; вып. УП. Тихвинский уезд, 1911 ; вып. УШ. Устюжский уезд, 1911 ; вып. IX. Череповецкий

уезд, 1912; вып. X. Кирилловский уезд, 1912; вып. XI. Белозерский уезд, 1912.

9. Указатель населенным местам Гродненской губернии. Гродно, 1905.

10. Українська РСР. Адміністративно-територіальний поділ. Т. 1, 2. Київ, 1969.

Спіс скарачэнняў крыніц

АВАК -- Акты Виленской Археографической комиссии.

АСД -- Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильно, 1867--1904, т. 6.

БА II -- М.В.Бірыла. Беларуская антрапанімія. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мн., 1969.

Бенс. — M. Benson. Dictionary of Russian Personal Names, 1964.

Вес. -- С.Б. Веселовский. Ономастикон. М., 1974.

Гринч. -- Б.Грінченко. Словарь української мови. Т. I--IУ. Київ, 1907--1909.

Дабр. -- В.Н.Добровольский. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914.

Дав. -- Ю.К. Редько. Довідник українських прізвищ. Київ, 1969.

ИЮМ -- Историко-юридические материалы. Т. XXIУ. Витебск, 1893.

КССБМ -- Картатэка слоўніка старабеларускай мовы /Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР/.

Купч. -- О.А. Купчинський. Давні східнослов'янські композитні імена, мотивовані ойконімами на -*itjĭ. — З історії української лексикології. Київ, 1980.

Нас. АУ. -- И.И.Носович. Алфавитный указатель слов, извлеченных из актов, относящихся к истории Западной России /рукапіс/.

П. -- Попис войска Великого княжества Литовского лета 1567. -- Русская историческая библиотека, т. XXXIII, СПб., 1915.

Рап. 1977 -- Я.Н.Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977.

Рап. 1980 -- Я.Н.Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. Мн., 1980.

Рап. 1981 -- Я.Н.Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981.

РИБ -- Русская историческая библиотека. СПб, 1910--1915.

Ср. -- И.И.Срезневский. Материалы для словаря древнерусского языка. СПб, т. 1, 1893; т. 2, 1895; т. 3, 1903.

Туп. — Н.П.Тупиков. Словарь древнерусских личных собственных имен. СПб, 1908.

У. — Ухвала на великом сейме Виленском 1528 г. — Литовская метрика, отд. I, ч. 3. Русская историческая библиотека, т. XXXII. Пг., 1915.

Худаш — М.Л.Худаш. До питання класифікації українських прізвищевих назв XIУ—ХУШ ст. — З історії української лексикології. Київ, 1980.

## Спіс скарачэнняў адміністрацыйных і геаграфічных назваў

Ад. в. — Адэская вобл.
Арл. — Арлоўская г.
Бр. в. — Брэсцкая вобл.
Бр. п. — Брэсцкі п.
Вал. — Валагодская г.
Валын. в. — Валынская вобл.
Вар. — Варонежская г.
Він. в. — Вінніцкая вобл.
Віц. — Віцебская г.
Віц. в. — Віцебская вобл.
Вяцк. — Вяцкая г.
Гом. в. — Гомельская вобл.
Дан. в. — Данецкая вобл.
Днеп. в. — Днепрапятроўская вобл.
Екац. — Екацярынаслаўская г.
Жыт. в. — Жытомірская вобл.
Зап. в. — Запарожская вобл.
І.-Ф. в. — Івана-Франкоўская вобл.
Каз. — Казанская г.
Кал. — Калужская г.
Кастр. — Кастрамская г.
Кіеў. — Кіеўская г.
Кіеў. в. — Кіеўская вобл.
Кір. в. — Кіраваградская вобл.
Ков. — Ковенская г.
Крым. в. — Крымская вобл.
Кур. — Курская г.
Луг. в. — Луганская вобл.
Льв. в. — Львоўская вобл.
Маск. — Маскоўская г.
Мін. — Мінская г.
Мін. в. — Мінская вобл.
Ніж. — Ніжагародская г.
Ноўг. — Ноўгарадская г.
Пад. — Падольская г.
Палт. — Палтаўская г.
Палт. в. — Палтаўская вобл.
Пенз. — Пензенская г.
Перм. — Пермская г.
Пск. — Пскоўская г.
Раз. — Разанская г.
Ров. в. — Ровенская вобл.
Сар. — Саратаўская г.
Смал. — Смаленская г.
Сум. в. — Сумская вобл.
Тамб. — Тамбоўская г.
Том. — Томская г.
Тульск. — Тульская г.
Уладз. — Уладзімірская г.
Харк. в. — Харкаўская вобл.
Херс. — Херсонская г.
Херс. в. — Херсонская вобл.
Цв. — Цвярская г.
Чарн. — Чарнігаўская г.
Чарн. в. — Чарнігаўская вобл.
Чарнав. в. — Чарнавіцкая вобл.
Ярасл. — Яраслаўская г.

## Іншыя скарачэнні

б. -- баярын
бел. -- беларускае
в. -- вобласць
вотч. -- вотчыннік
дв. -- дваранін
заг. -- загадны лад
зах. -- заходняе
землеўл. -- землеўладальнік
кн. -- княства
ман. -- манастыр, манастырскі
мешч. -- мешчанін
п. -- павет
паг. -- пагост
пам. -- памешчык
паўдн.-зах. -- паўднёва-заходняе
рам. -- рамеснік
рус. -- рускае
укр. -- украінскае
сел. -- селянін
СБП -- сучаснае беларускае прозвішча
СРП -- сучаснае рускае прозвішча
ст.-б. -- старабеларускае
ст.-р. -- старарускае
СУП -- сучаснае украінскае прозвішча
суч. -- сучаснае
х. -- халоп

А.М.Прышчэпчык

# НАЗВЫ ЖЫХАРОЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Словы, якія называюць чалавека па месцу яго жыхарства або паходжання (nomina regionalia), складаюць значную частку лексічнага запасу. Яны абагачаюць мову. Гэта жывыя і патрэбныя словы, хоць заўсёды яны застаюцца за межамі агульных і нават спецыяльных слоўнікаў. Магчыма, гэта звязана з іх словаўтваральнай неаднастайнасцю, стракатасцю. Такая несістэмнасць у словаўтварэнні характэрна не толькі для рускай ці беларускай моў, але тое ж самае назіраецца і ў іншых мовах. Аднак калі ўзяць, напрыклад, Petit Larousse, то там назвы жыхароў вялікіх гарадоў уведзены на правах звычайных назоўнікаў, а назвы жыхароў меншых гарадоў даюцца пры апісанні гэтых гарадоў.

Намі сабраны такія назвы на невялікай частцы Беларусі ў Стаўбцоўскім р-не.

Названы жыхары 203 населеных пунктаў. Сабраны матэрыял прыводзіцца ў выглядзе слоўніка. На першым месцы падаюцца назвы населеных пунктаў у алфавітным парадку. У дужках паказаны варыянты гэтых форм, якімі карыстаецца мясцовае насельніцтва. Пасля назвы населенага пункта — назва жыхароў, якія пражываюць ці пражывалі ў адзначаным пункце.

Назвы жыхароў у гаворках Стаўбцоўскага р-на выступаюць у трох формах: 1/ у форме слова-тэрміна: в.Кучкуны́ — кучкуно́вец, кучкуно́ўка, кучкуно́ўцы; 2/ у форме прыметніка: в.Бахáны — бахано́ўскі /чалавек/, бахано́ўская /жанчына/, бахано́ўскія /людзі/;

3/ у форме апісання: в.Белькаўшчына -- людзі /мужчына, жанчына/ з Белькаўшчыны ; в.Навапольцы -- людзі /мужчына, жанчына/ з Навапольцаў.

Першы спосаб падачы можна назваць размоўным ці нават прастамоўным. У пісьмовых крыніцах ён амаль не зарэгістраваны. Для яго характэрны розныя варыянты назваў: жыхары в.Арцюхі -- арцюхоўцы і арцюхі ; жыхары в.Галавенчыцы -- галавянчанін і галавянчук ; в.Новы-Свержань -- свяржанін і сверженіца.

Словы-тэрміны ўтвараюцца не ад усіх айконімаў, а пераважна ад тых, якія замацаваны за старымі паселішчамі. Часцей за ўсё яны ўтвараюцца толькі ў множным ліку, радзей у адзіночным ліку мужчынскага роду і яшчэ радзей у жаночым родзе. Магчыма, адсутнасць форм жаночага роду звязана з глыбокай старажытнасцю, калі жанчына амаль не мела юрыдычных правоў. Гэта яскрава адлюстравана і ў мікратапаніміі Беларусі -- адантрапанімічныя мікратапонімы ўтвораны амаль усе ад мужчынскіх імён ці прозвішчаў і толькі ў адзінкавых выпадках ад жаночых імён.

Другі спосаб характэрны і для размоўнага стылю і для літаратурнай мовы: в.Апечкі -- апецкі чалавек, апецкая жанчына, апецкія людзі ; в.Засулле -- засульскі чалавек, засульская жанчына, засульскія людзі ; в.Ініца -- ініцкі чалавек, ініцкая жанчына, ініцкія людзі.

Трэці спосаб утварэння, апісальны, характэрны ў асноўным для афіцыйнай літаратуры: в.Асіпаўшчына -- людзі з Асіпаўшчыны, в. Дзераўная -- жанчына з Дзераўной ; в.Хатоўка -- мужчына з Хатоўкі ; в. Ячонка -- калгаснікі з Ячонкі і пад. Яшчэ больш афіцыйнае ўжыванне тыпу: людзі з в.Любкаўшчына, селянін з в.Найдзёнавічы.

Важна адзначыць, што ўтварэнне слоў, якія абазначаюць людзей па месцу жыхарства ці паходжання,парушае агульнапрынятыя словаўтваральныя мадэлі. Асаблівасці словаўтварэння галоўным чынам датычацца слоў-тэрмінаў: у в.Кнотаўшчына жывуць не кнотаўшчынцы, а кнотаўцы ; у в.Мікалаеўшчына -- не мікалаеўшчынцы, а мікалаеўцы ; у в. Халаімаўшчына -- не халаімаўшчынцы, а халаімаўцы.

У асобных выпадках назва жыхара поўнасцю паўтарае назву вёскі, дзе ён пражывае або з якой паходзіць: в.Драздьі -- драздьі

пачалі жніво; в. Цвіркі — цвіркі закончылі сяўбу і пад.

Поўны слоўнік назваў жыхароў населеных пунктаў усёй Беларусі паслужыў бы не толькі даведнікам, але ўнёс бы нешта новае і ў беларускае словаўтварэнне. Па ім можна было б прасачыць працэс узнікнення адных назваў і выцяснення іх іншымі словамі — працэс гістарычнага развіцця гэтай катэгорыі слоў.

АГАРОДНІКІ — агароднiцкі чалавек, агародніцкая жанчына, агародніцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Агароднікаў.

АКІНЧЫЦЫ — акінчанін, акінчанка, акінчане; акінчыцкі мужчына, акінчыцкая жанчына, акінчыцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Акінчыц.

АКОЛАВА — аколавец, аколаўцы; аколаўскі мужчына, аколаўская жанчына, аколаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Аколава.

АЛЕШКАВА — алешкавец, алешкаўцы; алешкаўскі мужчына, алешкаўская жанчына, алешкаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Алешкава.

АЛЕШКАВЕЦ — людзі /мужчына, жанчына/ з Алешкаўца.

АЛЬШАНКА — альшанцы; альшанскі чалавек, альшанская жанчына, альшанскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Альшанкі.

АНОПАЎШЧЫНА — анопаўшчынскі чалавек, анопаўшчынская жанчына, анопаўшчынскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Анопаўшчыны.

АПЕЧКІ — апецкі чалавек, апецкая жанчына, апецкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Апечак.

АРЦЮХІ — арцюховец, арцюхоўка, арцюхоўцы і арцюхі; арцюхоўскі чалавек, арцюхоўская жанчына, арцюхоўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Арцюхоў.

АСІПАЎШЧЫНА — асіпаўцы; асіпаўскі чалавек, асіпаўская жанчына, асіпаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Асіпаўшчыны.

АСТРАВЫ — людзі /мужчына, жанчына/ з Астравоў.

АТАЛЕЗЬ — аталезец, аталезцы; аталезкі чалавек, аталезкая жанчына, аталезкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Аталезі.

АТЦЭДА — атцэдскі чалавек, атцэдская жанчына, атцэдскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Атцэды.

АХРЭМАВІЧЫ — ахрэмавец, ахрэмаўка, ахрэмаўцы; ахрэмаўскі мужчына, ахрэмаўская жанчына, ахрэмаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Ахрэмавіч.

БАРЗДЗІ — чалавек з Барздзёў, жанчына з Барздзёў, людзі

з Барздзёў.

БАРОК — баркоўцы; баркоўскі чалавек, баркоўская жанчына, баркоўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Барка.

БАХАНЫ — бахановец, баханоўка, баханоўцы і бахань; баханоўскі чалавек, баханоўская жанчына, баханоўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Баханоў.

БЕЛАМОШША — чалавек з Беламошша, жанчына з Беламошша; людзі /мужчына, жанчына/ з Беламошша.

БЕЛАНОЎШЧЫНА — чалавек з Беланоўшчыны, жанчына з Беланоўшчыны; людзі /мужчына, жанчына/ з Беланоўшчыны.

БЕЛІЦА — бяліцкі чалавек, бяліцкая жанчына, бяліцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Бяліцы.

БЕЛЬКАЎШЧЫНА — белькаўскі мужчына, белькаўская жанчына, белькаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Белькаўшчыны.

БРЫНІЧАВА — брынічаўскі чалавек, брынічаўская жанчына, брынічаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Брынічава.

БУТРЫМАЎШЧЫНА — бутрымаўскі чалавек, бутрымаўская жанчына, бутрымаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Бутрымаўшчыны.

БУЦЬКАВІЧЫ — буцькавіцкі мужчына, буцькавіцкая жанчына, буцькавіцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына / з Буцькавіч.

БЯРОЗАЎКА — бярозаўскі чалавек, бярозаўская жанчына, бярозаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Бярозаўкі.

ВАЙНІЛАЎШЧЫНА — вайнілаўскі чалавек, вайнілаўская жанчына, вайнілаўскія людзі; людзі /мужчына,жанчына/ з Вайнілаўшчыны.

ВАРАКСЫ — людзі /мужчына, жанчына/ з Вараксаў.

ВАРАПАІ — варапаеўскі чалавек, варапаеўская жанчына, варапаеўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Варапаеў.

ВАРАЦІШЧА — вараціскі чалавек, вараціская жанчына, вараціскія людзі; людзі /мужчына,жанчына/ з Варацішч.

ВАРНАВУГАЛ — людзі /мужчына, жанчына/ з Варнавугла.

ВАСІЛЕЎШЧЫНА — людзі /мужчына, жанчына/ з Васілеўшчыны.

ВЕЧАТАРОВА /мясц. Вічатарова/ — вічатаровец, вічатароўка, вічатароўцы; вічатароўскі мужчына, вічатароўская жанчына, вічатароўскія людзі; людзі /мужчына,жанчына/ з Вічатарова.

ВІШНЯВЕЦ — вішнявецкі чалавек, вішнявецкая жанчына, вішнявецкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Вішняўца.

ВІРЛАВІЧЫ — вірлавіцкі чалавек, вірлавіцкая жанчына, вірлавіцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Вірлавіч.

ВІСКАЧЫ -- віскацкі чалавек, віскацкая жанчына, віскацкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Віскачоў.

ВЯЗАВЕЦ -- людзі (мужчына, жанчына) з Вязаўца.

ВЯЛІКАЯ ГУМЕНАЎШЧЫНА -- гуменавец, гуменаўка, гуменаўцы; гуменаўскі чалавек, гуменаўская жанчына, гуменаўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Вялікай Гуменаўшчыны.

ВЯЛІКІ ДВОР -- вялікадворскі чалавек, вялікадворская жанчына, вялікадворскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Вялікага Двара.

ВЯЛІКІЯ НАВІКІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Вялікіх Навікоў.

ГАЛАВЕНЧЫЦЫ -- галавянчанін і галавянчук, галавянчанка, галавянчання; галавенчыцкі мужчына, галавенчыцкая жанчына, галавенчыцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Галавенчыц.

ГІЛЁЎКА -- гілёўскі чалавек, гілёўская жанчына, гілёўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Гілёўкі.

ГНЕЦЬКІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Гнецькаў.

ГОРКІ -- горацкі мужчына, горацкая жанчына, горацкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Горак.

ГРАБЁНАЎШЧЫНА -- грабёнавец, грабёнаўка, грабёнаўцы; грабёнаўскі чалавек, грабёнаўская жанчына, грабёнаўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Грабёнаўшчыны.

ГРАДКІ -- градкаўскі чалавек, градкаўская жанчына, градкаўскія людзі; людзі (мужчына , жанчына) з Градак.

ГРАНЬ -- людзі (мужчына, жанчына) з Грані.

ГРЫЗАЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Грызаўшчыны.

ГУДЗЯЛІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Гудзялёў.

ГУРНАЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Гурнаўшчыны.

ДАЎНАРШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Даўнаршчыны.

ДАЎНАРЫ -- даўнаровец, даўнароўка, даўнароўцы; людзі (мужчына, жанчына) з Даўнароў.

ДЗЕНІСЫ -- дзенісоўскі чалавек, дзенісоўская жанчына, дзенісоўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Дзенісоў.

ДЗЕРАЎНАЯ -- людзі (мужчына, жанчына) з Дзераўной.

ДЗЯРАЖНАЯ -- людзі (мужчына, жанчына) з Дзяражнай.

ДЗЯРЭЧЫНЦЫ -- дзярэчынскі чалавек, дзярэчынская жанчына, дзярэчынскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Дзярэчынцаў.

ДРАЗДОЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Драздоўшчыны.

ДРАЗДЫ -- людзі (мужчына, жанчына) з Драздоў.

ДРУЖНАЯ -- людзі (мужчына, жанчына) з Дружнай.

ДУБНІКІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Дубнікоў.

ДУДКІ -- дудкаўскі чалавек, дудкаўская жанчына, дудкаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Дудак.

ЕКАЦЯРЫНАДАЛЬ (1973).

КАЦЯРЫНАДАЛЬ (1969) -- людзі (мужчына, жанчына) з Екацярынадалі.

ЖАЎНЕРКАВІЧЫ -- людзі (мужчына,жанчына) з Жаўнеркавіч.

ЖАЦЕРАВА --жацеравец, жацераўка, жацераўцы ; жацераўскі чалавек, жацераўская жанчына, жацераўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Жацерава.

ЖДАНОВІЧЫ -- ждановіцкі чалавек, ждановіцкая жанчына, ждановіцкія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Ждановіч.

ЖУКАЎ БАРОК -- жукаборцы ; жукаборскі чалавек, жукаборская жанчына, жукаборскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Жуковага Барка.

ЖЫГАЛКІ -- жыгальскі чалавек, жыгальская жанчына, жыгальскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Жыгалак.

ЗАБРОДДЗЕ -- забродскі чалавек, забродская жанчына, забродскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Заброддзя.

ЗАДВОР"Е -- задворанец, задворанка, задворанцы ; задворанскі чалавек, задворанская жанчына, задворанскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Задвор"я.

ЗАЛУЖЖА -- залужанін, залужанка, залужане ; залужскі чалавек, залужская жанчына, залужскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Залужжа.

ЗАМЕНКА -- заменскі чалавек, заменская жанчына, заменскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Заменкі.

ЗАПОЛЬЦЫ -- запольскі чалавек, запольская жанчына, запольскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Запольцаў.

ЗАРЭЧЧА -- зарачанец, зарачанка, зарачанцы ; зарачанскі мужчына, зарачанская жанчына, зарачанскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Зарэчча.

ЗАСУЛЛЕ -- засулец, засульцы ; засульскі чалавек, засульская жанчына, засульскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Засулля.

ЗАЯМНАЕ-- заяменец, заяменка, заяменцы ; заяменскі чалавек, заяменская жанчына, заяменскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына)

з Заямнага.

ЗЕНЕВІЧЫ -- зенявіцкі чалавек, зеневіцкая жанчына, зеневіцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Зеневіч.

ЗУБЕРАВА -- зубераўскі чалавек, зубераўская жанчына, зубераўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Зуберава.

ЗУІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Зуёў.

ІНІЦА --ініцкі чалавек, ініцкая жанчына, ініцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Ініцы.

КАЗЕЙКІ -- казейскі чалавек, казейская жанчына, казейскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Казеек.

КАЗЯЛЕЦ -- людзі (мужчына, жанчына) з Казяльца.

КАМЕЙШЫ -- людзі (мужчына, жанчына) з Камейшаў.

КАМЕНКА -- каменскі чалавек, каменская жанчына, каменскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Каменкі.

КАНКАЛОВІЧЫ -- канкаловіцкі чалавек, канкаловіцкая жанчына, канкаловіцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Канкаловіч.

КАРАЛІНА -- каралінцы; каралінскі чалавек, каралінская жанчына, каралінскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Караліны.

КЛЯЦІШЧА -- кляцішчанскі чалавек, кляцішчанская жанчына, кляцішчанскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Кляцішчаў.

КНОТАЎШЧЫНА -- кнотавец, кнотаўка, кнотаўцы; кнотаўскі чалавек, кнотаўская жанчына, кнотаўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Кнотаўшчыны.

КОЛАСАВА -- коласавец, коласаўцы; коласаўскі чалавек, коласаўская жанчына, коласаўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Коласава.

КОНДРАТАВІЧЫ -- кондратавіцкі чалавек, кондратавіцкая жанчына, кондратавіцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Кондратавіч.

КОНДРАТАЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Кондратаўшчыны.

КРАМЕЦ -- крамецкі чалавек, крамецкая жанчына, крамецкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Крамца.

КРАЧАТЫ -- людзі (мужчына, жанчына) з Крачатоў.

КРОМАНЬ -- кроманьскі чалавек, кроманьская жанчына, кроманьскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Кромані.

КРУГАВІНЫ -- круговінскі чалавек, круговінская жанчына, круговінскія людзі.

КРУГЛІЦА -- круглянскі чалавек, круглянская жанчына, круглянскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Кругліцы.

КУЛЬ -- кульскі чалавек, кульская жанчына, кульскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Куля.

КУНАШЫ -- кунашоўцы; кунашоўскі чалавек, кунашоўская жанчына, кунашоўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Кунашоў.

КУРАЧКІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Курачак.

КУЧКУНЫ -- кучкуновец, кучкуноўка, кучкуноўцы, кучкуны; кучкуноўскі чалавек, кучкуноўская жанчына, кучкуноўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Кучкуноў.

ЛАПКІ -- лапкоўскі чалавек, лапкоўская жанчына, лапкоўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Лапкоў.

ЛІТВА -- літвенцы; літвенскі чалавек, літвенская жанчына, літвенскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Літвы.

ЛІХАЧЫ -- людзі (мужчына, жанчына) з Ліхачоў.

ЛУБЕНЬ -- лубеньскі чалавек, лубеньская жанчына, лубеньскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Лубеня.

ЛЮБКАЎШЧЫНА -- любкаўшчынскі чалавек, любкаўшчынская жанчына, любкаўшчынскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Любкаўшчыны.

ЛЯЖАНЕЦ -- людзі (мужчына, жанчына) з Ляжанца.

ЛЯНЦАВА -- людзі (мужчына, жанчына) з Лянцава.

ЛЯЎКОЎШЧЫНА -- ляўкоўскі чалавек, ляўкоўская жанчына, ляўкоўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Ляўкоўшчыны.

МАЛАЯ ГУМЕНАЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Малой Гуменаўшчыны.

МАЛЫЯ НАВІКІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Малых Навікоў.

МАРГІ -- маргоўскі чалавек, маргоўская жанчына, маргоўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Маргоў.

МАРОЗАВІЧЫ -- марозавіцкі чалавек, марозавіцкая жанчына, марозавіцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Марозавіч.

МАРХАЧОЎШЧЫНА -- мархачовец, мархачоўка, мархачоўцы; мархачоўскі чалавек, мархачоўская жанчына, мархачоўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Мархачоўшчыны.

МЕШЫЧЫ -- мешыцкі чалавек, мешыцкая жанчына, мешыцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Мешыч.

МІКАЛАЕЎШЧЫНА -- мікалаевец, мікалаеўка, мікалаеўцы; мікалаеўскі чалавек, мікалаеўская жанчына, мікалаеўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Мікалаеўшчыны.

МІКУЛІЧЫ -- мікуліцкі чалавек, мікуліцкая жанчына, мікуліцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Мікуліч.

МЯСЁНКАЎШЧЫНА -- мясёнкаўскі чалавек, мясёнкаўская жанчына, мясёнкаўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Мясёнкаўшчыны.

НАБАРÓЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Набарóўшчыны.

НАВАПÓЛЬЦЫ -- навапóльскі чалавек, навапóльская жанчына, навапóльскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Навапóльцаў.

НАВАСÉЛЛЕ -- навасéльскі чалавек, навасéльская жанчына, навасéльскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Навасéлля.

НАЙДЗЁНАВІЧЫ -- найдзёнавіцкі чалавек, найдзёнавіцкая жанчына, найдзёнавіцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Найдзёнавіч.

НАЛІБÓКІ (мясц. Налібакі) -- налібóцкі чалавек, налібóцкая жанчына, налібóцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Налібак.

НАСАЛÍ -- насалёўцы і насалí; насалёўскі чалавек, насалёўская жанчына, насалёўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Насалёў.

НÉСЦЕРАВІЧЫ -- нéсцераўцы; нéсцеравіцкі чалавек, нéсцеравіцкая жанчына, нéсцеравіцкія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Нéсцеравіч.

НÍВЫ -- нíўскі чалавек, нíўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Ніваў.

НÍЎНАЕ -- ніўнянец, ніўнянка, ніўнянцы; ніўнянскі чалавек, ніўнянская жанчына, ніўнянскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Ніўнага.

НÓВАЯ ВЁСКА -- новавяскóвец, новавяскóўцы; новавяскóўскі чалавек, новавяскóўская жанчына, новавяскóўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Нóвай Вёскі.

НÓВЫ БАРÓК -- новабóркаўскі чалавек, новабóркаўская жанчына, новабóркаўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Нóвага Баркá.

НÓВЫ СВЕРЖАНЬ -- свяржáнін і сверженіца, свяржáнка і навасвяржáнка; новасвéржанскі чалавек, новасвéржанская жанчына, новасвéржанскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Нóвага Свéржна.

НОВЫЯ РУБЯЖЭВІЧЫ -- людзі (мужчына, жанчына) з Нóвых Рубяжэвіч.

ÓСАВА -- óсаўскі чалавек, óсаўская жанчына, óсаўскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Óсава.

ПАГАРЭЛАЕ -- пагарэлавец, пагарэлаўка, пагарэлаўцы; пагарэлаўскі чалавек, пагарэлаўская жанчына, пагарэлаўскія людзі, людзі (мужчына, жанчына) з Пагарэлага.

ПАДЗЕРНАЕ -- людзі /мужчына, жанчына/ з Падзернага.

ПАДЗЕРЫЧЫ -- падзерыцкі чалавек, падзерыцкая жанчына, падзерыцкія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Падзерыч.

ПАДЛЕССЕ -- людзі /мужчына, жанчына/ з Падлесся.

ПАДЛЯСКОЎЕ -- людзі /мужчына, жанчына/ з Падляскоўя.

ПАЛАСНЯ -- людзі /мужчына, жанчына/ з Паласні.

ПЕРАКОПАЎШЧЫНА -- перакопскі чалавек, перакопская жанчына, перакопскія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Перакопшчыны.

ПЕРАТОКІ -- ператачанец і ператачанін, ператачанка, ператачання ; ператоцкі чалавек, ператоцкая жанчына, ператоцкія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Ператок.

ПІЛЬНІЦА -- пільніцкі чалавек, пільніцкая жанчына, пільніцкія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Пільніцы.

ПРУДЗІШЧА -- людзі /мужчына, жанчына/ з Прудзішч.

ПРУДЫ -- прудскі чалавек, прудская жанчына, прудскія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Прудоў.

ПЯТРОВА -- людзі /мужчына, жанчына/ з Пятрова.

ПЯТРЫЛАВІЧЫ -- пятрылаўцы ; пятрылавіцкі чалавек, пятрылавіцкая жанчына, пятрылавіцкія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Пятрылавіч.

РАЁЎШЧЫНА -- раёўшчынскі чалавек, раёўшчынская жанчына, раёўшчынскія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Раёўшчыны.

РАЖАНКА -- ражанскі чалавек, ражанская жанчына, ражанскія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Ражанкі.

РАНТАЎШЧЫНА -- людзі /мужчына, жанчына/ з Рантаўшчыны.

РОЧАВІЧЫ -- рочавіцкі чалавек, рочавіцкая жанчына, рочавіцкія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Рочавіч.

РУБЯЖЭВІЧЫ -- рубяжэвіцкі чалавек, рубяжэвіцкая жанчына, рубяжэвіцкія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Рубяжэвіч.

РУГАЕЦ -- ругайскі чалавек, ругайская жанчына, ругайскія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Ругайца.

РУДЗЕВІЧЫ -- рудзевіцкі чалавек, рудзевіцкая жанчына, рудзевіцкія людзі ; людзі /мужчына, жанчына/ з Рудзевіч.

РУДНЯ -- людзі /мужчына, жанчына/ з Рудні.

РУДНЯ НАЛІБОЦКАЯ -- людзі /мужчына, жанчына /з Рудні Налібоцкай.

РУДНЯ ПІЛЬНЯНСКАЯ -- людзі /мужчына, жанчына/ з Рудні Пільнянскай.

РУСАКІ — русакоўцы; русакоўскі чалавек, русакоўская жанчына, русакоўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Русакоў.

РУСАКОВІЧЫ — русаковічы; русаковіцкі чалавек, русаковіцкая жанчына, русаковіцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Русаковіч.

РУЧЫНА — ручынцы; ручынскі чалавек, ручынская жанчына, ручынскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Ручына.

САВАНІ /мясц. Салані/ — саланёвец, саланёўка, саланёўцы; саланёўскі чалавек, саланёўская жанчына, саланёўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Саланёў і з Саванёў.

САПУЦЕВІЧЫ — сапуцевіцкі чалавек, сапуцевіцкая жанчына, сапуцевіцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Сапуцевіч.

САСЁНКА — сасёнскі чалавек, сасёнская жанчына, сасёнскія людзі; людзі /мужчына,жанчына/ з Сасёнкі.

СВЕРЫНАВА — сверынавец, сверынаўка, сверынаўцы; сверынаўскі чалавек, сверынаўская жанчына, сверынаўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ са Сверынава.

СЕМЕНЧЫЦЫ — семенчыцкі чалавек, семенчыцкая жанчына, семенчыцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Семенчыц.

СЕРКУЛІ — людзі /мужчына, жанчына/ в Серкулёў.

СІМКАВІЧЫ — сімкавіцкі чалавек, сімкавіцкая жанчына, сімкавіцкія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Сімкавіч.

СКАМАРОШКІ — скамарашчання; скамароўскі чалавек, скамароўская жанчына, скамароўскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Скамарошак.

СКРОШЧЫНА — людзі /мужчына, жанчына/ са Скрошчына.

СЛАБАДА — слабаджанін, слабаджанка, слабаджане; слабодскі чалавек, слабодская жанчына, слабодскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ са Слабады.

СЛАБОДКА — слабодскі чалавек, слабодская жанчына, слабодскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Слабодкі.

СОБКАЎШЧЫНА — людзі /мужчына, жанчына/ з Собкаўшчыны.

СТАРЫ СВЕРЖАНЬ — старасвяржанін, старасвяржанка, старасвяржання; старасверханскі чалавек, старасверханская жанчына, старасверханскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ са Старага Сверхна.

СТАРЫНА — старынскі чалавек, старынская жанчына, старынскія людзі; людзі /мужчына, жанчына/ з Старыны.

СУДЗЕВІЧЫ -- судзевіцкі чалавек, судзевіцкая жанчына, судзевіцкія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Судзевіч.

СУДНІКІ -- суднікавец, суднікоўка, суднікоўцы і суднікі ; суднікоўскі чалавек, суднікоўская жанчына, суднікоўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Суднікоў.

СУЛА -- людзі (мужчына, жанчына) з Сулы.

СУТОКІ -- людзі (мужчына, жанчына) з Сутокаў.

СЦЯЦКІ -- сцяцковец, сцяцкоўцы ; сцяцкоўскі чалавек, сцяцкоўская жанчына, сцяцкоўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Сцяцкоў.

ТАЛКАЧОЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Талкачоўшчыны.

ТАРАСАВА -- людзі (мужчына, жанчына) з Тарасава.

ТАТАРШЧЫНА -- татаршчынскі чалавек, татаршчынская жанчына, татаршчынскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Татаршчыны.

ТОНАВА -- тонавец, тонаўцы ; тонаўскі чалавек, тонаўская жанчына, тонаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Тонава.

ТРЫЛЕС -- трылескі чалавек, трылеская жанчына, трылескія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Трылесу.

ТУЛЁНКА -- тулёнскі чалавек, тулёнская жанчына, тулёнскія людзі; людзі (мужчына, жанчына) з Тулёнкі.

УСА -- людзі (мужчына, жанчына) з Усы.

ФЕРМА -- людзі (мужчына, жанчына) з Фермы.

ХАЛАІМАЎШЧЫНА -- халаімавец, халаімаўка, халаімаўцы ; халаімаўскі чалавек, халаімаўская жанчына, халаімаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Халаімаўшчыны.

ХАРЫТОНАВА -- харытонавец, харытонаўцы, харытонаўскі чалавек, харытонаўская жанчына, харытонаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Харытонава.

ХАТАВА -- хатаўскі чалавек, хатаўская жанчына, хатаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Хатавы.

ХАТОЎКА -- людзі (мужчына, жанчына) з Хатоўкі.

ХУТАР БАРОК -- людзі (мужчына, жанчына) з Хутар Барка.

ЦВІРКІ -- цвіркі ; цвірскі чалавек, цвірская жанчына, цвірскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Цвірак.

ЦЕРАБЕЙНАЕ -- людзі (мужчына, жанчына) з Церабейнага.

ЦЕСНАВАЯ -- цеснаўскі чалавек, цеснаўская жанчына, цеснаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Цеснавой.

ЦІСКАЎШЧЫНА -- людзі (мужчына, жанчына) з Ціскаўшчыны.

ЦІХАНАВА СЛАБАДА -- людзі (мужчына, жанчына) з Ціханавай Слабады.

ШАЛЬКАВІЧЫ -- шалькавіцкі чалавек, шалькавіцкая жанчына, шалькавіцкія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Шалькавіч.

ШАХНОЎШЧЫНА -- шахноўскі чалавек, шахноўская жанчына, шахноўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Шахноўшчыны.

ШАШКІ -- шашкоўскі чалавек, шашкоўская жанчына, шашкоўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Шашкоў.

ШПАКІ -- людзі (мужчына, жанчына) са Шпакоў.

ЮЗЭФІН -- людзі (мужчына, жанчына) з Юзэфіна.

ЮЗЭФІНА (мясц. Юзафінова) -- людзі (мужчына, жанчына) з Юзафінова.

ЯБЛОНАЎКА -- яблонаўцы ; яблонаўскі мужчына, яблонаўская жанчына, яблонаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Яблонаўкі.

ЯНКАВІЧЫ -- янкавіцкі чалавек, янкавіцкая жанчына, янкавіцкія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Янкавіч.

ЯНУШКІ -- янушкавец, янушкаўцы ; янушкаўскі чалавек, янушкаўская жанчына, янушкаўскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Янушкаў.

ЯЧНАЕ -- ячанскі чалавек, ячанская жанчына, ячанскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Ячнага.

ЯЧОНКА -- ячонец, ячонцы ; ячонскі чалавек, ячонская жанчына, ячонскія людзі ; людзі (мужчына, жанчына) з Ячонкі.

Г.К. Усціновіч

# АНТРАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

У актавых запісах Гродзеншчыны і Брэстчыны ХУ--ХУП стст. засведчаны антрапонімы з няясным значэннем. Разгляду такіх антрапонімаў і прысвячаецца гэты артыкул.

БОКТАЧ -- бояринъ господарьский Матей Боктачъ Нарутевичъ 1540 АГЗС, АВАК ХУІІ 209.

Можна звязаць з бел. рэг. бактаць 'мяшаць што-небудзь у вялікай бочцы, стараючыся лепш укласці' /нав./ і суфіксам дзеяча -ач: бактач 'той, хто мяшае, складае'.

БОРТОК -- Ксюкъ Бортокъ /Бортковъ/ 1597 Сл-м, АВАК ХІУ 613. Магчыма, утварэнне пры дапамозе суфікса -ок. У аснове могуць ляжаць назоўнікі тыпу борт, борд 'край, паласа з краю; крысо, запах' /Даль/; 'крысо ў адзенні' /Фасмер/, бел. рэг. бартэ́ 'верхняя адкладная частка паліто' /Сцяшк./, барта ст.-бел. 'тапор у выглядзе барады' /Чартко/. Або гэта утварэнне ад дзеяслова бартаваць 'вымаць паз у бервяне' /Шат./ ці ад bórtati 'балаваць'. Утварэнні на -ок, відаць, маюць значэнне памяншальнасці. Аднак, магчыма, што мянушка Борток ад укр. бортак 'дурань, асталоп, цяльпук' /Грынч./.

ВЕРШУК -- на име Сенька Вершука 1589 АБГС, АВАК УІ 13.

Можна звязаць гэту мянушку з назоўнікам верша 'рыбалоўная конусападобная прылада' /ТСБМ, Сцяшк., Даль, Фасмер/ і суфіксам -ук. Аднак не выключана, што гэта мянушка мажа быць утворана і ад дзеяслова вяршыць 'канчаць стог' /ТСБМ, Выг./.

Аналагічнае ўтварэнне магчыма і ад бел. рэг. верша 'рот ; чалавек з разяўленым ротам' /Нав./ і суфікса -ук, які ў антрапаніміі Брэстчыны мае патранімічнае значэнне.

ЖЕЖКО -- Заявленіе Жешка Шайтуровича, Оповеданье врадника Сидренского Жежка Шайтуровича 1555 АГЗС, АВК XXI 74.

Параўн. бел. рэг. жэ́шка 'крапіва' /Сцяшк./. Аналагічнае слова сустракаем у дыялектах укр. мовы жежко 'горача, жарка' /Грынч./.

ЖЕМЕТ -- Konstanty Szemiot -- podkomorzy Dorpatski 1670 АБГГС, АВАК У 49.

Магчыма, утварэнне пры дапамозе рэдкага суфікса -ет. У аснове могуць ляжаць назоўнікі тыпу рус. жем, жом 'прэс ; скнара, скупы'; жемь 'сырая зямля' /Даль/. Аднак не выключана, што мянушка гэта можа быць літ. па паходжанню. Параўн. літ. žemé//tas 'зямлісты' і žemiétis 'зямляк'.

ЖОХЛЯ -- о волоку земли отчизное, которую мы правомъ презыскали на Петрашку а на Войтеху Жохличахъ 1558 АГЗС, АВК XXI 323.

Параўн. рус. рэг. жох 'край' /тул./, 'мужык вахлак, грубы мужлан' /цвр./, 'старажыл' /арх./, 'жулік, злодзей, кішэннік' /кал./, 'бывалы хітрун' /Даль/, жох 'машэннік, хітрун ; мужык, олух' /Фасмер/і жохер 'абманшчык' /гл. этымалогію у Фасмера/. Аналагічны суфікс і ў бел. рэг. мытля 'жанчына, якая абгаворвае іншых' ; дрыпля 'той, хто пры хадзьбе робіць невялікія крокі'. Аднак гэта мянушка можа быць і ад укр. жохливый 'пужлівы' /Грынч./.

КЛОТЫШ -- служебниковъ своихъ Ивана Даниловича Клотыша 1589 АБГС, АВАК УI 49.

Напрошваецца параўн. з рус. рэг. клот 'яблык, шышка, булдавешка' /Даль/. Утварэнні з суфіксам -ыш пашыраны ў рус. /Теплов/ і бел. дыялектах /скарыш 'скоры', голыш 'голы', рабыш 'рабы', гаварыш 'гаваркі' і інш./. Мянушка можа быць утворана і ад укр. клотити=колотити 'масла збіваць ; муціць ; сварыцца ; панукаць' /Грынч./. Аднак не выключана, што мянушка гэта можа быць літ. па паходжанню. Параўн. літ. klotis(-iẽs) 'поспех, удача'.

ЛОШАЧ -- Andrei Loszacz 1591 Драг., АВАК XIУ 406.

Магчыма ўтварэнне пры дапамозе суфікса -ач. У аснове мо-

гуць лякаць назоўнікі тыпу лоша 'ласіца, самка лася', рус. рэг. лоша 'жарабя', лоший 'дурны, дрэнны' /Даль/. бел. рэг. лашчак 'жарабя ва ўзросце двух год' /Сцяшк./, лошак 'двух- або трохгадовае жарабя' /Грынч./. Этымалогію пра слова лошак гл. у Брукнера. Утварэнні з суфіксам -ач сустракаюцца ў бел. дыялектах, напрыклад, партач 'той, хто няякасна робіць усё'. Аднак магчыма і ўтварэнне ад літ. lõš//ti I 'іграць', lõš//ti II 'гнуць, выгінаць' і суфікса -ач.

ПУХНИК — Mikita Puchnik Sobicz 1683 АБГГС, АВАК У 237.

Напэўна, мянушка ўтворана ад слова пух, якое сустракаецца ў славянскіх мовах і абазначае 'пара, пах ; задуха ; галаўня ; смурод ; мяккі, пухкі'. Можна дапусціць утварэнне мянушкі ад бел. дзеяслова пухнуць /БРС/ і ад пухнó 'выпукласць'. Аднак не выключана, што мянушка магла ўзнікнуць і на аснове літ. pũk//as 'пух ; ворс', pukno//ti (-ja, -jo) šnek žr klampoti klampó//ti 'ісці па гразі, мясіць гразь'.

РЕКСТЯ — светковъ надъ звышъ уставы чотырехъ: ... а Рекстя Добриловичъ 1540 АГЗС, АВАК ХУII 180.

Мянушка гэта, відаць, літ. паходжання. Параўн. літ. словы: rẽkа//mas 'крык', rẽkti 'крычаць'. Асабліва падыходзіць значэнне слова rẽkšti (rẽškia, rẽškė ) 'зрываць, рваць'.

СКВИРА — люди Слонимцы Перволоцкіе — ... а Тедоръ Василевичъ Сквира 1560 АГГС, АВАК УП 81.

Напрошваецца параўнанне з польск. skwir, skwierk i skwierczenie 'крык птушак' /Карл./ i skwir 'прарэзлівы голас птушкі ; піск ; лямант' /Дараш./. Аднак, магчыма, Сквира ад укр. сквира-шкиря 'снег з ветрам' /Грынч./. У такім разе Сквира — 'той, хто крычыць, лямантуе'. Тады антрапонім "узбаламучаны" ці "баламут".

СПАЧКО — зъ Семеномъ Спачкомъ 1589 АБГС, АВАК УI 75.

Можна зрабіць спробу звязаць мянушку з дзеясловам рус. рэг. і зах. спочкать 'застаць знянацку, злавіць , выпадкова знайсці або сустрэць' /Даль/. Але можа быць, што гэта мянушка ўкр. паходжання. Параўн. укр. спачка = сплячка /Грынч./.

СТАНВЕР — Андрей Ивашковичъ Станверъ 1592 АГГС, АВАК УП 456.

Утварэнне можа быць пры дапамозе рэдкага суфікса -ер. У аснове можа ляжаць назоўнік тыпу укр. стáнва 'вялікая кадушка, бочка' /Грынч./. Утварэнні на -ер, відаць, маюць значэнне павелічальнасці.

ТЮСИК -- Иванъ Тюсикъ 1599 АБГС, АВАК УI 180.

Параўн. рус. рэг. тюсь 'буйныя ячныя крупы' /Даль/. Утварэнні з суфіксам -ик маюць значэнне памяншальнасці.

ШОРС -- Станислава Шорса 1541 АГЗС, АВАК ХУП 389.

Слова гэта, як і шорц, нямецкага паходжання. Параўн. польск. szors 'фартух'.

## Прынятыя скарачэнні

### Крыніцы

АВАК -- Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией, т. XIУ. Инвентари имений ХУI столетия. Вильна, 1888; АВАК, АБГГС -- Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией, т. У. Акты Брестского и Гродненского гродских судов. Вильна, 1871; АВАК, АБГС -- Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией, т. УI. Акты Брестского гродского суда. Вильна, 1872; АВАК, АГГС -- Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией, т. УП. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890; АВК., АГЗС -- Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов, т. XXI. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890; АИАК, АБЗС -- Акты, издаваемые Археографической комиссией, высочайше учрежденною в Вильне, т. II. Акты Брестского земского суда. Вильна, 1867; АИК, АГЗС -- Акты, издаваемые комиссией, высочайше учрежденною для разбора древних актов, т. I. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865.

Брукнер -- A.Brückner. Słownik etymologiczny języka polskiego. Kraków, 1927.

Выг. -- Л.Т. Выгонная. Полесская земледельческая терминология. Лексика Полесья. М., 1968.

Грынч. -- Словарь української мови, т. I--IУ. Київ, 1907--1909.

Даль -- Толковый словарь живого великорусского языка.

Изд. 2-е, т. I—IУ. СПб. — М., 1881.

Дараш. — Słownik języka polskiego, т. 1 — 11. Warszawa, 1958 — 1969.

Карл. — J.Karłowicz, A.Kryński, W.Niedźwiedzki.Słownik języka polskiego, т. УI. Warszawa, 1915.

Сцяшк. — Т.Ф.Сцяшковіч. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972.

Теплов — Е.Ф. Теплов. Лексико-семантические разряды. — У кн.: Актуальные проблемы лексикологии. Мн., 1976.

ТСБМ — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. I—II. Мн., 1977, 1978.

Фасмер — М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка. М., 1971.

Чартко — Даследаванні па літаратурнай мове. Гродна, 1967.

Шат. — Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Мн., 1929.

## Іншыя скарачэнні

арх. — архангельскае

бел. — беларускае

Драг. — Драгічын

зах. — заходняе

кал. — калужскае

курск. — курскае

літ. — літоўскае

нав. — навагрудскае

ноўг. — ноўгарадскае

рэг. — рэгіянальнае

рус. — рускае

слав. — славенскае

славац. — славацкае

Сл-м. — Слонім

ст.-бел. — старажытна-беларускае

тул. — тульскае

укр. — украінскае

цвр. — цвярское

В.А. Жучкевіч

# МАКРАТАПАНІМІЯ, АГУЛЬНЫЯ ЗАКАНАМЕРНАСЦІ, ЯЕ ЎЗНІКНЕННЕ І ФУНКЦЫЯНІРАВАННЕ

Тапонімы звычайна класіфікуюць па роду аб"ектаў: ойканімія /назвы паселішч/, гідранімія /назвы водных аб"ектаў/, аранімія /назвы форм рэльефа/ і інш. У залежнасці ад мэты і погляду даследчыка часам ужываюць і больш дробны падзел.

Здаўна сталі таксама разглядаць мікратапанімію як нейк асобны клас геаграфічных назваў, якому ўласцівы свае асобныя рысы. Увогуле мікратапонім — гэта няўстойлівая назва невядікага аб"екта. Асаблівасці саміх рэалій уплываюць на моўныя формы мікратапонімаў. Мікратапонімы можна лічыць ніжэйшым класам тапаніміі.

Аднак побач з ніжэйшым класам /мікратапаніміяй/ існуе і вышэйшы клас, які заканамерна завуць макратапаніміяй. Уводзячы дадзенае паняцце, аўтар /1965, 1968/ вызначыў толькі некаторыя агульныя рысы макратапонімаў, не характарызуючы іх галоўныя асаблівасці ў параўнанні са звычайнымі тапонімамі. Аднак асаблівасці макратапонімаў даволі значныя і таму іх заканамерна лічаць іншы раз дакументальна-абстрагаванымі і нават "штучнымі" /искусственными/ тапонімамі.

Прыкладамі макратапонімаў могуць быць такія, як Усходне-Еўрапейская раўніна, Прадпалессе, Арктыка, Вялікі Бар"ерны рыф, Далёкі Усход, Палінезія, Вялікі Водараздзельны хрыбет, Цэнтральная Бярэзінская раўніна, Прыбалтыка, Блізкі Усход,

Казахскі драбнасопачнік, Сярэдняя Азія і г.д. Агульная колькасць падобных назваў, якія маюць афіцыйныя запісы і зафіксаваны на картах і ў літаратуры, больш за тысячу[1]. Безумоўна, іх значна менш, чым звычайных тапонімаў.

Як і ў астатніх катэгорыях тапаніміі, шмат якія макратапонімы вагаюцца паміж макратапонімамі і звычайнымі тапонімамі /напр., Зауралле ці Прымор"е/. Разгледзім некаторыя характэрныя рысы макратапонімаў.

1. Калі звычайныя тапонімы, як правіла, творчасць народа, то макратапонімы з"явіліся ў выніку фарміравання адпаведных паняццяў, галоўным чынам геаграфічнага зместу. Напрыклад, Палінезіяй пачалі з сярэдзіны XIX ст. называць усе шматлікія архіпелагі астравоў у цэнтральнай частцы Ціхага акіяна. Назва Прадпалессе з"явілася каля 30 год назад у працэсе даследавання рэльефа БССР. Імя Сярэдне-Сібірскае пласкагор"е ўзнікла каля ста год назад пры вывучэнні гэтай часткі нашай краіны і г.д. Але зразумела, што такія назвы з"явіліся ў сувязі з патрабаваннямі геаграфічнай і сумежнай навук.

2. Мясцовыя жыхары ніколі не ўжывалі макратапонімаў, многія назвы, запісаныя ў навуковых працах і на картах, былі ім невядомымі. Яшчэ Э.М. Мурзаеў адзначаў, што карэнныя жыхары Цянь-Шаня не ўжываюць такой назвы, але даюць асобным часткам гэтай сістэмы назву Алатау. Ніхто з карэнных жыхароў Палінезіі да нядаўніх часоў не ведаў, што ўсе шматлікія астравы нехта заве Палінезіяй і г.д. У мясцовых жыхароў не было такой патрэбы.

3. Матэрыялам для ўтварэння макратапонімаў з"яўляюцца ў значнай ступені апелятывы, якія складаюць каля палавіны слоўнага матэрыялу, патрэбнага для макратапонімаў. У іншых выпадках звычайныя тапонімы таксама ўваходзяць у склад макратапонімаў. Значная колькасць макратапонімаў двух- ці шматслоўная: Галоўны Каўказскі хрыбет, Вялікія Амерыканскія азёры, Марыінская водная сістэма і г.д.

4. Сфера ўжывання макратапонімаў значна меншая, чым звычайных тапонімаў. Яны не выконваюць ролі паштовых адрасоў.

---

[1] Атлас мира. Указатель географических названий. М., 1954.

Галоўнае іх прызначэнне — абслугоўваць навуковую і вучэбную літаратуру.

5. Усе макратапонімы маюць даволі простую этымалогію. Гэта — вынік адноснай іх маладосці і даволі простага утварэння. Можа таму макратапонімы ў адрозненне ад звычайных тапонімаў, як правіла, перакладаюцца з адной мовы на другую /Соединенные Штаты Америки — Злучаныя Штаты Амерыкі, Ближний Восток — Блізкі Усход і інш./.

6. Аб"екты, якія азначаюцца макратапонімамі, часта значныя па сваіх памерах: гэта назвы вялікіх фізіка-геаграфічных аб"ектаў, дзяржаў, зборных геаграфічных паняццяў і інш. /Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, Заходне-Сібірская раўніна і інш./. Таму тут часцей сустракаюцца і абрэвіятуры: СССР, ЗША, ГДР, КМА /Курская магнітная анамалія/ і інш.

7. Макратапонімы маюць свае асаблівасці пры нанясенні іх на геаграфічныя карты. Калі айконімы падпісваюцца уздоўж паралелі, назвы рэк — па цячэнню ракі, то макратапонімы — па найбольшай працягласці, праз увесь аб"ект, які яны азначаюць.

Макратапонімы як клас тапонімаў яшчэ недастаткова вывучаны. Гэтыя уласныя назвы варты выдзялення ў асобны клас і спецыяльнага вывучэння ў тапанімічным плане. Іх родніць з усімі астатнімі тапонімамі тое, што выражаюць яны ўсе паняцці адзінкавыя, а не агульныя.

В.П.Лемцюгова

# АЙКОНІМЫ З ЛЕКСІЧНАЙ АСНОВАЙ ПОГОСТ

Крыніцай фактычнага матэрыялу для артыкула паслужылі "Спіскі населеных месц Расійскай імперыі", а таксама спіскі аналагічнага характару іншых серый, якія з"яўляюцца самым поўным зборам усходнеславянскай айканіміі.

У лексічным складзе зафіксаваных у іх айконімаў выяўлена звыш 50 назваў паселішчаў сельскага тыпу: веска, весь, волька, воля, вулька, высадка, выселок, выставка, выставок, двор, дворище, деревня, заимка, заимок, займище, застенок, имение, колония, курень, ма"нток, новоселок, околица, околодок, осель, погост, поселенье, поселье, поселок, починка, починок, приселенье, приселок, приселье, седиба, селение, селец, селиба, селитьба, селище, селко, село, сельцо, скит, слобода, слободка, станица, умет, фольварок, хутор і інш. З"яўленне гэтых назваў у складзе айканіміі абумоўлена гістарычна. За кожным фактам айканімізацыі назваў паселішчаў стаіць пэўная эпоха. Таму даследаванне айканіміі, матываванай назвамі паселішчаў сельскага тыпу, не можа абмяжоўвацца чыста лінгвістычным аспектам. Важна не толькі вызначыць лексічны склад айконімаў і семантычную структуру ўтваральных асноў, акрэсліць арэалы іх бытавання, але і прасачыць гістарычны працэс эвалюцыі назваў паселішчаў, які цесна пераплятаецца са зменамі ў сацыяльна-эканамічнай структуры грамадства, у першую чаргу са зменамі ў формах землеўладання і землекарыстання пэўнай эпохі. Інакш кажучы, для найбольш аб"ектыўнага выяўлення заканамернасцей станаўлення айконімаў на базе

агульных назваў паселішчаў неабходны не толькі лінгвістычныя доследы ў галіне апелятыўнай лексікі,але і выкарыстанне даных гістарычнай навукі. Улік агульных і лакальных тэндэнцый развіцця назваў паселішчаў дапамагае глыбей пранікнуць у сутнасць працэсу айканімізацыі апелятыўнай лексікі, дакладней вызначыць прычыны складвання айканімічных арэалаў. У сваю чаргу айконімы ў сукупнасці з фактамі іншых сумежных з лінгвістыкай навук у пэўнай ступені могуць дапоўніць гісторыю семантычнага развіцця апелятываў, удакладніць некаторыя моманты іх лакальна-хранагічнай характарыстыкі або з"явіцца крыніцай рэканструкцыі страчаных імі старажытных арэалаў. У гэтым плане несумненную цікавасць уяўляюць сабой пытанні, звязаныя з фарміраваннем асноў айконімаў на базе апелятыва погост, які адносіцца да катэгорыі старажытнейшых назваў паселішчаў сельскага тыпу на Ўсходнеславянскай тэрыторыі.

Погост -- старажытнае ўсходнеславянскае слова. Этымалагічна яно ўзыходзіць да дзеяслова погостити 'пабыць у гасцях', 'наведаць з мэтай збору даніны, куплі-продажу' і інш.[1] Першыя летапісныя ўпамінанні аб пагостах звязваюцца з паданнем аб паходзе княгіні Вольгі ў Ноўгарадскую зямлю /947 г./[2]. Пачынаючы з XIст. звесткі аб іх падаюцца рэгулярна ў пісьмовых дакументах Кіева, Ноўгарада, Пскова, Смаленска, Масквы і іншых рускіх зямель. Гістарычны лёс слова погост надзвычай складаны. Ужо ў раннія эпохі яно мела некалькі значэнняў. Пагостамі называліся ў старажытнарускай дзяржаве станы для князёў на палюддзі, месцы прыпынку для прыезджых гасцей і купцоў[3], сельскія абшчыны і іх цэнтры, па-

---

[1] Филин Ф.П. Лексика русского литературного языка древнекиевской эпохи, с. 152 ; Потебня А.А. К истории звуков русского языка, т.IУ ; Этимологические и другие заметки. Варшава, 1883, с. 41. Параўн. гостити 'быць у гасцях', 'гандляваць, наведваць з мэтай гандлю' ; гость 'купец', гостьба 'гандаль' /СлРЯ XI--XУП вв.,вып.4. М., 1977/.

[2] Срезневский И.И. Материалы для словаря древнерусского языка, т.2. СПб, 1895, с.1017--1018 ; Веселовский С.Б. Село и деревня в Северо-Восточной Руси XIУ--XУ вв. М.-Л., 1936, с. 15.

[3] Срезневский И.И. Материалы для словаря древнерусского языка, т.2, с. 1017--1018.

селішчы, якія з"яўляліся судова-падатковымі цэнтрамі пэўных акругоў-валасцей[4]. У ноўгарадскіх дагаворных граматах і іншых дакументах XI--XIУ стст. слова погост адзначаецца ў якасці тэрытарыяльнай адзінкі сельскай абшчыны, адміністрацыйна-тэрытарыяльнага цэнтра, а таксама ў якасці агульнай назвы населенага пункта[5]. Такім чынам, погост X-- пач. XIУ ст. выступае як шматзначнае слова. Пісьмовыя помнікі XIУ--XУ стст.[6] Ноўгарадскага і Маскоўскага княстваў найбольш паслядоўна фіксуюць два яго значэнні: 'населены пункт з царквой, могілкамі, дамамі царкоўнаслужыцеляў і зямельнымі ўгоддзямі, якія да яго належаць /погост-место/', 'некалькі вёсак, якія адносяцца да адной воласці /погост-округ/'. Абодва значэнні ўжываюцца як у дакументах Паўночна-Заходняй, так і Паўночна-Усходняй Русі[7]. На тэрыторыі Ноўгарадскай зямлі "погосты-места" размяшчаюцца або ў паселішчах, або самастойнымі пасёлкамі. У апошнім выпадку -- гэта населеныя пункты з пагосцкай царквой і дварамі прытча, да якіх абавязкова прымыкае некалькі дробных паселішчаў. Прычым у Ноўгарадскіх пяцінах і ўладаннях у гэты час "погост-место" амаль што не адрозніваецца ад сяла[8]. Значэнне 'погост-округ' найбольш характэрна для зямель Ноўгарада Вялікага і яго ўладанняў -- Дзвінскай зямлі, Заанежжа і інш. У XУ--XУП стст. Ноўгарадскія пагосты былі самастойнай дробнай адміністрацыйнай адзінкай у межах

---

[4] Успенская А.В., Фехнер М.В. Поселения Древней Руси.--Очерки по истории русской деревни X--XШ вв. М.,1956, с.11 ; Тараканова-Белкина С.А. Боярское и монастырское землевладение в Новгородских пятинах в домонгольское время. М.,1939,с.31.

[5] Кочин Г.Е. Сельское хозяйство на Руси в период образования русского централизованного государства с конца XШ до начала XУI в. М.--Л., 1965, 106--107; Чайкина Ю.И. История административной терминологии Белозерья. -- Лексика севернорусских говоров. Вологда, 1976, с. 10; Андриишев А.М. Материалы по исторической географии Новгородской земли. М., 1914

[6] У рускай пісьменнасці XIУ--XУ стст. найбольш шырокае адлюстраванне тэрмін погост атрымаў у ноўгарадскіх помніках.

[7] Чайкина Ю.И.История административной терминологии Белозерья, с.10.

[8] Воронин Н.Н. К истории сельского поселения феодальной Руси. -- Известия государственной Академии истории материальной культуры, вып. 138. Л., 1935, с. 28.

пяцін[9]. У гэтай жа функцыі засведчаны яны і ў некаторых дакументах Паўночна-Усходняй Русі. Так, у ХУІ ст. дзяленне на пагосты практыкавалася ў асобных валасцях Маскоўскага княства[10]. Але пагосцкія адміністрацыйныя цэнтры можна разглядаць у гэты час толькі як рэшткі старога адміністрацыйна-тэрытарыяльнага члянення[11].

У ХУП--ХУШ стст. па-ранейшаму дамінуюць значэнні 'погост-округ' і 'погост-место'. Апошняе больш устойліваe і шырока фіксуецца ва ўсходніх раёнах былога Ноўгарада Вялікага /Абанежская і Бежацкая пяціны/ і ў Паўночна-Усходняй Русі[12]. Геаграфія слова погост у значэнні 'акруга' ў гэты час істотна змяняецца. Адбываецца далейшае звужэнне яго арэала, які, па сутнасці, абмяжоўваецца толькі землямі старажытнага Ноўгарадскага княства[13].

Усё сказанае датычыць гісторыі семантычнага развіцця пагостаў Паўночна-Заходніх і Паўночна-Усходніх рускіх зямель. Астатняя тэрыторыя старажытных пагостаў -- Заходнія і Паўднёва-Заходнія рускія землі -- засталася па-за ўвагай даследчыкаў з прычыны недахопу або адсутнасці матэрыялаў з пісьмовых крыніц. Таму тут дарэчы будзе прывесці нават тыя сціплыя звесткі па гэтай тэрыторыі, якімі мы зараз распачываем.

У картатэцы Слоўніка старабеларускай мовы слова погост засведчана толькі васьмю прыкладамі /з іх адзін раз у форме погостье і адзін у функцыі ўласнай геаграфічнай назвы/. Самае

---

9 Истомина Э.Г. Границы, население Новгородской губернии /1727--1917/. Л., 1972, с. 18.

10 Тихомиров М.Н. Россия ХУІ ст. М., 1962, с. 116.

11 Срезневский И.И. Записки об исследованиях К.А.Неволина о пятинах и погостах. -- Известия имп. Академии наук по отделению русского языка и словесности, т.2. СПб, 1853, с 264 -- 265.

12 Ключевский В.О. Курс русской истории, т.У. М., 1956, с.69.

13 Там же. с. 69.

ранняе ўпамінанне аб заходніх пагостах адносіцца да першай палавіны ХУ ст.: Дань Ржовская здавна по тому шла господару королю шло сто руб [левъ] да три руб [ли]; Такожъ о томъ жо Ошевъскомъ погосте у Будъкиньской трети королю дани идеть пятьдесятъ рублевъ; А какъ прочъ къ Москве ехалъ, взялъ на Бардовскомъ погосте... десеть рублевъ на людехъ; З Бардовского погоста здавна королю шло дани шестедесятъ рублевъ; А въ томъ погосте Бардовскомъ три жъ трети, как и въ Ошевскомъ. А на владыку дей Новгородского только озеро одно /Кн. зап., 465, 467, 468, 473, 474, 1448/. З прыведзенага кантэксту відаць, што размова ідзе аб пагостах, якія адносіліся да разраду сельскіх паселішчаў, абкладзеных данінай у карысць караля. Абавязкі несці валаснoе цягла маглі быць або пастаяннымі, або абумоўленымі якімі-небудзь абставінамі, напрыклад праездам караля[14].

Пазнейшыя ўпамінанні аб пагостах у заходнерускіх пісьмовых крыніцах раскрываюць іншыя значэнні гэтага слова. Вось што піша польскі кароль у лісце да Маскоўскага вялікага князя: твои намѣсники и помѣщики порубежные всихъ городовъ и погостовъ нашихъ вкраинных позасѣдали многіи волости, села, деревни..., которые... к нашому великому князьству выписаны; напоминаемъ тебе, абы еси.. къ тымъ граничнымъ городомъ и погостомъ бояръ своихъ выслалъ /АЗР II, 94, 97, 98, 1511/. У дадзеным выпадку пад пагостам хутчэй за ўсё трэба разумець паселішча, якое з'яўляецца адміністрацыйным або адміністрацыйна-рэлігійным цэнтрам /пагост-акруга/. Матэрыялы помнікаў ХУП ст. найбольш выразна характарызуюць пагост як царкоўнае паселішча: Архиепископу Смоленскому на моць и влодзу подаемъ церквы Архангела Михаила въ погосте над Вехрою /АВАК I, 70, 1634/.

Не зусім зразумела значэнне пагоста ў наступных кантэкстах: въ Пошехонскомъ уѣздь волость Вольская и погостъ Всесвяцкій и Усть-Шаховское погостье /АЗР ГУ, 325, 1610/; Привезли лапокъ з погоста возъ пять, отъ воза осм по десять /ИЮМ УП, 186, 1690/. На аснове гэтых прыкладаў слова погост можна кваліфікаваць і як адміністрацыйны цэнтр, і як царкоўнае паселішча ці проста царква.

14 Довнар-Запольский М. Очерки по организации западно-русского крестьянства в ХУI веке. Киев, 1905, с. 56.

Такім чынам, па матэрыялах помнікаў заходняй часткі Русі ў розныя гістарычныя перыяды адзначаюцца тры тыпы пагостаў: пагост-паселішча, якое абкладаецца данінай; пагост-царкоўнае паселішча; пагост-акруга. Аднак ні адзін з іх нельга безагаворачна аднесці да тэрыторыі Заходняй Русі, паколькі яны зафіксаваны галоўным чынам на памежжы з Паўднёва-Заходнімі і Паўднёва-Усходнімі рускімі землямі. У выніку лёс заходнерускіх пагостаў па старажытных пісьмовых крыніцах застаецца мала зразумелым.

Вельмі скупымі звесткамі размяркоўваем мы і аб пагостах Паўднёва-Заходняй Русі. Слоўнік староўкраінскай мовы XIV--XV стст. фіксуе слова погост у значэнні 'сельская абшчына з самакіраваннем', якое ілюструецца адзіным прыкладам з тэрыторыі Валыні пад 1322 г. Зразумела, што такі абмежаваны кантэкст мала што можа сказаць аб гістарычнай сутнасці паўднёва-заходніх пагостаў. Але сам факт існавання тэрміна погост на гэтай тэрыторыі пасля распаду Кіеўскай дзяржавы застаецца бясспрэчным. Зразумела і тое, што ў XIV--XV стст. пагосты ў Паўднёва-Заходняй Русі не былі масавай з"явай, а хутчэй за ўсё з"яўляліся перажыткамі папярэдніх эпох.

На аснове аналізу матэрыялаў старажытных пісьмовых крыніц І.І.Сразнеўскі прыходзіць да вываду, што ў большасці выпадкаў слова погост абазначае тып паселішча, якое па сваёй сутнасці нагадвае слабаду, сяло, групу вёсак, размешчаных у асобнай акрузе[15]. Гэта дало яму падставу лічыць значэнне 'тып паселішча' зыходным. На яго думку, спачатку пагосты з"яўляліся асобнымі паселішчамі, затым -- групай такіх паселішчаў, з якіх адно было галоўным, а астатнія -- выселкамі з яго. І толькі пазней яны набылі рэлігійнае значэнне прыходаў і грамадзянскае -- валасцей і цэнтраў валаснога ўпраўлення. П.Я.Чарных вылучае наступныя стадыі ў працэсе эвалюцыі семантыкі слова погост: 'месца гасціявання'; 'месца стаянкі гасцей'; 'стан для князёў і зборшчыкаў даніі'; 'акруга'; 'сукупнасць вёсак, што цягнулі да стана'; 'пасёлак з царквой'; 'прошча каля царквы'; 'могілкі пры царкве'; 'могілкі'[16].

---

[15] Срезневский И.И. Записки об исследованиях К.А. Неволина, с. 265.

[16] Черных П.Я. Очерк русской исторической лексикологии. М., 1956, с. 164.

Прыкладна ў такой жа паслядоўнасці пададзены значэнні гэтага слова ў А.А.Патабні[17] і ў І.І.Сразнеўскага[18]. Шырыня семантычнага дыяпазону слова погост у значнай ступені абумоўлена рознасцю гістарычнага лёсу і спецыфікай сацыяльна-эканамічнага ўкладу асобных усходнеславянскіх тэрыторый. Гэта асабліва наглядна прасочваецца на прыкладзе Ноўгарадскага і Маскоўскага княстваў. Буйное землеўладанне ноўгарадскіх феадалаў не толькі не разбурала, але нават спрыяла захаванню абшчыннай сістэмы землеўладання і землекарыстання. Таму тут у канцы ХУ--ХУІ стст. абшчына выступае як натуральная з"ява, а слова погост захоўвае рад архаічных рыс, уласцівых яму ў эпоху Кіеўскай Русі. Асабліва прыкметна гэта праяўляецца ў паўночных уладаннях Ноўгарада Вялікага. У сярэдняй паласе, пераважна на тэрыторыі былых княжаскіх удзелаў, абшчынная сістэма ў гэты час існавала толькі ў перажытачных формах[19]. Развіццё памеснага і вотчыннага землеўладанняў раздрабнілаі знішчыла як тэрытарыяльную абшчыну, так і яе аснову -- валасныя землі. Таму і слова погост тут амаль не сустракаецца ў якасці назвы абшчынных інстытутаў. Яшчэ больш істотна адбіліся на лёсе тэрміна погост спецыфічныя ўмовы Заходніх і Паўднёва-Заходніх рускіх зямель. Ранняе разлажэнне абшчыннай сістэмы землеўладання, гаспадарчыя і рэлігійныя новаўвядзенні літоўскіх, а затым польскіх улад прывялі да амаль поўнага згортвання старажытных функцый пагоста.

Нягледзячы на ўсю складанасць і супярэчлівасць гістарычнага лёсу і няпоўную яснасць семантычнай структуры пагоста, у працах гісторыкаў і лінгвістаў ён адзначаецца як адзін са старажытнейшых тыпаў паселішча. М.В.Вітаў разам з тэрмінамі село, деревня, починок, станица, околица адносіць погост да ліку тых

---

[17] Потебня А.А. К истории звуков русского языка, т.ІУ.

[18] Срезневский И.И. Материалы для словаря древнерусского языка, т.2, с. 1017--1018.

[19] Воронин Н.Н. К истории сельского поселения феодальной Руси, с. 28.

усходнеславянскіх тыпаў паселішчаў, якія склаліся гістарычна[20].

Пагостамі паселішчы імянуюцца нават у XIX--XX стст. У гэтай функцыі яны зафіксаваны ў тлумачальных і дыялектных слоўніках рускай мовы /Даль, Ожагаў, Дабравольскі і інш./, а таксама ў "Спісках населеных месц Расійскай імперыі". Паводле апошніх акрэсліваецца адносна позні апелятыўны арэал тэрміна погост у значэнні 'тып паселішча'. Ён ахоплівае губерні Ноўгарадскую, Пскоўскую, Аланецкую, Архангельскую, Санкт-Пецярбургскую, Валагодскую, Віцебскую, Магілёўскую, Смаленскую, Кастрамскую, Цвярскую, Яраслаўскую, Уладзімірскую, Маскоўскую, Ніжагародскую, Тульскую і Разанскую. Найбольшая колькасць выпадкаў ужывання пагостаў у якасці наменклатурнага тэрміна прыпадае на Паўночна-Заходнія і Паўночныя землі, г.зн. на тэрыторыю былога Ноўгарадскага княства і яго паўночных уладанняў.

Сацыяльна-эканамічную сутнасць пагостаў-паселішчаў у пэўнай ступені дапамагаюць зразумець іх уласныя назвы. Мяркуючы па зместу і форме большасць з іх лексічна звязана з назвамі цэркваў, што знаходзіліся на тэрыторыі пагоста: Архангельский паг. Цв., Богородице-Рождественский паг. Маск., Борисо-Глебск паг. Пск., Воздвиженский погост паг. Маск., Вознесенье паг. Ноўг., Воскресенский паг. Маск., Цв., Десято-Пятницкий паг. Ноўг., Здвиженье паг. Вал., Козмодемьянский паг. Маск., Крестовдвиженский паг. Маск., Никольский паг. Маск., Ноўг., С.-П., Ново-Покровский паг. Пск., Петропавловский паг. Маск., Погост Пятницкий /Девятая Пятница/ паг. Яр., Покров паг. Маск., Покров /Покровский/ паг. Раз., Пречистинский паг. Маск., Пятницкий паг. Ноўг., Пять Крестов паг. Маск., Рождественский паг. Маск., С.-П.,Цв., Спасский паг. Цв., Спас Старый /Погост Спаский, что на Дебле/ паг. Маск., Троицкий паг. Кастр., Троицы паг.С.-П., Успенский погост паг. Ноўг., Успенский /Кузменский/ паг. Маск., Христо-Рождественский паг. Маск. і інш.

У радзе выпадкаў уласныя назвы пагостаў адлюстроўваюць камбінаваны змест -- царкоўна-рэлігійны і свецкі. Найбольш тыповую мадэль утвараюць айконімы з двума або трыма кампанентамі, адзін з якіх заключае ўказанне на месцазмяшчэнне пагоста адносна

[20] Витов М.В. О классификации поселений. -- Советская этнография, 1953, № 3, с. 36.

якога-небудзь паселішча або гідрааб"екта: Архангельский /Дорки/ паг. Маск., Бельский Никольский погост паг. Ноўг., Борисоглебский /Баглачево/ паг Ул., Бубново /Ново-Покровское/ паг. Пск., Варнакушский Троицкий погост паг. Ноўг., Всех Святых /Люлих/ паг. пры р. Люлихе Ул., Георгиевский /Шуйщино/ паг. Цв., Два Покрова /Красный/ паг. Маск., Залохотский-Троицкий погост паг. Ноўг., Ильинский-Подгородный /Георгиевский/ паг. Ноўг., Кемосельский Вознесенский погост паг. Ноўг., Кленовский Николаевский погост /Поповка/ паг. Ноўг., Клеопино /Покровский/ паг Цв., Метлино /Ново-Никольское/ паг. Пск., Никитский /Лужки/ паг. Маск., Николаевский-Ламанский /Ламениха/ паг. Вал., Николаевский /Ровки/ паг. Маск., Николо-Пестьянский /Омутецкий/ паг. Ул., Николо-Поля /Никольский/ паг. пры р. Поле Ул., Скатово /Успенское/ паг. Цв., Островский-Никольский погост паг. Ноўг., Покров-Кештома паг. пры р. Кештоме Яр. Покров-Молога паг. пры р. Малога Ноўг., Покровский Домослободский погост паг. Ноўг., Попова /Петропавловский Кирючский/ паг. Ноўг., Поповка /Старо-Ерговский/ паг. Ноўг., Пусторадицкий Рождественский погост паг. Ноўг., Рождественский /Склятино/ паг. Цв., Сосница /Спас-Сосница, Спас-Преображение/ паг. Ноўг., Спасо-Прилуки паг. Пск., Судский Михаило-Архангельский погост паг. Ноўг., Сухачский-Успенский погост паг. Ноўг., Спас-Шужгора /Попова/ паг. Ноўг., Танищский-Троицкий погост /Успенское/ паг. Ноўг., Троицко-Млевский паг. Цв., Устюцкий /Поповка, Клирошанская/ паг. Ноўг., Чужераменский /Воскресенский/ паг. Ноўг., Шубачский-Николаевский погост паг. Ноўг., Щуково /Благовещенье, Благовещенский/ паг. Ул. і інш.

Абодва тыпы ўласных назваў пагостаў маюць абмежаваныя зоны лакалізацыі. Айконімы царкоўна-рэлігійнага зместу сканцэнтраваны галоўным чынам у межах Маскоўскай, Цвярской, Ноўгарадскай і Санкт-Пецярбургскай губерняў. У губернях Пскоўскай, Кастрамской, Уладзімірскай, Яраслаўскай, Валагодскай, Архангельскай, Разанскай і Тульскай яны адзначаюцца толькі спарадычна. Раёнам найбольшай канцэнтрацыі айконімаў рэлігійна-свецкага зместу з"яўляецца Ноўгарадская губерня. У Цвярской, Маскоўскай, Яраслаўскай, Пскоўскай і Валагодскай губернях яны зафіксаваны асобнымі выпадкамі /ад адной да пяці назваў/. Нягледзячы на адрозненні ў структуры, па свайму зместу вылучаныя тыпы айконімаў несумненна

аднесяцца да царкоўна-рэлігійных. Наяўнасць дадатковай характарыстыкі, паводле якой-небудзь мясцовай прыкметы, на змест назвы істотна не ўплывае. Звычайна яна ўказвае на паселішча, паблізу або на тэрыторыі якога размешчаны царкоўны пагост. У якасці мясцовага арыенціра маглі выступаць таксама і прыродныя аб"екты — пераважна рака або возера. Такім чынам, на аснове айконімаў царкоўна-рэлігійнага зместу акрэсліваецца найбольш старажытны арэал бытавання пагостаў як тыпу царкоўнага паселішча. Прычым самая высокая канцэнтрацыя гэтага тыпу айконімаў прыпадае на Маскоўскую, Ноўгарадскую, Цвярскую, Санкт-Пецярбургскую і Уладзімірскую губерні. На астатняй тэрыторыі яны пазначыліся ў якасці асобных украпленняў.

Многія назвы пагостаў утвораны на аснове назваў іншых паселішчаў або гідронімаў: Великосельский погост паг. Ноўг., Дубровский паг. Цв., Едомский погост паг. Ноўг., Ельницкий погост паг. Ноўг., Зелено-Дубровский погост /Поповская/ паг. Ноўг., Кулигский погост паг. Ноўг., Можайский паг. Тул., Ново-Уситовский паг. Пск., Осницкий паг. Ноўг., Селогорский погост паг. Ноўг., Становицкий погост паг. Ноўг., Теребужский паг. С.-П., Чуженский /Чужеваринский/ паг. Ноўг., Верхне-Чужбойский погост паг. пры р. Верхне-Чужбойка Ноўг., Воронежский паг. пры р. Воронье Арх., Дымский паг. пры р. Дымица Ноўг., Клуйский паг. пры р. Клуйка Ноўг., Ковжский погост паг. пры рр.Шексна і Ковжа Ноўг., Кушерецкий паг. пры р. Куш Арх., Малашуйский паг. пры р. Малашуйке Арх., Ноўг., Нижне-Чужбойский погост паг. пры р. Чужбойка Ноўг., Нюбский паг. пры рч. Нюбе Вал., Пашезерский паг. пры воз. Пашеозеро Ноўг., Пашский паг. пры р. Козопаше, якая ўпад. у р. Пашу С.-П., Печенский паг. пры р. Печенге Арх., Похрянский паг. пры р. Похрянке Маск., Тумбажский погост паг. пры р. Тумба Ноўг., Усть-Каширский паг. пры рр. Мета і Каширка Ноўг., Устье-Ножемский погост паг. пры рр. Суда і Ножема Ноўг., Шарьинский паг. пры р. Шарья Ноўг., Ширинский паг. пры рч. Ширинке Цв., Шукозерский паг. пры воз. Шукозерье Арх. і інш.

Прыведзеныя вышэй айконімы максімальна сканцэнтраваны ў межах Ноўгарадскай губерні. Параўнальна нямнога іх у губернях Архангельскай і Санкт-Пецярбургскай. А на губерні Пскоўскую, Валагодскую, Яраслаўскую, Цвярскую, Уладзімірскую, Маскоўскую, Тульскую і Курскую прыпадае ўсяго ад адной да дзвюх назваў. Гэта такі ж

старажытны тып уласных назваў пагостаў, як і папярэдне разгледжаны. Абодва яны з"яўляюцца традыцыйнымі для Ноўгарадскай зямлі[21], рана ўпамінаюцца ў старажытных пісьмовых крыніцах гэтай тэрыторыі /Погост Фроловской с ц. св. Флора и Лавра; Погост Павской с. Павы; Хмерской погост на оз. Хмере 1498/[22]. У радзе выпадкаў пагосты носяць тыя ж назвы, што і іншыя тыпы паселішчаў. Частка іх утворана на аснове прыродна-геаграфічных апелятываў: Аполец паг. Ноўг., Березовец на Городище паг. Цв., Болонье паг. Ноўг., Большое Восное паг. Ноўг., Борок паг. Пск., Бродник паг. Ноўг., Верховье паг. Віц., Волок паг. Пск., Высокий Холмец паг. Цв., Гнилки паг. Пск., Горки паг. Віц., Горкушка паг. Ноўг., Долгополье паг. Віц., Дубровка /Рыкуша/ паг. Цв., Железная Дубровка паг. Ноўг., Заболотье паг., Ноўг., Заборье паг. Пск., Загорье паг. Віц., Каменка паг. Цв., Пск., Лужки паг. Маск., Ольховец паг. Ноўг., Осиновик паг. Ноўг., Песчанка паг. Віц., Поддубье паг. Віц., Пониз: ? паг. Кастр., Поречье паг. Віц., Прилуки паг. Пск., Речки паг. Ноўг., Рожок паг. Цв., Холмец паг. Цв. і інш.

Цэлы рад назваў пагостаў выяўляюць лексічную сувязь з антрапонімамі: Бакланов паг. Цв., Борисов паг. Цв., Быстреево паг. С.-П., Воронцово паг. Цв., Грызово паг. С.-П., Дроздеево паг. Цв., Захарьино паг. Ноўг., Зеленицын паг. Маск., Иванково паг. Ноўг., Игов паг. Ул., Кастьково паг. Цв., Косково паг. Вал., Люблин паг. Цв., Мохов /Поповка/ паг. Кастр., Чоробово паг. Вал., Одинцов паг. Цв., Пенино паг. С.-П., Пятиусово паг. Пск., Плешкино паг. Вал., Попово паг. Цв., Потелино паг. Вал., Пырково паг. Раз., Раково паг. Вал., Рогачев паг. Цв., Рогалево паг. Цв., Романцово паг. Цв., Ростиславль /Расчисдово/ паг. Раз., Русалкино паг. Тул., Славитино паг. Ноўг., Соловьево /Горбы/ паг. Ноўг., Сытино паг. Тул., Туровль паг.

---

[21] Неволин К.А. О пятинах и погостах новгородских в ХУ в. — Записки императорского Русского географического общества, кн. УШ. СПб, 1853, с. 93—105.

[22] Андрияшев А.М. Материалы по исторической географии Новгородской земли, с. 30, 49, 63.

Віц., Уматин паг. Тул., Чижево паг. Ноўг., Чурилов паг. Цв., Шелыгино паг. Вал., Ширково паг. Цв., Юрьево паг. Ноўг., Тул., Хотяинов паг. Маск. і інш.

Характар лексічных асноў і граматычная структура прыведзеных айконімаў сведчаць аб тым,што названыя імі пагосты маглі быць аб'ектам уладання прыватных асоб, г.зн. належалі да катэгорыі уладальніцкіх паселішчаў. Назвы пагостаў з характэрным антрапанімічным зместам /Волдутов погост, Тудоров погост/ сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах XI—XП стст. у межах старажытнай Ноўгарадскай зямлі [23]. Гэта гаворыць аб тым, што ўжо ў ранні перыяд погост абазначаў не толькі абшчынныя інстытуты, але і асабістую ўласнасць. Цікава, што ў Латгаліі яшчэ ў ХУШ ст. погост /літоўск. pagast / адносіцца да разреду уладальніцкіх паселішчаў [24]. Паколькі гэтае слова запазычана латгаламі ў славян як назва цэнтра збору даніны ў карысць рускіх князёў і ў ХУ ст. з"яўляецца назвай абшчыны і яе цэнтра [25], можна меркаваць, што рускі погост і латгальскі pagast былі ідэнтычнымі па семантычнай структуры. Але з прычыны больш марудных тэмпаў эканамічнага развіцця падуладных ускраінных зямель у параўнанні з цэнтрам Расіі асобныя яго значэнні маглі захоўвацца ў Латгаліі больш працяглы час [26]. Менш верагодна, што значэнне 'ўладальніцкае паселішча' развілося на латгальскай аснове.

Назвы з прыналежнымі суфіксамі маглі ўзнікнуць і на пазнейшай стадыі, калі пагост як "редовая деревня" нярэдка падпадаў пад памесную раздачу /прыкладна ХУI— ХУП стст./.

---

[23] Подольская Н.В. Топонимика Новгородской земли по данным новгородских письменных памятников XI— ХУ вв. Автореф. канд. дис. М., 1956.

[24] Терентьева Л. Крестьянские поселения эпохи феодализма /ХУШ — первая половина XIX в./. — Сельские поселения Прибалтики XШ — XX вв. М., 1971, с. 204.

[25] Моора Х., Лиги Х. Хозяйство и общественный строй народов Прибалтики в начале XШ века. Таллин, 1969, с. 39, 61.

[26] Там же, с. 42.

У Віцебскай і Ковенскай губернях пагосты з такімі назвамі, як правіла, знаходзіліся ў веданні праваслаўнага або рымска-каталіцкага прытчаў[27]. Гэта дае падставу думаць, што частка іх назваў з"яўляецца прыналежнымі не па зместу, а па форме, г.зн. дубліруе структуру назваў цэнтральных паселішчаў акругі або царкоўнага прыходу.

Прыналежны тып назваў пагостаў мае досыць абмежаваную зону канцэнтрацыі. У яе ўваходзяць Ноўгарадская, Пскоўская, Санкт-Пецярбургская, Віцебская, Цвярская, Кастрамская і Валагодская губерні. Адзінкавыя назвы адзначаны ў Маскоўскай, Разанскай і Тульскай губернях.

Некалькі пагостаў носяць назвы патранімічнага тыпу: Благовичи паг. Маг., Клевичи паг. Ноўг., Корбеничи паг. Ноўг., Ляховичи паг. Ноўг., Морозовичи паг. Ноўг., Мосевичи паг. Ноўг., Полевичи паг. Ноўг., Рябовичи паг. Ноўг., Тальбовичи паг. Ноўг., Тервеничи паг. Ноўг., Уштовичи паг. Ноўг. Патранімічныя назвы пагостаў адносяцца да ліку найбольш старажытных[28]. Па сваёй сацыяльна-эканамічнай сутнасці гэтыя назвы адлюстроўваюць патрыярхальна-родавы этап гісторыі першабытнага грамадства, калі яны абазначалі калектыў роду па яго першапачынальніку. З цягам часу патранімічная назва калектыву пераходзіла і на тэрыторыю, якую ён насяляў. А гэта значыць, што пагосты, якія носяць патранімічныя назвы, спачатку служылі назвай месца размяшчэння родавай абшчыны, абшчынна-родавага гнязда. Дарэчы, аб Ноўгарадскай абшчыне, якая мае назву погост, паведамляецца ўжо ў помніках ХІІ ст.[29] У гэты час сустракаюцца ўпамінанні і аб пагостах з патранімічнымі назвамі. Так, "погост Ляховичи" адзначаецца ў ноўгарадскіх граматах пад 1125--1137 гг.

---

[27] Волости и важнейшие селения Европейской России. Губерний Литовской и Белорусской областей, вып. 5. СПб, 1886.

[28] Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности /Заселение и объединение центра/. Л., 1929, с. 13.

[29] Тараканова-Белкина С.А. Боярское и монастырское землевладение в Новгородских пятинах в домонгольское время, с. 31.

/ГНП, 139/.

Аднак пры гэтым нельга выключаць магчымасці пераносу назвы тэрыторыі абшчыны на пагост як судова-падатковы яе цэнтр, што, відаць, і адбылося пры узнікненні назвы пагоста Тервеничи, які у грамаце пад 1137 г. яшчэ значыцца як погост "в Тервеничах"[30], г. зн. у межах нейкай тэрыторыі /абшчыны ці воласці/, якая носіць назву Тервеничи. У любым выпадку пагосты з патранімічнымі назвамі узыходзяць да найбольш ранняга перыяду свайго развіцця.

Гісторыя апелятыва погост працягваецца і у пэунай ступені дапаунянецца у айканіміі. У якасці тапаасновы погост фіксуюць Ноугарадскія граматы XI--XIУ стст.: На Погощах / НГ, № 526, с. 125, XI ст./; Шенкурский погост и земли шенкурского погоста /НГ, с. 250, 1315--1322/. Пачынаючы з ХУ ст. яны больш рэгулярна з"яуляюцца на старонках старажытных помнікау Паучочна-Заходніх, Пауночна-Усходніх і Заходніх рускіх зямель, а галоунае -- у больш акрэсленай тапанімічнай функцыі: землю в Глухом погости /ГНП, с. 214, сярэдзіна ХУ ст./; земли кн/я/зА ж велика/г/о //тянут к Терпилову погосту/АСЭИ,№ 14--16, с.30, 1462--1470); пустошь Старой Погост /ПКМ, с. 31, ХУI ст./; А въ Погостѣ селѣ зъ дворисча входъ сполный съ королевскими... людми /ГППВ, с. 75, 1557/. Увогуле уласныя назвы з лексічнай асновай погост не вызначаюцца чоткасцю тапанімічнага афармлення на усім працягу сваёй гісторыі. Гэта у значнай ступені адносіцца і да назвау населеных пунктау, зафіксаваных у "Спісках населеных месц".

"Спіскі" змяшчаюць каля 250 айконімау, матываваных апелятывам погост. Іх арэал накладваецца амаль на усю тэрыторыю усходнеславянскай тэрыторыі, хоць і досыць нераунамерна. Ён ахоплівае Алонецкую, Архангельскую, Санкт-Пецярбургскую, Ноугарадскую, Пскоускую, Цвярскую, Яраслаускую, Кастрамскую, Валагодскую, Вяцкую, Уладзімірскую, Маскоускую, Ніжагародскую, Тульскую, Разанскую, Тамбоускую, Арлоускую, Віленскую, Мінскую і Магілёускую губерні. Зону самай высокай канцэнтрацыі назвачных

---

[30] Успенская А.В., Фехнер М.В. Указатель к карте "Поселения и курганные могильники Северо-Западной и Северо-Восточной Руси X--XIII вв." -- Очерки по истории русской деревни X--XIII вв., с. 151.

айконімаў утвараюць губерні Аланецкая, Архангельская, Уладзімірская і Кастрамская, самай нізкай -- губерні Арлоўская, Курская і Санкт-Пецярбургская.

Такім чынам, айканімічны арэал тэрміна погост значна перакрывае тэрыторыю яго бытавання ў функцыі тыпу паселішча.

у структурных адносінах большая частка аналізуемых айконімаў з"яўляецца састаўнымі /двухслоўнымі/ назвамі тыпу Ивановский Погост, Никольский Погост, Старый Погост, Новый Погост. Значна радзей адзначаюцца айконімы, якія фіксуюць у сваім складзе толькі адзін тэрмін погост або які-небудзь з яго дэрыватаў: Погост, Погостец, Погостик, Погостище. Адзінкавыя назвы захавалі форму апісальных характарыстык: Верх Пятницкого погоста, На Андомском погосте, Воскресенский погост, что близ села Растунова.

Усе пералічаныя структурныя тыпы айконімаў шырока адзначаюцца і як варыянты складанага намінатыўнага к[омп]лексу: Борок /Рождественский Погост, Заручье, Конец/, Великодворское /Гукузский Погост/, Демьяновское /Табары, Семеновка, Лелемский Погост/, Данково, Дамково /Погост Дмитриевский/, Дубровская /Орловский Погост/, Лекса /Лексинский Погост/, Лябзуновское /Двор большой, Канакшинский Погост/, Мариковская /Мариловская, Марилов Погост/, Никольское /Погост Удринский/, Петровское /Верхнеподенский Погост, Ивановская/, Поповка-Троицкая /Погост Александро-Коровина пустынь/, Попово /Никольский Погост, Табашилово/, Аверинская /Погост/, Алферовская /Погост/, Заручьевская /Погостище/, Миницкое /Погостское/, Погостница /Знаменское/, Антонова /При погосте/.

Паводле семантычнай матывацыі, айконімы з лексічным кампанентам погост падзяляюцца на тыя ж групы, што і ўласныя назвы пагостаў. Самую вялікую з іх утвараюць айконімы, якія паходзяць ад назваў рэк, азёр і населеных пунктаў: Благовещенское /Березницкий Погост/ с. Арх., Вернечурьевский Погост /Агафоновское/ с. Ал., Ветретинское /Ушакова, Верхнесулонский Погост/ с. Арх., Видлозеро I-е /Тихвинсий Бор, Тихвиноборский Погост/, Выгозеро /Выгозерский Погост/ с.Ал., Вырозерский Погост с. Ал., Вытегорский Погост /Анхимовская/ с. Ал., Гим река /пос.: Гиморецкий Погост, Новинка и Маныловская/ с. Ал., Гороховская-Наво-

доцкая /Ундозерский Погост/ с. Ал., Дьяковское /Заречье, Кенозерский Погост/ с. Ал., Заднедубровский Погост /Часовенское/ с. Ал., Замошский Погост /Великий Двор/ с. Ал., Исаковская /Челмужский Погост/ с. Ал., Карбозерский Погост /Потаповская/ с. Ал., Кемозерский Погост с. Ал., Котлицы Старые /Старокотлицкий Погост/ с. Ул., Краснолякский Погост /Шепно/ с. Ал., Лекшимозерский Погост с. Ал., Линдозерский Погост /Линдозеро-верхней горы/ с. Ал., Матвеевское /Нижемский Погост/ с. Ал., Нечаевское-Валдиево /Валдиевский Погост/ с. Ал., Печенская /Печенский Погост/ в. Арх., Погосская /Отовозерский погост/ с. Ал., Погостское /Ведлозерский Погост/ с. Ал., Погостское /Колодозерский Погост/ с. Ал., Погостское /Котлозерский Погост/ с. Ал., Ребольский Погост /Ребола/ в. Ал., Ругозерский Погост с. Ал., Рыборецкая /пос.: Рыборецкий Погост, против погоста Большога Двора, Степановская, Федосьевская и Никольская/ с. Ал., Самозерский Погост /пос.: Сямозеро и Ахденский погост/ с.Ал., Семчезерский Погост, Сеногубский погост с. Ал., Сепский /Погост Сеп/, пач. пры рч. Сепе Вяц., Тагажмозерский Погост /Тагажмозеро / с. Ал., Троицкое/Ростовский Погост/ с. Арх., Тудозерский Погост /Ощутовская-Казаковская/ с. Арх., Турская Гора /Погост Турской/ с. С.-П., Ульяновское /Пудожгорский Погост/ с.Ал., Успенское /Усть-важский Погост/, с. Арх., Усть-вольский Погост с. Ал., Устьмошский Погост с. Ал., Усть-Сюмский Погост с. Арх., Христорождественское /Устькутской Погост/, с. Арх., Юстозеро /Юштозерский погост/, в. Ал., Янгозерский Погост с. Ал.

Другую па колькасці групу Утвараюць айконімы, якія Узніклі на аснове імёнаУ святых або назваУ царкоУна-рэлігійных свят: Богоявленский Погост, ус. Маск., Борисо-Глебский Погост Борок /Рождественский Погост, что близ села Раступова/ ус. Маск., Воскресенское /Воскресенский Погост, Голкино/ с. Ул., Грива /Георгиевский Погост/ с. Вал., Данилово /Даниловский Погост, Даниловский Скит/ с. Ал., Девятинский Погост, Егорье /Егорьевский Погост/ с. Ал., Ильинский Погост /Коренская/ в. НоУг., Никола-Погост в. Яр.,Никольский Погост в. Тамб, Павловский Погост /Дудино/ с. Ал., Погорельцово /Пятницкий Погост/ с. Курск.,Погост Николы Лисы с. Тамб., Погост /Новосергеевский Погост/ с. Ул., Погостское /Ильинский Погост/ с. Ал., Попово /Никольский Погост, Табашилово/ в. Вал., Пятницкий Погост

в. Курск., Сергиева /Против погоста Сергиева/ в. Ал., Сорокодня Погост /Абашино/ с. Маск., Спасское /Погост Преображенский/ с. Раз., Спасский Преображенский Погост /Харгала/ с. Арх., Троицкий Погост /Семёновское/ с. Ал., Троицкое /Церковнический Погост, Волоковское/ с. Арх., Юрьево-погостское /Кегостров/ с. Арх., Аксёновская /Аникинский, Ионно-Предтеченский Погост/ в. Вал., Будрино /Погост Будринский-Ильинский/ в. Вал., Великодворское /Нигижмо-Георгиевский Погост/ с. Ал., Егошинская /Вымский Благовещенский Погост/ в. Вал., Ивановская /Погост Уфтюгский-Николаевский/ с. Вал., Лесютинская /Уфтюжский-Спасо-Преображенский Погост/ с. Вал., Матреновщина /Антиева, Николаевско-Ярославский Погост, Ярославское/ с. Ал., Мякинщино /Николаевский Варженский Погост/ с. Вал., Рускодинский Николаевский Погост с. Ал., Спасоматкозерский Погост с. Ал., Юговская /Обьячево, Юговский-Николаевский Погост, Югов-Повос/ с. Вал.

Некалькі айконімаў утворана на аснове асабовых імён: Михалев Погост /Зотовцы/ в.Вяц., Никитин Погост /Вотское/ в. Вяц., Погост Лазарев в. Маск., Погост Татищев с. Яр.

Кожная з прыведзеных груп айконімаў мае сваю больш-менш акрэсленую зону лакалізацыі. Назвы адтапанічнага паходжання амаль без выключэння сканцэнтраваны ў межах Аланецкай і Архангельскай губерняў. Назвы, у якіх адлюстравалася царкоўна-рэлігійная тэматыка, займаюць тэрыторыю Ноўгарадскай, Аланецкай, Архангельскай, Санкт-Пецярбургскай, Уладзімірскай, Яраслаўскай, Валагодскай, Маскоўскай, Кастрамской, Разанскай, Курскай і Тамбоўскай губерняў. Камбінаваны тып айконімаў цалкам прыпадае на Валагодскую і Аланецкую губерні.

Па сваёй сацыяльна-эканамічнай сутнасці ўсе ўказаныя тыпы айконімаў аналагічныя тым, якія выяўлены пры аналізе назваў пагостаў. У той жа час яны не супадаюць тэрытарыяльна. Асабліва значныя разыходжанні назіраюцца ў геаграфічным размеркаванні адтапанімічных тыпаў. Асноўнымі раёнамі канцэнтрацыі назваў пагостаў з"яўляецца Ноўгарадская губерня, айконімаў з лексічнай асновай погост — Аланецкая і Архангельская губерні. Але як бы там ні было, паміж імі існуе пэўная пераемнасць. Назвы Успенский погост, паг. — адна са стадый на шляху тапанімізацыі тэрміна погост, дзе ён яшчэ выступае адначасова ў дзвюх функцыях — у функцыі агульнай назвы тыпу паселішча і аднаго з кампанентаў

яго ўласнай назвы. Адзначаюцца яны перавежна ў Ноўгарадскай і Аланецкай губернях, радзей — у Цвярской, Уладзімірскай, Валагодскай і Архангельскай. З цягам часу частка гэтых назваў структурна пераафармілася ў выніку ўключэння тэрміна погост у склад айконіма. А гэта стала магчымым дзякуючы пераўтварэнням, якія адбываліся ў сістэме агульных назваў тыпаў паселішчаў, у першую чаргу ў сувязі з заменай пагоста сялом.

Змене тыпаў паселішчаў абавязкова папярэднічае пэўная з"ява сацыяльна-эканамічнага, палітычнага або іншага характару. Пагост уступае сваё месца сялу ва ўмовах разлажэння абшчыннага і росквіту феадальнага землеўладання. Паступова ён страчвае значэнне рэлігійнага і адміністрацыйнага цэнтра абшчыны і пачынае абазначаць паняцце "могілкі". Вось чаму ў ХУ--ХУІ стст. вялікая колькасць пагостаў ужо не мела прыходаў. А тыя, якія іх мелі, на працягу ХУІ--ХУП стст. ператвараліся ў сёлы або пусташы. Звесткі аб пустых пагостах з"яўляюцца ў ХУ--ХУІ стст.[31] Іменна гэты перыяд і можна лічыць зыходным рубяжом у працэсе масавага фарміравання айконімаў на аснове тэрміна погост. Землі пустых пагостаў, як правіла, раздаваліся ў надзелы і засяляліся паўторна. Паводле тагачаснай практыкі, уласнымі назвамі новых паселішчаў часта станавіліся агульныя назвы папярэдняга тыпу паселішча /параўн. Двор, Дворище, Деревня, Село і інш./. У якасці айконіма назва папярэдняга тыпу паселішча магла быць выкарыстана і ў выпадку яе замены іншым тыпам паселішча /напрыклад, ранейшы пагост становіцца сялом або вёскай/. Такім чынам, працэс тапанімізацыі тэрміна погост так ці інакш праламляецца ў агульным працэсе яго семантычнай эвалюцыі. Паколькі лёс пагоста ў межах асобных рускіх зямель складваўся неаднолькава, нельга чакаць абсалютнай ідэнтычнасці і пры яго тапанімізацыі на ўсім працягу ўсходнеславянскай тэрыторыі. Таму не выпадкова, што ў межах агульнага тапанімічнага арэала тэрміна погост вылучаецца некалькі спецыфічных зон, якія ў першую чаргу адрозніваюцца ступенню тапанімічнай афармленасці айконімаў. Найбольшай дасканаласцю структурнага афармлення вылучаецца айканімія Уладзімірскай, Кастрамской, Ніжагародскай, Яраслаўскай, Маскоўскай, Разанскай,

---

[31] Веселовский С.Б. Село и деревня в Северо-Восточной Руси XIУ--ХУ вв., с.20 ; Тихомиров М.Н. Россия в ХУІ столетии. М., 1962, с.116. Писцовые книги Московского государства ХУІ ст. отд. І, ч. І. СПб, 1872, с. 93.

Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай і Віленскай губерняў. Гэта значыць, айканімія зямель, якія ўтваралі асноўнае ядро Растова-Суздальскага, а пазней Маскоўскага княстваў, а таксама айканімія Заходнерускіх зямель. Айконімы гэтых тэрыторый маюць чоткую структуру і большай часткай з"яўляюцца назвамі сёл, сялец, вёсак, фальваркаў, маёнткаў, выселкаў. Як правіла, гэта аднаслоўныя або двухслоўныя назвы тыпу Погост, Погостик, Погостец, Погостище, Старый Погост, Новый Погост, Максимов Погост. Паўночна-ўсходні і заходні адрэзкі тапанімічнага арэала тэрміна погост характарызуюцца адносна нізкай канцэнтрацыяй, але ў той жа час высокай ступенню тапанімізацыі.

Адметнай рысай айканіміі Паўночна-Заходніх і Паўночных рускіх зямель /Ноўгарадская, Пскоўская, Цвярская, Аланецкая, Архангельская і Валагодская губерні/ з"ўляецца наяўнасць назваў, у якіх тэрмін погост адначасова выконвае дзве функцыі -- з"ўляецца агульнай назвай тыпу паселішча і адным з кампанентаў намінатыўнага комплексу /Куркучский погост паг., Становицкий погост паг., Ново-Уситовский паг./. Гэты тып назваў яшчэ нельга назваць айконімамі ў поўным сэнсе слова. Яны ўяўляюць сабой толькі адну са стадый на шляху складвання айконімаў з лексічнай асновай погост. Найбольшая колькасць такіх назваў адзначана ў Ноўгарадскай губерні. Затое тут вельмі мала айконімаў, у якіх погост ужываецца толькі ў тапанімічнай функцыі. У Паўночных рускіх землях /пераважна на тэрыторыі Аланецкай, Архангельскай і Валагодскай губерняў/ погост у тапанімічнай функцыі -- з"ява звычайная і досыць пашыраная. У радзе выпадкаў назвы з лексічнай асновай погост выступаюць як варыянты: Будрино /Погост Будринский-Ильинский/ в., Троицкий Погост /Семёновское/ с., Погостское /Ильинский Погост/ с. Гэта сведчыць, што частка гэтых айконімаў не мела ў перыяд фіксацыі афіцыйнага статуса. У адрозненне ад паўночна-ўсходняга і заходняга паўночны адрэзак арэала вызначаецца больш высокай канцэнтрацыяй, але меншай ступенню тапанімізацыі. У паўночна-заходняй зоне арэала /Ноўгарадская, Пскоўская і Санкт-Пецярбургская губерні/ айконімы з лексічнай асновай погост колькасна маладлікія, але, як правіла, маюць ясна выражаную тапанімічную форму. Тое ж можна сказаць і аб айканіміі паўднёвых акраінных зямель /Курская, Арлоўская і Тамбоўская губерні/. Характэрна, што тут тэрмін погост адзна-

ёбыўся толькі ў айканіміі.

Коратка падводзячы вынікі назіранняў над працэсам станаўлення апелятыўнай і тапанімічнай функцый слова погост, можна сказаць наступнае.

Самыя старажытныя звесткі аб апелятыве погост захавалі пісьмовыя крыніцы перыяду Кіеўскай Русі. Але найбольш паслядоўную і выразную яго характарыстыку заключаюць дакументы XIУ--ХУI стст. Паўночна-Заходняй і Паўночна-Усходняй Русі.

На тэрыторыі Паўночна-Заходняй Русі ў гэты перыяд слова погост бытуе пераважна ў двух значэннях -- 'паселішча' і 'акруга'. Пачынаючы з ХУI ст. яно набывае шырокую вядомасць як паселішча царкоўнага прытча і, як сведчаць матэрыялы "Спіскаў", захоўваецца на ўсёй тэрыторыі старажытнага Ноўгарадскага княства ў гэтым значэнні досыць працяглы час /аж да палавіны XX ст./. У межах былых паўночных уладанняў Ноўгарада Вялікага ў Абанежжы, Дзвінскай зямлі і інш. /тэрыторыі Аланецкай, Архангельскай і Санкт-Пецярбургскай губерняў/, дзе працэс разлажэння абшчыны адбываецца досыць маруднымі тэмпамі, побач з новым значэннем погост прадаўжае абазначаць паняцці, звязаныя з сельскай абшчынай арганізацыяй.

Паўночна-ўсходні арэал апелятыва погост складваўся аналагічным шляхам. Ужо ў перыяд татарскага нашэсця пагосты побач са слабодамі былі пераважаючым тыпам паселішчаў Растова-Суздальскай Русі[32]. Як і ў Ноўгарадскай зямлі, тут былі вядомы пагосты і станы, звязаныя з палюддзем, захаваліся рэшткі з"яў, уласцівыя перыяду Кіеўскай дзяржавы. Гэта сведчыць, што абодва арэалы склаліся на адзінай старажытнарускай аснове, хоць і ў некалькі розны час. Несумненна, што на працэс семантычнага развіцця слова погост уплывалі сталыя кантакты паміж гэтымі землямі. У гістарычнай літаратуры ёсць указанні на актыўную каланізацыю Паўночна-Усходніх зямель з боку ільменска-волхаўскіх славян на працягу XIII--ХУ стст.[33]

---

[32] Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности /Заселение и объединение центра/. Л., 1929, с. 137.

[33] Кучкин В.А. Ростово-Суздальская земля в X-- первой трети XIII века. -- История СССР, 1969, № 2, с. 94.

Як наменклатурная назва царкоўнага паселішча ў Паўночна-Усходніх абласцях слова погост зафіксавана пераважна ў Цвярской і Маскоўскай губернях. Зрэдку яно адзначаецца ў гэтай функцыі ў Валагодскай, Уладзімірскай, Яраслаўскай і Тульскай губернях.

Па-іншаму складваўся лёс пагоста ў Заходніх і Паўднёва-Заходніх рускіх землях. Відаць, тут ён выходзіць з актыўнага ўжывання досыць рана. Асобныя ўпамінанні аб пагостах у помніках ХІУ--ХУП стст. ужо не могуць разглядацца як тыповая з"ява, а толькі як перажыткі папярэдніх эпох. Больш-менш выразна апелятыўная функцыя слова погост на гэтай тэрыторыі праявілася ў досыць позні перыяд /канец XIX--пачатак XX ст./. У "Спісках" погост абазначае "паселішча царкоўнага прытча" або проста "паселішча з царквой". Але гэтыя значэнні не з"яўляюцца ўласцівымі для ўсяго заходняга рэгіёна, а толькі для яго паўночнай, пагранічнай з Ноўгарадскімі і Маскоўскімі землямі, часткі /Віцебская губерня/. Магчыма, што яны з"явіліся тут вынікам пазнейшага запазычання. Адсутнасць апелятыва погост на тэрыторыі Заходнерускіх зямель абумоўлена спецыфікай іх гістарычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця. Тут значна раней і больш інтэнсіўней, чым у іншых землях, пачаўся працэс разлажэння абшчыннай сістэмы землеўладання: у першай палавіне ХУІ ст. яна ўжо знаходзіцца ў стане глыбокага распаду[34]. Феадальная раздробленасць, адсутнасць адзінага цэнтра, знаходжанне доўгі час у складзе Літвы і Рэчы Паспалітай, ізаляцыя ад іншых рускіх зямель -- усё гэта паскарала разбурэнне старых абшчынных парадкаў.

У аналагічную сацыяльна-эканамічную і гістарычную сітуацыю трапіў пагост у Паўднёва-Заходніх рускіх землях. Тут яго гісторыя абрываецца на яшчэ больш ранняй стадыі, нават не пакінуўшы следоў у айканіміі. Прычыну гэтага ў пэўнай ступені можна растлумачыць тым, што паўднёва-заходні і часткова заходні арэалы апелятыва погост накладваюцца на гістарычную вобласць,дзе пераважаючай формай сельскіх паселішчаў было дворышча. Дворышчная

---

[34] Довнар-Запольский М. Западно-русская сельская община в ХУІ веке. -- Журнал Министерства народного просвещения, 1897, № 8, с. 91 ; яго ж.: Очерки по организации западнорусского крестьянства в ХУІ веке, с. 283.

сістэма сялянскага абшчыннага землеўладання ахоплівала Літоўскае Палессе, Валынь, Падолле, Падляхію, Галіцыю, правабярэжнае Падняпроўе Кіеўшчыны і некаторыя раёны Літвы[35]. Дворышча ў гэтых землях з даўніх часоў складала асноўную ячэйку сістэмы абшчыннага землеўладання. Яно паступова выцесніла ўсе астатнія тыпы паселішчаў, за выключэннем сяла, якое з даўніх часоў тут было цэнтрам абшчыны, падобна пагостам у Паўночна-Заходніх і Паўночных землях. Апрача таго,Заходнія і Паўднёва-Заходнія землі досыць рана аказаліся ў сферы літоўскага і польскага ўплыву. З уводам у XУ ст. валочнай, а затым фальварачнай сістэмы рушацца апошнія ўстоі абшчыннага землеўладання, на змену яму прыходзіць новая арганізацыя зямельных адносін, якая ні ў якой ступені не магла стымуляваць развіццё архаічнай абшчыннай сістэмы.

На Поўнач, аж да крайніх межаў Ноўгарадскіх уладанняў, пагосты распаўсюдзіліся з Кіева і Ноўгарада. Так, напрыклад, у Дзвінскай зямлі яны вядомы ўжо ў 1342 г.[36] Марудныя тэмпы сацыяльна-эканамічнага развіцця паўночных ускраінных зямель садзейнічалі захаванню сістэмы пагостаў і яе асноўных атрыбутаў.

У святле сказанага фарміраванне айканімічнага арэала тэрміна погост уяўляецца нам наступным. Само сабой разумеецца, што ў параўнанні з апелятыўным ён з"яўляецца больш познім. Не маглі ўзнікаць айконімы на аснове тэрміна погост у той перыяд, калі ён быў жывой апелятыўнай з"явай. Значыць, набыццё тапанімічнай функцыі з"яўляецца больш познім звяном у працэсе станаўлення і развіцця тэрміна погост. Як паказваюць назіранні, апелятыў погост упісваўся ў тапанімічную сістэму ўсходнеславянскай тэрыторыі паступова. Спачатку ён выконваў ролю аднаго з кампанентаў састаўнога айконіма і адначасова знаходзіўся ў дапасавальнай сувязі з прыметнікам. Зразумела, што функцыянальная раздвоенасць значна перашкаджала апелятыву погост замацавацца ў айканімічнай функцыі. Да-

---

[35] Леонтович Ф.К. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. — Журнал Министерства народного просвещения, 1897, № 2, с. 356-357, 366.

[36] Данилова Л.В. Очерки по истории землевладения в Новгородской земле в XIУ--XУ вв. М., 1955, с. 228.

лойшае яго развіццё ў напрамку-тапанімізацыі шмат у чым залежала ад таго, наколькі хутка ён страціць значэнне 'тып паселішча'. Чым раней гэта адбывалася, тым хутчэй наступала поўная тапанімізацыя тэрміна погост, што, як правіла, суправаджалася спрашчэннем і ўдасканаленнем структуры айконімаў. Несумненна, што неаднолькавая інтэнсіўнасць працэсу архаізацыі апелятыва погост у межах розных тэрыторый знайшла сваё адлюстраванне ў факце наяўнасці ў складзе айканімічнага арэала некалькіх зон, якія вылучаюцца паводле рознай ступені структурнай афармленасці. Калі прыняць пад увагу тое, што для айканіміі ў цэлым уласціва тэндэнцыя да спрашчэння структуры, то выходзіць, што чым прасцей і дасканальней структура айконімаў, тым раней яны сфарміраваліся ў параўнанні з тымі, якія маюць ускладненую, неўпарадкаваную структуру. У дачыненні да арэала айконімаў з лексічнай асновай погост гэта азначае, што паўночна-ўсходні і заходні яго адрэзкі склаліся раней, чым паўночна-заходні і паўночны. І гэта заканамерна. У той час, як у межах княстваў Паўночна-Усходняй і Заходняй Русі па прычыне росту княжацкіх удзелаў, імкнення ўдзельных князёў да самастойнасці і ізаляцыі ад іншых рускіх зямель тэрмін погост актыўна згортваў свае апелятыўныя функцыі, у Ноўгарадскай зямлі па-ранейшаму працягваўся натуральны працэс складвання яго семантыкі. І толькі з XVI ст. у межах самой мітраполіі адбываюцца істотныя змены, звязаныя з далучэннем Ноўгарада да Масквы. Гаспадарка ж былых яго калоній бесперапынна развівалася па старому ноўгарадскаму тыпу. Таму яшчэ ў XVI ст. у асобных паўночных абласцях назіраецца жывы працэс узнікнення новых пагостаў[37]. Значыць, на тэрыторыі былога Ноўгарада Вялікага і яго ўладанняў фарміраванне айконімаў на базе тэрміна погост у масавым парадку пачалося прыкладна на паўтара стагоддзі пазней, чым на астатняй тэрыторыі Русі. Паколькі арэал айконімаў з лексічнай асновай погост на асобных адрэзках выходзіць за межы адзначанага па розных крыніцах яго апелятыўнага арэала, то тэарэтычна можна было б чакаць, што айконімы дапоўняць нашы звесткі аб ранейшым распаўсюджанні слова погост у межах усходнеславянскай

---

[37] Списки населенных мест Российской империи, т.XXVII. Олонецкая губерния. СПб., 1879, с. XII—XVI.

тэрыторыі. У прыватнасці, гэта датычыць паўднёвага адрэзка арэала, дзе слова погост зафіксавана толькі ў айканімічнай функцыі. Магчыма, што тыя астраўкі, якія ўтвараюць тут айконімы з лексічнай асновай погост /Арлоўскі і Курскі/, у поўнай ступені могуць разглядацца як рэшткі размытых апелятыўнага і айканімічнага арэалаў. Але, паколькі ўзнікненне і распаўсюджанне айконімаў цесна звязана з развіццём паселішчаў, не выключана магчымасць перанясення гатовых назваў на тыя тэрыторыі, дзе адсутнічалі іх апелятыўныя адпаведнікі і прадумовы для іх узнікнення. І ўсё ж айканімічны арэал узнаўляе ў асноўных рысах тэрыторыю бытавання апелятыва погост у значэнні 'тып паселішча'. Паводле айканімічных даных, вобласць распаўсюджання апелятыва погост праходзіла па раду Заходнерускіх зямель /Гродзенская, Віленская, Мінская, Ковенская губерні/, ахоплівала частку Усходніх і Паўночна-Усходніх зямель /Казанская, Вяцкая губерні/. На тэрыторыю усходняй і паўночна-усходняй ускраін тэрмін погост мог трапіць пасля XVI ст., іменна ў перыяд каланізацыі гэтых зямель выхадцамі з Маскоўскай дзяржавы. Што датычыць заходняга адрэзка арэала, то хутчэй за ўсё ён склаўся на базе апелятыва погост у значэнні 'паселішча, падпарадкаванае царкве', якое развілося на аснове значэння 'паселішча царкоўнага прыхода'. Апошняе, відаць не было спрадвечным для гэтай тэрыторыі, а з"яўлялася запазычаннем з суседніх Паўночна-Заходніх або Паўночна-Усходніх зямель.

Вобласць распаўсюджання і розная частотнасць айконімаў з лексічнай асновай погост у першую чаргу абумоўлены экстралінгвістычнымі фактарамі.

## Прынятыя скарачэнні

### Крыніцы

АВАК — Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией, т. I—XXXVI. Вильна, 1865—1912; АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России, т. I—V. СПб, 1846—1853; АСЭИ — Акты социально-экономической истории Северо-Восточной Руси конца XIV — начала XVI в., т. III. М., 1964; ГНП — Грамоты Великого Новгорода и Пскова. М.—Л., 1949; ИЮМ — Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, т. I—XXXIII. Витебск, 1906; Кн. зап.—Литов-

ская метрика, т. I, ч. 1. Книга записей. СПб, 1910; НГ -- Арциховский А.В., Янин В.Л. Новгородские грамоты на бересте. М., 1979; ПКМ -- Писцовые книги Московского государства ХУI века, отд. I, ч. 1. СПб, 1872; РППЗ -- Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве литовском. Вильна, 1867. СлРЯ -- Словарь русского языка XI--ХУП вв.

## Губерні

Ал. -- Алонецкая
Арх. -- Архангельская
Вал. -- Валагодская
Віл. -- Віленская
Віц. -- Віцебская
Вяц. -- Вяцкая
Кастр. -- Кастрамская
Курск. -- Курская
Маск. -- Маскоўская
Мін. -- Мінская
Ніж. -- Ніжагародская
Ноўг. -- Ноўгарадская
Пск. -- Пскоўская
Раз. -- Разанская
С.-П. -- Санкт-Пецярбургская
Смал. -- Смаленская
Тамб. -- Тамбоўская
Тул. -- Тульская
Ул. -- Уладзімірская
Цв. -- Цвярская
Яр. -- Яраслаўская

## Населеныя пункты

в. -- вёска
выс. -- выселак
з. -- засценак
м. -- мястэчка
м-к -- маёнтак
п. -- пасёлак
паг. -- пагост
пач. -- пачынак
р. -- рака
рч. -- рэчка
с. -- сяло
сц. -- сяльцо
ус. -- усадзьба
ф. -- фальварак
х. -- хутар

Л.М.Грыгор"ева

# КРЫТЭРЫІ І ПРЫНЦЫПЫ СТРУКТУРНА-СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЙ КЛАСІФІКАЦЫІ АЙКОНІМАЎ БЕЛАРУСКАГА ПАДЗВІННЯ

Вядома, што айконімы як уласныя назвы населеных пунктаў адносяцца да анамастычнай лексікі, якая ўключае ўласныя імёны ў шырокім сэнсе. Спецыфіка ўласных імён, іх месца і роля ў мове даследаваны ў працах многіх замежных і айчынных лінгвістаў[1].

Уласныя імёны — лексемы або спалучэнні слоў з функцыяй індывідуалізацыі — характарызуюцца такімі асноўнымі ўласцівасцямі, як "адсутнасць сувязі з паняццем, адсутнасць суаднесенасці з класам аб"ектаў, цесная сувязь з адзінкавым канкрэтным аб"ектам"[2].

Адрозненні паміж уласнымі і агульнымі імёнамі датычаць іх функцыі, семантыкі, структуры, хоць пры ўтварэнні ўласных імён

---

[1] Dauzat A. Les noms de personnes. Paris, 1925; Gardiner A.H. The theory of proper names. A controversial essay. London, 1940; Курилович Е. Положение имени собственного в языке. — Очерки по лингвистике. М., 1962; Белецкий А.А. Лексикология и теория языкознания. /Ономастика/. Киев, 1972; Суперанская А.В. Общая теория имени собственного. М., 1973.

[2] Суперанская А.В. Апеллятив — онома. — Имя нарицательное и собственное. М., 1978, с. 33.

выкарыстоўваюцца словаўтваральныя элементы, якія ёсць у мове. "Прадуктыўныя анамастычныя элементы лёгка структуралізуюцца, г.зн. вызваляюцца ад рэальна-семантычнай функцыі і становяцца асаблівымі марфалагічнымі мадэлямі, не адэкватнымі адпаведным апелятыўным"[3].

Так, у айканіміі беларускага Падзвіння выкарыстоўваецца суфікс -ок для ўтварэння назваў, якія з"яўляюцца вытворнымі ў адносінах да бязафіксных, параўн. Атруб--Атрубак, Атрубок, Брод --Брадок, Пруд--Прудок і інш. І хоць існуюць апелятыўныя дэмінутывы, аманімічныя айконімам з суфіксам -ок, атаясамліванне айконімаў і апелятываў немагчыма: значэнне суфікса ў апелятыве і айконіме рознае. Зрабіўшыся айканімічным фармантам, суфікс -ок страціў памяншальна-ласкальнае значэнне, якое ён меў у апелятывах. Аналагічныя змяненні назіраюцца таксама і ў семантыцы суфіксаў -ец, -іца, якія набываюць у тапаніміі значэнне другаснасці, вытворнасці, параўн. Асвея--Асвеіца, Рудня--Рудніца, Асавы--Асавец, Двор--Дварэц, Пруд--Прудзец і інш. Назіраецца таксама працэс дэсемантызацыі формы множнага ліку і структуралізацыі флексіі. У апелятывах гэта форма з"яўляецца паказчыкам множнасці аднародных прадметаў. У айконімах, якія маюць форму множнага ліку /Гаі, Лугі, Ваўкі, Бондары/, флексія ў значнай ступені страціла сваю функцыю паказчыка множнасці і ператварылася ў сродак айканімізацыі апелятываў, антрапонімаў /часам гідронімаў/, а мадэль Pluralia tantum стала адной з прадуктыўных мадэлей, якія выкарыстоўваюцца пры ўтварэнні айконімаў. Эксперыментальныя даследаванні паказваюць, што назвы тыпу Барсуки, Грязи выклікаюць асацыяцыі большасці падвыпрабавальных з назвамі паселішчаў[4]. Такое ўспрыманне гэтых слоў носьбітамі мовы -- дадатковае сведчанне ў карысць айканімізацыі флексіі множнага ліку. Аднак некаторыя айконімы, аформленыя па плюральнай мадэлі, могуць успрымацца як назвы, што змяшчаюць указанні на калектыў, а флексія ў іх мае значэнне, блізкае да апелятыўнай. Гэта можа быць у тых выпадках,

---

[3] Роспонд С. Перспективы развития славянской ономастики. — ВЯ, 1962, № 4, с. 13.

[4] Суперанская А.В. Общая теория имени собственного, с. 122.

калі назва паселішча звязваецца з прозвішчам усіх /або большасці/ яго цяперашніх жыхароў, параўн., напрыклад, у в.Крыўкі Лужкоўскага с/с Шаркоўшчынскага р-на амаль усе жыхары маюць прозвішча Крыўка. У людзей, якія ведаюць жыхароў гэтай вёскі, назва вёскі асацыіруецца з прозвішчам, і форма множнага ліку айконіма ўспрымаецца як указанне на калектыў людзей, што маюць аднолькавае прозвішча. Успрыманне ж астатнімі носьбітамі беларускай мовы гэтай назвы нічым не адрозніваецца ад успрымання іншых назваў, афармленых па мадэлі Pluralia tantum.

У тапанімічнай літаратуры неаднаразова ўказвалася на лёс сіфікса -ск, які меў спачатку значэнне неасабовай прыналежнасці і спалучаўся з асновамі гідронімаў, а затым замацаваўся пераважна за назвамі паселішчаў і стаў выключна айканімічным словаўтваральным сродкам[5].

Працэс дэсемантызацыі апелятыўнага суфікса можа суправаджацца перараскладаннем словаўтваральнай асновы і ўзнікненнем складанага тапанімічнага суфікса. Гэты працэс вельмі добра прасочваецца пры аналізе назваў з суфіксам -оўка/-аўка, супастаўленне якіх з айконімамі на -ова/-ава паказвае на першапачатковую сувязь айконімаў гэтых двух словаўтваральных тыпаў. Айконімы з -ова/-ава служылі асновай для ўзнікнення многіх назваў з суфіксам -оўка/-аўка, параўн. Альбінова--Альбінаўка /Бр./, Кузняцова--Кузняцоўка /Віц./, Курылава--Курылаўка /Шарк./, Лазова--Лазоўка /Сен./, Маісеева--Масееўка /Гар./, Марозава--Марозаўка /Арш./, Пераслова--Пераслоўка /Міёр./. Прыведзеныя вышэй назвы з -ова/-ава і -оўка/-аўка функцыяніруюць у межах аднаго і таго ж раёна. У межах даследуемага рэгіёна такі паралелізм назіраецца для значна большай колькасці айконімаў з адзначаным суфіксам, параўн. Адамава--Адамаўка, Антонава--Антонаўка, Багданава--Багданаўка,

---

[5] Никонов В.А. Славянский топонимический тип. -- Вопросы географии, сб. 58. Географические названия. М., 1962, с. 27; Карпенко Ю.А. О синхронической топонимике. -- Принципы топонимики. М., 1964, с. 53; Подольская Н.В. Какую информацию несет топоним. -- Принципы топонимики, с. 96.

Мамонава—Мамонаўка і інш. Ва ўсіх гэтых назвах правамерна выдзяленне айканімічнага суфікса -ка, які указвае на другаснасць назваў і з"яўляецца паказчыкам айканімічнасці. З цягам часу адбылося перараскладанне асновы на карысць фарманта, і на базе двух суфіксаў / -ов/-а/ і -ка / утварыўся адзін складаны тапанімічны суфікс -оўка, які стаў шырока выкарыстоўвацца ў якасці айканімічнага і гідранімічнага словаўтваральнага сродка. Так узнікла многа назваў з -оўка/-аўка, якія не выяўляюць ніякай сувязі з назвамі на -ова/-ава, параўн. Гліна--Глінаўка, Каменка--Камянкоўка. На канчатковую структуралізацыю -оўка/-аўка указваюць таксама сучасныя назвы, у якіх гэты суфікс далучаецца да асновы, што не мае суфікса -ова/-ава, параўн. Кстоўка, Партызанаўка.

Змяненне першапачатковай спалучальнасці суфіксаў са строга вызначанымі асновамі -- таксама доказ дэсемантызацыі фарманта, які служыць для ўтварэння новых назваў і страчвае сваё першапачатковае значэнне. Такі лёс многіх прадуктыўных айканімічных суфіксаў. Так, на тэрыторыі беларускага Падзвіння 6% назваў населеных пунктаў маюць суфікс -шчына. Назвы гэтага тыпу класіфікуюцца пераважна як спадчынныя, зрэдку -- як уладальніцкія[6]; аснова гэтых айконімаў указвае на імя /прозвішча/ былога ўладальніка, у спадчыну ад якога атрыманы зямля, маёнтак або паселішча, часамі -- на імя сапраўднага ўладальніка. Аднак, зрабіўшыся прадуктыўным айканімічным словаўтваральным сродкам, суфікс -шчына спалучаецца і з іншымі асновамі. Некаторыя назвы на -шчына ўтвораны ад айконімаў, параўн. Альбінова--Альбіноўшчына, Ахрэмаўцы--Ахрэмаўшчына /Бр./, Вальціны--Вальціноўшчына /Паст./, Спаскае--Спасшчына /Пол./, Дуброва--Дуброўшчына /Паст./ і інш.

Як бачым, сваёй структурай айконімы адрозніваюцца ад агульных імён; спецыфіка айконімаў павінна ўлічвацца пры іх структурна-словаўтваральнай класіфікацыі.

Фактычны матэрыял гэтага артыкула /айконімы, што функцыяні-

---

[6] Safarewiczowa H. Nazwy miejscowe typu Mroczkowizna, Klimontowszczyzna. Wrocław, 1956, c. 53.

руюць на тэрыторыі Віцебскай вобласці/ характарызуецца праз-рыстасцю структуры і семантыкі ўтваральных асноў большасці айконімаў, захаваннем іх сувязі з апелятыўнай лексікай беларускай мовы; гэта абумовіла ўстаноўку на сінхронны падыход да выдзялення структурна-словаўтваральных тыпаў назваў паселішчаў.

З мэтай вызначэння структуры айконімаў праводзіцца іх супастаўляльны аналіз на апелятыўным і анамастычным узроўнях, які абумоўлены спецыфікай айканімічнага матэрыялу: з аднаго боку, айконімы з"яўляюцца лексічнымі элементамі мовы, з другога -- яны адносяцца да спецыяльнай лексічнай падсістэмы. Як словы мовы айконімы афармляюцца па яе законах, запазычваючы з апелятыўнай лексікі словаўтваральныя сродкі[7]. Таму зразумела, што пры вывучэнні структуры айконімаў трэба зыходзіць перш за ўсё з супастаўлення іх з апелятывамі. У ходзе апелятыўна-супастаўляльнага аналізу выдзяляецца рад бязафіксных айконімаў, структура якіх супадае са структурай невытворных з пункту погляду сучаснага словаўтварэння апелятываў /Бор, Буда, Вал, Мяжа/. Да бязафіксных аднесены таксама айконімы з няяснай структурай, якія вядомы толькі як тапалексемы /айконімы і гідронімы/ і якія не маюць апелятыўных адпаведнікаў, паколькі з пункту погляду сучаснага словаўтварэння яны бязафіксныя /Івесь, Копысь, Мосар, Обаль, Рудабісць, Руць, Сураж/. Не выдзяляюцца словаўтваральныя афіксы і ў назвах, якія заканчваюцца на -са, -аса, -еса, -оса, -ата, -ета, -іта, -уста, -ая, -ея/-эя/,-уя, аднак аманімічнасць гэтых айконімаў з назвамі рэк, азёр указвае на іх адгідранімічнае паходжанне, а супастаўленне з гідраніміяй літоўскай тэрыторыі, этымалогія адпаведных гідронімаў -- на балтыйскую крыніцу беларускіх айконімаў і гідронімаў.

Разам з тым, як лексемы з функцыяй індывідуалізацыі, айконімы павінны вывучацца ў параўнанні з адзінкамі таго ж узроўню, г. зн. з айконімамі. Вывады адносна структуры, словаўтварэння айконімаў будуць больш надзейныя, калі айконімы супаставіць з айконімамі, якія маюць аднолькавую фармальную

---

[7] Никонов В.А. Введение в топонимику. М., 1965, с. 66.

прыкмету або сугучную аснову. Параўнанне айконімаў з айконімамі зрабіла магчымым выявіць набор словаўтваральных афіксаў і аб"яднаць назвы, якія характарызуюцца агульнасцю фарманта, у словаўтваральныя тыпы. У значнай ступені структурна-словаўтваральнай класіфікацыі айконімаў спрыяе поўная сістэматызацыя матэрыялу -- размяшчэнне айконімаў у адваротным алфавітным парадку, якая дазваляе выдзеліць рады назваў з аднолькавымі фіналямі. Аднак чыста фармальны падыход да выдзялення словаўтваральных тыпаў не можа лічыцца здавальняючым, паколькі наяўнасць аднолькавай фіналі ў айконімах часта не пацвярджае агульнасць іх паходжання і ўтварэння. Напрыклад, айконімы Ярмоліна і Пліна размешчаны побач у адваротным слоўніку, але адносяцца да розных словаўтваральных тыпаў /параўн. Ярмоліна: Ярмола /<Ермолай/ + суфікс -іна і Пліна -- тап. Plýniai, літ. plýnė, лат. plienes, pliêņi 'непраходнае балота; балота, парослае хмызняком', літ. plýnia 'паляна; балота'/.

Супастаўленне айконімаў на анамастычным узроўні аказваецца неабходным этапам не толькі пры выдзяленні словаўтваральных тыпаў, але таксама і пры вызначэнні функцыі суфіксаў. Так айконімы Дубраўка, Дуброўка, Ноўка, Рудка, Слабодка па структуры тоесныя апелятыўным дэмінутывам, аднак супастаўленне іх з іншымі айконімамі даследуемай тэрыторыі /Дубрава, Дуброва, Ноў, Руда, Слабада/ дазваляе інтэрпрэтаваць суфікс як айканімічны словаўтваральны элемент.

Супастаўленне ў межах айканімічнай сістэмы розных айконімаў дае магчымасць устанавіць выпадкі, калі айконім выкарыстоўваецца як утваральная аснова для другога айконіма. Такія выпадкі не адзінкавыя. Так, аналіз айконімаў на -анцы/-янцы, -юнцы ўказвае на іх сувязь з айконімамі на -аны/-яны, -юны, параўн. Іланы--Іланцы, Нурвяны--Нурвянцы, Вайнюны--Вайнюнцы /Бр./.

Супастаўленне на айканімічным узроўні дапамагае таксама вызначыць некаторыя прэфіксальныя ўтварэнні, параўн. Аляхнішкі--Пацаляхнішкі, Лявонавічы--Падлявонавічы /Паст./, Смолеўцы--Падсмолеўцы /Міёр./.

Дадатковыя звесткі аб словаўтварэнні айконімаў дае іх су-

пастаўленне з гідронімамі, паколькі частку ўтваральных асноў айканімія чэрпае з гідраніміі. Адгідранімічнымі з"яўляюцца шматлікія бязафіксныя айконімы, якія ўзніклі ў выніку пераносу рачной назвы на паселішча. Гідронімы паслужылі ўтваральнай асновай для некаторых прэфіксальна-суфіксальных і прэфіксальных айконімаў /в. Замялочча -- воз. Мелкае, в. Зарачча -- воз. і р. Рака, в. Падмуйса -- воз. Муйса/. У многіх выпадках супастаўленне дапамагае ўстанавіць аманімічнасць рада айконімаў і гідронімаў. Прычыны аманіміі розныя: 1. Перанос воднай назвы на паселішча /воз. Пліна→в. Пліна, р. Бірвета→в. Бірвета/; 2. Агульнасць некаторых суфіксаў і асноў /рр. і вв. Бярозаўка, Прудзец, Рудка/; 3.Узаемадзеянне айконімаў і гідронімаў /в. Колпіна→р. Колпінка→в. Колпінка/.

Калі структуру айконімаў нельга інтэрпрэтаваць на аснове апелятыўнай лексікі беларускай мовы і на аснове супастаўлення з айконімамі і гідронімамі Беларусі, выкарыстоўваюцца яшчэ такія крытэрыі, як вызначэнне моўнай прыналежнасці айконіма і супастаўленне яго з тапаніміяй Літоўскай ССР. Прымяненне гэтых крытэрыяў пры вызначэнні структуры айконімаў апраўдана як характарам айканіміі даследуемай тэрыторыі -- рэгіёна, размешчанага на беларуска-літоўскім паўмежжы, так і беларускай айканіміі ўвогуле, якая ў сваім складзе мае пласт назваў балтыйскага паходжання або назваў, якія маюць у сваёй структуры элементы балтыйскага паходжання. Літоўскія словаўтваральныя элементы ў беларускай айканіміі былі выдзелены М.В.Бірылам і А.П.Ванагасам[8]; у манаграфіі М.В.Бірылы[9] указана літоўская моўная крыніца многіх беларускіх антрапонімаў. Пры вывучэнні структуры айконімаў беларускага Падзвіння ўстанаўліваецца, што балтыйскае паходжанне маюць таксама асновы некаторых айконімаў славянскіх суфіксальных тыпаў з су-

---

[8] Бірыла М.В., Ванагас А.П. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мн., 1968.

[9] Бірыла М.В. Беларуская антрапанімія, 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мн., 1969.

фіксамі -ова/-ава, -іна, -шчына, -оўка/-аўка; да асноў гэтых айконімаў няма адпаведнікаў у беларускай антрапаніміі, яны не інтэрпрэтуюцца на базе апелятыўнай лексікі сучаснай беларускай мовы. Суфіксы, якія мелі прыналежнае значэнне ў айканіміі і спалучаліся з антрапанімічнымі асновамі, указваюць на шлях з"яўлення гэтых асноў у айконімах -- праз антрапанімічнае пасрэдніцтва. Выдзелены айконімы тыпу Гентава, Гірнава, Гіслёва, Грэйцева, Кушлева, Кеўліна, Поціна, Вальціноўшчына, Клібаўшчына і інш., якія маюць антрапанімічныя асновы літоўскага паходжання.

Прымяненне адзначаных вышэй крытэрыяў дапамагло дыферэнцыраваць назвы з суфіксам -іна, а іменна сярод назваў, якія з"яўляюцца славянскімі адантрапанімічнымі ўтварэннямі з пасесіўным суфіксам -іна /Васькіна, Прымачына/, выдзеліць назвы, якія маюць аснову і суфікс літоўскага паходжання /параўн. Жвірына -- тап. Žvyrýnai, літ. žvyrýnas 'месца, дзе многа жвіру, каменняў'; Забыліна -- тап. Balénai, Bal̃iniai, літ. balýnas 'балоцістая мясцовасць'/.

Вызначэнне моўнай прыналежнасці асновы айконімаў, афармленых суфіксамі -ішкі, -аны/-яны, -уны/-юны, -ейкі, -ейшы і інш., у якіх суфікс або літоўскага паходжання, або вынік узаемадзеяння беларускіх і літоўскіх айканімічных мадэлей, дазваляе адказаць на рад пытанняў. Перш за ўсё моўны характар асновы ўказвае, якім шляхам назва аформілася ў беларускай айканіміі. Літоўскі характар асновы пры суфіксе літоўскага паходжання гаворыць аб адаптацыі літоўскага айконіма; славянскі ж характар асновы -- аб засваенні і выкарыстанні літоўскага словаўтваральнага элемента. Калі аснова айконіма інтэрпрэтуецца на балтыйскім і славянскім моўным матэрыяле, тэарэтычна магчымы абодва шляхі ўзнікнення беларускіх айконімаў. Аднак у кожным канкрэтным выпадку можна аддаць перавагу балтыйскай або славянскай этымалогіі назвы. Так, у Браслаўскім р-не два населеныя пункты маюць назву Снéгішкі. Пытанне аб моўнай прыналежнасці суфікса вырашаецца адназначна, а аснова можа інтэрпрэтавацца і як беларуская, і як літоўская /бел. снег, літ. sniẽgas /. Параўнанне адзінак аднаго ўзроўню /айконім : айконім/ і іх тэрытарыяльная прывязка паказва-

юць, што айконімы з асновай Снег- функцыяніруюць на беларуска-літоўскім паграніччы, параўн. таксама айконім Снегі /Бр., Міёр., Шарк./. На астатняй тэрыторыі Беларусі айконімы з гэтай асновай не зафіксаваны, а на тэрыторыі Літоўскай ССР абодва айконімы /Снегішкі, Снегі/ маюць абсалютныя адпаведнікі, параўн. літ. тап. Sniẽgiškės, Sniẽgiai[10].

Беларускія антрапанімічныя крыніцы таксама не фіксуюць антрапонім Снег, а літоўскай антрапаніміі вядома прозвішча Снегас[11]. Такім чынам, нягледзячы на магчымасць дваякай інтэрпрэтацыі асновы айконіма Снегішкі, больш верагодным з"яўляецца яго ўзнікненне ў выніку засваення літоўскага айконіма.

Аналіз айконімаў паказвае, што адаптацыі літоўскіх тапонімаў спрыяе наяўнасць блізкіх словаўтваральных мадэлей у беларускай айканіміі і роднасных асноў або асноў, блізкіх па свайму гукавому афармленню, у беларускай мове.

Многія літоўскія айконімы на -ėnai, -(i)onys засвоены па мадэлі на -аны, гэтаму ў значнай ступені спрыяла існаванне беларускіх айконімаў, утвораных ад прозвішчаў на -ан па мадэлі Pluralia tantum /Лабаны, Фурманы/, і айконімаў на -аны/-яны < -ане/-яне /Гарадняны, Гараны, Бараўляны/. Эмацыянальна-ацэначныя формы хрысціянскіх імён з суфіксам -ка і айконімы, якія ўзніклі на базе гэтых імён /Аляксейкі, Мацейкі, Панцялейкі, Сяргейкі/, не маглі не ўплываць на засваенне літоўскіх антрапонімаў з суфіксам -eika (Baréika, Mažéika) і айконімаў на -eikiai, -eikos (Gaveĩkiai). Як правіла, айконімы літоўскага паходжання падвяргаюцца фанетычнай і марфалагічнай адаптацыі /Апíдамы — параўн. тап. Apìdemė, Apìdemės, Apýdimai, літ. apìdemė, apýdemė, apýdemis 'агульны зямельны ўчастак паміж дзюма сядзібамі ; месца каля дома ; выган' ; Лаўкі — параўн. тап. Laũkiai, літ. laũkas 'поле'/.

Усе крытэрыі, аб якіх мы гаварылі вышэй: супастаўленне айконімаў на розных узроўнях /айконім : апелятыў, айконім : айконім, айконім : антрапонім, айконім : гідронім/, вызначэнне моўнай прыналежнасці асновы /радзей суфікса/, супастаўленне з тапаніміяй сумежных тэрыторый — выкарыстоўваюцца пры

---

[10] Lietuvos administracinio-teritorinio suskirstymo žinynas, ч. 2. Vilnius, 1976.

[11] Бірыла М.В., Ванагас А.П. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы, с. 32.

выдзяленні структурна-словаўтваральных тыпаў айконімаў. Марфалагічная структура айконімаў і іх словаўтварэнне з"яўляюцца асновай класіфікацыі айконімаў даследуемага рэгіёна. Падставай для аднясення айконіма да таго або іншага тыпу з"яўляецца наяўнасць агульнага словаўтваральнага афікса /суфікса, прэфікса, флексіі/; адсутнасць афікса; двухкампанентнасць назвы, якая характарызуецца адзінствам граматычнага афармлення.

Пры аднясенні многіх айконімаў да таго або іншага словаўтваральнага тыпу ўзнікае рад цяжкасцей, абумоўленых рознымі прычынамі.

1. Побач з абсалютна празрыстымі айконімамі, аснова і суфікс якіх тлумачацца на матэрыяле сучаснай беларускай мовы, існуюць айконімы, якія маюць няясную аснову, параўн. Пятрова, Сакалова, але Мажулева, Біцялёва; Вароніна, Гаўрыліна, але Кеўліна; Андрэеўшчына, Кавалеўшчына, але Клібаўшчына, Лінкаўшчына і інш. У большасці выпадкаў аснова айконіма ўстанаўліваецца пры супастаўленні яго з антрапонімамі, гідронімамі або пры супастаўленні беларускіх айконімаў з тапонімамі Літоўскай ССР.

2. Не ўсе айконімы з суфіксамі ўтвораны суфіксальным спосабам, г. зн. марфалагічны аналіз айконімаў не заўсёды супадае са словаўтваральным аналізам. Наяўнасць аманіміі айконімаў з суфіксальнымі апелятывамі і гідронімамі патрабуе пры аналізе адзначаць, на якім узроўні суфікс выконвае словаўтваральную функцыю — на апелятыўным, айканімічным або гідранімічным. У некаторых выпадках аманімія з апелятывамі і гідронімамі гавораць аб бязафіксным спосабе ўтварэння айконімаў, г.зн. аб выкарыстанні суфіксальных апелятываў у функцыі айконімаў або пераносе воднай назвы на паселішча. Апелятывамі ў функцыі айконімаў з"яўляюцца назвы Кароўка, Сякерка, Яблынка, Валасатка, Гараватка і інш., асновы якіх не выкарыстоўваюцца для ўтварэння айконімаў на даследуемай тэрыторыі. Бязафіксным спосабам на аснове гідронімаў узніклі айконімы Глыбка, Крыўка, Студзёнка, Студзянец і інш., у карысць гідранімічнасці гэтых назваў сведчыць значэнне асновы.

У тых выпадках, калі аснова і суфікс выкарыстоўваюцца і ў

айканіміі, і ў гідраніміі, нельга адназначна інтэрпрэтаваць функцыю суфікса. Так, айконімы з суфіксам -оўка/-аўка, у аснове якіх назвы дрэў /Арэхаўка, Асінаўка, Альхоўка, Бярозаўка/, аманімічны з гідронімамі. Суфікс у іх выконвае тапанімічную функцыю; размежаванне ж айканімічнай і гідранімічнай функцый немагчыма, паколькі і аснова і суфікс у назвах такога тыпу шырока выкарыстоўваюцца і ў айканіміі і ў гідраніміі. У беларускай гідраніміі такія назвы з"явіліся раней, значыць аманімія некаторых айконімаў з гідронімамі можа быць вынікам не выпадковага супадзення, а пераносу воднай назвы на паселішча.

Не заўсёды супадзенне айконімаў з апелятывамі гаворыць аб выкарыстанні апелятыва ў функцыі айконіма, г. зн. аб апелятыўнай функцыі суфікса. Калі аснова з'яўляецца ўжывальнай у айканіміі даследуемага рэгіёна, то гэта могуць быць утварэнні на ўзроўні айканіміі, параўн. вв. Атруб, Атрубак, Атрубок. Нават пры абсалютным супадзенні суфіксальных айконімаў з апелятывамі атаясамліванне іх структуры немагчыма, паколькі той самы суфікс у айконімах і апелятывах мае рознае значэнне. У айканіміі адбываецца працэс дэсемантызацыі і структуралізацыі суфікса.

3. У айканіміі беларускага Падзвіння назіраецца аманімічнасць суфіксальных элементаў у межах аднаго і таго ж словаўтваральнага рада. Так, у назвах паселішчаў з -іна/-ына выяўляецца рознае паходжанне і значэнне суфікса: а/ у адантрапанімічных назвах суфікс -іна/-ына мае пасесіўнае значэнне /Васькіна, Кошкіна, Сарокіна, Фокіна/; б/ у айконімах апелятыўнага паходжання суфікс мае значэнне адзінкавасці /Гразіна, Купіна/; в/ у айконімах літоўскага паходжання суфікс -іна < -ýnas або -ynė, пры дапамозе якіх у літоўскай мове ўтвараюцца зборныя назоўнікі і назоўнікі са значэннем месца, параўн. літ. beržýnas 'бярозавы лес' і beržýnė 'месца, на якім растуць бярозы'.

Размежаванне ўсіх гэтых утварэнняў з -іна магчыма толькі пры ўліку лексічнай суаднесенасці і моўнай прыналежнасці асновы.

4. Многія фіналі айконімаў, якія маюць аналагі сярод су-

фіксаў у апелятыўнай лексіцы, з"яўляюцца псеўдасуфіксальнымі. Так, айконімы з -ейка/-эйка, -айка, -інка/-ынка, -очка/-ачка могуць быць суаднесены адпаведна з апелятыўнымі дэрыватамі, што прывядзе да выдзялення псеўдасуфіксаў. Супастаўленне ж назваў з гэтымі фіналямі і айконімаў і гідронімаў даследуемага рэгіёна дазваляе правільна вызначыць у іх суфікс і адзначыць, на якім узроўні ён выконвае словаўтваральную функцыю. Аказваецца, што толькі ў двух айконімах з -ейка/-эйка гэта фіналь з"яўляецца суфіксам /Хацейка, Дабрэйка/, але ў айканіміі гэтыя назвы — бязафіксныя ўтварэнні, паколькі першы айконім — гэта апелятыў у айканімічнай функцыі, а другі — водная назва, перанесеная на паселішча /параўн. р. Дабрэйка/. Усе астатнія айконімы з -ейка/-эйка таксама з"явіліся як адгідранімічныя; у айканіміі яны бязафіксныя, а ў гідраніміі яны ўтвораны пры дапамозе суфікса -ка ад іншых гідронімаў /Вілейка, Друйка, Камайка, Лучайка/. Толькі ў адным айконіме /Верацейка/ можна выдзеліць айканімічны суфікс -ка /але не -ейка/, параўн. в. Верацеі; аднак не выключаецца і адгідранімічнае паходжанне гэтага айконіма.

Аналіз айконімаў на -інка дазваляе зрабіць вывад аб адсутнасці самастойнага айканімічнага суфікса -інка, таму што ў айканіміі назвы з -інка — вынік узаемадзеяння айконімаў і гідронімаў і пераносу воднай назвы з суфіксам -ка на паселішча або ўтварэнні на ўзроўні айканіміі з суфіксам -ка.

Назвы з -ынка таксама не маюць адназначнага тлумачэння. Пры супастаўленні іх з іншымі айконімамі можна выдзеліць айканімічны суфікс -ка, параўн. Жвірынка--Жвірына, Жвірыні, Галынка--Галыні, Старынка--Старына. Параўнанне ж айконімаў Жвіры, Жвіранка гаворыць аб магчымасці інтэрпрэтацыі назвы Жвірынка як утварэння з суфіксам -ынка.

Прымяненне розных крытэрыяў пры аналізе айконімаў дазваляе дыферэнцыраваць айканімічныя дэрываты з суфіксам -ка: 1. Айконімы, у якіх -ка прымыкае да асновы, не ўскладненай суфіксам /Гурка, Зорка/; 2. Айконімы, у якіх -ка прымыкае да асновы, ужо ўскладненай якім-небудзь суфіксам /Вілейка, Глыбачка/; 3. Айконімы, у якіх -ка з"яўляецца другім элементам складанага суфікса -оўка/-аўка, -анка/-янка /Каменкоўка,

Дняпроўка, Глінаўка, Будзянка/. Ва ўсіх выпадках аманіміі айконіма з апелятывам або гідронімам указваецца -- калі гэта магчыма -- узровень, на якім суфікс -ка выконваў словаўтваральную функцыю.

Агульным вынікам вывучэння структуры айконімаў беларускага Падзвіння з"яўляецца іх класіфікацыя /гл. табл./.

Прынятыя скарачэнні

Арш. -- Аршанскі р-н
Бр. -- Браслаўскі
Віц. -- Віцебскі
Гар. -- Гарадоцкі
Міёр. -- Міёрскі
Паст. -- Пастаўскі
Пол. -- Полацкі
Сен. -- Сенненскі
Шарк. -- Шаркоўшчынскі
в. -- вёска
воз. -- возера
лат. -- латышскае
літ. -- літоўскае
р. -- рака
тап. -- тапонім

Табліца

Структурна-словаўтваральная класіфікацыя айконімаў беларускага Падзвіння

| Простыя | | | | | | Складаныя | Састаўныя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Singularia tantum | | | | Pluralia tantum | | | |
| суфіксальныя | бязафіксныя | прэфіксальна-суфіксальныя | прэфіксальныя | флексійныя | суфіксальна-флексійныя | | |
| -ова/-ёва | | прэфікс + апелятыў + суфікс | прэфікс + апелятыў | ад апелятываў | -ішкі/-ышкі | І кампанент — прыметнік | прыметнік і наменклатурны тэрмін /або тапонім/ |
| -шчына/-оўшчына | | прэфікс + тапонім + суфікс | прэфікс + тапонім | ад антрапонімаў | -аны/-яны, | І кампанент — лічэбнік | айконім і лікавае абазначэнне |
| -іна/-ына | | | | ад гідронімаў | -ане/-яне, | І кампанент — дзеяслоў | наменклатурны тэрмін і тапонім |
| -ка | | | | адаптавання літоўскія тапонімы | -уны/-юны | | |
| -оўка/-ёўка, | | | | | -ейкі /-эйкі | | |
| -анка/-янка | | | | | -уйкі | | |
| -ок/-ак, -ёк | | | | | -елі/-элі,-ялі | | |
| -ік, -нік, -як | | | | | -олі/-алі | | |
| -ск | | | | | -улі/-юлі | | |
| -скі/-ская,-скае/ | | | | | -укі/-юкі | | |
| -ец/-эц | | | | | -іні/-ыні | | |
| -іца/-ыца | | | | | -ічы/-ычы | | |
| -на/-но, -ня | | | | | -онкі/-ёнкі | | |
| -[illegible] | | | | | -аты/-яты | | |
| -паль, -поле | | | | | -цы,-оўцы, | | |
| -ішча/-ышча | | | | | -унцы | | |
| -іх/-ыха,-уха | | | | | | | |

Н. І. Бабушкіна

# САСТАЎНЫЯ АЙКОНІМЫ БРЭСТЧЫНЫ І ІХ СТРУКТУРНЫЯ ТЫПЫ

У межах Брэсцкай вобласці адзначана 277 састаўных назваў /289 н. п./, што складае 10,5% усіх зафіксаваных айконімаў даследаванага рэгіёна.

Састаўныя айконімы Брэстчыны — гэта лексікалізаваныя словазлучэнні, у аснове якіх ляжаць два кампаненты — субстантыўны і атрыбутыўны, г. зн. азначаемае слова /назоўнік/ і азначальнае слова /прыметнік/. Сярод гэтай групы айконімаў вылучаюцца дзве трохкампанентныя састаўныя назвы /Вялікі Добры Бор, Малы Добры Бор/, якія зараз не функцыяніруюць. Айканімічны матэрыял Брэстчыны сведчыць аб тым, што трохкампанентныя састаўныя айконімы ў працэсе бытавання маглі пераўтварыцца ў двухкампанентныя дзякуючы аб"яднанню двух кампанентаў трохчленнага айконіма ў адзін: Малая Стараволя, параўн. Стараволя < Старая Воля; Дабраволя - 1; Дабраволя - 2 /Пруж./, параўн. Добрая Воля /Лун., Пін./.

Састаўныя айконімы Брэстчыны ўжываюцца як у форме адзіночнага, так і множнага ліку. Форму адзіночнага ліку маюць 184 назвы /196 н. п./: Вялікі Лес, Яловы Груд, Козі Брод; форму множнага ліку — 93 назвы /93 н. п./: Малыя Корчыцы, Старыя Войкавічы, Пацбельскія Агароднікі.

У залежнасці ад граматычнай характарыстыкі кампанентаў састаўныя айконімы падзяляюцца на наступныя групы: 1. Састаўныя айконімы "якасны прыметнік + назоўнік"; 2. Састаўныя ай-

конімы 'адносны прыметнік + назоўнік' ; 3. Састаўныя айконімы 'прыналежны прыметнік + назоўнік' ; 4. Састаўныя айконімы 'назоўнік + адносна-прыналежны прыметнік' ; 5. Састаўныя айконімы 'назоўнік + назоўнік'.

I. Састаўныя айконімы 'якасны прыметнік + назоўнік'. Гэты тып айконімаў складае самую шматлікую групу /206 назваў абазначаюць 213 населеных пунктаў/.

Па характару азначаемага слова /назоўніка/ у межах гэтай групы выдзяляюцца дзве падгрупы: састаўныя айконімы з азначаемым апелятывам ; састаўныя айконімы з азначаемым айконімам.

Састаўныя назвы 'якасны прыметнік + назоўнік' апелятыўнага паходжання ўжываюцца параўнальна рэдка — 15 назваў абазначаюць 18 населеных пунктаў: До́бры Бор /Бар./, пас. Зялёны Бор /Івац./, х. Лю́ты Бор /Стол./, х. Сухі́ Бор /Іван./, Го́лы Баро́к /Кам./, х. Бе́лае Во́зера /Лун./, Мо́края Дубро́ва /Пін./, х. Малады́ Лес /Лун./, Бе́лы Лясо́к /Пруж./, Крыў́е Сяло́ /Бар., Лях., Пін./, Глыбо́кі Кут /Пруж./, Глыбо́кі Ву́гал /Кам./, До́брая Во́ля /Лун., Пін./, Свята́я Во́ля /Івац./, Чырво́ная Во́ля /Лун./.

У састаўных айконімах гэтай падгрупы другі кампанент /назоўнік/ ужываецца ў форме адзіночнага ліку і абазначае: а/ прыродна-геаграфічныя аб'екты: барок, бор, возера, дуброва, лес, лясок ; б/ форму або велічыню ўчастка: вугал, кут ; в/ тып і характар пасялення: воля, сяло.

Першы кампанент /якасны прыметнік/ у такіх назвах звычайна ўказвае на якую-небудзь знешнюю прыкмету аб'екта, абазначанага ў другім кампаненце /колер, форма/, або на станоўчую ці адмоўную характарыстыку аб'екта /белы, голы, глыбокі, добры, зялёны, крывы, люты, малады, мокры, сухі, чырвоны/.

Слова воля ў айконімах Брэстчыны вядома ў значэнні 'пасяленне', жыхары якога вызваліліся ад некаторых павіннасцей, тое, што і слабада[1].

Вёска Чырво́ная Во́ля мае мясцовую назву Кра́сна Во́ля /інфарматар В.С. Морза/. Апелятыў чырвоны ў тапаніміі выкарыстоўваецца ў наступных значэннях: 'сімвал рэвалюцыі', 'пурпурны

---

[1] Жучкевіч В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974, с. 59.

чырвоны колер', 'цудоўны, прыгожы, прыемны'[2]. Крытэрыем вызначэння семантыкі азначальнага кампанента чырвоны з'яўляецца час узнікнення айконіма. У дарэвалюцыйных назвах прыметнік чырвоны ўжываецца са значэннем становучай характарыстыкі паселения. У савецкі час азначэнне чырвоны з'яўляецца, як правіла, сімвалам рэвалюцыі. На думку старажылаў, вёска Святая Воля атрымала назву у сувязі з тым, што у ёй жылі чатыры сям'і, якія называліся 'святыя' /інфарматар С.К. Позняк/.

Пераважную большасць назваў 'якасны прыметнік + назоўнік' складаюць айконімы з азначаемым назоўнікам /188 назваў абазначаюць 196 н. п./. Намінатыўным кампанентам у такіх назвах часцей за ўсё выступаюць простыя айконімы розных тыпаў, у асобных выпадках складаныя або састаўныя у форме адзіночнага або множнага ліку.

У якасці азначальнага кампанента у такіх айконімах выкарыстоўваюцца якасныя прыметнікі, якія утвараюць антанімічныя пары: вялікі — малы /98 айконімаў — 102 н. п./, стары — новы /46 айконімаў — 50 н. п./, і сінанімічныя ім парадкавыя лічэбнікі у напісанні словам або лічбай: першы, 1, 2; другі, 2, II /44 айконімы — 44 н. п./.

Населеныя пункты, абазначаныя састаўнымі назвамі з антанімічнымі прыметнікамі вялікі — малы, стары — новы і першы— другі, як правіла, размешчаны у межах аднаго раёна на невялікай адлегласці адзін ад другога.

Словы вялікі — малы, стары — новы, першы — другі у складзе такіх назваў аб'ядноўваюцца агульным устойлівым значэннем. Яны указваюць на адносную хаеналогію узнікнення населеных пунктаў, абазначаных назоўнікамі /простым, складаным або састаўным айконімам/. Словы вялікі, стары, першы указваюць на больш ранняе узнікненне аб'ектаў; малы, новы, другі — на больш позняе, утвараючы антанімічныя пары.

Назвы са словамі вялікі, стары, першы, як правіла, абазна-

---

[2] Жучкевіч В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии, с. 180—182; Никонов В.А. Краткий топонимический словарь. М., 1966, с. 212—215.

чаюць больш буйныя населеныя пункты, назвы са словамі малы, новы, другі -- больш дробныя: Вялікія Вікаравічы -- 216 двароў, Малыя Вікаравічы -- 134 двары /Стол./; Вялікая Гаць -- 404 двары, Малая Гаць -- 97 двароў; Вялікія Дзіковічы -- 104 двары, Малыя Дзіковічы -- 27 двароў /Пін./; Вялікія Зводы -- 112 двароў, Малыя Зводы -- 81 двор /Кам./; Вялікі Зосін -- 44 двары, Малы Зосін -- 22 двары /Пруж./; Вялікія Круговічы -- 319 двароў, Малыя Круговічы -- 216 двароў /Ганц./; Вялікая Курніца -- 83 двары, Малая Курніца -- 62 двары /Бр./; Вялікія Лепясы -- 254 двары, Малыя Лепясы -- 25 двароў /Кобр./; Вялікія Лясковічы -- 186 двароў, Малыя Лясковічы -- 22 двары /Бяр./; Мурыны Вялікія -- 57 двароў, Мурыны Малыя -- 17 двароў /Кам./; Вялікі Паўлопаль -- 67 двароў, Малы Паўлопаль -- 59 двароў /Мал./; Вялікія Пурневічы -- 51 двор, Малыя Пурневічы -- 41 двор /Бяр./; Вялікія Радванічы -- 263 двары, Малыя Радванічы -- 156 двароў /Бр./; Вялікая Ракавіца -- 42 двары, Малая Ракавіца -- 27 двароў /Бр./; Селішчы Вялікія -- 31 двор, Селішчы Малыя -- 18 двароў /Кам./; Вялікія Сухарэвічы -- 41 двор, Малыя Сухарэвічы -- 26 двароў /Бр./; Вялікія Сяхновічы -- 98 двароў, Малыя Сяхновічы -- 66 двароў /Жаб./; Вялікая Турна -- 104 двары, Малая Турна -- 13 двароў /Кам./; Вялікія Чучавічы -- 737 двароў, Малыя Чучавічы -- 347 двароў /Дун./; Вялікія Якавічы -- 124 двары, Малыя Якавічы -- 37 двароў /Пруж./; Вялікія Якаўчыцы -- 122 двары, Малыя Якаўчыцы -- 38 двароў /Жаб./; Старыя Клёнкі -- 99 двароў, Новыя Клёнкі -- 67 двароў /Іван./; Старое Раматова -- 60 двароў, Новае Раматова -- 59 двароў /Мал./; Старая Цемра -- 66 двароў, Новая Цемра -- 30 двароў /Драг./; Гвоздзь Першы -- 11 двароў, Гвоздзь Другі -- 4 двары /Кам./; Лінова 1 -- 363 двары, Лінова 2 -- 195 двароў /Пруж./; Падбрадзяны Першыя -- 53 двары, Падбрадзяны Другія -- 24 двары /Кам./; Тэльмы I -- 125 двароў, Тэльмы II - 48 двароў /Бр./; Уласаўцы I -- 119 двароў, Уласаўцы II -- 115 двароў /Іван./; Цмень I -- 56 двароў, Цмень II -- 46 двароў /Стол./; Чамяры Першыя -- 61 двор, Чамяры Другія -- 37 двароў /Кам./; Чорнава I -- 86 двароў, Чорнава II -- 31 двор /Пін./; Шалічы Першыя -- 34 двары, Шалічы Другія -- 18 двароў /Кам./.

Аднак у сувязі з нераўнамерным ростам населеных пунктаў тыя з іх, што маюць азначэнне малы, новы, другі, з'яўляюцца больш буйнымі, чым населеныя пункты з азначэннем вялікі, стары, першы. Параўн.: Вялікая Валахва́ — 85 двароў — Мала́я Валахва́ — 166 двароў /Бар./; Вяліка Вялі́кая — 20 двароў /Кам./ — Вяліка Мала́я — 26 двароў /Бар./; Вялі́кая Каўпе́ніца — 208 двароў — Мала́я Каўпе́ніца — 248 двароў /Бар./; Вялі́кая Сваро́тва — 75 двароў — Мала́я Сваро́тва — 144 двары /Бар./; Вялі́кі Халажы́н — 76 двароў — Малы́ Халажы́н — 148 двароў /Лін./; Вялікія Шчы́тнікі — 60 двароў — Малы́я Шчы́тнікі — 62 двары /Бр./; Стары́я Во́йкавічы — 18 двароў — Но́выя Во́йкавічы — 46 двароў /Бар./; Стары́ Двор — 22 двары — Но́вы Двор — 37 двароў /Мал./; Стары́я Задво́рцы — 52 двары — Но́выя Задво́рцы — 62 двары /Бр./; Стара́я Мыш — 56 двароў — Но́вая Мыш — 583 двары /Бар./; Старо́е Стрэ́льна — 73 двары — Но́вае Стрэ́льна — 82 двары /Іван./; Таро́шкаўка Пе́ршая — 21 двор — Таро́шкаўка Друга́я — 22 двары /Кам./.

У такіх назвах прыметнікі і лічэбнікі губляюць ранейшае значэнне 'вялікі — малы' і указваюць толькі на адносную храналогію ўзнікнення паселішчаў.

У назвах населеных пунктаў, якія ўзніклі раней, не заўсёды маюць пры сабе азначэнні вялікі, стары, першы. У такіх выпадках адрознівальную функцыю выконваюць толькі прыметнікі малы, новы, другі: Дарапе́евічы — 178 двароў — Малы́я Дарапе́евічы — 38 двароў /Мал./; Ко́січы — 53 двары — Малы́я Ко́січы — 27 двароў /Бр./; Пло́тніца — 63 двары /Стол./ — Мала́я Пло́тніца — 188 двароў /Пін./; Старраво́ля — 275 двароў — Мала́я Стараво́ля — 28 двароў /Пруж./; Агарэ́вічы — 42 двары — Но́выя Агарэ́вічы — 62 двары /Ганц./; Бо́ркі — 46 двароў — Но́выя Бо́ркі — 39 двароў /Мал./; За́балацце — 94 двары — Но́вае За́балацце — 69 двароў /Мал./; Лы́шчыцы — 105 двароў — Но́выя Лы́шчыцы — 83 двары /Бр./; Папіна — 70 двароў — Но́вая Папіна — 153 двары /Драг./.

Выпадкі, калі апускаецца або не выкарыстоўваецца азначэнне новы, малы, на Брэстчыне сустракаюцца досыць рэдка: Стары́ Куплін — Куплін /Пруж./; Стары́ Ча́дзель — Ча́дзель /Пруж./; Вялікі Лес — х. Лес /Кам./.

Тыпічны айканімічны кантэкст, наяўнасць састаўных назваў з

азначэннямі малы, новы, другі даюць магчымасць успрымаць айконімы з апушчанымі азначэннямі вялікі, стары, першы як абазначэнні больш ранніх і, як правіла, больш буйных пасяленняў.

У даследаваным рэгіёне адзначаны састаўныя айконімы, для якіх адпаведнікі з антанімічнымі азначэннямі не знойдзены. Відаць, у выніку розных гістарычных падзей яны зніклі разам з населенымі пунктамі, назвамі якіх былі. Напрыклад: Вялі́кая Ло́тва /Лях./, Вялі́кае Ма́лешава /Стол./, Вялі́кі Рудзе́ц /Кобр./, Вялі́кае Сяло́ /Бар., Пруж./, Но́вы Двор /Пін./, Но́выя Двары́ /Жаб./, Но́выя Лу́кі /Бар./, Но́вы Пасёлак /Стол./, Но́вы Свет /Бар./, Стары́ Двор /Бар./, х. Стара́я Наві́на /Ганц./, Старо́е Сяло́ /Бр., Жаб./.

Састаўныя айконімы з азначэннямі-лічэбнікамі без адпаведнасцей не сустракаюцца, а г. зн., што парадкавыя лічэбнікі ў састаўных назвах часткова захоўваюць сваё лексічнае значэнне.

Звяртаюць на сябе ўвагу і трайныя адпаведнасці як у межах аднаго /4 айканімічныя рады/, так і ў межах розных раёнаў /8 айканімічных радоў/ Брэсцкай вобласці: Вялі́кая Ву́лька -- 73 двары: Мала́я Ву́лька -- 85 двароў: Ву́лька -- 220 двароў /Пін./; Вялі́кае Гарадзі́шча -- 121 двор: Мало́е Гарадзі́шча -- 108 двароў: Гарадзішча -- 92 двары /Лях./; Вялі́кія Матыка́лы -- 101 двор: Малы́я Матыка́лы -- 45 двароў: Матыка́лы -- 60 двароў /Бр./; Вялі́кі Кра́снік -- 69 двароў: Малы́ Кра́снік -- 31 двор; х. Краснік /Пруж./; Вялікія Дварцы́ -- 123 двары /Пін./: Малы́я Дварцы́ -- 35 двароў /Пін./: Дварцы́ -- 74 двары /Кам./; Вялікія Кама́рнікі -- 38 двароў /Кам./: Малы́я Кама́рнікі -- 26 двароў /Кам./: Кама́рнікі -- 31 двор /Стол./; Вялі́кія Маце́евічы -- 26 двароў /Бяр./: Малы́я Маце́евічы -- 23 двары /Бяр./: Маце́евічы - 63 двары /Жаб./; Вялі́кае Міжле́ссе -- 156 двароў /Бяр./: Мало́е Міжле́ссе -- 126 двароў /Бяр./: Міжле́ссе -- 89 двароў /Лун./; Вялі́кія Прылу́кі -- 30 двароў /Кобр./: Малы́я Прылу́кі -- 22 двары /Кобр./: Прылу́кі -- 189 двароў /Бр./; Стары́я Бу́ды -- 59 двароў /Лях./: Но́выя Бу́ды -- 58 двароў /Лях./: Бу́ды /Драг./; Стары́я Пе́скі -- 631 двор /Бяр./: Но́выя Пе́скі -- 163 двары /Бяр./: Пе́скі /Пруж., Кобр./; Ву́лька 1 -- 337 двароў /Лун./: Ву́лька 2 -- 247 двароў /Лун./: Ву́лька /Пін., Драг., Жаб., Кам., Бр./.

У такіх састаўных назвах па атрыбутыўных кампанентах, відаць, нельга меркаваць ні аб велічыні населеных пунктаў, ні аб часе іх узнікнення. Яны толькі дыферэнцыруюць абазначэнні населеных пунктаў, адрозніваючы адзін геаграфічны аб'ект ад другога.

На Брэстчыне ў адным і тым жа раёне зафіксаваны трайныя адпаведнасці з азначэннем-лічэбнікам: 1-я Ада́хаўшчына, 2-я Ада́хаўшчына, 3-я Ада́хаўшчына /Бар./; Бу́чамля Пе́ршая -- 44 двары, Бу́чамля Друга́я -- 22 двары, Бу́чамля Трэ́цяя -- 95 двароў /Кам./; Падбе́ла Пе́ршая -- 56 двароў, Падбе́ла Друга́я -- 16 двароў, Падбе́ла Трэ́цяя -- 34 двары /Кам./.

Вядомы выпадак ужывання ў адным айканімічным радзе прыметнікаў <u>вялікі</u>, <u>малы</u>, <u>новы</u>: Вялі́кія Лу́кі -- 229 двароў, Малы́я Лу́кі -- 125 двароў, Но́выя Лу́кі -- 79 двароў /Бар./.

Атрыбутыўны кампанент у гэтых трайных адпаведніках указвае на адносную храналогію ўзнікнення населеных пунктаў.

Разгледжаны матэрыял дазваляе зрабіць вывад, што атрыбутыўныя кампаненты вельмі важныя як крыніца звестак аб названым аб'екце, нягледзячы на тое, што субстантыўныя кампаненты з'яўляюцца апорнымі, асабліва ў састаўных назвах, утвораных ад айконімаў. Абазначаючы адносную храналогію ўзнікнення населеных пунктаў, прыметнікі і лічэбнікі ў састаўных айконімах гэтага тыпу ўжываюцца ў пераносным значэнні, яны з'яўляюцца дыферэнцыраванымі[3].

У састаўных айконімах "якасны прыметнік + назоўнік" азначэнне, як правіла, прэпазітыўнае і толькі ў асобных выпадках постпазітыўнае. У сучасных крыніцах адзначаны два варыянты напісання /з азначаемым словам і у постпазіцыі/: Большие Камарники /СНПБВ, СНП Кам., 1972/, Камарнікі Вялікія /р. г. "Ленінец", 1969, № 2/ /Кам./; Малыя Камарники /СНПБВ, СНП Кам./, Камарнікі Малыя /р. г. "Ленінец", 1969, № 2/ /Кам./; Большая Турна /СНПБВ/, Турна Вялікая /р. г. "Ленінец", 1969, № 2/, Турна Б. /СНП Кам./ /Кам./; Малая Турна /СНПБВ/, Турна Малая /р. г. "Ленінец", 1969, № 2/, Турна М. /СНП Кам./; Малые Косичи /р.г. "Заря над Бугом", 1969, № 14; СНПБВ/, Косичи /СНП Бр./ /Бр./, Большие Косичи /р. г. "Заря над Бугом", 1969,

---

[3] Никулина З.П. Топонимы-словосочетания. -- Филологический сборник, вып. 2. Кемерово, 1967, с. 229.

№ 14; СНПБВ/, Косічы Вялікія /інфарматар Г. У. Рабчук/, Косічы /СНП/ /Бр./.

Можна меркаваць, што скарочаныя і дэфісныя напісанні кампанентаў разглядаемых назваў, а таксама інверсія садзейнічаюць пераходу састаўных назваў у простыя. Патрэбна заўважыць, што ў састаўных айконімах Брэстчыны трапляе пад скарачэнне звычайна атрыбутыўны кампанент, аднак выяўляецца тэндэнцыя да скарачэння і субстантыўнага кампанента: Вяліка Вялікая /р.г. "Ленінец", 1969, № 2/, Веліка Б. /СНП Кам./, В. Большая /СНП / /Кам./; Вяліка Малая /р.г. "Ленінец", 1969, № 2/, Велика М. /СНП Кам./, В. Малая /СНП/ /Кам./.

Такое скарачэнне то атрыбутыўнага, то субстантыўнага кампанента ў межах аднаго і таго ж састаўнога айконіма непажадана, бо яно робіць назву недакладнай.

2. Састаўныя айконімы "адносны прыметнік + назоўнік".

Айконімаў гэтага тыпу на Брэстчыне няшмат – 19 назваў /19 н.п./: х. Асо́ва Бе́рва /Ганц./, Га́лы Бор /Лун./, Сасно́вы Бор /Івац./, Ко́зі Брод /Пруж./, Бро́нная Гара́ /Бяр./, х. За́дняя Гра́да /Стол./, За́дні Груд /Пруж./, Яло́вы Груд /Кам./, Цаге́льны завод /Бр./, Здзіта́ва Захо́дняе /Бяр./, Здзі́тава Усхо́дняе /Бяр./, Палява́я Рэ́чыца /Жаб./, Скро́бава – Го́рнае /Бар./, Скро́бава-До́льнае /Бар./. Ве́рхні Церабяжо́ў /Стол./, Ні́жні Церабяжо́ў /Стол./, Ве́рхняе Чэ́рніхава /Бар./, Ні́жняе Чэ́рніхава /Бар./.

Азначальнае слова /адносны прыметнік/ у такіх айконімах указвае: а/ на месца знаходжання аб'екта, абазначанага назоўнікам /верхні, задні, заходні, ніжні, усходні/;

б/ на від расліннасці, жывёлу, характар мясцовасці /асовы, галы, козі, палявы, сасновы, горны, дольны/; в/ на іншыя прыкметы аб'ектаў /бронны, цагельны/.

Азначаемае слова /назоўнік/ абазначае прыродна-геаграфічныя аб'екты /берва, бор, брод, гара, града, груд/; аб'екты як вынік чалавечай дзейнасці /завод/; з'яўляецца назвай населенага пункта /Здзі́тава, Рэ́чыца, Скро́бава, Церабяжо́ў, Чэ́рніхава/.

Састаўныя айконімы "адносны прыметнік + назоўнік" утвараюцца: 1/ ад простых айконімаў: Здзітава Захо́дняе /Бяр./, Здзітава Усхо́дняе /Бяр./, Палява́я Рэ́чыца /Жаб./, Скро́бава-Го́рнае,

Скробава-Дольнае /Бар./, Верхні Церабякоў, Ніжні Церабякоў /Стол./, Верхняе Чэрніхава, Ніжняе Чэрніхава /Бар./, 2/ ад мікратапонімаў семантычным шляхам: х. Асова Берва /Ганц./, Галы Бор /Лун./, Сасновы Бор /Івац./, Козі Брод /Пруж./, Бронная Гара /Бер./, х. Заходняя Града /Стол./, Задні Груд /Пруж./, Яловы Груд /Кам./, Цагельны Завод /Бр./.

3. Састаўныя айконімы "прыналежны прыметнік + назоўнік" нешматлікія: 6 назваў /6 н.п./: Алізараў Стаў /Жаб./, Каралёў Мост /Кам./, х. Ланцаў Лог /Бар./, Пастухова Балота, Пруска Валгінова /Кам./, г. Давыд-Гарадок /Стол./, Кажан-Гарадок /Лун./.

Прыметнікі ў складзе гэтых назваў заканчваюцца на -аў/-еў, -ова і ўказваюць на асобу --уладальніка аб'екта. Яны ўтвораны ад антрапонімаў: уласных асабовых хрысціянскіх імёнаў: Алізараў Стаў /Жаб./, г. Давыд-Гарадок[4] /Стол./; апелятыўных імёнаў-мянушак або прозвішчаў: Каралёў Мост /Кам./, х. Ланцаў Лог /Бар./, Пастухова Балота , Пруска Валгінова /Кам./.

Назоўнікі ў такіх айконімах, як правіла, апелятывы, якія абазначаюць фізіяграфічныя аб'екты: балота, лог, стаў -- і аб'екты як вынік чалавечай дзейнасці: гарадок, мост.

4. Састаўныя айконімы "назоўнік + адносна-прыналежны прыметнік" на -скі/ -цкі/. Гэта група ўключае 33 назвы /34 н.п./.

Субстантыўны кампанент у іх — просты айконім. Атрыбутыўны кампанент указвае на адносіны адной назвы да другой, ад якой утвораны прыметнік. У даследаваным рэгіёне яшчэ захаваліся многія айконімы, ад якіх утворана азначальнае слова: а/ у межах аднаго раёна: Астромічы Шляхецкія -- Шляхта /Кобр./, Вулька-Аброўская -- Аброва /Івац./, Вулька-Брашэвіцкая -- Брашэвічы /Драг./, Вулька-Дастоеўская -- Дастоева /Івац./, Вулька-Кужалічынская -- Кужалічын /Іван./, Вулка-Папінская -- Папіна, Вулька-Радавецкая -- Радастава /Драг./, Вулька-Целяханская -- г.п. Целяханы /Івац./, Камень-Шляхецкі -- Шляхта /Кобр./, Кацельня-Баярская /2/ -- Баяры /Бр./, Кашара-Альманская -- Альманы /Стол./, Падбельскія Агароднікі -- Падбела I, II, III /Кам./, Падлессе Радваніцкае — В. і М. Радванічы /Бр., 2/, Падлессе Камянецкае -- г.п. Камянец /Кам./, Пашуцкая

[4] Гэту назву ў помніках пісьменнасці знаходзім з поўнай формай прыналежнага прыметніка: ку Городку-Давыдову /РППЗ, I/, Листъ писанъ у Городку Давыдовѣ. /РППЗ, 349/.

Буда -- Пашукі /Кам./, Сітніцкі Двор -- Сітніца /Лун./; б/ у межах розных раёнаў: Вулька-Застаўская /Бр./ -- Застаўе /Драг./, Вулька-Лаўская /Пін./ -- Лавы /Драг., Кам./, Елінскі Бор /Кам./ -- Елянова /Бяр./, Пруска Багуслаўская /Кам./-- Багуславічы /Жаб./.

Заснавальнікамі паселішчаў, якія маюць састаўныя назвы з адносна-прыналежнымі прыметнікамі, з"яўляюцца перасяленцы з вёсак, што носяць назвы ў форме прыметнікаў са значэннем адноснай прыналежнасці.

У некаторых састаўных айконімах гэтага тыпу атрыбутыўны кампанент указвае на адносіны дадзенай назвы да другой, якая абазначае не населены пункт, а большую ці меншую тэрыторыю, уладанні пэўных асоб: Астромічны-Калеўскія, Камень Каралеўскі /Кобр./, ст. Баранавічы Палескія /Бар./, ст. Бяроза-Картузская /Бяр./, Вулька-Падгароцкая, Кацельня-Падгароцкая -- недалёка ад горада, пад горадам, Камяніца-Біскупская /Бр./.

Старажылы сцвярджаюць, што назва вёскі Хутары Раманаўскія /Бр./ склалася так таму, што тут, па сутнасці, вёскі не было і людзі жылі на хутарах, якія належалі землеўладальніку Раманаву. Слова хутар , якое абазначае тып паселішча, у гэтай назве ў працэсе гістарычнага развіцця з прычыны семантычнага зруху тэрміналагічнага кампанента[5] ўвайшло ў склад айконіма, які абазначае буйны населены пункт /240 двароў/. Параўн. таксама яшчэ хутары Столінскія -- г. Столін /Стол./, хутары Ракітнянскія -- Ракітна /Лун./, хутары Озерніцкіе /СНПВВ/, варыянт Азярніцкія хутары /р.г. "Ленінскі шлях", 1969, № 14/ -- Азярніца /Лун./.

5. Састаўныя айконімы "назоўнік + назоўнік" адзначаны 18 разоў. Яны утварыліся з двух айконімаў, як правіла, шляхам далучэння да старой назвы новай. У структуры гэтых назваў адрозніваюцца азначаемыя кампаненты, у аснове якіх ляжаць назвы аб'ектаў і азначальныя айконімы, якія указваюць на адносіны

---

[5] Мокиенко В.М. Псковская топонимия и местная болотоведческая терминология. Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР. Тезисы докладов и сообщений. Рига, 1966, с. 176.

састаўной назвы да другой назвы — простага айконіма. Аб гэтым гавораць такія адпаведнасці: а/ у межах аднаго раёна: Акóліца-Бóртнавічы — Бóртнавічы /Пруж./, Бор-Дýбенец — Дýбенец /Стол./, Лю́бель-Поль— Лю́бель /Пін./, Калóнія-Расóшкі — х. Расóшкі /Стол./, Кýкава-Бор — Кýкава /Ганц./, Засцéнак-Зубéлевічы — Зубéлевічы /Лях./, Палóнна-Зáбалоцце — Зáбалоцце, Бярóзаўка-Міхалíн — Стáры Міхалíн /Пруж./, Нóвы Міхалíн /Пруж./, Міхалíн /Бр./; б/ у межах розных раёнаў: Вулькóва-Зарэ́чча /Бр./ — Зарэ́чча /Бяр. 2, Кам., Івац., Пруж., Лях., Лун./, Гíрыча-Поль /Лях./ — Гíрчыцы /Бар./.

Адпаведнасці не маюць назвы: Бор-Лíпы /Пруж./, Шлях-Пýшча /Бяр./.

Некаторыя айконімы гэтага тыпу утвараюцца шляхам аб"яднання двух простых айконімаў у выніку зліцця населеных пунктаў: х. Раучáк-Лýчыца ∠ х. Раучак + х. Лýчыца /Стол./, Пáнцавічы-Верамéеўцы ∠ Пáнцавічы і Верамееўцы /Іван./.

Відаць, сюды ж трэба аднесці і назвы: Бердунí-Марачáнка /Пін./, Дáрава-Чыж /Лях./, Мар'я́н-Даражы́н /Пруж./.

Айконімы "назоўнік + назоўнік" або губляюць адзін з састаўных кампанентаў Дарава-Чыж /р.г. "Будаўнік камунізма", № 19, 1969/ — Чыж /СНПБВ, 1971/; Бердуны-Марчанка /СНП Пін., 1972/— Бердуны /р.г. "Полесская правда", № 24, 1969/ /СНПБВ, 1971/, або пішуцца разам, утвараючы складаны айконім: Любель-Поль/р.г. "Полесская правда", № 24, 1969/ — Любельполь /Пін./ /СНПБВ, 1971/.

Гэтыя назвы — пераходны тып ад састаўных айконімаў да простых. Іх напісанне праз дэфіс гаворыць аб тым, што яны бліжэй да складаных, чым да састаўных айконімаў. Яны дазваляюць прасачыць суадносгасць кампанентаў у састаўных і складаных айконімах, высветліць лёс састаўных назваў у мове.

Па раёнах Брэсцкай вобласці састаўныя айконімы размяркоўваюцца наступным чынам: Бар. — 35 айконімаў /22, 13/, Бр. — 31/25, 6/, Бяр. — 13, Ганц. — 6 /4, 2/, Драг. — 8, Жаб. — 8, Іван. — 10 /9, 1/, Івац. — 7, Кам. — 47 /40,7/, Кобр. — 14 /6, 8/, Лун. — 11 /10,1/, Лях. — 11 /10, 1/, Мал. — 9, Пін. — 22 /20, 2/, Пруж. — 33 /18, 15/, Стол. — 24 /11, 13/.

Такім чынам, састаўныя айконімы Брэстчыны узніклі як апі-

сальныя характарыстыкі геаграфічных аб'ектаў для ліквідацыі айканімічнай аманіміі, якая ўскладняе адрозніванне аб'ектаў. Жыццё саставўных айконімаў дае магчымасць прасачыць развіццё мовы ў сувязі з гістарычным развіццём грамадства.

Састаўныя айконімы ўтвараюцца як ад апелятыўных назваў, так і на ўзроўні айканіміі і мікратапаніміі і з'яўляюцца лексікалізаванымі нераскладальнымі словазлучэннямі.

У якасці азначаемага слова ў састаўных айконімах выступаюць якасныя, адносныя, прыналежныя і адносна-прыналежныя прыметнікі. У айконімах гэтага тыпу прыметнікі ўжываюцца ў новых значэннях, папаўняючы сінанімічныя рады, пашыраючы круг мнагазначных слоў.

Састаўныя айконімы Брэстчыны характарызуюцца сінхранічнай дынамічнасцю, тып у цэлым малапрадуктыўны: а/ нефункцыяніруючыя састаўныя айконімы замяняюцца аднакампанентнымі; б/ айконімы дэфіснага напісання, якія ўзніклі з састаўных назваў, выяўляюць тэндэнцыю пераходу ў складаныя, аднаслоўныя айконімы.

Найбольш прадуктыўныя састаўныя айконімы з азначэннем, выражаным якасным прыметнікам, найменш прадуктыўныя з азначэннем -- прыналежным прыметнікам.

Састаўныя назвы на базе словазлучэнняў -- сімвалаў савецкага жыцця -- не ўтвараюцца.

Прынятыя скарачэнні

РППЗ -- Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. Вильна, 1867.

СНПБВ -- Спіс населеных пунктаў Брэсцкай вобласці /1971 г./. СНП -- Спісы населеных пунктаў раёнаў Брэсцкай вобласці /1972 г./.

Назвы раёнаў. Бар. -- Баранавіцкі, Бяр. -- Бярозаўскі, Бр. -- Брэсцкі, Ганц. -- Ганцавіцкі, Др. -- Драгічынскі, Жаб.-- Жабінкаўскі, Іван. -- Іванаўскі, Івац. -- Івацэвіцкі, Кам.-- Камянецкі, Кобр. -- Кобрынскі, Лун. -- Лунінецкі, Лях. -- Ляхавіцкі, Мал. -- Маларыцкі, Пін. -- Пінскі, Пруж. -- Пружанскі, Стол. -- Столінскі.

## Іншыя скарачэнні

в. -- вёска
г. -- горад
г. п. -- гарадскі пасёлак
г. зн. -- гэта значыць
дв. -- двор
н.п. -- населены пункт
пас. -- пасёлак
параўн. -- параўнайце
р. -- раён
р. г. -- раённая газета
х. -- хутар

З.Ф. Краўчанка

# НАЗВЫ ВУЛІЦ ГОРАДА МІНСКА

Назвы вуліц, завулкаў, плошчаў і праспектаў Мінска — гэта своеасаблівыя помнікі шматвяковага жыцця горада, гісторыі яго рэвалюцыйнай барацьбы, гісторыі культуры, навукі і сацыялістычнага будаўніцтва. Часам назва адной вуліцы з"яўляецца асобнай старонкай гісторыі горада. Таму вывучэнне гэтых назваў — задача не толькі моваведаў, але і гісторыкаў, географаў, краязнаўцаў.

У гэтым артыкуле зроблена спроба вызначыць крыніцы назваў вуліц горада, прасачыць сувязь паміж старымі і новымі назвамі, разгледзець іх структурныя і семантычныя тыпы.

Мінск — адзін са старэйшых гарадоў нашай краіны. Першае ўпамінанне аб Мінску знаходзім у старажытным помніку рускай пісьменнасці — "Повести временных лет" пад 1067 г.

У сярэдзіне XIX ст. у Мінску налічвалася 42 вуліцы /Гісторыя Мінска. Мн., 1967, с. 91/. У даведніку "Памятная кніжка Мінскай губерні" /1903/ значыцца 81 вуліца. У кнізе "Уся БССР /Кароткая адрасна-даведачная кніга, 1935/" — 597 вуліц, у даведніку "Кароткая адрасна-даведачная кніга", 1974 — 1018 вуліц, а ў даведніку "Пералік найменаванняў праездаў г.Мінска", 1977 /па стану на май 1977 г./ — 1054 вуліцы.

На пачатку ўзнікнення горада вуліц як такіх яшчэ няма. Ёсць слабоды, урочышчы, прадмесці, паселішчы людзей, аб"яднаных агульнымі прафесійнымі, этнічнымі або іншымі прыкметамі. Адсюль назвы іх: Камароўка, Весялоўка, Пярэспа, Ляхаў-

ка, Будзілава, Раманава, Старажоўка, Сляпянка, Добрыя Мыслі, Архірэйская слабада, Троіцкая гара, Доўгі Брод, Татарская слабада, Козырава, Тры Карчмы і інш.

Камароўка -- былая паўночна-ўсходняя ўскраіна Мінска /цяпер раён плошчы Я.Коласа, вуліц В.Харужай, Цнянскай, М.Гікала/. У назве захоўваецца памяць аб аднайменнай вёсцы, якая знаходзілася ў мінулым на гэтым месцы. Да 1812 г. вёска належала князям Радзівілам, пазней увайшла ў межы горада. Сумежная з гэтым раёнам тэрыторыя была забалочанай нізінай, дзе ў 1911 г. была адкрыта Балотная станцыя -- адзін з цэнтраў вывучэння і практычнага выкарыстання балот Расіі.

Пярэспа -- старая назва прыгараднай слабады, якая размяшчалася за Старажоўскай ускраінай паміж старадаўнімі паштовымі дарогамі на Вільнюс і Даўгінава /цяпер вуліца Даўмана, былы Старавіленскі тракт; і вуліца Чарвякова, былы Даўгінаўскі тракт/. У канцы XIX ст. Пярэспа злілася са Старажоўкай і ўвайшла ў межы горада. У 1941 г. ў раёне Пярэспы было створана Камсамольскае возера.

Татарская слабада -- /Татарскае прадмесце, Татарскі канец/ старая назва раёна ў паўночна-заходняй частцы Мінска /да 1980 г. раён Паркавай магістралі, цяпер праспект Машэрава/. Назва ўзнікла ў сувязі з пасяленнем тут у пачатку XVI ст. крымскіх татар. Да XVI ст. гэта частка горада называлася Пятніцкім канцом. Тут была Пятніцкая царква і Пятніцкая вуліца. Да рэвалюцыі слабада ўключала вуліцы: Вялікую Татарскую /цяпер вуліца Дзімітрава/, Малую Татарскую /вуліца Калгасная/ некалькі завулкаў і так званыя Татарскія агароды.

Ляхаўка -- былая рабочая ўскраіна ў паўднёвай частцы Мінска. Падзялялася на Верхнюю /раён вуліц Свярдлова і Ульянаўскай да ракі Свіслач/ і Ніжнюю Ляхаўку /раён вуліц Кастрычніцкай і Лодачнай/. У дакументах XIV ст. упамінаецца вёска Ляхавая Лука. У XVIII ст. на яе месцы існавала слабада Ляхаўка.

Старажоўка -- былая паўночная ўскраіна Мінска /цяпер раён вуліц Старажоўскай, Старавіленскай, часткова вуліц М.Горкага, Варвашэні, Даўмана/. Пры ўездзе ў горад з боку Старавіленскага і Даўгінаўскага трактаў знаходзілася вартавая застава, ад якой раён атрымаў назву.

Козырава -- старая назва пасёлка на былой паўднёвай ускраіне Мінска /цяпер раён вуліц Дакучаева, Вільямса і Фізкультурнага завулка/. У 1934 г. Козыраўская вуліца перайменавана ў Гогалеўскую.

Сляпянка -- былы прыгарад ва ўсходняй частцы Мінска /цяпер раён вуліц Сталетава, Запарожскай, Уральскай/. Назва ад працякаўшай ракі Слепні і вёскі Сляпянка, якія ўпамінаюцца ў дакументах ХУІ ст. На паўночным захадзе гэты раён межаваў з прадмесцем Доўгі Брод /цяпер раён вуліц Казлова і Батанічнай/.

Троіцкая гара /Траецкая гара, Троіцкае прадмесце/ -- старая назва часткі горада ў раёне плошчы Парыжскай камуны, вуліц Я.Купалы, М.Горкага, Э.Пашкевіч, Куйбышава, Чычэрына, Камуністычнай. Паселішча каля падножжа гары ўзнікла ў ХІІ--ХШ стст. У ХУ--ХУП стст. вакол паселішча ўзведзены крапасныя збудаванні з землянымі валамі і равамі. Мяркуюць, што назва "Троіцкая гара" ўзнікла ў ХУ ст. ад абароннага рэдута Святой Троіцы, які быў размешчаны каля Барысаўскай заставы /цяпер вуліца М.Горкага ад маста уздоўж 2-й клінічнай бальніцы і далей/. Троіцкае прадмесце злучалася з горадам мастом. З канца ХУІ ст. на гары знаходзіўся Троіцкі рынак /існаваў да 1935 г./. У 1937 г. на былым Троіцкім рынку пабудаваны Тэатр оперы і балета.

Залатая горка -- старая назва раёна былой паўночна-усходняй ускраіны Мінска /цяпер раён вуліц Радыстаў і Казлова/. У сярэдзіне XIX ст. месца гуляння жыхароў горада. З пачатку ХХ ст. назва "Залатая горка" не ўжываецца.

Лошыца -- назва былога прыгарада Мінска, які размяшчаўся па абодвух берагах ракі Свіслач пры ўпадзенні ў яе ракі Лошыцы /цяпер раён паміж камвольным камбінатам і жылымі раёнамі Серабранкі і Чыжоўкі/. Раён Лошыцы ў 1923 г. увайшоў у межы горада.

Верхні горад -- сфарміраваўся ў пачатку ХУІ ст. як новы цэнтр горада /цяпер раён плошчы Свабоды, вуліц Бакуніна, Герцэна, Гандлёвай, Музыкальнага завулка, Інтэрнацыянальнай, Камсамольскай, Рэвалюцыйнай, Нямігі/. З ХУІ ст. размяшчаўся Верхні рынак. Да збудавання Дома ўрада /1933/ Верхні горад

быў адміністрацыйным, гандлёвым і культурным цэнтрам Мінска.

Ніжні рынак( Стары рынак, Старое месца) ўзнік у XII--XIII стст. /цяпер раён плошчы 8 Сакавіка/. Як гандлёвы цэнтр горада існаваў да палавіны XIX ст.[1]

Некаторыя з былых назваў з"явіліся падставай для ўзнікнення назваў шматлікіх вуліц: Камароўская, Ляхаўская, Старажоўская, Дабрамысленская, Архірэйская, Троіцкая, Даўгабродская, Козыраўская і інш.

Першае ўпамінанне аб вуліцах Мінска адносіцца да пачатку XII ст. Адной з самых старых была вуліца Нямізская, якая ўзнікла ў старажытным горадзе побач з крэпасцю ўздоўж ракі Нямігі /вуліца атрымала назву ад назвы ракі Нямігі/[2].

У назвах старых вуліц знайшлі адлюстраванне назвы ўмацаваных пунктаў: Замкавая, Падзамкавая, Завальная /вуліца за валам, які акружаў старую частку горада/.

Многія вуліцы і асабліва завулкі атрымалі назвы ад цэркваў і манастыроў: Белацаркоўная, Казьма-Дзям"янаўская, Петрапаўлаўская, Благавешчанская, Праабражэнская, Екацярынінская, Пятніцкая, Саборная плошча, Успенская ; па імёнах службовых асоб, домаўласнікаў, купцоў, феадалаў: Захараўская, Грыгораўская, Іосіфаўская, Міхайлаўская, Мікалаеўская, Сяргееўская, Сямёнаўская, Тарасаўскі завулак, Басілеўскі завулак ; па сацыяльнай і саслоўна-маёмаснай прыналежнасці, а таксама па роду заняткаў насельніцтва: Стара-Мяшчанская, Нова-Мясніцкая, Кажовенная, Гарбарная, Шпалерная, Кузнечная, Бондараўскі завулак ; па нацыянальнай прыналежнасці: Татарская, Турэцкая, Яўрэйская, Кітайская, Венгерскі завулак, Мала-Татарская; па іх размяшчэнню і памеру: Бальшая, Мала-Георгіеўская, Ніжні рынак, Верхні рынак ; па асаблівасцях ландшафта, глебы, прыродных умоў: Пясчаная, Каменная, Ямная, Набярэжная, Цвёрдая, Балотная, Лясная, Падгорная, Горны завулак, Зарэчны тупік, Тарфяны завулак ; па размешчаных побач аб"ектах: Кладбішчанская, Затурэмны завулак, Шпітальная вуліца і завулак, Базарная, Банны завулак ; па назвах дарог, якія вядуць у тыя ці іншыя гарады, пасёлкі: Стара-Віленская, Ракаўская, Заслаўская, Слуцкая, Слонімская, Барысаўская, Магілёўская. Многія назвы вуліц звязаны з часавым значэннем /у склад назвы ўваходзяць словы ста-

1 Минск -- город-герой. Мн., 1976, с. 237--249.

2 Там жа, с. 237.

ры, новы/: Стара-Загарадная вуліца і завулак, Стара-Лагойская, Стара-Камароўская, Нова-Заслаўскі, Нова-Камароўскі завулкі, Нова-Замкавая, Нова-Раманаўская, Нова-Чырвоная, Нова-Каломенская вуліцы.

Назвы вуліц нярэдка абумоўлены характарам зялёных насаджэнняў: Дубовая, Садовая, Грушавая, Кустарная, Фруктовая, Лугавая, Агародны завулак.

Зараз у Мінску звыш 1500 вуліц, завулкаў, праездаў і г.д. Іх колькасць штогод павялічваецца. У назвах вуліц, праспектаў, плошчаў, бульвараў, паркаў увекавечаны імёны заснавальнікаў марксізма-ленінізма: вуліцы К.Маркса, Ф.Энгельса, У.І.Леніна, Ленінскі праспект, плошча У.І.Леніна.

Ёсць вуліцы, якія названы ў гонар рэвалюцыянераў, герояў грамадзянскай вайны, дзеячаў партыі і Савецкай дзяржавы: Будзённага, Варашылава, Куйбышава, Фрунзе, Свярдлова, Дзяржынскага, Пляханава, Жданава, Катоўскага, Урыцкага, Валадарскага, Гая, Чапаева, Пархоменкі, Шчорса, Цуліхава, В.Слуцкай, Лазо, Арцёма; партыйных і дзяржаўных дзеячаў Беларускай ССР: Кнорына, Ландэра, Адамовіча, Мяснікова, Чарвякова, Галадзеда, Чычэрына, Гікалы, Прытыцкага і інш.; Герояў Савецкага Саюза — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і герояў падполля, партызан: А. Кашавога, Маліміна, Рыбалкі, Чакаліна, Чарняхоўскага, Карастаянавай, Ю.Смірнова, Караткевіча, Шаблоўскага, Амельянюка, Зубачова, Д.Сердзіча, Матросава, Глаголева, Купрыянава, Жудро, Альшэўскага, Варвашэні, Казінца, Карбышава, Клумава, Кедышкі, Дразда, Хмялеўскага, Каржа, Волаха, Талаша, Марата Казея і інш.; вядомых гістарычных асоб, палкаводцаў: Балотнікава, Каліноўскага, Песцеля, Рылеева, Суворава, Кутузава, Нахімава, Ушакова і інш.; выдатных дзеячаў навукі: Сечанава, Палзунова, Ціміразева, Мічурына, Паўлава, Папова, Мендзялеева, Бехцерава, Філатава, Цыялкоўскага, Сталетава, Вільямса, Кулібіна, Вавілава, Пірагова і інш.; вядомых дзеячаў культуры і мастацтва, пісьменнікаў і паэтаў: Айвазоўскага, Васняцова, Рэпіна, Сярова, Масквіна, Станіслаўскага, Дастаеўскага, Бялінскага, Жукоўскага, Маякоўскага, Някрасава, Пушкіна, Караленкі, Кальцова, Талстога, Тургенева, М.Лынькова, Я.Купалы, Я.Коласа, К.Чорнага, З.Бядулі, П.Глебкі, Я.Маўра, І.Гурскага, М.Багдановіча, І.Ме-

лежа, Б.Платонава, Я.Цікоцкага, Ф.Скарыны і інш.

У назвах вуліц адлюстроўваюцца палітычныя, сацыяльныя, эканамічныя падзеі жыцця грамадства, з"явы сацыяльнага парадку. Некаторым вуліцам даюць новае найменаванне. У назвах шматлікіх вуліц і плошчаў нашай сталіцы ўвекавечана памяць аб падзеях слаўнай рэвалюцыйнай гісторыі Мінска — буйнейшага цэнтра вызваленчага руху, адлюстравана гісторыя нашага народа пасля рэвалюцыі, яго працоўныя подзвігі ў будаўніцтве новага грамадства. Акрамя таго, увекавечаны імёны актыўных удзельнікаў Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. і Вялікага Кастрычніка, імёны выдатных дзеячаў Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. Адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі некаторым старым назвам вуліц /якія адлюстроўвалі ўстарэлыя паняцці/ былі дадзены новыя, рэвалюцыйныя назвы: Камсамольская замест Багадзельнай, Чырвонасцяжная замест Белацаркоўнай, Савецкая замест Захараўская, Кастрычніцкая замест Крэшчэнскай, Інтэрнацыянальная замест Прэабражэнскай, Пралетарская замест Паліцэйскай, Камуністычная замест Юр"еўскай, Вызвалення замест Васкрэсенскай, плошча Парыжскай камуны замест Троіцкай, Луначарскі завулак замест Архірэйскага, К.Маркса замест Падгорнай, Энгельса замест Петрапаўлаўскай, Кірава замест Магазіннай, Валадарскага замест Серпухоўскай, Ульянаўская замест Ільінскай, Берсана замест Трубнай, Калініна замест Екацярынінскай, Фабрыцыуса замест Грыгор"еўскай.

У 30-я гады з"явілася назва вуліцы М.Горкага замест 2-ой Сяргееўскай, Украінскі завулак замест Безыменнага, Сялянская замест Нова-Мяшчанскай.

Найменаванне і перанайменаванне вуліц — працэс даволі працяглы. Дастаткова сказаць, што ў даведніку 1935 г. "Уся БССР" /Кароткая адрасна-даведачная кніга/ была вялікая колькасць безымянных завулкаў, якім потым далі назвы.

Сур"ёзныя разбурэнні былі нанесены вуліцам і завулкам Мінска ў час Вялікай Айчыннай вайны. Беларускі народ пры дапамозе брацкіх народаў Савецкага Саюза адбудаваў і значна пашырыў межы сталіцы. З"явіліся новыя вуліцы і новыя назвы. Быў перайменаваны рад старых вуліц: праспект Ракасоўскага замест Гарбарнай, вуліца Заслонава замест Германскай, вуліца

Гастэлы замест Лекарта і інш.

У 1958 г. Круглая плошча горада, на якой устаноўлены помнік-абеліск воінам Савецкай Арміі і партызанам Беларусі ў гонар Перамогі над фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, была перайменавана ў плошчу Перамогі.

Словаўтваральная структура назваў вуліц Мінска характарызуецца бязафіксным і афіксальнымі /суфіксальнымі, прэфіксальна-суфіксальнымі і прэфіксальнымі/ утварэннямі. Афіксальныя назвы найбольш шырока пададзены суфіксальнымі тыпамі. Прычым трэба адзначыць, што асноўным структурным тыпам назваў вуліц з"яўляюцца прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў, а таксама назоўнікі ў форме роднага склону.

У якасці словаўтваральных сродкаў выступае суфікс -ск- і яго вытворныя -оўск-, -аўск-, -ейск-, -інск-, -анск-, -янск-, -енск-,-цк- /375 назваў/: вуліцы Амурская, Ангарская, Брагінская, Быхаўская, Гомельская, Дзвінская, Камсамольская, Кобрынская, Магілёўская, Аўрораўская, Стаўбцоўская, Пуцейская, Міліцэйская, Надзеждзінская, Аршанская, Сакалянскі завулак, Гродзенская, Савецкая, Брэсцкая, Трасцянецкая, Студэнцкая і інш.

Большая частка назваў вуліц узыходзіць да ўласных назоўнікаў.

Суфікс -інск- малапрадуктыўны, таму што яго марфематычныя сувязі абмежаваны двума тыпамі асноў: асновамі слоў, якія абазначаюць жаночыя імёны /Варварынскі завулак/ і геаграфічныя аб"екты /Дубровінская вуліца/.

Вельмі прадуктыўнымі з"яўляюцца ўтварэнні з суфіксам -н- /200 назваў/, які выражае розныя адносіны да прадметаў: вуліцы Авангардная, Бібліятэчная, Вакзальная, Вясенняя, Гаражная, Зімняя, Усходняя і завулкі Бальнічны, Бетонны, Грыбны, Дачны, Канатны, Ягадны і інш.

Адзначаецца прадуктыўнасць тапонімаў з суфіксамі -ав-, -яв-, -ов-, -ёв- /136 назваў/: вуліцы Кальцавая, Ключавая, Паркавая, Парніковая, Палявая, Браняві, Вайсковы, Вішнёвы, Кармавы завулкі і інш.

Малапрадуктыўнымі трэба лічыць назвы вуліц з суфіксамі -ан-, -ян-, -енн- : Пясчаная, Саломенная, Тарфяны і Казармены завулкі ; -іўн-, -ыўн- : Меліяратыўная, Прагрэсіўная, Спар-

тыўны завулак ; -альн-: Музыкальны завулак, Цэнтральная вуліца. Большая частка назваў вуліц з суфіксам -н- і яго вытворнымі ўзыходзіць да агульных назоўнікаў.

Прыметнікі-тапонімы субстантывіруюцца, пераходзяць у назоўнікі. Замацоўваецца форма аднаго роду, які вызначаецца родам наменклатурнага, агульнага слова: завулак Тыражны, вуліца Суражская, шаша Слуцкая, праспект Партызанскі, праезд Бетонны, тупік Магілёўскі, тракт Смаргаўскі, кальцо Камароўскае, плошча Цэнтральная.

Прадуктыўнымі з"яўляюцца назвы вуліц, якія ўжываюцца ў форме роднага склону назоўнікаў. У аснове іх ляжаць прозвішчы з суфіксам -ав-, -ов- ,-ев- /130 назваў/: вуліцы Пуліхава, Платонава, Грыбаедава, Сурганава, Грэкава , Смалячкова, Бумажкова, Ляўкова, Дакучаева, Ванеева, Дзяжнёва і інш.; з суфіксам -ін- /-ын-/ /159 назваў/: вуліцы Фаміна, Крапоткіна, Кнорына, Кабушкіна, Масквіна, Нагіна, Папаніна і інш. ; з суфіксам -ск- /35 назваў/: вуліцы Гурскага, Славінскага, Астроўскага, Пажарскага, Хмялеўскага і інш. ; з суфіксам -енк- /18 назваў/: вуліцы Асіпенкі, Герасіменкі, Мірашнічэнкі, Пархоменкі, Шаўчэнкі і інш.; з суфіксам -іч- /13 назваў/: вуліцы Матусевіча, Багдановіча, Крыловіча, Дарашэвіча, Убарэвіча, Д.Сердзіча, Караткевіча, Э.Пашкевіч і інш. ; з суфіксам -цк- /7 назваў/: вуліцы Прытыцкага, Цікоцкага, Карыцкага, Урыцкага, Б.Хмяльніцкага ; бессуфіксальныя: вуліцы Арцёма, Гало, Гая, Дразда, Жудро, Гастэлы, Каржа.

Некалькі назваў вуліц мае форму роднага склону множнага ліку: вуліцы Артылерыстаў, Будаўнікоў, Дзекабрыстаў, Касманаўтаў, Машыністаў, Металістаў.

Назвы вуліц у форме множнага ліку тыпу Азярышчы, Грабелькі, Дворышчы, Карзюкі, Крупцы, Маляўкі, Шэпічы перайшлі з прыгараднай сельскай тапаніміі, а ў некаторых выпадках і цяпер абазначаюць населеныя пункты, якія ўвайшлі ў склад горада: Ліпкі, Навінкі, Шабаны.

Адзначаецца малапрадуктыўнасць прэфіксальна-суфіксальнага спосабу ўтварэння: Набярэжная, Нагорная, Падлесная, Падгорная, Прывакзальная вуліцы, а таксама субстантыўных утварэнняў тыпу Крывая, Малая, Новая, Прамая, Сухая, Ціхая.

Прадуктыўнымі з"яўляюцца назвы вуліц, якія складаюцца з некалькіх асноў /88 назваў/: вуліцы Волгаданская, Вадазаборная, Чырвонаслабадская, Новаўфімская, Зеленалугская, Навасельская, Старaслабодская, Старабарысаўскі тракт і інш.

Ужываюцца назвы вуліц, якія складаюцца са словазлучэнняў: вуліца Савецкіх пагранічнікаў, Чырвоная слабада, Вялікая Слепня.

Шырока выкарыстоўваюцца назвы вуліц і завулкаў з парадкавым лічэбнікам: 2-я Шостая лінія, 3-я Лінія, 2-я Лошыца, 3-га Верасня /вуліцы/, 1-ы, 2-і, 3-і Мажайскі, 1-ы, 2-і Несцерава, 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы Абухаўскі, 1-ы, 2-і, 3-і Кароткі /завулкі/. Назвы з парадкавым лічэбнікам звязаны з планавым будаўніцтвам. Калі будаваўся раён, вуліцы для прастаты былі ўмоўна абазначаны нумарамі. Паступова нумары за імі замацаваліся і ператварыліся ў іх сталыя назвы /напрыклад, ёсць восем Арлоўскіх завулкаў/.

Абрэвіятуры таксама сустракаюцца ў назвах вуліц, але іх мала: Фізкультурная вуліца і завулак, Рабкораўская вуліца і завулак, Асаавіяхімаўская, Мопраўская, Камсамольская вуліцы, Вузаўскі завулак, ТЭЦ-3 праезд. Абрэвіятурныя назвы звязаны з эпохай. Несумненна, вуліца Камсамольская магла ўзнікнуць толькі пасля Вялікага Кастрычніка, г. зн. у савецкі час.

Мінск хутка пашырае свае межы ва ўсе бакі. Трыццаць гадоў назад у Мінску было ўсяго тры раёны, а цяпер — дзевяць. Будуюцца новыя мікрараёны, узнікаюць новыя вуліцы. Масавае найменаванне новых вуліц і перайменаванне старых стала ў апошні час актуальнай, важнай і вострай праблемай. У гэтай цяжкай справе многа спрэчнага, нямала няўдач, якія выклікаюць нараканні. Часам па няведанню замахваюцца на назвы, якія трэба было б зберагчы. Іншы раз новая назва не лепшая за старую. Пры найменаванні і перайменаванні вуліц трэба абапірацца на навуковыя веды, народныя традыцыі, тонкае моўнае чуццё, уменне прадбачыць вынікі кожнага імятворчага акта.

У кожнага горада ёсць нейкая свая асаблівасць, уласцівая толькі яму. У Мінску ўрочышчы, прадмесці Ляхаўка, Доўгі Брод, Старажоўка, Весялоўка з далёкай старажытнасці нясуць нашаму часу свае гістарычныя або этнаграфічныя весткі. Падобныя на-

звы растварающца ў горадзе, забываюцца, знікаюць. Паступова яны падмяняюцца назвамі мікрараёнаў — раёнамі вуліц Арлоўскай, Харкаўскай, Адоеўскага, Ангарскай, Усход. Вельмі шкада даўнейшых назваў. У Маскве, напрыклад, Сакольнікі, Чаромушкі, Лужнікі засталіся, і ніхто не падумае, каб іх замяніць чымнебудзь навейшым. Аб гэтым з вялікай заклапочанасцю пісаў Янка Скрыган у артыкуле "Старыя назвы" /Вячэрні Мінск, 12 красавіка 1976 г./. Ён раіў берагчы старажытныя назвы, якія ўпісаны ў гісторыю горада, як Старажоўка, Няміга.

Трэба пераймяноўваць толькі тое, што выклікана неабходнасцю. У горадзе многа вуліц і завулкаў, якія носяць аднолькавыя назвы, што звязана з вялікімі цяжкасцямі пры іх адшуканні. Так, вуліц Шчорса — 5, Шырокіх — 2, Пржавальскага — 2, Радыятарных — 2, Землямерных — 2, Уманскіх — 2, Базісных — 2, Арктычных — 2, Пасялковых — 2, Зялёных — 2, Чыгуначных — 8, Пуцеправодных — 8, Смаргаўскіх — 5, Ізмайлаўскіх — 4 і г.д. Такая практыка найменавання стварае вялікую блытаніну не толькі для гасцей сталіцы, але і для саміх мінчан, асабліва для ўрачоў хуткай дапамогі, паштальёнаў, вадзіцеляў таксі.

Сустракаюцца няўдалыя доўгія назвы, а таксама назвы, якія цяжка вымавіць.

Пажадана даваць такія назвы, якія б падыходзілі да гэтага горада, і не даваць назвы тыпу Таёжная, Арктычная, Снежны завулак, якія хутчэй падыходзяць для паўночных гарадоў. Вуліца Цэнтральная павінна знаходзіцца ў цэнтры горада, а не на ўскраіне /у раёне трактарнага завода/, у той час як Цэнтральная плошча размешчана ў цэнтры горада. У Мінску яшчэ сустракаецца назва Безымённая вуліца. Уносяць блытаніну і такія назвы, як Партызанскі праспект і Партызанская вуліца.

Трэба пазбягаць і такіх назваў, якія адрозніваюцца па гучанню ў рускай і беларускай мовах: Працоўная /Трудовая/, Чырвоная /Красная/, Чыгуначная /Железнодорожная/, Заходняя /Западная/, Усходняя /Восточная/, Паўночны завулак /Северный/, Паўднёвы завулак /Южный/, Паўднёва-Заходняя /Юго-Западная/, Сяброўская /Товарищеская/, Прыгожая /Красивая/, Цагляны завулак /Кирпичный/, Нафтавая /Нефтяная/, вуліца Будаўнікоў

/Строителей/ і інш.

Правільна былі названы вуліцы па тых вялікіх аб"ектах, якія размяшчаюцца на гэтых вуліцах: Акадэмічная /Акадэмія навук БССР/, Прывакзальная /вакзал/, Трактарная /трактарны завод/, Батанічная /Батанічны сад/, а таксама па назвах былых урочышчаў, пасёлкаў: Уручская, Лошыцкая, Серабранская, Чыжоўская.

У 1978 г. выканком Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў рашыў замяніць старыя назвы вуліц імёнамі выдатных партыйных, савецкіх дзеячаў і праслаўленых палкаводцаў, а таксама даць назвы праектаваным вуліцам. Былой вуліцы Арлоўскай прысвоена імя К.Я. Варашылава, праектаванай вуліцы 2-ое Кальцо — праспект імя Г.К. Жукава, праектаванай вуліцы /ад вуліцы Сурганава да вуліцы Шырокай/ — Л.І. Бяды. Былая Энергетычная называецца вуліцай М.Й.Тухачэўскага, вуліца 3-е Кальцо — С.К. Цімашэнкі і інш.

Такім чынам, у найменаваннях-тапонімах Мінска знайшла адбіццё многавяковая гісторыя горада.

В. І. Марозаў

# СЛЯДЫ ВАЙНЫ Ў ТАПАНІМІІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Наш народ вельмі цэніць усё, што звязана з гераічным мінулым, таму шмат слаўных падзей знайшлі сваё адлюстраванне ў назвах населеных пунктаў, калгасаў, дробных геаграфічных аб"ектаў. У артыкуле падаюцца уласныя назвы, якія ўзніклі на Гродзеншчыне ў сувязі з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны і папярэдніх войн.

Пераможнае заканчэнне Айчыннай вайны прынесла доўгачаканую радасць, а слова Перамо́га стала дарагім кожнаму савецкаму чалавеку. Таму яно з"явілася ўтваральнай базай для многіх уласных назваў. Імя "Перамога" носяць калгасы ў Астравецкім, Ашмянскім, Карэліцкім, Шчучынскім, Слонімскім, Іўеўскім, Зэльвенскім, Дзятлаўскім, Гродзенскім і Берастаўіцкім р-нах, саўгас у Ашмянскім р-не, Ваўкавыскі цэментавы завод, вёска ў Навагрудскім р-не /да 1969 года Ваўкарэзь/, газета -- орган Дзятлаўскага РК КПБ і райвыканкома. "Сцяг перамогі" -- так названы калгасы ў Смаргонскім і Карэліцкім р-нах. У Слонімскім раёне саўгас назвалі "Пераможац". У многіх гарадах і пасёлках вобласці ёсць вуліца "Перамогі" /Ліда, Свіслач, Ваўкавыск, Дзятлава, Слонім, Гродна, г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на, в. Пашкавічы Воранаўскага р-на і інш./, у г. Масты -- вуліца "30 гадоў перамогі", у Ваўкавыску -- вуліца "9 Мая".

Назвы "Перамога", "Пераможац", "Пераможная", "Пераможнае" атрымалі калгасы, саўгасы, сёлы, кінатэатры і ў іншых аблас-

цях Беларусі.

Чырвоная Армія у 1939 г. вызваліла працоўных Прынёманскага краю ад буржуазна-памешчыцкага прыгнёту, а у 1944 г.— ад фашысцкай навалы. Удзячныя за гэта жыхары Гродзеншчыны увекавечылі ранейшую назву нашай арміі у назве цэлага рада вуліц. "Чырвонаармейская вуліца" ёсць у 15 /з 17/ раённых цэнтрах вобласці, у г. Скідаль, у г.п. Рось Ваўкавыскага р-на, у г.п. Наваельня Дзятлаўскага р-на і іншых населеных пунктах.

Многія вуліцы і іншыя аб"екты атрымалі назвы розных родаў войск Узброеных Сіл СССР: вуліца Танкістаў — у гг. Навагрудак, Слонім, Смаргонь і Масты; Артылерыйская вуліца у г. Ліда, Чырвонафлоцкая вуліца у гг. Гродна, Масты, Чырвонагвардзейская вуліца у г. Ліда, Гвардзейская вуліца у г.п. Рось Ваўкавыскага р-на, Авіяцыйная вуліца у г. Ліда, вуліца Зенітчыкаў у г. Ваўкавыск, вуліца Пагранічнікаў у г.п. Свіслач, вуліца і плошча Савецкіх пагранічнікаў у г. Гродна, вуліца Гаспітальная у г. Ваўкавыск, Асаавіяхімаўская вуліца у г. Ліда, вуліца 129 -й Арлоўскай дывізіі у г. Ваўкавыск, "Гвардыя" — калгасы у Воранаўскім, Бераставіцкім, Гродзенскім і Дзятлаўскім р-нах і інш.

Памяць аб краснадонскіх маладагвардзейцах захоўваецца на Гродзеншчыне у такіх назвах, як "Маладая гвардыя" — назвы калгасаў у Астравецкім, Зэльвенскім, Іўеўскім і Слонімскім р-нах; вуліца Краснадонцаў у г. Ліда, вуліца Алега Кашавога у гг. Гродна, Ліда, г.п. Зэльва.

Аб шырокім развіцці партызанскага руху у 1941—1944 гг. у Прынёманскім краі гавораць назвы калгасаў: "Чырвоны партызан" у Смаргонскім, Слонімскім і Мастоўскім р-нах, Імя Чырвоных партызан у Карэліцкім р-не; назвы вёсак: Партызанская у Гродзенскім р-не /раней — Пузавічы/, Партызанаўка у Слонімскім р-не /да 1964 г. — Пляшкі/, Партызанская, Гасцініца, Партызанская сталовая, якія замацаваліся за вёскай Сабалькі Свіслацкага р-на з часоў Вялікай Айчыннай вайны і сведчаць аб актыўнай дапамозе мясцовага насельніцтва у барацьбе партызан супраць нямецкіх захопнікаў; Партызанскі хутар каля вёскі Гнезна Ваўкавыскага р-на, які захоўваюць як помнік, бо

"з їм звязана нямала яскравых старонак партызанскай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі"[1]; назвы вуліц: Партызанская у гг. Ліда, Скідаль, г.п. Астравец, Вялікая Бераставіца, у вёсках Вераскава Навагрудскага р-на, Руда-Яварская Дзятлаўскага р-на, Вострава Зэльвенскага р-на і інш., Чырвоных партызан у г. Слонім, Партызаншчына /частка вёскі Буцілы Лідскага р-на/.

Мясцовыя людзі звычайна ведалі пра размяшчэнні партызан, аб іх сцежках-дарожках, таму за шматлікімі геаграфічнымі мікрааб"ектамі замацаваліся "партызанскія" назвы, напрыклад: Стаянка партызан — частка лесу у раёне вёскі Вераскава Навагрудскага р-на, Партызанскі пераезд — на рацэ каля вёскі Задвор"е Слонімскага р-на, Партызанская ніва — месца, дзе размяшчаўся партызанскі лагер, недалёка ад вёскі Даугялішкі Воранаўскага р-на, Партызанская стаянка — частка лесу каля вёскі Чырвонае Сяло Зэльвенскага р-на, Партызанскі Бродзік — на рацэ недалёка ад вёскі Дубна Мастоўскага р-на, Партызанская палянка — каля вёскі Ягаднава Смаргонскага р-на, Партызанскія буды — месца стаянкі каля вёскі Ханявічы Свіслацкага р-на, Партызанскія копы — частка лесу, дзе жылі партызаны, каля вёскі Мацёшыцы Навагрудскага р-на, Партызацка поле — участак каля лесу, у якім размяшчаліся партызаны, недалёка ад вёскі Сугакі Ваўкавыскага р-на, каля Партызана-2 — поле вёскі Мінакі Карэліцкага р-на, Чырвоная сцежка — сцежка, па якой хадзілі партызаны да крыніцы па ваду, каля вёскі Навасёлкі Слонімскага р-на.

Беларускі народ любоўна захоўвае памяць і аб загінуўшых партызанах, даглядае месцы іх пахавання. Партызанская магіла — месца, дзе пахаваны невядомы партызан /Талкунцы Воранаўскага р-на/, Партызанскія могілкі — палянка у лесе, дзе пахаваны партызаны /Мацёшыцы Навагрудскага р-на/, Партызанскі могільнік /Цацкі Лідскага р-на/.

Такія ж сляды партызанскай барацьбы засталіся і ў геаграфічных назвах іншых абласцей Беларусі. У 1941—1944 гг. многія беларускія вёскі з"яўляліся фактычнымі партызанскімі цэнтрамі і насілі назвы Партызанскіх сталіц. Напрыклад, Партызанская сталіца — так называлі ў час вайны невялікую вёску

[1] Гродненская правда, 18 кастрычніка 1975 г.

Калена Іванаўскага р-на Брэсцкай вобласці, якая знаходзіцца на мяжы Беларусі і Украіны. У маі 1943 г. у ёй быў выбран падпольны аб"яднаны беларуска-украінскі сельсавет, які працаваў пад аховай партызан і дапамагаў ім[2]. У розных абласцях у гонар партызан названы вёскі: Партызанка — у Чэрвенскім р-не /раней — Жабаўка/, Партызанаўка — у Лёзненскім р-не /раней — Жыраспёры/, Партызанская — у Хойніцкім р-не, /раней — Аўраамаўская/, Чырвоны партызан — у Добрушскім р-не /раней — Плутоўка/, Партызаны — у Рагачоўскім р-не /раней — Сіпораўка/, Партызаны — у Сенненскім р-не /раней — Тарбінка/[3]. А вёска Фальбаркова Верхнядзвінскага р-на яшчэ ў 1938 г. названа Партызанская, што сведчыць аб развіцці партызанскага руху ў гэтай мясцовасці і ў час грамадзянскай вайны.

Добрыя прыклады ў гэтым напрамку падала і сталіца нашай рэспублікі. У Мінску пасля апошняй вайны адзін з кінатэатраў назвалі "Партызан" і адну з найбольшых і найпрыгажэйшых вуліц — Партызанскім праспектам.

Тры гады /канец чэрвеня 1941 — пачатак ліпеня 1944 г./ працягвалася нямецка-фашысцкая акупацыя Гродзенскай вобласці. Фашыстам не ўдалося зламаць баявы дух нашага народа. У выніку баявых дзеянняў партызан і падпольшчыкаў днём і ноччу гарэла зямля пад іх кованымі ботамі. Яны ўпадалі ў шаленства ад спасцігаўшых іх няўдач на фронце. Сваю злосць яны па-зверску вылівалі на мірнае мясцовае насельніцтва. У вобласці гітлераўцы спалілі многія дзесяткі вёсак разам з іх жыхарамі, учынілі шмат іншых крывавых злачынстваў. І гэтыя іх дзеянні знайшлі свой адбітак у мікратапонімах. Да ліку іх адносіцца назва Амба — яма /Мілошавічы Слонімскага р-на/, у якой фашысты расстрэльвалі мясцовых жыхароў. Адзін дзядуля па дарозе на расстрэл сказаў на развітанне аднасяльчанам: "Амба!", г. зн. канец, ратунку няма. Так гэта слова стала ўласнай назвай урочышча, дзе было учынена крывавае злачынства. Анала-

---

[2] Звязда, 6 лістапада 1975 г.

[3] Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974, с. 439—446.

гічная тэматыка знейшла адлюстраванне ў мікратапонімах: Сям'я — магіла, у якой пахавана сям"я, расстраляная гітлераўцамі за сувязь з партызанамі /Навасёлкі Слонімскага р-на/; Міннае поле — участак поля, замініраваны пры адступленні фашыстамі, на якім падарваліся двое мясцовых жыхароў /Карскі Ваўкавыскага р-на/; Агарак — дрэва-дуб, які абгарэў, калі акупанты спалілі хату селяніна /Мілошавічы Слонімскага р-на/; Нямчура — частка лесу, у якім пры адступленні хаваліся гітлераўцы /Быстрыца Астравецкага р-на/; Гета — частка вёскі, дзе ў час акупацыі было гета /Накрышкі Дзятлаўскага р-на/.

Сведкамі ваенных падзей з"яўляюцца і такія мікратапонімы, як Акопы — поле /Лядскі сельсавет Шчучынскага р-на/, Вайшнарышскія акопы /Шчапанавічы Ашмянскага р-на/, Акопная гара — гара /Яскелі Ашмянскага р-на/, Пад акопамі — паша /Дашкаўцы Мастоўскага р-на/, Бліндажы — горы /Міцкевічы Гродзенскага р-на/, Бліндажэ — поле /Чашчаўляны Гродзенскага р-на/, Бліндаж — частка арэшніку /Каменная Русота Гродзенскага р-на/; Батарэі — сенажаць /Гарабнікі Навагрудскага р-на/; Снарадніца — частка ракі Сэрвач, дзе пасля вайны знаходзілі снарады /Асташын Карэліцкага р-на/, і інш.

У г. Гродна ёсць два жылыя мікраранёны, якія называюцца Фарты-1, Фарты-2. Пабудаваны гэтыя мікрараёны на месцы былых ваенных умацаванняў.

У час вайны гінулі не толькі людзі, але і жывёла, гарэлі не толькі гарады і вёскі, але і лясы, збажына. Вайна знішчала палі, лугі, сенажаці. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў мікратапонімах: Выгары — малады лес з ямай-варонкай, які вырас на месцы ранейшага, што згарэў у час Вялікай Айчыннай вайны /Першамайская Шчучынскага р-на/. З ваеннымі падзеямі звязана паходжанне назваў Лётчыкавы выгары — сенажаць /Шасталі Смаргонскага р-на/, Пабітае поле, Пабіты хвойнік /Масушыны Свіслацкага р-на/, Пабоішча — лес і гара /Лесніца Гродзенскага р-на/, Асмальнікі — лес /Дзямянаўцы Дзятлаўскага р-на/, Пабоева — паша /Рагозніца Мастоўскага р-на/, Стрэльбішча — поле, па якім у час першай сусветнай вайны праходзіў фронт /Капляя Смаргонскага р-на/, Стрэльбішча — участак лесу, на якім у час першай сусветнай вайны быў сал-

дацкі цір /Кушляны Смаргонскага р-на/.

Багата назваў дало слова бомба: Бомба -- луг, на якім узарвалася ў час вайны авіябомба і пакінула след /Верхполле Гродзенскага і Забагонні Зэльвенскага р-наў/, Бомба -- маленькае возера ў варонцы ад авіябомбы /Верхполле Гродзенскага р-на/, Бамбіско -- участак лесу, які вайной бамбілі /Новы Двор Свіслацкага р-на/, Бамбавыя ямы -- паляна /Лунна Мастоўскага р-на/, Бамбавая яма /Дубароўшчына Дзятлаўскага р-на/, Бомбін пераезд -- месца, каля якога ўпала бомба /Заборцы Лідскага р-на/, Бомбаў склад -- лес, у якім пасля вайны знаходзяць шмат бомбаў, што не ўзарваліся /Лунна Мастоўскага р-на/, Маркава бомба -- яма-гліншчча на месцы варонкі ад узрыву бомбы, дзе зараз капаюць гліну /Пасутычы Зэльвенскага р-на/.

І ў час першай сусветнай вайны, і ў час Вялікай Айчыннай вайны па Гродзеншчыне прайшлі нямецкія заваёўнікі. А ў народзе іх называлі проста немцы. Слова "нямецкі" лягло ў аснову многіх назваў мікрааб"ектаў: Нямецкія могілкі /Мікелеўшчына Мастоўскага р-на/, Нямецкі могільнік /Сніпаўшчына Ашмянскага р-на/, Нямецкі могільнік /з першай сусветнай вайны; Панара Смаргонскага р-на/, Нямецкія могілкі /Залесаўцы Навагрудскага р-на/, Нямецкі могільнік /Нача Воранаўскага р-на/ і інш. Некаторыя з падобных мікрааб"ектаў атрымалі назву без слова нямецкі: Чорныя крыжы -- частка могілак, пахаваны немцы /Берішты Шчучынскага р-на/, Моглiцы -- нямецкія могілкі /Малыя Эйсманты Бераставіцкага р-на/, Моглiцы -- дарога, каля якой пахаваны немцы /Хілякі Бераставіцкага р-на/, Нямецкая дарога -- высечка ў лесе, па якой фашысты вывозілі лес /Якубавічы Шчучынскага р-на/, Нямецкая дарога -- зроблена ў час нямецкай акупацыі /Стукалы Мастоўскага р-на/, Нямецкі лес -- у ім стаялі немцы /Забарцы Ашмянскага р-на/, Нямецкая дарога /Трахімовічы Дзятлаўскага р-на/, Нямецкія капцы /Фалькавічы Лідскага р-на/.

Такім чынам, у тапаніміі Гродзеншчыны адлюстраваліся шматлікія падзеі і факты войн. Многія уласныя назвы з"яўляюцца народнымі моўнымі помнікамі гераічнай барацьбе і яе барацьбітам за свабоду супраць азвярэлых захопнікаў. Такія тапонімы

можна назваць люстрам гісторыі, бо яны нясуць на сабе адбітак часу і месца свайго ўзнікнення[4].

[4] Суперанская А.В. Имя и эпоха /К постановке проблемы/.— Историческая ономастика. М., 1977, с. 24, 26.

Г.У. Арашонкава

## ПОЛЬСКІЯ ЭЛЕМЕНТЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ МІКРАТАПАНІМІІ

Як і ў апелятыўнай лексіцы, у беларускай мікратапаніміі, пераважна ў мікратапаніміі заходняй часткі рэспублікі, выдзяляецца частка назваў, у якой у пэўнай ступені адлюстраваны вынікі ці больш старажытных, ці пазнейшых беларуска-польскіх моўных кантактаў. Мікратапанімія дае дадатковы матэрыял для вырашэння некаторых пытанняў моўных сувязей: выяўленне лексічнага складу паланізмаў у розныя перыяды, шляхі і спосабы засваення паланізмаў, ступень іх адаптацыі на беларускай моўнай глебе, тэрытарыяльнае распаўсюджанне польскіх элементаў у беларускіх народных гаворках і некаторыя інш.[1]

Мікратапонімы, якія па той ці іншай прыкмеце адносім да паланізмаў, можна падзяліць на тры групы: мікратапонімы, якія з"яўляюцца ўласна лексічнымі паланізмамі; мікратапонімы з польскімі словаўтваральнымі афіксамі; мікратапонімы з элементамі польскай фанетыкі.

Да мікратапонімаў, якія з"яўляюцца лексічнымі паланізмамі, адносяцца:

АЛЯНДЭ́РНЯ ж. лес Нав. Параўн. польск. гіст. holenderпia 'сяліба, фальварак галандца, які займаўся развядзеннем жывёлы; 'хлеў, кароўнік, часцей у маёнтку' / SJP II/. Адсутнасць пачатковага г. адпаведна польскаму h, магчыма, сведчыць аб запазычанні з польск. дыял. olendernia 'т.с.' /WSJP II/.

У заходніх беларускіх гаворках адпадзенне пачатковага г

---

[1] Артыкул напісаны на падставе матэрыялаў, змешчаных у кнізе "Мікратапанімія Беларусі /Матэрыялы/". Мн., 1974, а таксама сабраных самім аўтарам.

перад галосным -- з"ява даволі пашыраная: алоўка, алўб /Астр., Сцяшковіч, 27/, аспадыня /Маст., Сцяшковіч, 35/, актар /Вал., МСММГ, 17/, арох, алава, аспадар, усь і інш. /Вор./, актар /Дзятл., Нав./. Аналагічную з"яву адзначае Т.Здацэвіч у польскіх гаворках на мяжы з беларускімі і тлумачыць яе як вынік адштурхоўвання ад беларускага вымаўлення тыпу гадзін /адзін/, гарол, гавечка, гуліца[2].

ВЕЛЬКА ПОЛЕ поле Іўеу., ВЕЛЬКАЯ ПОПЛАВА сенажаць Жал., ЛУГ ВЕЛЬКІ возера Маст., СУЛА ВЕЛЬКАЯ сенажаць Стаўб. Складаныя мікратапонімы з прыметнікам велькі ≤ польск. wielki 'вялікі'. У беларускай пісьменнасці адзначаецца з ХУІ ст. /Булыка, 59/.

Як было адзначана намі, паланізм велькі ў якасці апелятыва ўваходзіць у актыўны слоўнікавы запас беларускіх гаворак заходняй часткі тэрыторыі -- Гродзенская вобл., заходнія раёны Мінскай вобл.[3]

ВЫДМА ж. поле пясчанае Бяроз. Параўн. польск. wydma, wydmisko 'месцы, засыпаныя лятучым пяском, мясцовасць, якую з усіх бакоў абвяваюць вятры' / WSJP VII/.

ГАЕЎКА ж. лес Ашм.; сядзіба лесніка Стаўб. Параўн. польск. gajówka 'леснічоўка' /SJP II/. Як апелятыў адзначаны ў Шчучынскім р-не /Лепешаў, 41/. Пры адаптацыі суфікс -ówk-a > -оўк-а.

ЗА РЫНАЙ частка рэчкі, КАЛЯ РЫНЫ сенажаць Нясв. Польск. літ. rynna, уст. ryna 'драўлянае карыта для адводу вады' /SJP VI/. Беларуска-рускі слоўнік /1962/ падае слова рына ў значэнні 'вадасцёк' з паметай 'абласное'. Рына ўжываецца ў беларускіх гаворках у значэнні 'драўлянае карыта для адводу вады з сажалкі', 'труба для адводу дажджавой вады са страхі' /Нясв./, 'канава' /Свісл., Сцяшковіч, 431/. У беларускай пісьменнасці рина, рынна, рына 'жолаб, латок' адзначаецца з канца ХУІІ ст. /Булыка, 283/.

---

[2] Zdancewicz Tadeusz. Wpływy białoruskie w polskich gwarach pod Sejnami, Prace Komisji językoznawczej, II /2/. Poznań, 1966, с. 73.

[3] Беларуска-польскія ізалексы /Матэрыялы для абмеркавання/. Мн., 1975, с. 342.

ЗА СТРАЖНІ́ЦАЙ лес Стаўб. Польск. strażnica 'вайсковая старажавая вышка' /WSJP VI/.

КОЛЕ́ЙКА ж. дарога Лун. Інфарматар адзначыў, што некалі была тут "колейка", вазілі торф на ваганетках. Параўн. польск. kolejka 'вузкакалейная чыгунка' /SJP III/.

ЛО́НКА ж.: ВЯЛІ́КАЯ ЛО́НКА сенажаць, ДО́ЎГАЯ ЛО́НКА сенажаць Брасл. Польск. łąka 'луг' /WSJP II/.

МЕ́СЬКІ прым.: МЕ́СЬКАЯ ГАРА́ гара недалёка ад Рубяжэвіч, якія лічыліся мястэчкам Стаўб., МЕ́СЬКА ДАРО́ГА дарога Стаўб. Відаць, дарога, якая вяла ў мястэчка, МЕ́СЬКАЕ ПО́ЛЕ поле Бярэз., МЕ́СЬКІЯ мн. сенажаць Віл. На нашу думку, гэта поле, участкі сенажаці, якія належалі местачкоўцам. Параўн. польск. miejski 'гарадскі'. Пры засваенні беларускай мовай злучэнне jsk > ськ. У беларускай пісьменнасці адзначаецца з ХУІ ст. /Булыка, 200/. Таксама меский 'гарадскі' /Насовіч/. Захавалася толькі ў мікратапаніміі. Як апелятыў у сучасных беларускіх гаворках не адзначаецца.

НОРТ м. балота Нав.; сенажаць Стаўб.; яма ў рэчцы Стаўб., Іўеў. Параўн. польск. літ. nurt 'цячэнне ў рэчцы, якое рухаецца з большай хуткасцю, чым астатняя вада' /SJP IV/, старапольск. nort 'т.с.' /WSJP III/. На жаль, не зусім ясна, ці слова норт, зафіксаванае на тэрыторыі Беларусі як назва ямы ў рэчцы, з'яўляецца мікратапонімам ці апелятывам. Але і ў адным і ў другім выпадку яно ўзыходзіць да старапольск. nort у значэнні 'цячэнне ў рэчцы, якое рухаецца з большай хуткасцю, чым астатняя вада'. Таму можна меркаваць, што гэта даўняе запазычанне.

У аснову назвы мікратапонімаў, якія абазначаюць сенажаць, балота, магчыма, пакладзена дыял. польск. nort, nord, nórt 'вугал, край, мяжа чаго-н.' /WSJP IV/, г.зн. сенажаць, балота, якія знаходзіліся на краі, у канцы чаго-н. Ф.Слаўскі каш. nort, nurt 'вугал, край, канец чаго-н.; верх, грэбень гары; мыс, вузкі паўвостраў' узводзіць да прасл. *rъtъ [4].

У даным выпадку можна гаварыць аб вусным шляху запазычання з польскіх дыялектаў.

[4] Sławski F. Narty. Ligua viget. Commentationes slavicae in honorem V.Kiparsky. Helsinki, 1964, c. 122.

Тапонімы тыпу Нарт, Нарты /цяпер, як правіла, з ǫ "pochy-lonym" Нурт, Нурты/ распаўсюджаны на тэрыторыі Велькапольскі, відаць, і ўсёй Польшчы, а таксама за яе межамі /Нарты -- назва трох вёсак на тэрыторыі Літоўскай ССР/ прыкладна з XУ ст.[5] М.Карнашэўскі выказаў думку, што тапонімы і мікратапонімы тыпу Nart узыходзяць да апелятыва nart, narty, якi абазначаў некалі пэўны рэльеф мясцовасці, хутчэй за ўсё прадаўгаватай формы ўзвышша або хвалістую мясцовасць з невялікімі ўзгоркамі[6].

ПАРЦЭЛЯ ж. поле і сенажаць Стаўб. Параўн. польск. parcela 'участак зямлі, лесу, які прадаецца'/WSJP IV/,'невялікі ўчастак зямлі, выдзелены з большага' /SJP VI/.

ПАС м. лес, паласа лесу Стаўб., ШЫРОКІЙ ПАС балота, якое знаходзіцца паміж лесам і полем Бяроз. Параўн. польск. пераноснае pas 'паласа' /WSJP IV/.

ПЛЯНТОЎКА ж. поле Нав., Гродз. ; сенажаць Чэрв., Мядз. ; балота Докш. ; зараснікі хмызняку Глыб., урочышча Брасл., ПЛІНТОЎКА поле Міёр. Параўн. польск. plantówka 'забалочаная сенажаць, з якой сена ўбіраюць толькі зімой' /WSJP IV/. Значная тэрытарыяльная распаўсюджанасць гэтага мікратапоніма можа сведчыць у нейкай ступені аб пашыранасці ў мінулым слова плянтоўка ў якасці апелятыва. У некаторых гаворках і цяпер плянтоўка ўжываецца ў значэнні 'поле на месцы расчышчанага лесу' /Нав., Сцяшковіч, 378/. Пры адаптацыі суфікс -ówka > -оўк-а.

РОЛЬНІКІ мн. частка вёскі Драг. Параўн. польск. rolnik 'селянін, земляроб'/WSJP V/.

РЫШТЫ мн. сенажаць, парытая канавамі Бярэз., поле Чав. Параўн. польск. літ. rynsztok 'сцёкавая канава' /SJP VI/, польск. дыял. rysztok 'сцёкавая канава', 'пракапаны роў, канава' /WSJP V/. Семантычная суадноснасць характэрнай прыкметы беларускага мікратапоніма Рышты 'тое, што парыта канавамі' з польск. дыял. rysztok, ryśtok можа сведчыць аб тым, што крыніцай для запазычання былі польскія гаворкі. Пры асваенні на беларускай глебе адбылося адпадзенне часткі слова і граматычнае афармленне запазычання ў выглядзе назоўніка Pluralia tantum. Параўн. рышт 'канава' /Насовіч/ ; рычик 'канаўка' /Даб-

---

5 Kornaszewski Marek. Nart, Narty w polskich nazwach miejscowych i terenowych.--Slavia occidentalis, Т.27, Poznań, 1968, с.107.

6 Там жа.

равольскі/. У беларускіх гаворках ужываецца рыштоk 'канаўка для сцёку вады' /Гродз., Сцяшковіч, 431/.

СКАРБОВАЯ паша Стаўб.; СКАРБОВАЕ поле Нав., Стаўб.; СКАРБОВЭ частка ракі Ясельды Драг. Параўн. польск. уст. skarbowy 'які належыць дзяржаве', 'які належыць пану, гаспадару маёнтка' /SJP УШ/. Таксама скарбовый 'які належыць маёнтку, пану'; 'казённы, дзяржаўны' /Насовіч/. У беларускай пісьменнасці гэта слова адзначана з ХУ ст. /Булыка, 299/.

Як апелятыў лексема скарбовы ўжывалася ў гаворках заходняй часткі Беларусі да 40-х гадоў ХХ ст. Напрыклад: пагналі каровы на скарбовае, г.зн. на поле, на луг, якія належалі да маёнтка, двара /Нясв./. Цяпер гэта слова захавалася толькі як мікратапонім.

СТАДОЛАК м. лес Кліч.; СТАДОЛІШЧА урочышча Бар. Гэтыя мікратапонімы з"яўляюцца дэрыватамі польск. stodoła 'будынак для захавання збожжа'; польск. дыял. stodoła 'заезд пры карчме, стайня і вазоўня пры карчме', 'будынак для сена' /SJP VIII/. Стодола 'хлеў пры карчме', 'хлеў для жывёлы', стодолка памянш. да стодола /Насовіч/. У беларускай пісьменнасці стодолище, стодолка, стодолник, стодолница адзначаны з ХУІ ст. /Булыка, 308/.

ТАРТАК м. возера невялікае, раней тут быў лесапільны завод Стаўб. Польск. tartak 'лесапільня'/WSJP VII/, бел. дыял. тартак 'т.с.' /Смал., МСММГ/. Пры засваенні беларускімі гаворкамі адбылося перамяшчэнне націску на апошні склад.

ТРАНЦАВЫ мн. балота вялікае, непраходнае Ваўк. Параўн. польск. trzęsawa, trzęsawisko 'нізкае, гразкае месца, дрыгва' /WSJP VII/. Прыкметай паланізма з"яўляецца наяўнасць спалучэння ан на месцы польск. насавога ę. Пры засваенні злучэнне зычных trz > тр.

ТРІБ м. дарога Кобр., ТРЫБА дарога Бр. Параўн. польск. лес. tryba 'высечаная паласа дрэў, якая дзеліць лес на часткі; прасека'/SJP VIII/. У гэтым значэнні трыба зафіксавана ў гаворках Гродзеншчыны /Сл., Сцяшковіч, 503; Шчуч., Лепешаў, 50/.

УЦІНКІ мн. поле і сенажаць Стаўб. Параўн. польск. ucinek 'адрэзак'.

ФУНДАШ м. поле Докш. Параўн. польск. уст. fundusz 'перадача, запіс'/WSJP I/, 'зямля, маёнтак, атрыманыя ў спадчыну'

/SJP II/. У беларускай пісьменнасці адзначаецца з пачатку ХУІ ст. /Булыка, 342/.

ЦАМБРАВІНА ж. рачулка вельмі маленькая Гродз. Параўн. польск. cembrowina 'калодзежны зруб'.

ШАХАЎНІЦА ж. хутар Ашм., дарога Стаўб., ЗА ШАХАЎНІЦАЙ поле Стаўб. Польск. szachownica 'палі, на якіх участкі належалі розным гаспадарам і былі размешчаны ў выглядзе шахматнай дошкі' /SJP УШ/. Параўн. яшчэ: "Шахаўніца бывае там, дзе зямля аднаго гаспадара параскідана паміж зямлёю другога /Наша ніва, 1906, № 6, с. 2/; шахаўніца -- руск. чересполосица /Гарэцкі М. Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік. Вільня, 1921/. У гаворцы Стаўбцоўскага р-на шахаўніца -- што-небудзь вельмі вялікае па памеру, плошчы[7]. У беларускай пісьменнасці адзначаецца з ХУІ ст. /Булыка, 361/.

ШМАТЫ мн. поле Віл., ШМАТЫ урочышча Асіп. Параўн. польск. szmat 'значная частка прасторы, кусок'/SJP УШ/. У беларускай пісьменнасці ў такім значэнні фіксуецца з ХУП ст. /Булыка, 366/. Таксама: шмат 'кусок чаго-н.', 'вялікая колькасць' /Насовіч/, 'кусок чаго-н.' /Дабравольскі/. Мікратапонім выступае ў форме множнага ліку.

ЮРЗДЫКА ж. поле Стаўб. Параўн. польск. jurydyka, jurysdyka, juryzdyka 'хутар дробнай шляхты, засценак'; Jurydyki miejskie 'землі, якія належалі гораду, шляхцічу, духавенству'/WSJP II/.

Да мікратапонімаў, якія маюць польскія словаўтваральныя афіксы, у першую чаргу трэба аднесці ўтварэнні з суфіксамі -іск-а і -шчызн-а (-чызн-а).

Суфікс -іск-а і вытворныя -яніск-а, -еніск-а, -авіск-а, -овіск-а, -ніск-а ў апелятыўнай лексіцы характэрны пераважна для заходніх беларускіх гаворак. Словаўтваральныя функцыі суфікса -іск-а і яго вытворных зводзяцца да наступнага:

а/ суфіксы -іск-а /-авіск-а, -яніск-а/ утвараюць адназоўнікавыя дэрываты -- назвы поля па расліне, якая на ім расла: ўсіска, пшоніска, бульбяніска, гарохавіска, картафляніска і г.д.;

---

[7] Прышчэпчык А.М. Мікратапанімія Стаўбцоўшчыны. Канд. дыс. Мн., 1970, с. 101.

б/ суфіксы -іск-а /-авіск-а/ утвараюць назвы месца, на якім што-н. знаходзілася, стаяла: станавіска, такавіска, карчоміска ;

в/ суфіксы -іск-а /-яніск-а/ утвараюць некаторыя іншыя прасторавыя назвы: тарфяніска, пасвіска, агніска 'пажарышча' ;

г/ суфіксы -іск-а /-авеніск-а, -ніск-а/ утвараюць назоўнікі, якія абазначаюць лісце і сцяблы некаторых раслін: картофліска, гарошыска, бацьвініска, бурачніска, бурачкавеніска, гурковіска і інш. ;

д/ суфіксы -іск-а /-авіск-а/ утвараюць назвы ручкі, дзяржання некаторых прылад працы: цапавіска, грабліска, тапарыска, касіска і інш. ;

е/ суфікс -іск-а ўтварае назоўнікі з павелічальным або зневажальным адценнем: вятрыска, маразіска, вавучыска, бабіска, бацюліска /пра бацьку/. У гэтай функцыі суфікс -іск-а ўжываецца і ў беларускай літаратурнай мове ;

ж/ зрэдку ад некаторых слоў пры дапамозе суфікса -іск-а /-ыск-а/ утвараюцца назоўнікі са значэннем зборнасці, напрыклад: Зо грашыска сколька ўзяў за парасята ; Таўпіска сабралася каля царквы ; Людзіска было на мястэчку, як атпраўлялі ў армію /Нав., паведаміла Усціновіч Г.К./. А людзіска было на станцыі, ні прабіцца за білетамі ; Мураўіска аднекуль набралася ў шафку — пачулі салодкае ; Наскладаў грашыска за гэтыя гады /Нясв./.

Мікратапонімы з суфіксам -іск-а /-ыск-а/ называюць:

1. Аб"екты, месцы ў адпаведнасці з тым, што там знаходзілася раней або знаходзіцца цяпер.

АЗЯРЫСКО н. урочышча Свісл. Параўн. польск. jeziorzysko 'месца, дзе было возера' /WSJP II/.

БОРОВЫСКО н. поле Кобр. Параўн. польск. borowisko 'поле на месцы выкарчаванага лесу' /SJP I/.

БУДЫСКА мн. урочышча Кам. Ад дыял. буда 'шалаш'.

ГАІСКО н. урочышча Бер. Відаць, вялікі гай. Аднак можна дапусціць, што мікратапонім мае значэнне зборнасці. Параўн. польск. gajowisko 'месца, плошча, на якой расце gaj 'невялікі лес, група дрэў' /SJP II/.

ДВОРЫСКА н. урочышча Кар. Параўн. польск. уст. dworzysko

'двор, сядзіба' /SJP II/.

ДУБЫСКО н. урочышча Кам. Відаць, месца, дзе знаходзіцца вялікі дуб /вялікія дубы/. Параўн. польск. павел.-зневаж. dębisko ад dąb . Можна дапусціць, што мікратапонім мае зборнае значэнне.

КОРЧМИСЬКО н. урочышча Кобр.; КОРЧОМЫСКО поле і балота Пін.

МЛІНИСКО н. поле, дзе быў млын Стол.

ОЗЭРИСКА мн. невялікія азёры Бр., ОЗЭРИСКО балота; магчыма, раней там было возера /інфарм./ Драг.

ОСЭЛЫСКА мн. частка вёскі Кам. Параўн. польск. siedlisko 'сядзіба, дом' /WSJP VI/.

ПАСВІСКО н. паша Маст. Параўн. польск. pastwisko.

ПОЖАРНИСКО н. бярэзнік, дзе раней стаяла школа, якая згарэла ў вайну /інфарм./ Драг.

ПЭЧЫСКИ мн. урочышча Бр. Параўн. польск. дыял. pieczysko 'месца дзе стаяць печы на пажарышчы ці пасля таго, як знеслі дом', 'месца, дзе былі вапельныя печы' /WSJP IV/.

СТАНОВІСКО н. палянка, дзе стаяць вуллі з пчоламі Ганц. Параўн. польск. пчаляр. stanowisko 'месца, зарослае травой, лужок, дзе пчаляры рабілі стаянку' /WSJP VI/.

2. Месцы па характэрнай якасці, прыкмеце.

ВАПНІСКО н. поле Свісл.

ГЛІНІСКО н. поле і лес Свісл., ГЛЫНИСКА н. поле глiністае Бр.

ТАРПАВІСКО н. урочышча Клец., ТАРТАВІСКО н. тарфянішча, сенажаць Стаўб. Параўн. польск. torfowisko 'тарфянішча' /пры замене t < f, p < f/.

3. Назвы-арыенціры.

ЗА ГАЦІСКАМ лес Свісл.

ЗА ПРУДЗІСКАМ поле Свісл.

ЗАПРУДЗІСКО н. лес Свісл.

НА ТАКОВІСКУ лес і балота Ганц. Параўн. польск. tokowisko 'месца такавання птушак', польск. дыял. 'месца, дзе жыруюць птушкі' /WSJP V /. Магчыма, тут па прыкмеце 'балота, якое высыхае, цвёрдае, як ток'.

ПАТТАКОВІСКА н. урочышча Мін.

Прыведзеныя вышэй мікратапонімы ўтвораны ад назоўнікавых асноў. Адзначаны адзінкавыя аддзеяслоўныя ўтварэнні:

ДРЭНІСКА н. поле Стауб. Відаць, ад польск. drenować 'асушаць поле пры дапамозе drenów — дрэнажных труб'[8].

ЛІТНІСКО н. сенажаць Драг. Відавочна, па памеру ці форме нагадвае аэрадром. Параўн. польск. lotnisko 'аэрадром' ад latać 'лятаць'. Магчыма дапусціць і другую этымалогію: месца, дзе была летняя пабудова для адпачынку. Параўн. польск. letnisko 'дача'.

Частка мікратапонімаў з суфіксам -іска і вытворныімі не мае ў гаворках адпаведных апелятываў з гэтым суфіксам. Напрыклад: Вапніска, Гліініска, Гаіско, Дубыско, Пэчыскы, Будыска і некаторыя інш. Гэта дае падставу выказаць меркаванне, што суфікс -іск-а ў беларускіх гаворках выконваў, акрамя названых вышэй функцый, спецыфічную функцыю — функцыю мікратапанімічнага фарманта.

Мікратапонімы з суфіксам -шчызн-а /-чызн-а/, -ызн-а зафіксаваны ў заходніх і паўночна-заходніх раёнах Беларусі. На гэтай жа тэрыторыі адзначана ўжыванне айконімаў з суфіксам -шчызн-а, які з'яўляецца факультатыўным варыянтам айканімічнага фарманта -шчын-а[9].

Ужыванне суфікса -шчызн-а ў айконімах на беларускай тэрыторыі звязана з польскім уплывам. Аб гэтым сведчыць той факт, што: 1/ назвы на -шчызн-а ўзнікаюць толькі ў ХУІ ст., а суфікс -шчын-а выступае як прадуктыўны ў помніках ХУ; 2/ назвы з суфіксам -шчызн-а часцей за ўсё ўжываюцца ў помніках, напісаных на польскай мове; 3/ назвы з суфіксам -шчызн-а былі чужымі для беларускага селяніна, які ў процілегласць адміністрацыі заўсёды ўжываў назвы на -шчын-а[10].

Адносна ўтварэнняў на -чызн-а тыпу Wilanowczyzna, Tatarczyzna у польскай мове Б. Крэя выказаў меркаванне, што яны з'явіліся замест форм на -шчызн-а ў выніку адштурхоўвання ад уяўнага

---

[8] Прышчэпчык А.М. Мікратапанімія Стаўбцоўшчыны. Канд. дыс. с. 130.

[9] Лемцюгова В.П. Беларуская айканімія. Мн., 1970, с.108.

[10] Safarewiczowa Halina. Nazwy miejscowe typu Mroczkowizna, Klimontowszczyzna. Wrocław, 1956, с. 218.

царкоўнаславянізма -шч/-шт/[11].

Мікратапонімы з фармантамі -шчызн-а /-чызн-а/, -ызн-а называюць такія аб"екты, як поле, сенажаць, лес, а таксама частку вёскі. Утвораны яны часцей за ўсё ад імёнаў, прозвішчаў або назваў населеных пунктаў. Амаль усе маюць націск на ўтваральнай аснове: Ада́маўшчызна, Анюхо́ўшчызна, Буйко́ўшчызна, Бухо́ўшчызна, Валко́ўшчызна, Вашамі́ршчызна, Габрыя́лаўшчызна, Зара́нкаўшчызна, Іва́нкаўшчызна, Іра́лаўшчызна, Мазу́раўшчызна, По́балаўшчызна, Руткоўшчызна, Ся́нкаўшчызна, Трыбухо́ўшчызна, Урублеўшчызна, Хале́ўшчызна, Целько́ўшчызна. І толькі ў некалькіх мікратапонімах, як у польскай мове, адзначан націск на суфіксе: Пазнячы́зна, Сеўручы́зна, Трацякоўшчы́зна, Трыкоўшчы́зна.

Да мікратапонімаў, у якіх захаваліся элементы польскай фанетыкі, адносяцца:

1. ГУ́РЫ мн. урочышча Апм.; КРУ́ЛЕВА н. поле Кар.; ЛІСАГУ́РА ж. поле Іуеў.; УЗГУ́РЫШЧА н. урочышча Уэдз. Адпаведна польскаму о́ "pochylonemu" ужываецца у. Параўн. польск. góra 'гара', król 'кароль'.

2. ДЗЕСЯНЦІ́НА ж., ДЗЕСЯНЦІ́НЫ мн. поле, лес Стаўб., ДЗЕСЯНЦІ́НА ж. поле Іуеў.; КСЕ́НЖНЫЯ мн. сенажаць Свісл.; ДЭМБІНА́ ж. лес дубовы Іуеў.; КЭ́МПЫ мн. лес Мал.; СВЯНЦІ́ЦКІЯ мн. балота Свісл.; СВЯНЦО́НЫ КАЛО́ДЗЕЖ поле Стаўб. Злучэнні галоснага з насавымі н, м перадаюць польскі насавы ę, якому ў беларускай літаратурнай мове адпавядаюць у, 'а / dziesięcina — дзесяціна, dębina — дубіна, kępa — купіна, swięcic — свяціць, пасвяцаць/.

3. ЗАГРО́ДА ж. хутар, які знаходзіцца за горадам Дзісна, цяпер поле Міёр.; КРУ́ЛЕВА н. поле Кар.; СРЭ́БРАНКА ж. горка высокая, пакрытая сівым мохам Бар. Наяўнасць няпоўнагалосных спалучэнняў адпаведна беларускім поўнагалосным спалучэнням. Параўн. загарадка, кароль, серэбраны.

4. ДЗЯ́ЛКЫ мн. сенажаць Драг., ДЗЯ́ЛКА ВАЙТАРО́ВІЧА поле Стаўб., ДЗЯ́ЛКА ж. поле Докш., ДЗЯ́ЛКІ поле Стаўб., Івац., ЛЯСНА́Я ДЗЯ́ЛКА лес Стаўб., ЦАРО́ВА ДЗЯ́ЛКА Стаўб.; ТРЫЧВЯ́РТКІ мн. поле Іуеў.

---

11 Kreja Bogusław. Produktywność przyrostka -izna we współczesnym języku polskim. — Slavia occidentalis, т. 27, Poznań, 1968, с. 115.

Вымаўленне 'а пасля мяккіх зычных адпаведна е ∠ ě. Параўн. бел. падзел, чвэрць.

5. САДЗО́НКІ мн. лясок Стаўб. Параўн. польск. sadzonka 'галінка без карэння, адрэзаная ад расліны і пасаджаная ў зямлю', 'саджанец'. У бел. мове dz > дж.

6. ДЗЮРА́ ж. поле Стаўб. Параўн. польск. dziura 'паглыбленне ў чым-н.; яма, нара' /SJP II/. Пры засваенні гэтага слова ў беларускай мове націск перамясціўся на канчатак.

## Прынятыя скарачэнні

### Крыніцы

Булыка — А.М. Булыка. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972; Дабравольскі — В.Н. Добровольский. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914; Лепешаў — І.Я. Лепешаў. З лексікі вёскі Бершты Шчучынскага раёна. — У кн.: З народнага слоўніка. Мн., 1975; МСММГ — Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Мн., 1974; Насовіч — И.И. Носович. Словарь белорусского наречия. Спб, 1870; Сцяшковіч — Т.Ф. Сцяшковіч. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці, Мн., 1972; SJP — Słownik języka polskiego, I—XI. Warszawa, 1958—1969; WSJP — J.Karłowicz, A.Kryński, W.Niedzwiedzki. Słownik języka polskiego, I—VIII. Warszawa, 1900—1927.

### Раёны

Асіп. — Асіповіцкі
Астр. — Астравецкі
Ашм. — Ашмянскі
Бар. — Баранавіцкі
Бер. — Бераставіцкі
Бр. — Брэсцкі
Брасл. — Браслаўскі
Бяроз. — Бярозаўскі
Бярэз. — Бярэзінскі
Вал. — Валожынскі
Ваўк. — Ваўкавыскі
Віл. — Вілейскі
Вор. — Воранаўскі
Ганц. — Ганцавіцкі
Глыб. — Глыбоцкі
Гродз. — Гродзенскі
Дзятл. — Дзятлаўскі
Докш. — Докшыцкі
Драг. — Драгічынскі
Жал. — Жалудоцкі
Івац. — Івацэвіцкі
Іўеў. — Іўеўскі
Кам. — Камянецкі
Кар. — Карэліцкі
Клец. — Клецкі
Кліч. — Клічаўскі

Кобр. -- Кобрынскі
Лун. Лунінецкі
Мал. -- Маларыцкі
Маст. -- Мастоўскі
Міёр. -- Міёрскі
Мін. -- Мінскі
Мядз. -- Мядзельскі
Нав. -- Навагрудскі
Нясв. -- Нясвіжскі
Пін. -- Пінскі
Свісл. -- Свіслацкі
Сл. -- Слонімскі
Смал. -- Смалявіцкі
Стаўб. -- Стаўбцоўскі
Стол. -- Столінскі
Узда. -- Уздзенскі
Чав. -- Чавускі
Чэрв. -- Чэрвенскі
Шчуч. -- Шчучынскі

## Іншыя скарачэнні

бел. -- беларускае
гіст. -- гістарычнае
дыял. -- дыялектнае
інфарм. -- інфарматар
каш. -- кашубскае
літ. -- літаратурнае
лес. -- лесаводства
павел.-зневаж. -- павелічальна-зневажальнае
памянш. -- памяншальнае
польск. -- польскае
прасл. -- праславянскае
пчаляр. -- пчалярства
старапольск.--старапольскае
уст. -- устарэлае.

А.А.Іванова

## МІКРАТАПОНІМЫ-НАЗОЎНІКІ МАЗЫРСКАГА ПАЛЕССЯ Ў ФОРМЕ МНОЖНАГА ЛІКУ

У гэтым артыкуле разглядаюцца толькі тыя мікратапонімы ў форме множнага ліку, якія з пункту погляду тапанімії ўтвораны чыста флексійным спосабам або семантычным шляхам: Горы, Горкі, Ляды, Мазкі, Пяскі, Карасі, Саўкі, Берві́шча, Гумна, Берву і інш. На даследуемай тэрыторыі адзначана 380 назваў гэтага тыпу, што складае 7,4% ад агульнага ліку ўсіх зафіксаваных тут мікратапонімаў. Яны складаюць тыповую прыкмету мікратапанімії Мазырскага Палесся і ўяўляюць сабой цікавасць як з боку лексіка-семантычнага складу ўтваральных асноў, так і з боку граматычнай структуры.

Паводле семантыкі ўтваральных асноў, мікратапонімы названага тыпу падзяляюцца на дзве групы: I. Мікратапонімы, утвораныя на базе апелятываў ; II. Мікратапонімы, утвораныя на базе антрапонімаў. Пры больш канкрэтным падыходзе ў межах кожнай з вылучаных груп выдзяляюцца больш дробныя лексіка-тэматычныя падгрупы. Так, у межах першай групы мікратапонімаў вылучаюцца: 1. Назвы, лексічную аснову якіх складае прыродна-геаграфічная лексіка ; 2. Назвы, лексічную аснову якіх утварае лексіка, што адлюстроўвае вынікі чалавечай дзейнасці.

Найбольш шырока адбіліся ў лексічным складзе мікратапонімаў Pluralia tantum назвы, звязаныя з прыродна-геаграфічнымі паняццямі: 1. Назвы ўзвышаных форм рэльефа /бугор, верховіна, вярэцейка, гара, горка, гурба, курган, холм/: Бугры, Верховіны,

Вярэцейкі, Горкі /12/, Горы /3/, Гурбы, Кургана, Курганы /6/, Хоўмы ; 2. Назвы раўнін і нізін /лог, плёсо, поплаў/: Лагі, Поплавы /2/, Плёса /4/ ; 3. Назвы балот і забалочаных мясцін /алёс, бель, волока, вужар, вязенка, квашка, тапіло, ужара/ : Алёса, Белі, Волокі, Вужары, В"язенкі, Вязінкі, Квашкі, Нетра, Пуха, Рудкі, Тапілы, Ужара, Ужары ; 4. Назвы паводле асаблівасцей глебы і паверхні зямлі /глейка, глевант, глінішчэ, глінка, грязі, камень, мазка, песок, пешчанка/: Глейка, Глеванты, Глінішчы, Глінкі, Глынкі, Гразі, Камяні, Мазкі /5/, Пескі, Пешчанкі /5/, Пяшчанкі /3/ ; 5. Назвы водных басейнаў і іх частак /бурчак, верх, верцеб, забок, завадзь, крымка, крыніца, крынічка, крынка, сушка/: Бурчакі, Верхі, Верцябы, Завады /2/, Крымкі /2/, Крыніцы /4/, Крынічкі, Крынкі /2/, Лужы, Озерецы, Сушкі ; 6. Назвы раслін, дрэў /алешнік, асіннік, асока, асот, беразняк, бяроза, верба, вереск, дуб, дубок, дубнік, дуброўка, гай, грушка, крушнік, крываснеток, лесок, ліпка, ліпнік, осаў, ракіта, ракітнік, сітнік, сосанка, хвайнік, хвошч, яблонька/: Алешнікі, Асіннікі, Асокі, Асоты, Беразнякі, Бярозы, Вербы, Верескі, Дубкі /3/, Дуброўкі, Дубы, Гаі /2/, Грушкі, Крушнікі, Крываснеткі, Ляскі, Лёсы, Ліпкі, Ліпнікі /5/, Ліпнякі, Лозкі, Лубы, Лубянцы, Ляска, Ляскі, Малінкі, Неглі, Осава, Осьнікі, Ракітнікі /2/, Ракіты, Сосанкі, Сучкі, Хвайнікі, Хвошчы, Ябланькі ; 7. Назвы паводле формы аб"екта /вілы, клетка, клін, кругляк, рог, пустка, росаха/: Вілы /6/, Клеткі, Кліны, Круглякі, Рагі, Росахі ; 8. Назвы тыпаў і частак паселішчаў /горад, засценак, лагер, сядзіба/: Гарады /2/, Засценкі, Лагера, Сядзібы; 9. Назвы розных пабудоў і збудаванняў гаспадарчага прызначэння /адзенак, азярод, акоп, балган, баня, брама, будка, гумно, ез, зерод, землянка, котух, кашарка, кашара, кошарка, крыж, курэнь, одэнок, озерод, палатка, пагрэбец, погрэб, стайня, ток/: Адзёнкі, Азяроды, Акопы, Балганы, Бані, Брамы, Будкі/2/, Гумна /8/, Еза, Зероды, Зямлянкі, Катухі, Кашаркі /2/, Кашары, Кошаркі, Крыжы, Курані /3/, Курэні, Одэнкі, Озероды, Пагрэбы /3/, Пагрэбцы, Палаткі, Стайні, Токі /3/ : 10. Назвы дарог, водных пераправаў /берва, бервечка, береўка, брадок, брод, бродец, гатка, грэбелька, кладочка, масток, мост/: Бервечкі, Берву, Береўкі, Брадкі, Брады /4/, Бродкі, Бродцы, Броды /4/, Гаткі, Гаткі, Грэбелькі : 11. Назвы вытворчых прадпрыемстваў, промыслаў, мест гаспадарчага прызначэння /гарт, мулёр,

печка, печ/: Гарты, Мулёры, Печкі /7/, Печы /5/.

У складзе мікратапонімаў другой групы вылучаюцца назвы, лексічную аснову якіх утвараюць словы, звязаныя з паняццямі земляробчай практыкі: I. Назвы па працэсах распрацоўкі лесу пад пашню /вудзелка, дзербінка, лядо, падзёр, падзёркі, процераб/: Вудзелкі, Дзербінкі, Лядцы, Падзёркі, Пасекі /7/, Працерабу ; 2. Назвы па прыкмеце "новая распрацоўка" /навінка/: Навіны /2/ ; 3. Назвы з агульным значэннем поле/ніўка/: Ніўка /2/; 4. Назвы па прыкмеце "ўгноены ўчастак" /пагной/: Пагної /13/ ; 5. Назвы надзельнай зямлі /палоска, палосы, полосы/: Палоскі /2/, Палосы, Полосы ; 6. Назвы дадатковых надзелаў /надатак, надбаўка, прыдатак, рэз, рэзка/: Надаткі, Падбавічы, Прыдаткі, Разы /2/, Рэзкі /3/; 7. Назвы па канфігурацыі ўчастка /клін, астраў, палянка, рог/: Кліны /3/, Астровы, Астроўкі, Астроўцы, Палянкі /6/, Полянкі, Рагі /4/ ; 8. Назвы адзінак вымярэння зямлі /валокі, дзесецерык, дзесяціна, лан, морг, пятнадцацерык, шэсцерык/: Валокі, Дзесецерыкі, Дзесяціны /2/, Ланы, Маргі /4/, Моргі, Пятнадцацерыкі, Шэсцерыкі ; 9. Назвы зямельных знакаў /анцёс, граніца, рубеж/: Анцёсы, Граніцы, Рубезкі.

Як відаць з прыведзенага матэрыялу, мікратапонімы Мазырскага Палесся фіксуюць у сваім складзе шмат тэрмінаў фізічнай геаграфіі, а таксама земляробчых тэрмінаў. Але пры ўсім гэтым перавага аддаецца характарыстыкам па прыродных асаблівасцях аб"екта.

Мікратапанімія Мазырскага Палесся заключае ў сваім складзе старажытнарускую лексіку агульнаславянскага паходжання: ляда, ніва, верацея, лука, валока, лан, морг, лексіку, уласцівую ўсходнеславянскім мовам: лес, бор, гай, гара.

Найбольш цесную сувязь сваім лексічным складам мікратапанімія выяўляе з мясцовымі гаворкамі. У якасці лексічных асноў мікратапонімаў выкарыстоўваюцца: назвы ўзвышаных месц: бугор, гурба 'невялікае ўзвышэнне', верацейка 'ўзвышша сярод балота' ; назвы балот: выжар, ужара 'гарэлае балота', алёс 'балота, парослае альхой', бель, белі 'балота, парослае бярозай', падушка 'зыбкае балота', валока 'балота прадаўгаватай формы, звычайна парослае асакой', тапіла 'топкае, грузкае балота', рудка 'іржавае балота' ; назвы раслінасці: куколкі 'падснежнік', сункі 'суніцы' ; назвы хмызнякоў і лясных масіваў: аснікі 'асінавы лес', крушнік 'за-

раслі крушыны', лёсы 'густы лес'; назвы зямельных участкаў: дзербінкі, падзёркі 'раскарчаваны ў лесе ўчастак' /выразы 'драць, выдзіраць лес' раўназначныя па сэнсу 'карчаваць лес'/, вудзёлкі 'ўчастак на месце раскарчаванага хмызняку', клін 'участак у выглядзе кліна', рог 'участак у выглядзе рога', востраў 'участак на ўзвышаным месцы сярод балота'; назвы пабудоў і збудаванняў: ез 'збудаванне на рацэ для лоўлі рыбы', кашара 'агароджанае месца для летняга і начнога адпачынку жывёлы'; назвы відаў дарог: бервы 'дарога з бярвення праз балота' і інш. Пры выбары апелятыўнай лексікі ў якасці лексічных асноў мікратапонімаў назіраецца пэўная заканамернасць. Як правіла, мікратапонімы характарызуюць характар геаграфічнага аб"екта або зямельнага ўчастка. Напрыклад, назвы Гара, Верацеі, Бугры ў пераважнай большасці замацаваны за ўчасткамі, якія размешчаны на ўзвышаным месцы, назвы Алешнікі, Бярэзнікі, Вербнік -- за ляснымі ўчасткамі, на якіх растуць дрэвы, названыя ў аснове мікратапоніма. Некаторыя тапаграфічныя і ландшафтныя тэрміны ўвайшлі ў склад мікратапонімаў не ў сваім першасным значэнні, а ў значэнні, якое яны набылі ў працэсе земляробчай практыкі. Так, тэрміны востраў, паляна ва ўмовах балоціста-лясістага Палесся, дзе для распрацоўкі выбіраліся прыгодныя для земляробства ўчасткі сярод лесу або балота, паступова перайшлі ў разрад земляробчых тэрмінаў.

Тое ж можна сказаць і пра некаторыя іншыя прыродна-геаграфічныя тэрміны, як верацяя, гара 'ўчастак на ўзвышаным месцы', валока 'прадаўгаватая нізіна' і інш.

У шматлікіх мікратапонімах знайшлі адлюстраванне апелятыўныя назвы-папярэднікі. У якасці апошніх выкарыстоўваюцца назвы лясных масіваў, мастоў, кладак, назвы розных пабудоў і збудаванняў гаспадарчага прызначэння. Напрыклад, поле называецца Алешнік, Бярэзнік таму, што яго ўзнікненню папярэднічалі альховы і бярозавы лясы, участак лугу называецца Берві, таму што да асушэння ён уяўляў сабой балоцістую мясціну, праз якую былі пакладзены бервы 'кладкі з бярвення або жэрдак'.

Да гэтага ж тыпу назваў адносяцца і мікратапонімы, у якіх адбіліся назвы мясцовай прамысловасці. Звычайна такія назвы замацоўваюцца за ляснымі ўрочышчамі, у межах якіх гэтыя промыслы размяшчаліся. На тэрыторыі Мазырскага Палесся асабліва папулярнымі былі печы, печкі, мулеры, гарты. Печы, печкі прызначаліся

для здабычы смалы. У некаторых месцах такія печы называліся смалакурнямі. У частцы палескіх гаворак смалакурныя печы атрымалі назву мулеры. Гарты шырока выкарыстоўваліся ў якасці абпальвальных пячэй.

Такім чынам, у мікратапонімах апелятыўнага паходжання знайшлі адлюстраванне прыродна-геаграфічныя асаблівасці Мазырскага Палесся, асаблівасці земляробчай і гаспадарчай практыкі, характэрныя для гэтага своеасаблівага рэгіёна віды мясцовай прамысловасці.

Мікратапонімы другой групы адлюстроўваюць у сваім складзе мясцовую антрапанімію. Гэта група колькасна меншая, чым папярэдняя. Яна налічвае 70 назваў, што складае прыкладна 1% ад усіх зафіксаваных мікратапонімаў. Але і ў яе складзе можна вылучыць некалькі больш дробных падгруп. У аснову крытэрыю вылучэння пакладзена прыналежнасць антрапоніма, які ўтварае лексічную аснову мікратапоніма, да пэўнай катэгорыі асабовых уласных імён. У адпаведнасці з гэтым мікратапонімы адантрапанімічнага паходжання падзяляюцца на: 1. Мікратапонімы, утвораныя ад асабовых уласных хрысціянскіх і каталіцкіх імён: Альбінчукі /<польск. Альбін/, Апімахі /<Апімах<Эпимах/, Гапоны /<Гапон<Агафон/, Гарманы /<Гарман<Герман/, Карпешы /<Карпеш<Карп/, Макары /<Макар<Макарий/, Мікалаеўкі /<Мікалай <Николай/, Савы /< Сава<Савелий/, Саі /<Ісай<Исайя/, Саўкі /<Савва<Савелий/, Хімкі /<Хіма<Евхимия/, Юркі/<Юрка<Юрий/.

2. Мікратапонімы, утвораныя на аснове прозвішчаў людзей апелятыўнага паходжання: Бабічы /<Бабіч/, Буглакі /<Буглак /, Букаты /<Буката/, Гранaчы /<Гранач/, Дубаўцы /<Дубавец/, Карасі /<Карась/, Каржы /<Корж/, Кашкуры /<Кошкур/, Козлы /<Козел/, Коркуцы /<Коркуц/ Кулагі /<Кулага/, Кунгеры /<Кунгер/, Лецяшы /<Лецяш/, Лісы /<Ліс/, Мазуры /<Мазур/, Мелехі /<Мелех/, Паховічы /<Пахаў/, Сільчукі /<Сільчук/, Сірашы /<Сіраш/, Сузькі /<Сузько/, Траяны /<Траян/, Хадыкі /<Хадыка/, Шахланы /<Шахлан/, Шміды /<Шмід/.

Да гэтай жа групы належаць і мікратапонімы, утвораныя на аснове прозвішчаў, якія заключаюць у сабе назву асобы паводле этнічнай прыналежнасці: Мазуры, Туркі, Немцы, Чэхі, Палеча, Кітайцы. Яны лексічна суадносяцца з этнонімамі. У дарэвалюцыйны і паслярэвалюцыйны час на тэрыторыі Мазырскага Палесся

пражывалі калоніі немцаў, чэхаў, палякаў і кітайцаў. Мікратапонімы антрапанімічнага паходжання выяўляюць лексічную сувязь з мясцовай антрапаніміяй. У пераважнай большасці гэта імёны, прозвішчы і мянушкі ўладальнікаў сельскагаспадарчых аб"ектаў і мясцовых промыслаў. У радзе выпадкаў у аснову мікратапонімаў пакладзены назвы роднасных калектываў па агульнаму прозвішчу або мянушцы.

Множнасць матывацыі абумоўлівае рознасць шляхоў утварэння. Абодва вызначаныя тыпы мікратапонімаў Pluralia tantum -- адапелятыўны і адантрапанімічны характарызуюцца агульнасцю структуры. Важнейшым паказчыкам гэтай агульнасці з"яўляецца тапафармант /флексія множнага ліку /=ы/=і, =а/=я/. Тапафармант =ы/=і паслядоўна выступае ў мікратапонімах адантрапанімічнага паходжання. Выключэнне складаюць толькі дзве назвы з фармантам =а/=я: Палеча, Сакала.

У мікратапонімах адапелятыўнага паходжання таксама колькасна пераважае тапафармант =ы/=і. Але разам з тым і тапафармант =а/=я выступае ў гэтай групе назваў больш выразна. У яго афармленні адзначана звыш дваццаці мікратапонімаў: Алеса, Берэз"я, Гумна, Дуб"я, Еза, Зала"я, Карма, Крокаля, Кужэля, Кургана, Лагера, Ляска, Мураў"я, Нетра, Осава, Падзёра, Плеса, Пагона, Рачка, Рая, Ужара.

У некаторых выпадках адзначаецца непаслядоўнасць пры ўжыванні тапафармантаў =ы/=і, =а/=я: Курганы і Кургана, Ляскі і Ляска, Пагоны і Пагона, Ужары і Ужара. Мікратапонімы з фармантам =а/=я ў большай частцы лексічна звязаны з дыялектнымі апелятывамі мужчынскага роду, якія маглі з"явіцца або вынікам уплыву былых рэліктавых форм стараруускага свабоднага парнага ліку, або вынікам уплыву дыялектных форм ніякага роду множнага ліку тыпу гнёзда, гумна. У беларускай мове флексія =а/=я ў названай катэгорыі слоў адзначаецца ў радзе гаворак[1].

У мікратапонімах адапелятыўнага паходжання форма множнага ліку найчасцей з"яўляецца паказчыкам рэальнага мноства. Асабліва гэта датычыцца назваў, лексічна звязаных з прыродна-геаграфічнымі тэрмінамі /Горы, Горкі, Крыніцы, Курганы, Лужы, Ямы, Бярозы, Вербы, Дубы, Кусцікі/, а таксама з назвамі, якія абазначаюць вынікі чалавечай дзейнасці /Азяроды, Акопы, Гарты, Кашары,

---

[1] Дыялектны атлас беларускай мовы. Мн., 1963. Карта № 97.

Курані, Печы, Стайні, Сядзібы/.

У мікратапонімах антрапанімічнага паходжання форма множнага ліку з"яўляецца сродкам выражэння значэння калектыву па імені, прозвішчу або мянушцы ўладальніка зямельнага ўчастка /Букаты < Букатa, Гапоны < Гапон, Карасі < Карась, Кашкуры < Кашкур/.

Такім чынам, мікратапонімы Pluralia tantum маглі быць утвораны як семантычным шляхам, так і шляхам далучэння флексіі множнага ліку як сродку тапанімічнага словаўтварэння.

Паводле граматычнай структуры, лексічныя асновы адапелятыўных мікратапонімаў могуць быць бязафіксньмі: Азяроды, Акопы, Брады, Вербы, Грады, Плёса, Рагі ; суфіксальнымі: Асіннікі, Беразнякі, Хвайнікі, Ямнікі, Берез"я ; аформленыя дэмінутыўным суфіксам: Астраўкі, Барвэчкі, Будкі, Вярэцейкі, Гаткі.

Лексічныя асновы адантрапанімічных мікратапонімаў па сваёй граматычнай структуры некалькі адрозніваюцца ад адапелятыўных. Розніца гэта абумоўлена перш за ўсё самой спецыфікай антрапанімічнай лексікі. У якасці ўтваральнай асновы гэтай групы мікратапонімаў выступаюць: хрысціянскія імёны: Апімахі, Макары; хрысціянскія імёны з усечанай асновай: Савы /< Савелий/ ; хрысціянскія імёны ў дэмінутыўнай форме: Карпешы /< Карпеш < Карп/, Романцы /< Романец < Роман/, Саўкі /< Саўка < Савелий/, Юркі /< Юрка < Юрий/ ; стараруськія двухкампанентныя імёны: Багданы ; бязафіксныя ўласныя імёны /прозвішчы, мянушкі/ апелятыўнага паходжання: Буглакі, Карасі, Каржы, Казлы, Лісы, Мазуры, Прымакі, Сірашы, Хамуты ; суфіксальныя ўласныя імёны /прозвішчы, мянушкі/: з суфіксам =ец: Дубаўцы /< Дубавец/ ; Кітайцы /< Кітаец/ ; з суфіксам =ыч: Радзежычы /< Радзежыч/, Сякерычы /< Сякерыч/ ; з суфіксам =ук/=юк : Альбінчукі /< Альбінчук/, Сільчукі /< Сільчук/ ; з дэмінутыўньмі суфіксамі =к, =ік/=ык: Панькі /< Панько/, Кавалікі /< Кавалік/, Лісікі /< Лісік/.

Такім чынам, мікратапонімы-назоўнікі Мазырскага Палесся ў форме множнага ліку перш за ўсё адрозніваюцца лексіка-семантычным складам. Частка іх утворана на базе апелятыўнай лексікі /пераважна прыродна-геаграфічнай/, частка -- на базе антрапанімічнай лексікі. У складзе мікратапаніміі знайшла адлюстраванне як невытворная агульная лексіка /гара, берва, верацяя/, так і вытворная /горка, бервішча, верацейка/. Антрапанімічныя асновы мікратапонімаў прадстаўлены нейтральнымі формамі ўласных асабо-

вых імён /Раман, Сава/ і суфіксальнымі /пераважна дэмінутыўнымі/ /Раманец, Саўка, Юрка/, уласнымі прозвішчамі і мянушкамі, утворанымі на аснове невытворных апелятываў /Карась, Казёл, Ліса, Хамут/, а таксама на аснове вытворных апелятываў /Радзежыч, Сякерыч, Сільчук, Кавалік, Дубавец/.

Форма Pluralia tantum абумоўлена трыма фактарамі: наяўнасцю рэальнага мноства аб"ектаў або прадметаў /Вербы< вербы, Дубы<дубы, Ліпы<ліпы/; наяўнасцю калектыву /Дубаўцы, Сякерычы/; наяўнасцю чыста тапанімічнай функцыі ў флексій =а/=я, =ы/=і. Славаўтваральная мадэль Pluralia tantum для беларускай тапаніміі з"яўляецца традыцыйнай. Ужо ў ХУ ст. форма множнага ліку была адным з самых пашыраных сродкаў славаўтварэння беларускай тапаніміі[2]. Наяўнасць варыянтнасці /Ляда -- Ляды, Гумно -- Гумна, Верацейка -- Верацейкі/ можа быць сведчаннем таго, што мікратапонімы ў форме адзіночнага ліку падпадаюць пад уздзеянне папулярнай мадэлі Pluralia tantum. Зусім магчыма, што ў радзе выпадкаў адбываецца выраўніванне па больш уплывовай мадэлі, якой, мяркуючы па ўсяму, з"яўляецца мадэль Pluralia tantum.

---

[2] Лемцюгова В.П. Беларуская айканімія. Мн., 1970, с. 128.

В.М. Емельяновіч

# СТРУКТУРНЫЯ ТЫПЫ МІКРАТАПОНІМАЎ-НАЗОЎНІКАЎ /НА МАТЭРЫЯЛЕ ПРУЖАНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ/

Простыя мікратапонімы-назоўнікі на тэрыторыі Пружанскага р-на складаюць 78% ад усіх зафіксаваных простых мікратапонімаў, астатнія 22% мікратапонімаў маюць форму прыметнікаў.

Адносячыся да класа ўласных імён, мікратапонімы-назоўнікі губляюць здольнасць змяняцца па ліках: выступаюць толькі ў форме адзіночнага ці толькі множнага ліку.

На тэрыторыі Пружанскага р-на пераважаюць назвы, якія маюць форму адзіночнага ліку. Аб"яднаныя адной граматычнай формай ліку, яны вельмі разнастайныя паводле спосабаў утварэння. Вылучаюцца семантычныя ўтварэнні, суфіксальныя, прэфіксальныя, прэфіксальна-суфіксальныя мікратапонімы.

Часам знешне аднаструктурныя назвы адносяцца да розных тыпаў утварэння, таму разглядаюцца ў розных групах. Напрыклад, назвы ўрочышчаў Але́сік, Шму́йлік, Дамкове́ц, Ву́ліца, Грані́ца утвораны шляхам семантычнага пераасэнсавання адпаведных антрапонімаў і апелятываў, а назвы Гарэ́лік, Кру́глік, Вя́завец, Плі́тніца, Гнілі́ца — з дапамогай суфіксаў -ік, -ец, -ніца ад назоўнікавых і прыметнікавых асноў.

## Семантычныя ўтварэнні

Да семантычных утварэнняў адносяцца мікратапонімы, якія не маюць у сваёй структуры спецыяльных тапанімічных афіксаў, а ўтвораны семантычна — шляхам пераходу ў мікратапонімы агульных і ўласных назоўнікаў без іх фанетычнага і граматыч-

нага змянення.

Назвы, утвораныя семантычным спосабам, на Пружаншчыне складаюць 50% ад мікратапонімаў-назоўнікаў. Найбольш часта яны ўзыходзяць да апелятываў, радзей — да антрапонімаў, гідронімаў і айконімаў, суадносячыся з невытворнымі /Брод, Гай, Мох, Сад, Нічыпар, Якуб, Муха/ і вытворнымі асновамі /Барок, Садок, Хваінка, Балоцечка, Асіннік, Масціпча, Крыжык, Нічыпарка, Якубка, Мушка/.

Сярод апелятываў, выкарыстаных пры семантычным утварэнні мікратапонімаў, першае месца па колькасці займаюць геаграфічныя тэрміны. Гэта адзначаюць даследчыкі ўсіх славянскіх тэрыторый, падкрэсліваючы, што назвы тыпу Гара, Лес, Луг, Поле, у аснове якіх ляжаць геаграфічныя тэрміны, найбольш старажытнага паходжання, але прадуктыўныя і ў наш час[1].

Крыніцай мікратапаніміі Пружаншчыны з"яўляецца як агульнаўжывальная, так і мясцовая геаграфічная тэрміналогія. Ад агульнаўжывальных тэрмінаў утвораны назвы тыпу: Амшар б., л. Пол., Болото с. Конц., Бор л. Куп., Абр. і г.д., Гай п., б., л. Жаб., Перас. і г.д., Гара п., л. Лібер., Чаб., Груд п., б., л. Шчарч., Сасн. і г.д., Града л. Ман., Куп., ч. в. Бр., Курган б. Пол., л. Шчар., Лаза л. Баяр., Луг пш. Лог., п. Борт., Остров п., с. Роуб., Заг., Об., Роў пш. Мокр., Смуга л. Красн., Купл. і г.д., Струга п., л. Хім., Жаб., Шан. і інш.

Ад мясцовых тэрмінаў утвораны наступныя мікратапонімы: Багно лг. Лаз. — мясц. багно 'вельмі топкае, непраходнае балота'; Верацяя пш. Лыск. — бел. рэг. верацяя 'ўзвышша сярод балота' /Касп., Лемц./; Вэрх л. Зар.; Галя б. Бак., Тк. — галя 'голае месца, чыстая бязлесная прастора'; Жабор лг. В. Зс. — мясц. жабор 'балота са стаячай вадой, парослай зялёнымі водарасцямі'; Здуха б. В. Як. — здуха 'непраходнае месца на балоце, дзе прабілася крыніца' /Яшк./; Лечэя лг. Нав. — лечэя 'яма'; Наспа б. Лыск. — наспа 'штучнае земляное ўзвышша'; Олёс б. Нав., лг. Шан. — олёс 'балоцістая мясцовасць, парослая альховым лесам, хмызняком'; Омх л. Шан., Араб. — омх 'махавое балота, махавы балоцісты лес'; Пель л., п. Бяр. —

[1] Карпенко Ю.А. Свойства и источники микротопонимии. — Микротопонимия. М., 1967, с. 20; Мурзаева Э.М. Местные географические термины и их роль в топонимии. — Местные географические термины. М., 1970, с. 16.

пель 'нізкае балоцістае месца у лесе' ; Плёсо лп. Бр., Бак., Тар., Мокр., Хіц. ; Плёсо б. Нав., В. Зс. — плесо, плёс 'нізкі прырэчны луг, які заліваецца вадой у час паводкі' ; Погóня б.,с. Кул., Хом. — погоня таксама 'нізкі прырэчны луг' ; Пярэспа л. Хом., Чах. — пярэспа 'пясчаная каса, пясчаны вал' ; Рагóз п. Клеп. — рагоз 'хмызняк на балоце'.

Частка мікратапонімаў разглядаемай групы ўтворана на аснове назваў зямельных участкаў: Выжар п. Ражк., Выруб л. Шчарч., Загóн п. Бар., Клін /вельмі пашыраная назва, ужываецца звычайна для наймення палёў/, Валóка п. Рудн., Шнур. п. Пад., Паласá п. Асят., Пóцерэб б. Зар., Чарцёж б. Круп., Зельз. — ст.-бел. чарцёж 'поле або сенажаць на месцы лясных распрацовак' /Лемц./, назваў паселішчаў, шляхоў зносін і збудаванняў: Абрýб, Óбруб п. Кул., Нос., Сялó, Сылó ч. в. Бр., Клеп., Рос., Сядзіба п. Дзед., Шчар., Кантóра л. Тар., Двор ч. в. Неп., Тракт д. Кашт., Тартáк Гл., Фéрма, Хéрма с. Бак., Юхн., Бýда л. Ліх., Гýта б. Маг., Обэ́ржа п. Пар. — польск. oberža 'карчма, пастаялы двор', Плянта л. Хр., Сасн. — плянта бел. рэг. 'мяжа' /Лемц./.

У нязначнай колькасці выкарыстаны назвы бытавых прадметаў: Гвоздзь л. Бр., Дрэн п. Зар., Капалюш с. Роўб., Качаргá ч.в. Клеп., Лахáнь п. Кашт., Ражóн л. Ізб. і інш.

Некалькі назваў узнікла на аснове прозвішчаў і мянушак людзей: Гарóн п. Бушн., Казёл л. Барав., п. Баяр., Смалян., Качáн б. Вашч., Тур л. Вар., Штэльмах б. Нав. і інш. Ёсць і адгідранімічныя назвы гэтага тыпу: Грыўда с. і р. Кав., Мýха с. і р. Шп., Нáрва с. Сух., В. Кр., п. Дзет. — р. Нарва /афіц. Нараў/, Рáгва б. і р. Зар., Сáрва п. і р. Апял., Тóмра б. Бельч., Трух., Цéмра б. і р. Лыск., Круп., Чымба с. і р. Брант., Зін.

Значная колькасць мікратапонімаў Пружаншчыны ўтворана шляхам пераасэнсавання агульных і уласных назоўнікаў з вытворнай асновай /Алéшнік, Асíннік, Бярэзінка, Гаёк, Дубóк, Пераездзік, Торпóвіско і г.д./. Гэта назвы, у марфемным складзе якіх ёсць суфікс -к-а: Бéлка х. і лг. Смалян., Бóчка л. Зал., лг. Вішн., Дзед., Выпалка л. Хом., Вырубка п. Баяр., Вычэрка л. Дзед., Аляк., В. Зос., Грáдка п. Кул., Дубровка ч. в. Кав.,

Бар., л. Пол., Задв., Каро́ўка м. Агар., Ко́брынка д. Ян., Лі́пка б. Блізн., Ло́зка п. Смалян., Ні́ўка с. Вашч., Нічы́порка п. Кул., Пу́стка п. Зельв., Кац., Скавару́дка лг. Бр., Сму́жка л. Бар., Сушы́лка л. Гал., Сце́нка д. Зар., Круп., Хваі́нка л. Стар., Ян., Хві́шка с. В. Зс., Хву́шка м. Аляк., Яку́бка б. Прык. і інш.

Усе пералічаныя назвы не з"яўляюцца спецыфічна мікратапанімічнымі ўтварэннямі. Яны дублююць структуру: а/ нейтральных адыменных апелятываў -- Бе́лка, Бо́чка, Вычэ́рка /вячорка/, Гру́дка ; аддзеяслоўных -- Вы́палка, Вы́рубка, Вы́смалка і адлічэбнікавых апелятываў -- Дваццатка б. Чеп.; б/ дэмінутыўных форм апелятываў -- Гра́дка, Дубро́ўка, Каро́ўка, Лі́пка, Ло́зка, Ні́ўка, Пало́нька /ад палоня/, Скавару́дка, Сму́жка, Хві́шка.

Частка назваў гэтай падгрупы па структуры супадае з адпаведнымі гідронімамі: Му́лька р. і б., с. Мура́ўка -- р. Мура́ўка, пр. Левай Лясной ; Му́шка р. і лг., Ны́рка р. і лг., Папла́ўка р. і лг. -- р. Папла́ўка -- р. Паплава́, пр. Ружанкі ; з дэмінутыўнымі формамі антрапонімаў: Нічы́порка, Паўлі́нка, Яку́бка.

Мікратапанімічную словаўтваральную функцыю суфікс -к-а выконвае, на наш погляд, толькі ў назвах Ліно́ўка б. Дзет. -- ад назвы в. Діно́ва, Ко́брынка -- дарога, якая ідзе да Кобрына /хоць ёсць і р. Кобрынка/, Яло́вка -- ад назвы в. Яло́ва або прыметніка ялова.

Мікратапонімы на -очк-а /-ачк-а/, -ечк-а /-ячк-а/ па паходжанню дэмінутыўныя апелятывы: Вэ́рбочка б. Абр., Бу́лочка ч.р. Калаз., Бу́лочка л., Ёлочка л. Куп., Коро́бочка л. Рос., Ло́ночка л. Бр. -- у форме жаночага роду і Боло́цечко лг. Стар. Буз., Боло́цічко б. Пар., Болбу́тэчко п. Жог., Скор., Варо́цечко п. Шан., Палёчко б. Прык. -- у форме ніякага роду.

Назвы Воня́чка л. Шан., Паўтара́чка б. Мас., Поля́чка п. Шчар. суадносяцца з нейтральнымі апелятывамі.

Назвы на -інк-а /-ынк-а/ таксама суадносяцца з памяншальна-ласкальнымі формамі адпаведных апелятываў: Бярэ́зінка л. Бак., Гар., Вярбі́нка л. Аляк., В. Зс., Канчы́нка ч. в. Араб., Ольшы́нка л. Нав.

Пераасэнсаванні на -анк-а /-янк-а/ паводле паходжання -- гідронімы і апелятывы. Структуру гідронімаў паўтараюць назвы

Бліз́янка — выган за в. Блізная /р. Блізянка/, с. Влаб́янка — р. Влаб́янка /афіц. Лаб́янка, пр. Ружанкі — в. Байкі/, с. Зельв́янка Зін. — р. Зяльв́янка, пр. Зэльвы, ш. Руж́анка Бяр. — р. Руж́анка. Такога ж паходжання могуць быць і мікратапонімы Альш́анка л. Зап., г. Пясч́анка л. Таўц., Чыр́этянка б. Сасн., якія не маюць гідранімічных адпаведнікаў на тэрыторыі Пружанскага р-на.

Мікратапонімы Выпалянка л. Аліш., Высмалянка л. Об., Пагул́янка п. Засім. — 'поле, якое не апрацоўваецца, "гуляе", Расќопанка лг. Крын. паводле паходжання — аддзеяслоўныя і адпрыметнікавыя апелятывы. Суфікс -анк-а /-янк-а/ выконвае ў іх апелятыўную субстантывуючую функцыю.

Назвы на -аўка, -оўка, прыведзеныя ніжэй, утвораны семантычным шляхам. Яны паўтараюць структуру гідронімаў і айконімаў: В"юнаўка — р. В"юнаўка, с. Мац́оўка — р. Мац́оўка, пр. Ясельды, п. Рудаўка — р. Руд́аўка, пр. Нарэва — в. Руд́аўка, п. Сам́аровка — р. Сам́ароўка, пр. Зэльвы, с. Ч́ымбаўка — р. Ч́ымбаўка, пр. Чымбы, Ш́ылаўка — р. Ш́ылаўка.

Усе астатнія мікратапонімы на -аўка, -оўка з"яўляюцца суфіксальнымі і разглядаюцца асобна.

На Пружаншчыне зафіксавана 38 мікратапонімаў на -ок /-ёк/. У асноўным гэта семантычныя ўтварэнні. Большасць з іх суадносяцца з памяншальнымі формамі апелятываў: Бар́ок п. Бар., Шуб., Ян., б. Гал., Ліх., Зар., л. Ман., Гл. Кут, Верас́ок п. і л. Зельв., Вэрш́ок с. В. Як., В"юр́ок б. Бар., Вяз́ок л. Хвал., Гаёк п. Заг., Гарад́ок ч. в. Гар., Груд́ок ч. в. Юндз., г. Абр., Гл. Кут, Імш́ок б. Бак., Лаз́ок п. Борт., Ліс́ок п. Пад., Луж́ок б. Лібер., Маст́ок л. Шан., Млін́ок м. Засім., Остров́ок п. Борт., Палёк б. Круп., Рав́ок п. Неп., Раж́ок л. Хвал., Сад́ок л. Шан.

Мікратапанімічную словаўтваральную функцыю гэты суфікс выконвае толькі ў назвах Гал́ок п. Галас., Дзіч́ок б. Бар., Осер́одок, дзе ён з"яўляецца субстантывуючым, і ў мікратапонімах айканімічнага паходжання — Езоф́інок б. Радз. — ад назвы в. Езофін і Ляхов́ок б. Хвал. — ад назвы в. Ляхі.

У мікратапаніміі Пружаншчыны суфікс -ок /-ёк/ не заўсёды націскны /Езоф́інок, Ашьёк, Об́рок/. Гэта тлумачыцца асаблівасцямі ненаціскнога вакалізму мясцовых гаворак.

У некаторых назвах суфікс -ок выступае ў спалучэнні з іншымі суфіксамі, утвараючы ўскладненні -ачок, -ічок: Ланачок б. Гл. Кут, Кутóчок вг. Дзед., Пастовнічок б. Зар. Назваў на -ак /-як/ на даследаванай тэрыторыі мала. Гэта таксама ў пераважнай большасці выкарыстаныя ў якасці мікратапонімаў апелятывы з назоўнікавымі, прыметнікавымі і дзеяслоўнымі асновамі: Бядáк б. Юхн., Круглянк б. Ражк., Надáтак п. Кац., Неп., Прагáлак вг. Вар., Мур., Прыдáтак п. Баяр.

Выключэнне складаюць назвы Кобылянк с. Заг. і Шчарбáк л. Ліх., у якіх суфікс -ак/-як/ з"яўляецца мікратапанімічным.

Суфікс -ак /-як/ у мікратапонімах Пружаншчыны рознага паходжання. Ненаціскны /Палéтак, Прагáлак/ узнік з націскнога -ок /-ёк/ па закону акання. Націскны /Круглянк, Кобылянк/ узыходзіць да старажытнага -ако-, вядомага і за межамі славянскіх тэрыторый[2].

У межах даследаванага арэала сустрэлася толькі сем назваў на -ач /-яч/. Тры з іх з"яўляюцца апелятывамі: Капáч б. Бар., Касáч п. Шан. -- ад назвы кветкі, Раскóлач п. Сем.; тры дубліруюць прозвішчы і мянушкі: Маргáч л. Бак. 2 -- ад прозвішча, Папэнтрáч л., Траснáч л. Хвал. -- ад мянушак.

Мікратапонімы на -ік /-ык/, -чык структурна і этымалагічна вельмі неаднародныя. Сярод іх выдзяляюцца падгрупы:

1. Назвы, якія супадаюць з дэмінутыўнымі адназоўнікавымі апелятывамі: Бычык п. Бяр., Гаік п. Калаз., Грýдчык б. Шан., Кóцік п. Калаз., Кýцік п. Бар., Клéшчык л. Клеп., Кóнчык с. Пап., Даб., Крыжык л. Шан., Пераéздзік л. Клеп.

2. Назвы, роўныя па структуры антрапонімам -- імёнам, прозвішчам або мянушкам людзей, што мелі пэўнае дачыненне да дадзенага ўчастка зямлі: Алéсік пш. Ман., Катáрчык л. Лібер., Кулік л. Бар., Матýсік б. Неп., Нóвік л. Вар., Шмýйлік п. Суфікс -ік /-ык/ у такіх назвах -- словаўтваральны сродак антрапаніміі.

Найбольшую колькасць сярод мікратапонімаў на -нік, -няк складаюць назвы, што абазначаюць месца, парослае пэўнай пародай дрэў, кустоў і раслін. Паводле паходжання -- гэта апелятывы: Алéшнік п. Пол., Арэшнік л. Апял., Асіннік лг. Хвал., Барэзнік л. Гл. Кут, Вырбыннік п. Шчарч., Дубіннік п. Бар.,

[2] Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962, с. 96.

Крушы́ннік с. Задв., Лашчы́ннік л. Кац., Малі́ннік п. Ярaш., Задв., Орабі́ннік л. Зар., Осі́ннік л., с. Кругл., Кашт., Ракі́тнык п. Нос., л. Гут., с. Хар., п. Каз., Сі́тнік б. Бельч., Чыра́чыннік лг. Смал.

Крыху меншай па колькасці з"яўляецца група мікратапонімаў, якія суадносяцца з апелятывамі са значэннем 'прадметы і будынкі паводле іх прызначэння': Кура́тнік п. Неп., Пчо́льнік лг. Ман., Шку́льнік вг. Бр. -- раней тут стаяла школа.

Асобна стаяць назвы з суфіксам -нік, якія абазначаюць асаблівасці рэльефу: Я́мнік -- поле, вельмі няроўнае Бак., Шчытн Вар. У іх суфікс -нік выконвае словаўтваральную функцыю. Мікратапонім Па́дальнік Маг., паводле слоў мясцовых жыхароў, утвораны ад назоўніка падаль: тут доўгі час закопвалі мёртвых коней.

Суфікс -няк блізкі да суфікса -нік у назвах першай падгрупы. У сферы апелятываў ён утварае назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць аднародных дрэў, кустоў і раслін. Перанесеныя ў мікратапанімію апелятывы з суфіксам -няк набываюць прасторавае значэнне, яны называюць месцы, парослыя гэтымі дрэвамі або раслінамі: Беразня́к л. Апял., Дубня́к л. М. Зос., Крын., Маладня́к л. Прык., Неп., Асіння́к п., Хвойня́к л. Об.

Утвораныя семантычным спосабам мікратапонімы на -ец /-эц/ суадносяцца з апелятывамі: Гасці́нец д. Круп., Зар. і інш., Двара́ц п. Радз., Коне́ц ч. в. Лаз., Скапе́ц п. Гут., Ядло́вэць л. Бак.; антрапонімамі /імёнамі, прозвішчамі або мянушкамі на -ец /-эц//: Бунявэ́ц л. Цімах., Дашкове́ц, Дэ́шкавец п. Трух., б. Касін., Зал., с. Коз. Бр., Пэтковэ́ц, Пэ́тькувіц л. Дзед., пш. Вішн., Юшкаве́ц б. Гут.; гідронімамі: Ві́нец лг. Борт. -- р. Ві́нец, пр. Ясельды і канал, Дуна́ец с. Бяр.

Некаторыя мікратапонімы на -іца /-ыца/, -ніца з"яўляюцца апелятывамі: Гу́ліца -- частка русла р. Ясельды, Грані́ца п. Пін., Капли́ца л. Касін., Колесні́ца п. Смалян., д. Каб., Крыні́ца л. Барав., Касін., В. Кр., Мік., п. Агар., Красн., Мэдвэ́дiца ч. в. Бр., Шы́бениця б. Пап.

Вельмі пашыраны розныя фанетычныя варыянты назвы Асе́ліца. Два мікратапонімы дубліруюць назвы рэк, што працякаюць на тэрыторыі Пружанскага р-на. Гэта Казі́ца б. Трух. -- р. Казі́ца,

пр. Ясельды, Тачніца б. Ман., Куп. -- р. Тачніца, пр. Левай Лясной. Гідранімічнай патрэбна лічыць і назву Муцьвіца лг. Вар.

У адрозненне ад шматлікіх назваў на -іна /-ына/ у форме прыметніка, дзе гэты суфікс з"яўляецца тапанімічным і мае значэнне прыналежнасці /Даміліхіно, Іваншыно, Соніно/, у мікратапонімах-назоўніках ён мае характэрнае для апелятыўнай лексікі значэнне адзінкавасці: Адрына б. Пап., Бярэзіна л., б., п. Бак., Хом., Цімах. і інш. -- вельмі пашыраная назва, Вырбына пш. Вішн., Дубіна л. Яраш., Еліна б. Ізб., Яліна л. Стар., Хвоіна л. Скор. і г.д. Большасць гэтых назваў /асабліва утвораныя ад прыметнікавых і дзеяслоўных асноў/ са значэннем адзінкавасці сумяшчаюць значэнне якаснасці, яны абазначаюць розныя тапаграфічныя адзнакі мясцовасці: Вывіна п. Пол., Доліна с. Кругл.

Некаторыя мікратапонімы на -іна /-ына/ суадносяцца з апелятывамі са значэннем зборнасці: Альшына л. Неп., Пін., Юхн., б. Ліб., Задв., Асіна б. Стар., Грабіна п. Юндз., л. Касін., Бярэзіна п. Гал., л. Буз., б. Пол., Дубіна п. Блізн., Байк., Баяр., Мас., с. Блізн., Крушына п. Чаб., Лозына пш. Калаз., Хвоіна л. Нав., Юхн., Бак.

У мікратапаніміі Пружанскага р-на назваў на -ня, -оўня мала. Большасць з іх абазначаюць былыя месцы вытворчасці дзёгцю, смалы, цэглы, скуры і г.д.: Гарбарня л. Гут., Дзягцярня д. Зар., л. Блізн., Кожэвня лг. Дзед., Смалярня п. Абр., Смольня л. Віл., Маг., Цагельня п., л. Конц., Зап., Рос. і інш.

Мікратапонім Вовкоўня Шан. называе луг на ўзлеску, дзе знаходзіліся ямы для загону ваўкоў, а мікратапонім Волоўня М. Зос. -- месца на полі, дзе загінулі валы.

Значэнне зборнасці суфікс -ня мае толькі ў назве Хвойня Ражк.

Асобна стаяць назвы, утвораныя ад прыметнікавых асноў. Яны маюць значэнне якасці: Крываня д. Калядз., Кружэўня л. Вішн., Раўніня л. Блізн.

Тып на -ішч-а /-ышч-а/ у сучаснай беларускай мове з"яўляецца малапрадуктыўным. У тапаніміі і мікратапаніміі ён замацаваўся дзякуючы функцыі абазначаць месца, дзе знаходзілася або

знаходзіцца тое, пра што гаворыцца ва утвараючай аснове[3]. Прычым у мікратапаніміі ён больш ранні, чым у айканіміі. Назвы урочышчаў на -ішча /-ышча/ вельмі шырока ўжываюцца ў старабеларускіх помніках ХУІ—ХУП стст. Так, у РКЭ знаходзім Городище, Езерище, Избище, Маковище, Мочалище, Синятище, Ставище і інш. /с. 213--371/ , у ПКПС -- Татище, Дворище, Заглинище, Заклище, Поварище, Порослище, Селище, Слѣпетище, Шидище і інш. /с. 203--419/.

На Пружаншчыне зафіксавана 48 назваў на -ішч-а /-ышч-а/. Як і ў іншых месцах Беларусі, гэта ў асноўным агульныя назоўнікі, выкарыстаныя ў значэнні мікратапонімаў. У залежнасці ад семантыкі іх можна падзяляць на некалькі падгруп: 1. Назвы са значэннем месца ранейшых паселішчаў і збудаванняў: Будзішчэ п. Жог., Гарадзішча ч. в. Мас., Гумнішчэ п. Байк., Дворышча п. Несц., Круп., Маг., Масцішча б. Пол., Пэчышча п. і б. Сасн., Селішча п. В. Зс., Табарышча с. Вішн. 2. Назвы з тапаграфічным і гідралагічным значэннем: Глінішча -- шырока вядомая назва мясцін, дзе капаюць гліну, або палёў з глініс-тай глебай Зел., Жог., Бр., Аляк., Зін., Таўп., Сасн., Шчар., Азярышча б. Блізн., Лас., Пол., Рэчышча б. Нос., Мачулішча мокры луг Маг. . 3. Назвы, што абазначаюць месцы пэўных дзеянняў: Ігрышча л. Падал., Хр., Курышчэ — балота, якое курыць у гарачыя дні Нав., Скор., Тачылішча л. Пол.

Мікратапонімы Пружаншчыны досыць часта заключаюць у сваёй структуры суфікс -іск-а /-ыск-а/. У сабраным на Пружаншчыне матэрыяле налічваецца 29 мікратапонімаў на -іск-а /-ыск-а/. Паводле значэння яны адпавядаюць назвам на -ішч-а /-ышч-а/. Некаторыя з іх утвораны нават ад адных і тых жа асноў: Агародзіско л. Яраш., Бровáрыско п. Хвал., М. Зос. і інш., Вапныско п. Прыл., Гаіско с. Заг., Дворыско пш. Коз. Бр., Клуніско п. Красн., Кантóрыско п. Шчар., Нівіска п. Блізн., Дныско л. Вішн., Млінóвіско п. Доўг., Пэчыска б. Шуб., п. Жог., Рэпіска лг. Шан., п. Андр., б. Перадз., Сэдзіска — поле на месцы былога хутара Хар., Хмэліска л. Ліх., Табарыско п. Дзят., Торпóвіско с. Кругл.

## Суфіксальныя мікратапонімы

Суфіксальныя мікратапонімы-назоўнікі займаюць другое мес-

---

[3] Никонов В.А. География русских суффиксов. -- Onomastica, roczn. V, zesz. 2. Wrocław--Kraków, 1959, с. 338.

ца пасля семантычных утварэнняў.

Гэта мікратапонімы, утвораныя з дапамогай суфіксаў -оўк-а /-аўк-а/, -ёўк-а /-еўк-а/, -іўк-а/ -ыўк-а/.

У сферы апелятыўнай лексікі словы з суфіксамі -оўк-а /-аўк-а/,-еўк-а /-ёўк-а/ -- тып малапрадуктыўны[4]. Вельмі прадуктыўным з"яўляецца суфікс -оўка ў гідраніміі і айканіміі[5]. Досыць шырока прадстаўлены ён і ў мікратапаніміі Пружаншчыны: Аўсеёўка п. і х. Перадз., Альхоўка лг. Бар., Баранаўка с. Мур., п. Смал., Кашт., Барытоўка пш. Мур., Бярозоўка л. Абр., Буслаўка л. Нав., п. Юндз., Юхн., Бурняўка л. В. Зс., Бутрынаўка, Бэкішоўка п. Зас., Вайцэхоўка г. Грык., Ганчароўка б. Кругл., Глінаўка п. Неп., Дубіўка л. Хіц., Дынысувка п. Чаб., Карчоўка л. Хвал., Ляхоўка б. Радз., п. Бр., Марачоўка л. Калаз., Нарутаўка б. Чах., Памаргоўка п. Лыск., Крын., Панікоўка п. Бяр., Сабалёўка п. Лыск., Самаровка м. Задв., Свісталоўка ч. в. Сух., Саханёвка п. Мік., Страхоўка с., Стрыгоўка лг. Сух., Страловка б. Шуб., Тарасоўка б. Мур., Цеслеўка п. Юхн., Ясеноўка п. Крын. і інш.

Крыніцай для ўтварэння мікратапонімаў з суфіксам -оўк-а паслужылі апелятывы /асабліва словы, што абазначаюць раслннасць, жывёльны свет і рэльеф краю/ і антрапонімы/прозвішчы, імёны, мянушкі людзей/. Да адапелятыўных можна аднесці назвы Альхоўка, Бярозаўка; Бораўка /ад апелятыва бор/, Глінаўка, Городоўка, Дубіўка, Карчоўка; Пшынўўка /ад апелятыва пшано/.

Да адантрапанімічных адносяцца мікратапонімы Аўсеёўка, Баранаўка, Бэкішоўка, Бутрынаўка, Вайцэхоўка, Дынысувка, Сабалёвка, Саханёўка, Харцаўка, Яршоўка і інш. Назвы гэтай групы спачатку, відаць, абазначалі ўласнасць пэўнай асобы на зямлю, а потым страцілі значэнне прыналежнасці. Іх можна суаднесці з прыналежнымі прыметнікамі на -оў/-еў: Аўсеева -- Аўсееўка, Баранава--Баранаўка, Бутрынава-- Бутрынаўка і інш. Многія тапанімісты выказваюць думку, што пры ўтварэнні такіх назваў спачатку да антрапоніма дадаваўся суфікс прыналежнасці

---

[4] Граматыка беларускай мовы, т. 1. Мн., 1962, с. 120.

[5] Лемтюгова В.П. Топонимия Минщины. Автореф. канд. дис. Мн., 1967, с. 8.

-оў /-ова/, а пасля -к-а, паступова суфікс -оўк-а набыў самастойнасць і стаў лёгка далучацца да любой асновы незалежна ад таго, мае яна прыналежныя суфіксы ці не[6].

Лексічнай асновай часткі мікратапонімаў мог быць як апелятыў, так і антрапонім або айконім: Бу́слаўка /апел. бусел і прозв. Бусел/, Ганчаро́ўка /апел. ганчар, прозв. Ганчар і в. Ганчары/, Ля́хаўка /апел . лях., прозв. Лях і в. Ляхі/, Бара́ніўка /прозв. Баран і в. Бараны — неафіцыйная назва в. Аляксандраўка/, Тара́саўка /імя Тарас і в. Тарасы/.

Словаўтваральным сродкам мікратапаніміі суфікс -ік з"яўляецца ў назвах, утвораных ад прыметнікавых асноў. У іх ён выконвае субстантывуючую функцыю: Гарэ́лік л. Лаз., Зар., Кру́глік б. Шуб., Дзет., п. Араб., Кац., Куп., Апял., лг. Араб., л. Дол., узв. Шчытн., За́днік — самая задняя ад вёскі паша Жадз., Кра́снік б. Перадз., п. Смалян., л. Лаз.

Можна было б дапусціць, што апошняя назва айканімічнага паходжання /у раёне ёсць вёскі Вялікі і Малы Краснік/, аднак урочышчы пад назвай Краснік адносяцца да зямель іншых вёсак, размешчаных далёка ад Вялікага і Малога Красніка.

У мікратапонімах гэтай падгрупы часта назіраецца зліццё суфікса -ік з прыметнікавымі суфіксамі -ов /-ев/, у выніку чаго атрымліваецца ўскладнены суфікс -овік /-евік/: грабавы /лес/ + -ік — Грабаві́к, асовы + -ік — Асо́вік. Так утварыліся назвы Вэрбо́вік д. Доўг., Грабові́к л. Нав., Грабовы́к п. і лг. Дзед., Дубо́вік б. Бельч., В. Кр., Калі́навік б. Мокр., Ліпо́вік б. Бельч., Асо́вік б. Хом., п. Чаб., Чэрэмхо́вік б. Хвал., Часныко́вык п. Бр. Некаторыя з гэтых назваў маглі быць утвораны шляхам непасрэднага далучэння да назоўніка суфікса -овік: клешч + -ові́к — Кляшчо́вік, луг + -овік — Лужо́вік Хвал. Мікратапонім Смы́кавік лг. Шан. адносіцца да гэтай групы толькі фармальна, бо паходзіць ад апелятыва смыкавік — дыялектная назва высокай балотнай травы.

---

[6] Цілуйко К.К. Топонімія Покровського району Дніпропетровської області. — Мовознавство, т. XIУ. Київ, 1957; Лемцюгова В.П. Беларуская айканімія. Мн., 1970, с. 85; Прищепчик А.М. Микротопонимия Столбцовщины. Автореф. канд. дис. Мн., 1970, с.6.

Дзве назвы з суфіксам -авацік /з суфікса -ік + прыметніка-вы формаўтваральны суфікс -ават/: Куповацік Шан., Моховацік м. Хідр. Яны называюць балоцістыя лугі. Мікратапонімы на -авацік тэрыторыі Беларусі не ўласцівы, яны пашыраны на поўначы Расіі[7].

Суфікс -ец /-эц/, -овец у мікратапаніміі выконвае як словаўтваральную, так і дэмінутыўную функцыю, у той час як у апелятывах дэмінутыўная функцыя гэтага суфікса практычна ўжо знікла[8]. У межах даследаванага арэала пераважаюць назвы, у якіх гэты суфікс ужываецца адначасова ў словаўтваральнай і ў дэмінутыўнай функцыі. Гэта назвы, утвораныя: а/ ад асноў назоўнікаў: Агародзец лг. Кул., Багэнец п. Ізб., Неп. , Выганец лг. Касін., Грудзец п. Маг., Поцерабец л. Мур., Ясенец л. Клеп., Нав., Ястрэбэц б. Зан. Апелятывы тут бадай толькі Агародзец і Грудзец і то часцей ужываюцца агародзік, грудок. Сюды прымыкае Нікарэц — назва поля Хвал., утвораная ад мікратапоніма Нікар /вялікі масіў асушаных балот/; б/ ад асноў прыметнікаў. Такія мікратапонімы ўказваюць на розныя прыкметы мясцовасці: Глубанец вг. Пап., Гнылец б. Кашт., Зелянец л., б., с. Шан., Чах., Сівец п. В. Кр. — мікратапонім можа быць утвораны семантычна ад назвы травы /Кіс., 86/, Рудзец б. Віл., Лыск., Студзянец Бак. 2.

Словаўтваральным, без адцення дэмінутыўнасці гэты суфікс з"яўляецца ў назвах, утвораных ад адносных прыметнікаў. Тут ён звычайна расшыраецца суфіксамі -ов-, -ав-, -ін-, -ын-, утвараючы -овец /-овэц/, -авец, -інец, -ынец. Гэтыя назвы маюць адноснае значэнне: Вэзовэц п. Буз., Вязавец б. Скор. — ад вяз, вязавы, Глінянец б. Куп., Калінавец л., б. Стар., Ліповэц б. Скор., Смалянец л. Барав. або прыналежна-адноснае: Дзедавэц б. Стар., Вовчынец л. Шчарч., Козынэц л. Бак.

Суфіксы -іц-а /-ыц-а/, -ніц-а ў гідраніміі з"яўляюцца выключна прадуктыўнымі. З іх дапамогай утвараюцца назвы не толькі ад славянскіх, але і ад неславянскіх гідранімічных асноў[9]. У

---

[7] Косова Э.И. Севернорусские микротопонимы с суффиксами -оватик, -еватик. — Микротопонимия. М., 1967, с. 148.

[8] Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья, с. 97.

[9] Там жа, с. 99.

тапанімії назвы з гэтымі суфіксамі пашыраны на ўсёй славянскай тэрыторыі, аднак прадуктыўнасць іх у цяперашні час невялікая[10].

Досыць шырока гэты суфікс выкарыстоўваецца і ў мікратапанімії Пружаншчыны: Барсуко́віца л. Смалян., Боро́віца б. Зам., Брукóвіца п. Хом., Бу́сленіца лг. Куп., Волóвіца л. Трух., Гнілі́ца лг. М. Хідр., б. Зар., Сасн., Хр., Дзегцяні́ца лг. Куп., Дубóвіца л. Лібер., Камяні́ца п. Кац., Чах., Красн., лг. Шан., Капаніца б. Зан., Крапі́ўніца п. Пол., Ражк., Стар., Неп., б. Бельч., Кру́гліца б. Ліх., Міхаўні́ца л. Блізн., Осові́ца п. Роўб., Плі́тніца л. Зап., Пу́хавіца пш. Хвал., Рагóзніца б. Лыск. і інш.

Пераважная большасць такіх мікратапонімаў узыходзіць да якасных і адносных прыметнікаў і характарызуе аб"ект з боку розных прыкмет. У прыватнасці, яны адлюстроўваюць асаблівасці рэльефу і якасць глебы /Брукóвіца, Гнілі́ца, Камяні́ца, Капані́ца, Пу́хавіца/, указваюць на характар раслінасці /Борові́ца, Дубóвіца, Осóвіца/, на колер, глыбіню, форму аб"екта /Дзегцяні́ца, Глыбэні́ца, Кру́гліца/. Адназоўнікавыя ўтварэнні /іх менш/ па семантыцы амаль не адрозніваюцца ад прыметнікавых. У іх асновах таксама ёсць указанне на раслінасць, жывёльны свет і рэльеф краю: Бу́сленіца, Кобы́льныца, Крапі́ўніца, Рагóжніца, Плі́тніца.

Суфіксы -іха /-ыха/, -уха звычайна адносяць да тапанімічных[11]. У мікратапанімії Пружаншчыны назвы на -ыха /-іха/, -уха /-юха/ складаюць колькасна нязначную групу. Мікратапонімы на -ыха /-іха/ у асноўным антрапанімічнага паходжання. Утвораны яны на ўзор вельмі пашыраных у гаворках /у тым ліку і на Брэстчыне/ назваў жанчын па імені, прозвішчы ці мянушцы мужа або бацькі: Гарабі́ха /мясц. гарабей 'верабей'/ п. Калядз., Гі́нчыха

[10] Ковалик І.І. Словотворча будова української топоніміки.— Питання українського мовознавства, кн. ІУ. Львів, 1960, с. 143.

[11] Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья, с. 135; Ніканаў У.А. Геаграфія фармантаў у тапанімії Беларусі. — Пытанні беларускай тапанімії. Мн., 1970; Бірыла М.В., Демцюгова В.П. Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах /Антрапанімічныя айконімы/. Мн., 1975, с. 50.

/ад гінчы 'іншы'/ б. Зан., Камарыха п. Пол., Куляшыха п. і б. Лыск., Супруніха л. Байк., Настусіха г. Клеп. Аднак гэта не значыць, што такія назвы ўказваюць толькі на прыналежнасць зямлі жанчыне. Так, Гарабіха -- поле Вераб"я /прозвішча/, Камарыха, Куляшыха, Супруніха -- землі, што належалі гаспадарам, прозвішчы якіх Комар, Кулеш, Супрун.

Дзве назвы на -ыха ўтвораны не ад антрапонімаў. Гэта Рэгачыха -- дарога, што вядзе ў в. Рэгачы /айканімічнага паходжання/, Парушыха п. Бак. -- ад дзеяслоўнай асновы /поле на месцы былога залежу, цаліны, якую "парушылі"/.

Мікратапонімы на -уха /-юха/, -ёха утвораны ад прыметнікавых і дзеяслоўных асноў і ўказваюць на розную якасць зямлі: Лысуха п. Бак., Лысуха л. Хіц., г. Сем. -- назва магла быць утворана і семантычна ад лысуха 'абложная пясчаная зямля' /Демц./, Залатуха п. Віл., Здуха, Дыравуха лг. Сяр., б. Зас., Скрыгітуха п. Смал. -- поле, на якім шмат камення.

У сучаснай беларускай мове тып на -ьје малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны. У тапаніміі і мікратапаніміі гэты суфікс звычайна ўтварае назвы разам з прэфіксамі /Зарэчча, Паддуб"е/ або назвы складаныя /Верхалессе, Кацыполле/.

На Пружаншчыне зафіксавана сем мікратапонімаў, дзе суфікс -ьје утварае назвы без прыставукі: Карчоўе л. Пар., Лазышынне б. В. Зс., Малінне б. Скор., Ольшынне лг. Лінов. Прыведзеныя назвы маюць значэнне зборнасці аднародных дрэў, раслін. Дзве назвы ўтвораны ад прыставачных дзеясловаў: Наданне лг. Бак., Пратарочча б. Мас. Адна назва мае няясную аснову -- Крамшычча п. і б. Пап.

З суфіксам -шчына на даследаванай тэрыторыі зафіксавана 130 назваў. Пераважная большасць іх /87/ антрапанімічнага паходжання: частка з іх утворана ад хрысціянскіх імён: Андросаўшчына л. Зел., Андрыеўшчына л. Чах., Антынувшчына, Васілеўшчына п. Лінов., Леваншчына лг. Стар. , Міруtоўшчына п. В. Зс., Паўлоўшчына с. Даб., Савкувшчына п. Галас., Яромаўшчына п. Хвал., Ясковшчына л. Гар. і інш., а іншыя -- ад антрапонімаў апелятыўнага паходжання: Варшылоўшчына ч. в. Хвал., Горбачэвшчына п. Зар., Жуківшчына п. Чаб., Карпалішчына п. Шчарч., Комаровшчына б. Засім., Мадзеўшчына п. Задв., Махноўшчына л.

Ізб. — ад мянушкі Махно, Сакáльшчына с. Грын., Смалюшчына п. Ліб. — ад прозв. Смаль і іншыя, да ліку іх належаць і мікратапонімы, асновы якіх указваюць на прафесію ці занятак: Калісьныкýвшчына п. Шчар., Попóўшчына п. Хар., Купл., Мік., Нос., Цупíвшчына п. Каз., Пысарíвшчына п. Чаб. Такія назвы мелі значэнне прыналежнасці. Узнікненне іх абумоўлена спецыфікай феадальнага землеўладання: драбленнем зямельных участках, перадачай іх у спадчыну, купляй-продажам зямлі. Назвы на -шчына абазначалі не толькі поле, урочышча, але і хутар, на якім жыў гаспадар гэтай зямлі. Параўн. Сэмёноўшчына п. Нос. — былы хутар заможнага селяніна Сямёна, Оселёўшчына лг. Шан. — назва месца, дзе жыў і трымаў карчму яўрэй Осель, Пецюляўшчына п. Ял. — былы хутар Пяцюлі /ад мянушкі Пяцюль < Пётр/.

Асобнае месца займаюць мікратапонімы, ут ораныя ад айконімаў /пераважна ад назваў суседніх вёсак/. Такія назвы абазначаюць прыналежнасць участка зямлі калектыву вёскі. Аднак паняцце прыналежнасці тут адноснае.

Пачаткова хутчэй за ўсё прымаўся пад увагу не калектыў, а тэрытарыяльная прыкмета — суседства з пэўным населеным пунктам[12]. Гэта назвы тыпу: Байкóвшчына п. Бак. — ад назвы в. Байкі, Бóртнувшчына п. Прыл. — в. Бортнавічы, Дóлкаўшчына п. — в. Долкі, Загóршчына п. Задв. — в. Загор"е, Казлóўшчына п. Зін. — в. Казлы, Клебáншчына лг. Кашт. — в. Клябанцы, Лінóўшчына п. Касін. — в. Лінова, Олішэ́вшчына п. Смал. — в. Алішавічы, Ражкóўшчына п. Задв. — в. Ражковічы, Олёхновшчына — в. Аляхновічы /мясц. Олёхновічы/.

Сярод мікратапонімаў на -шчына зафіксаваны назвы з апелятыўнымі асновамі, якія характарызуюць прыродна-геаграфічнае асяроддзе: Горовшчы́на — гарыстае поле Ражк., Грушэўшчына — поле, на якім многа дзікіх груш Грын., Елоўшчына — яловы лес Ізб., Садóўшчына — поле на месцы былога саду Пар.

Назва Купаўшчы́на, паводле слоў мясцовых жыхароў, абазначае спосаб набыцця зямлі. Яна называе поле, купленае сялянамі ў пана Мур.

[12] Бірыла М.В., Лемцюгова В.П. Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах, с. 46.

Адзначана адна назва на -шчызна: Клімешчызна п. Роўб., утвораная ад Клімен, Клімеш.

Прэфіксальныя ўтварэнні

Прэфіксальныя назвы тыпу Падгара, Залес у славянскай тапанімії ўпершыню былі даследаваны польскім тапаністам М.Карасем[13]. Пазней да гэтага тыпу назваў звярнуліся іншыя даследчыкі, якія паказвалі іх пашыранасць у мікратапаніміі асобных тэрыторый[14].

У мікратапаніміі Пружанскага р-на прэфіксальным спосабам утворана 130 назваў, 23 з якіх — субстантываваныя прыметнікі і разглядаюцца разам з іншымі тыпамі мікратапонімаў-прыметнікаў, а 107 маюць форму назоўнікаў адзіночнага або множнага ліку з наступнай структурай:

прэфікс + уласны назоўнік ;
прэфікс + агульны назоўнік.

Прэфіксы /за-, пад-, зрэдку на-, між-, каля-/ надаюць гэтым назвам прасторавае адценне значэння, служаць для вызначэння месца размяшчэння мікрааб"екта ў адносінах да іншага геаграфічнага аб"екта.

Больш пашыраны назвы першай падгрупы — прэфікс + уласны назоўнік, уласным назоўнікам у якіх з"яўляецца мікратапонім або айконім: Заклюкоўка п., вг. Куп. /Клюкоўка — назва лесу/, Залозка п. Мік. /Лозка — лясное ўрочышча/, Зашматок п. Бар. /Шматок — участак поля/, Надворышча п. Куп. /Дворышчэ — поле/, Паддубіна п. Бар. /Дубіна — участак лесу/, Паддушылаўка б. Куп. /Душылаўка — лясное ўрочышча/, Падпоцэрэб л. Абр. /Поцэрэб — поле/, Падкамароўшчына п. Шуб. /Камароўшчына — хмызняк/,

[13] Karaś M. Nazwy miejscowe typu Podgóra, Zalas w języku polskim i w innych językach słowiańskich. Wrocław, 1955, c. 76.

[14] Прищепчик А.М. Микротопонимы типа За ракой, Зарака, Зарэчча. — Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР. Рига, 1966 ; Никитин А.В. Топонимы типа Подъяблонька в местных названиях земельных угодий Псковской и Новогородской областей.— Псковские говоры, т. 1. Псков, 1962.

Падстру́га п. Зан. /Струга -- лес/, Падтыху́ш лг. М. Хідр. /Тыхуш -- лес/, Засе́лішча пш. Пол. /Се́лішча -- назва вёскі /, Закрыні́ца, Подкрыні́ца п., л. Дзед. /Крыні́ца -- назва вёскі/ і інш.

У назвах другой падгрупы ў якасці утваральнай асновы выступаюць агульныя назоўнікі -- тапаграфічныя або ландшафтныя тэрміны /гара, рака, возера, лес, бор, гай/, назвы дрэў і раслін, тыпаў паселішчаў і збудаванняў: Зарэ́чка б. Ражк., Залясо́к ч. в. Клеп., Заве́рх л. Пол., Залу́г п. Нав., Зага́ць п. Мур., Загрэ́бля б. Ражк., Забро́д п. Засім., Засяло́ п. Перадз., Запаса́дка л. Неп., Падгара́ п. Ял., Подо́зеро б. Шчытн., Подса́жувка п. Дзед., Пуддрагва́ п. /мясц. драгва 'дрыгва, балота' Ліб./, Падга́й п. Зельз., Баяр., Падасі́на п. Зін., Падвэ́рба п. Даб. Практычна кожны з гэтых наменклатурных тэрмінаў можа быць выкарыстаны ў якасці мікратапоніма, таму ўстанавіць, дзе аснова -- апелятыў, а дзе -- мікратапонім, часам вельмі цяжка.

Мы прытрымліваемся думкі тапаніміcтаў пра тое, што разгледжаныя назвы толькі ў плане сінхраніі з"яўляюцца прэфіксальнымі, у плане ж дыяхраніі выяўляецца іх генетычная сувязь з прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі[15]. Ёсць усе падставы лічыць, што мікратапонімы такога тыпу ўтвораны не непасрэдна далучэннем прэфікса да асновы, а шляхам лексікалізацыі адпаведных прыназоўнікавых канструкцый: За ракою > Зарака, За лесам > Залес, Пад гарою, Пад гару > Падгара. Флексія ўскоснага склону замяняецца флексіяй назоўнага склону. Асабліва ярка гэта відаць на прыкладзе мікратапонімаў тыпу Калякрыні́ца лг. М. Хідр., Міжрэ́чкі б. Блізн., у якіх прэфіксы не страцілі выразнай сувязі з прыназоўнікамі. Адпаведнасць прэфіксальных назваў прыназоўнікавым канструкцыям выяўляецца і ў мове мясцовых жыхароў, якія, ставячы гэтыя назвы ва ўскосным склоне, замест прыстаўкі часцей ужываюць прыназоўнік: сенакос Загрэ́бля, але сена касілі За грэ́бляй, а не на Загрэ́блі, лес Запаса́дка, але грыбы бралі ў лесе За паса́дкай, поле Падпацы́нічы, але жыта жалі Пад Пацы́нічамі, а не на Падпацы́нічах.

[15] Карпенко Ю.А. Еще о топонимической префиксации. — Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР, с.60 ; Карсакова М.М. Прыназоўнікава-іменныя канструкцыі і суадносныя з імі прэфіксальныя ўтварэнні ў мікратапаніміі Гомельшчыны. — Пытанні беларускай тапаніміі. Мн., 1970, с. 141.

Асобную групу складаюць мікратапонімы тыпу Загород п. Жог., Закуток п. Об.. Запашка п. Загал., Кашт., Зашйёк с., Задв., Пагной п. Байк., Круп., якія з"яўляюцца прэфіксальнымі апелятывамі і прыйшлі ў мікратапанімію семантычным шляхам, без змены сваёй унутранай структуры.

## Прэфіксальна-суфіксальныя назвы

Прэфіксальна-суфіксальныя назвы тыпу Залессе, Зарэчча, Падлужжа сваёй семантыкай прымыкаюць да прэфіксальных. Яны таксама не даюць характарыстыкі мясцовасці, а ўказваюць на яе размяшчэнне. Як і ў іншых раёнах Беларусі, на Пружаншчыне яны ўяўляюць мадэль прэфікс + корань + суфікс -ьје. На даследаванай тэрыторыі прэфіксальна-суфіксальных мікратапонімах мала -- усяго 52 назвы, аднак для іх характэрна частая паўтаральнасць. Так, зафіксаваныя 52 назвы служаць для абазначэння 110 мікраоб"ектаў. Найбольш пашыраны назвы з прэфіксамі за- і пад-: Забагонне, Заборочча л. п. Шчарч., Забулоцце с. Чах., Заградзе п. Жог., Загайе п., с. Смал., Юндз., Загор"е п. Калаз., Задвор"е б. Абр., Буз., В. Як., Залаззе б. Аліш., Залессе п. б. Хім., Замошша п. Об., Заробўе с. Юндз., Ліб., Засмужжа п. Об., Падбалоцце п. с. Стар., , Буз., Смал., Шчарч., Падбагонне лг. Кац., Падбор"е п. Борт., Поддорожжэ п. Кругл., Подкрыжжэ п. Пацал., Подклюньe п. Смалян., Подробўе лг. Смал., Пыдскопэччэ п. Об., Пудпчілле п. Галас., Падрэчча п. Кашт., Купл., Барав.

Значна радзей ужываюцца для ўтварэння назваў разглядаемага тыпу прэфіксы пры-, між-, перад-, проці-: Прыселенне п. Абр., Шчарч., Междарож"е п. Гл. Кут., Міждарожжа п. Неп., Несц., Шан., Мыжыдорожжэ п. Сасн., Поміждорожжэ п. Ізб., Межыдорожжэ Жадз., Міжробўе п. Бяр., Вашч., Пэрэдгуліччэ п. Грын., Проціселле п. Гар.

У залежнасці ад характару ўтваральнай асновы выдзяляюцца дзве разнавіднасці прэфіксальна-суфіксальнай мадэлі:

прэфікс + агульны назоўнік + суфікс -ьје ;

прэфікс + уласны назоўнік + суфікс -ьје.

У межах даследаванага арэала пераважае першая разнавіднасць: Падбор"е, Падрэччэ, Паддуб"е, Падробўе, Загор"е, Залессе, Загороддзе і г.д. У назвах першай разнавіднасці агульны назоўнік часцей за ўсё з"яўляецца наменклатурным тэрмінам, у назвах

другой — уласны назоўнік з"яўляецца мікратапонімам: Заля́ззе — Лаз, Забаго́нне — Багон, Засму́жжэ — Смуга, Подвыжа́р"е — Выжар, зрэдку айконімам: Падчахо́ўе — поле ля вв. Чахец, Хомна; антрапонімам: Падга́нне — луг ля хутара, на якім жыве адзінокая бабка Ганна.

Як і прэфіксальныя ўтварэнні, прэфіксальна-суфіксальныя мікратапонімы генетычна звязаны з прыназоўнікавымі канструкцыямі: Зало́ззе < За Лазо́й, Заро́ўе < За ро́вам, Падбало́цце < Пад бало́там, аднак ім уласціва большая тапанімізацыя, яны з"яўляюцца апошнім звяном мікратапанімічнага рада За ракой, Зарака, Зарэчча[16].

Такім чынам, прэфіксацыя ў мікратапаніміі Пружанскага р-на не займае такога значнага месца, як суфіксацыя, аднак прэфіксальных назваў тут больш, чым прэфіксальна-суфіксальных. Тлумачыцца гэта, відаць, тым, што для заходніх раёнаў Беларусі характэрна апелятыўная прэфіксальная словаўтваральная мадэль /падклець, падпавець, падпол/, а не прэфіксальна-суфіксальная /падклецце, падпавецце, падпадполле/[17].

Прынятыя скарачэнні

Крыніцы

БА — М.В. Бірыла. Беларуская антрапанімія, ч. П. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мн., 1969; Касп. — М. Каспяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1929; Кіс. — А.И. Киселевский. Латино-русско-белорусский ботанический словарь. Мн., 1967; Лемц. — В.П. Лемцюгова. Беларуская айканімія. Мн., 1970; ПКПС — Писцовая книга Пинского староства, ч. I. Вильна, 1874; РКЭ — Ревизия Кобринской экономии. Вильна, 1876; Тап. — В.Н. Топоров, О.Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962; Яшк. — І.Я. Яшкін. Беларускія геаграфічныя назвы. Мн., 1971.

---

16 Прищепчик А.М. Микротопонимы типа За ракой, Зарака, Зарэчча, с. 135.

17 Лемцюгова В.П. Беларуская айканімія, с. 123.

Вёскі

Абр. — Абруб
Агар. — Агароднікі
Аліш. — Алішкавічы
Аляк. — Аляксандраўка
Андр. — Андрыянаўка
Апял. — Апялянавічы
Араб. — Арабнікі
Асят. — Асятніца
Байк. — Байкі
Бак. — Бакуны
Бак. 2 — Бакуны 2
Бар. — Баркі
Барав. — Баравікі
Баяр. — Баяры
Бельч. — Бельчыцы
Бліэн. — Бліэная
Борт. — Бортнавічы
Бр. — Брады
Брант. — Брантоўцы
Вуз. — Бузуны
Бушн. — Бушнякі
Бяр. — Бярэзніца
Вар. — Варанілавічы
Варот. — Варотнае
Вашч. — Вашчынічы
Віл. — Вільянава
Віт. — Вітараж
Вішн. — Вішня
В. Кр. — Вялікі Краснік
В. Зос. — Вялікі Зосін
В. Як. — Вялікія Яковічы
Гал. — Галены
Галас. — Галасяніца
Гар. — Гараднявы
Гл. — Глушэц
Гл. Кут. — Глыбокі Кут
Грын. — Грынявічы
Гут. — Гута
Даб. — Дабучын
Дзед. — Дзедаўка
Дзет. — Дзетаветчына
Дол. — Долкі
Доўг. — Доўгае
Жаб. — Жабін
Жадз. — Жадзены
Жог. — Жогалы
Заг. — Загор"е
Загал. — Загалічы
Задв. — Задвараны
Зал. — Залессе
Зам. — Замошша
Зан. — Заневічы
Зап. — Заполле
Зар. — Зарэчча
Зас. — Засімы
Засім. — Засімавіч
Зел. — Зеляневічы
Зельз. — Зельзін
Зін. — Зіновічы
Ізб. — Ізбіцы
Каб. — Кабылаўка
Кав. — Кавалі
Каз. — Казакі
Калаз. — Калазубы
Калядз. — Калядзічы
Касін. — Касіншчына
Кац. — Кацёлкі
Кашт. — Каштанаўка
Клеп. — Клепачы
Коз. Бр. — Козі Брод
Конц. — Концыкі
Красн. — Краснае

Кругл. -- Круглае
Круп. -- Крупа
Крын. -- Крыніца
Кул. -- Куляны
Куп. -- Купічы
Купл. -- Куплін
Лаз. -- Лазоўка
Лас. -- Ласасін
Ліб. -- Лібія
Лібер. -- Ліберполь
Лінов. -- Лінова
Ліх. -- Ліхачы
Лыск. -- Лыскава
Маг. -- Магілёўцы
Ман. -- Манцы
Мас. -- Масявічы
М.Зос. -- Малы Зосін
М. Кр. -- Малы Краснік
Мік. -- Мікалаевічы
Мокр. -- Мокрае
Мур. -- Мурава
М.Хідр. -- Малыя Хідры
Нав. -- Навасёлкі
Неп. -- Непамацынаўка
Несц. -- Несцяркі
Нос. -- Ноські
Об. -- Обэч
Пад. -- Паддубна
Падал. -- Падалессе
Пап. -- Папялёва
Пар. -- Парасляны
Перадз. -- Перадзельск
Перас. -- Перасадзічы
Пін. -- Піняны
Пол. -- Поланск
Прык. -- Прыкалесь
Прыл. -- Прылуччына
Радз. -- Радзецк
Радч. -- Радчыцк
Ражк. -- Ражковічы
Рос. -- Росахі
Роуб. -- Роўбіцк
Рудн. -- Руднікі
Сасн. -- Сасноўка
Сем. -- Семянча
Скор. -- Скорцы
Смал. -- Смаляны
Смалян. -- Смалянніца
Стар. -- Стараволя
Сух. -- Сухопаль
Сяр. -- Сярэдняе
Тар. -- Тарасы
Таўц. -- Таўцвілы
Тк. -- Ткачы
Трух. -- Труханавічы
Хар. -- Харава
Хвал. -- Хвалава
Хідр. -- Хідры
Хім. -- Хімічы
Хіц. -- Хіцяўшчына
Хом. -- Хомна
Хр. -- Харкі
Цімах. -- Цімахоўшчына
Чаб. -- Чабахі
Чах. -- Чахец
Шан. -- Шані
Шп. -- Шпакі
Шуб. -- Шубічы
Шчар. -- Шчарбы
Шчарч. -- Шчарчова
Шчытн. -- Шчытна
Юндз. -- Юндзілы
Юхн. -- Юхнавічы
Ял. -- Ялова
Ян. -- Янаўцы
Яраш. -- Ярашэвічы

## Іншыя скарачэнні

апел. -- апелятыў
афіц. -- афіцыйнае
б. -- балота
бел. рэг. -- беларускае рэгіянальнае
в. -- вёска
вг. -- выган
г. -- гара
ГТ -- геаграфічны тэрмін
д. -- дарога
л. -- лес
лг. -- луг
мясц. -- мясцовае
п. -- поле
пр. -- прыток
прозв. -- прозвішча
пш. -- паша
р. -- рэчка
с. -- сенажаць
ст.-бел. -- старабеларускае
узв. -- узвышша
х. -- хутар
ч.в. -- частка вёскі
ч.р. -- частка рэчкі

М.Н. Крыўко

# З МІКРАТАПАНІМІІ ДЗІСЕНШЧЫНЫ

У слоўніку любой гаворкі значнае месца, акрамя апелятыўнай, займае анамастычная лексіка. Гэты лексічны пласт не павінен заставацца па-за ўвагай даследчыкаў, у прыватнасці ўкладальнікаў рэгіянальных слоўнікаў. Аўтар дадзенага артыкула працуе над укладаннем поўнага слоўніка адной гаворкі Дзісеншчыны. На яго думку, мэтазгодна ў якасці дадатку да асноўнай /апелятыўнай/ часткі слоўніка змясціць мясцовую анамастычную лексіку. У паняцце "поўны слоўнік" гаворкі ўкладваецца падача ўсёй мясцовай лексікаграфічна афармленай апелятыўнай і анамастычнай лексікі /афіцыяльныя і бытавыя імёны і прозвішчы людзей, імёны-мянушкі, эмацыянальна-ацэначныя антрапонімы, заонімы, этнонімы, назвы мясцовых геаграфічных аб"ектаў -- назвы населеных пунктаў, рачулак, азярцоў, адгеаграфічныя прыметнікі, мікратапонімы і г.д./.

Пад Дзісеншчынай разумеецца тэрыторыя ў пойме ракі Дзісны, прыкладна ад вусця р. Мнюты да вусця р. Дзісны /дзе р. Дзісна ўпадае ў р. Заходнюю Дзвіну/. Гэты рэгіён ахоплівае частку Шаркаўшчынскага, Глыбоцкага і амаль дзве трэція тэрыторыі Міёрскага р-на, яго паўднёва-ўсходнюю частку, і прыкладна супадае з тэрыторыяй былога Дзісенскага р-на, які існаваў да 1959 г. Дзісеншчына размешчана ў Дзісенскай нізіне, пасярэдзіне якой і цячэ р. Дзісна. На гэтай тэрыторыі многа лясоў і балот, астаткавых азёр, найбольшае з якіх

воз. Ельня. Па Дзісеншчыне працякае некалькі рэк, галоўная з іх Дзісна са сваімі асноўнымі прытокамі Авутай і Мнютай.

Змешчаныя ніжэй мікратапонімы запісаны ў вёсках на тэрыторыі калгаса "Іскра" Міёрскага р-на. У склад калгаса увайшло 15 вёсак: Атрошкава, Бухалава /вёска размешчана па два бакі яра. Па адзін бок мае назву Бухалава, а па другі -- Бухалова. Агульная, а таксама і афіцыяльная назва -- Бухалава. Большасць жыхароў вёскі носіць прозвішча Бухаловіч/, Восцевічы, Гараўцы /частка в. Восцевічы/, Грэчына /частка в. Янкава; Янкава размешчана на ўзгорку, а Грэчына -- у нізіне/, Загор"е /афіцыяльная назва вёскі, мясцовая-Загоршчына/, Залонецкія /афіцыяльная назва, мясцовая -- Залонацкія--Залоньцкіі/, Кавалёва /афіцыяльная назва, мясцовая -- Кавалёўшчына. "Кавалёва" ніхто ніколі не называў і не называе. Гэта інфармацыя ад мясцовых жыхароў/, Копцева II /в. Копцева I знаходзіцца ў суседнім калгасе імя Цітова/, Лонка I, Лонка II, Мазурына, Манякова /цэнтр калгаса "Іскра". У Манякове і іншых вёсках калгаса многа жыхароў мае прозвішча Маняк/, Мікалаева, Млынарова /вёска стаіць ля р. Авуты. На рацэ раней быў млын. Гэта афіцыяльная назва, мясцовая -- Мамарова/, Падзвінне, Янкава.

Тэрыторыя калгаса прымыкае да г. Дзісна з паўднёва-ўсходняга боку, а па Заходняй Дзвіне мяжуе з Верхнядзвінскім р-нам. На поўдзень ад калгаса ў 2 км праходзіць граніца Міёрскага р-на з Полацкім. З трох бакоў калгас акружан рэкамі-- Заходняй Дзвіной, Дзісной, Авутай, а з чацвёртага, паўднёва-заходняга граніца калгаса праходзіць па глыбокім яры, па лесе і далей па маленькай рачулцы Восьмеры /ці Восьмерцы/, якая ўпадае ў р. Авуту. Большая частка калгаса размешчана на ўзгорыстай мясцовасці, астатняя частка ў падзвінскай нізіне, па якой працякае яшчэ адна маленькая рэчка Лонка, якая тут упадае ў Заходнюю Дзвіну. На тэрыторыі знаходзяцца тры вялікія лясныя масівы /Бор, Ляды, Баравіна/ і адзін маленькі лясок /Ельнік/, некалькі балотцаў, ёсць хмызнякі, многа яроў і ручаёў, што злучаюцца з той ці іншай ракой, прырэчныя лугі і паплавы, пяскі, сугліністыя ўчасткі і інш.

Мікратапонімы, змешчаныя ў артыкуле, паказваюць на харак-

тар мясцовага рэльефу: Касагор, Бухалаускі руччэй, Гарэлае балота; на уласцівасці глебы: Пескаватка, Пяскі; на віды расліннасці мясцовасці: Баравіна, Бор, Мох, Ельнік.

Некаторыя мікратапонімы указваюць на наяунасць у мінулым таго ці іншага аб"екта: Гарадзішча; на наяунасць выкапняу, кар"ерау: Гліпішча; на працэсы работы па пераутварэнню земляных аб"ектау: Пліптоука, Лыска, Церабяжы, Цераблёнка.

Іншы раз назвы сведчаць пра здарэнні, якія маглі мець месца у мінулым: Дзе Ігналю забілі, Бомба. З некаторых назвау мікрааб"ектау можна пачэрпнуць тыя ці іншыя гістарычныя звесткі пра родны край: Князёука, Беленькі Дварок.

Прыкладна палавіна усіх зафіксаваных мікратапонімау указвае на прыналежнасць той ці іншай асобе: Аблінддарышыны кусты, Андрэева сажалка, Антонава гара.

Структурна мікратапонімы падзяляюцца на дзве роуныя групы: а/ на простыя: Дубы, Жураушчына і б/ састаупыя: Загорскае поле, Зубкау сад, Мысліускі асіннік, Дзе Ігналю забілі.

Рэестравыя мікратапонімы падаюцца уніфікавана, у літаратурнай форме. У ілюстрацыйным матэрыяле захоуваюцца фанетычныя асаблівасці мясцовых гаворак.

АБЛІНДАРЫШЫНЫ КУСТЫ. Назва кустоу ля в. Восцевічы.

АВУТА ж. Назва ракі, якая выцякае з воз. Язна і упадае у р. Дзісна. "Авута" -- афіцыяльная назва, мясцовая--Язніца /і ласкальныя формы Язнічка, Язенка/.

АЛЬЖБЕЦІНА н. Кусты і поле каля р. Авута /дзе Авута упадае у р. Дзісна/.

АНДРЭЕВА /КАППЮРОВА/ САЖАЛКА. Вялікая сажалка за в. Манякова, якую некалі выкапау Андрэй Мятла па мянушцы Капцюр /быу родам з в. Копцева/.

АНІСАВА БАЛОТА, ГАРЭЛАЕ БАЛОТА. Балота за в. Манякова каля хутара Аніса Дуброускага, якое гарэла апошняй вайной. Анісьва балота у вайну гарэла, затоя яго іщчэ завуць Гарэлья балота.

АНІСАВЫ КУСТЫ. Кусты каля в. Манякова, якія прылягаюць да былога хутара Аніса Дуброускага. Ат Анісьвых кустоу цяперька ужо нічога ні асталося: уздзёрлі, рьспахалі.

АНТОНАВА ГАРА. Узгорак ля в. Кавалёва, дзе стаіць хутар

Антона Шаулюгі. Як вы с такім вазом пад"ехълі пъд Антонъву гару? Я лён ірву на Антонъвый гарэ.

АНТОНАЎ РУЧЧЭЙ. Яр каля хутара Антона Шаулюгі. Антонъу руччэй бълі ж зъгаціўшы некълі, застъу бълі пъставюўшы.

АРКАДЗЕЎ РУЧЧЭЙ. Яр за в. Манякова каля хутара Аркадзя Аляшкевіча. Аркадзіў руччэй зъусягды косъмі косюць, касілкый там нічога ня зробіш -- прытиъі /крутыя, абрывістыя/ дужа бірагі. Спуудня карову пускалі у Аркадзіў руччэй.

АСЕЛІЦА ж. Сенажаць за агародамі, якая цягнецца уздоуж вёскі і хмызняку. Аселіцу усю лёнъм зъслалі.

АТРОШКАЎСКАЕ ПОЛЕ. Поле вакол в. Атрошкава. Атрошкъускъя поля пасці усё лубінъм засеінъя.

АЎДОЛІН БЯРЭЗНІК. Бярэзнік ля хутара Аудолі /в. Восцевічы/. Я бълá грьбоў нъсъбіраўшы у Аўдолінъм бярэзніку.

БАБАКАВА н. Поле вакол былога хутара Бабакі. Пайду ллянішча касіць нъ Бъбакъва.

БАЗНАЕ ПОЛЕ. Поле каля пункта /базы/ нарыхтоукі жывёлы і птушак. Базнъя ш поля цяпер аддалі пад Зэйдзінъву бръгаду.

БАЗНЫ ЛУГ. Луг каля р. Авута, які прылягае да пункта /базы/ нарыхтоукі жывёлы і птушак. Мы хадзілі у кмін аш нъ Базны лух.

БАЛАГАН м. Назва поля за в. Восцевічы.

БАРАВІНА ж. Пясчаная глеба каля г. Дзісна, парослая густым хвойнікам.

БЕЛАЯ ДАРОГА. Бойкая, бітая дарога з в. Манякова у г.Дзісна. Цехта паехуу па Белый дарозі нъ кані.

БЕЛЕНЬКІ ДВАРОК. Назва поля каля в. Восцевічы. Там стъяу некълі фъльваръчък і поля кълі яго. Затоя, муся, й завецца гэта поля Белінькі дварок.

БЛАНТАВА ЗЯМЛЯ. Назва поля каля вусця р. Авута.

БОМБА, БОМБІНА, БОНБА, БОНБІНА ж. Варонка, глыбокая сажалка, якая атрымалася ад выбуху бомбы. Пагонім карову паіць у Бомбу. Бонбіна ніколі ні піръсхаіць, і рыбы там ёсь.

БОР м. Назва густога яловага лесу, які цягнецца ля вёсак Атрошкава, Падзвінне і Мазурына.

БУЖЫНШЧЫНА ж. Поле каля в. Манякова, якое некалі належала асадніку Бужынскаму.

БУ́ХАЛАЎСКАЕ ПО́ЛЕ. Поле вакол в. Бухалава.

БУ́ХАЛАЎСКАЯ ПРЫ́СТАНЬ. Прыстань каля р. Авута, што за в. Бухалава.

БУ́ХАЛАЎСКІ РУЧЧЭ́Й. Ручай каля в. Бухалава.

БУ́ХАЛАЎСКІЯ КУСТЫ́. Алешнікавы хмызняк каля в. Бухалава.

ВАСЮ́ТАВА ГАРА́. Назва ўзгорка пасярэдзіне в. Кавалёва.

ВІЛЬГО́ЎКА ж. Поле, зямля, якая некалі належала асадніку па прозвішчу Вільга. Нъ Вільго́ўцы сёліта лён во ўрадзі́ў.

ВО́СЦЕЎСКАЕ ПО́ЛЕ. Поле каля в. Восцевічы.

ВО́СЦЕЎСКІЯ КУСТЫ́. Кусты каля в. Восцевічы.

ВО́СЬМЕРА, ВО́СЬМЕРКА ж. Вузенькая рачулка, якая ўпадае ў р. Авута за в. Копцева II.

ВЫ́ГАНЬ ж. Выган каля в. Манякова.

ГА́ЛІН РУЧЧЭ́Й. Ручай каля хутара Галі /в. Лонка II/.

ГАРАДЗІ́ШЧА н. Назва поля за в. Мазурына.

ГАРАДСКО́Е ПО́ЛЕ. Назва поля за в. Залонецкія, якое прылягае да г. Дзісна. На́шы каро́вы аш нъ Гърацкі́м по́лі.

ГАРАЎСКІ́Я ЛУ́ЧКІ. Калена р. Авута каля хутара Гараўцы.

ГАРЭ́ЛАЕ БАЛО́ТА гл. Ані́сава бало́та.

ГА́ТКА ж. Назва глыбокай сажалкі на тарфяным балоце ля в. Загор"е. Я нъ цябе галёкъю, а ты ўсё ро́ўна ў Га́тку ле́зіш!

ГІЕЎШЧЫНА ж. Зямля каля в. Млынарова, якая некалі належала Гіеўскаму.

ГІЛЕ́НІНА н. Месца, дзе стаяў хутар Гілены Якубовіч /каля в. Манякова/. Паго́нім каро́ў па́сціць на Гіле́ніна.

ГЛЕ́БЧЫШЫНЫ КУСТЫ́. Кусты каля в. Восцевічы, якія прылягаюць да хутара Глебчыхі.

ГЛІ́НІШЧА н. Месца на схіле ручая за в. Манякова, дзе капаюць гліну.

ГЛЫБО́КІ РУЧЧЭ́Й. Назва ручая за в. Манякова. Каро́вы хо́дзюць аш гъ Глубо́кім руччы́.

ДЗЫІНА́ ж. Р. Заходняя Дзвіна.

ДЗЕГЦЯВЫ́ РУЧЧЭ́Й. Назва ручая каля в. Восцевічы. Там крыні́ца цікла́, тъка́я не́йкъя, як дзёгъць /інфарм./.

ДЗЕ ІГНА́ЛЮ ЗАБІ́ЛІ. Кусты за в. Манякова і месца, дзе некалі забілі жыхара гэтай вёскі Ігналя Шаўлюгу.

ДЗІСЕ́НКА, ДЗІСЁНКА ж. Мясцовая назва р. Дзісна.

ДЗІСНА́ ж. 1. Горад Дзісна. 2. Афіцыяльная назва р. Дзісна, у вусці якой стаіць г. Дзісна.

ДРАЎЦО́ВА н. Назва поля на ўзгорку ля в. Манякова. Нъ Драўцо́ві сёліта бу́льбу калхо́с пъсадзі́ўшы. Нъ Драўцо́ві ўсё до́бра ро́дзіць.

ДУБЫ́ мн. Назва часткі лесу Ляды, дзе пераважна растуць дубы. Нъ Дуба́х пэ́ўна бървіко́ў с трыццъць нашо́ў.

Е́ЛЬНІК м. Малады яловы лясок каля в. Манякова.

ЖУРА́ЎШЧЫНА ж. Поле і балотца каля в. Восцевічы. Паводле інфармацыі мясцовых жыхароў, на гэтым месцы садзіліся адпачываць і падсілкавацца журавы ў час палёту ў вырай.

ЗАГО́РСКАЕ ПО́ЛЕ. Поле вакол в. Загор"е.

ЗАЛО́НАЦКАЕ ПО́ЛЕ. Поле вакол в. Залонецкія.

ЗУ́БКАЎ ВАЛ, ВАЛ м. Некалі штучна пасаджаны хмызняк на ўзгорку.

ЗУ́БКАЎ САД. Сад, які належаў асадніку Зубку, цяпер належыць калгасу "Іскра".

КАВАЛЁЎСКАЕ ПО́ЛЕ. Поле вакол в. Кавалёва.

КАВАЛЁЎСКІ РУЧЧЭ́Й. Ручай каля в. Кавалёва.

КАЗЁННІК м. Тое, што і Ля́ды.

КАЛАТУ́ШКАЎСКІ РУЧЧЭ́Й. Ручай каля в. Калатушкава.

КАЛХО́ЗНЫ САД. Сад калгаса "Іскра" каля в. Манякова.

КАЛЮ́ГІ мн. Назва поля. Во́зім да фе́рмы се́на с Калю́гуў.

КАНАШЫ́НА ж. Поле, размешчанае вакол былога хутара Канашыхі. Ба́бы нъ Кънашы́ні рвуць лён.

КАНАШЫ́ШЫН РУЧЧЭ́Й. Ручай каля хутара Канашыхі.

КАПА́НКА ж. Штучна выкапаны вадаём за г. Дзісна.

КАСАГО́Р м. Круты́ схіл узгорка за в. Залонецкія. С Късаго́ра ду́жа цяшка з'їжджа́ць, там ду́жа пры́тна.

КНЯЗЁЎКА ж. Назва поля каля в. Лонка І. Гэ́та по́ля так нъзъва́іцца за то́я, што там не́къли княсь пъліва́ў. Княсь Хрол.

КО́ПЦЕЎСКАЕ ПО́ЛЕ. Поле каля в. Копцева.

КО́ПЦЕЎСКІЯ КУСТЫ́. Кусты каля в. Копцева.

КО́СЫ РУЧЧЭ́Й. Назва яра каля в. Восцевічы.

КРЫЖЫ́ мн. Частка лесу, дзе скрыжаваны дарогі. Ко́ні хо́дзюць нъ Кръжа́х,

КУ́ПІШЧА н. Назва поля каля в. Восцевічы.

ЛЕЙБАЧКАВА ЗЯМЛЯ́. Урочышча каля в. Восцевічы.

ЛЕСНІЧО́ЎКА ж. Назва часткі лесу /Ляды/ і ўзлеску, дзе некалі стаяла хата лесніка. Пойдзім у Ліснічоўку ў паземкі.

ЛЁНЬКАВА БАЛО́ТА. Балотца каля Лёнькавага хутара /в. Залонецкія/.

ЛЁНЬКАВЫ КУСТЫ́. Кусты каля в. Залонецкія, якія прылягаюць да хутара Лёнькі Пятроўскага.

ЛІ́ПАЎСКАЯ ЗЯМЛЯ́, ЛІ́ПАЎКІ мн. Назва поля каля в. Восцевічы. Мушчыны косюць у Ліпъўкъх.

ЛО́НКА ж. Назва вузенькай рачулкі, якая ўпадае ў р. Заходняя Дзвіна, а таксама назва поля, размешчанага па абодва бакі Лонкі. На тэрыторыі калгаса "Іскра" размешчаны дзве вёскі, якія называюцца Ло́нка І і Ло́нка ІІ. Ло́нка І — непадалёк ад рэчкі Лонкі.

ЛУ́ЖА ж. Назва азярца каля в. Лонка І.

ЛУ́ЧКІ мн. Месца пад узгоркам, дзе сыходзяцца два глыбокія яры каля в. Калатушкава.

ЛЫ́СКА ж. Поле, выцерабленае ад хмызняку, а таксама хмызняк, што прылягае да гэтага поля. За 4 км ад гэтага поля і хмызняку за р. Аўута размешчана вёска пад назвай Лыска.

ЛЯ́ДЫ мн. Назва лесу, які размяжоўвае два калгасы — "Іскра" і імя Цітова Міёрскага р-на.

МАЁРАЎСКІ РУЧЭ́Й. Назва ручая каля в. Восцевічы.

МАЛІ́НАЎСКІЯ ПЯРЭ́ЧКІ. Назва поля каля р. Дзісна.

МАНАРО́ЎСКАЕ ПО́ЛЕ. Поле каля в. Млынарова /мясцовая назва Манарова/.

МАНЯКО́ЎСКАЕ ПО́ЛЕ. Поле вакол в. Манякова.

МАРКО́ЎКА ж. Назва поля. Нь Маркоўцы сёліта пшаніца пасеіньня.

МА́РТАЧЧЫНЫ КУСТЫ́. Назва кустоў каля в. Восцевічы.

МЕ́СЬКІ АСТРО́Ў. Астравок на р. Дзісна. Гэтъм астраўком некылі пользъвълісі мішчані. За гэта ён зовіцца Меські астроў.

МІХАЛЮКО́ВЫ КУСТЫ́. Кусты ля хутара Міхалюка /каля в. Манякова/.

МОХ м. Сенажаць, тарфяное балота і кусты за в. Манякова. Крўцюць сягоння кароў цэлый дзень на Мху і нікуды ня 'дгонюцца.

МШОК м. Кусты вакол махавога балотца каля в. Восцевічы.

МЫСЛІЎСКІ АСІННІК. Назва лесу Лiды пад в. Мысліўцы, дзе больш растуць асіны. У Мъсліўскім асінніку дужа многа пъдасінъвікуў зъўсягды назбіръвъім.

НАВІНЫ мн. Назва раскарчаванай і ўзаранай паляны сярод лесу.

НАВАСТРОЙКА, СТРОЙКА ж. Назва новага шасэ, што злучыла г. Полацк з г. Дзісна.

НІНЧЫНА н. Месца, дзе стаяў хутар Нінкі Шаўлюга.

ПАД ЯРЫНОЎСКІМ, ПАД ЯРЫНОЎСКАГА. Поле, край лесу каля хутара Ярыноўскага.

ПАНКРАЦЁНКАВА н. Месца каля в. Залонецкія, дзе стаяў хутар Івана Панкрацёнка.

ПАНКРАЦЁНКАВЫ КУСТЫ. Кусты каля в. Залонецкія.

ПАЎКАВЫ КУСТЫ. Кусты каля в. Манякова, якія прылягаюць да хутара Паўкі Крыўко.

ПЕСКАВАТКА ж. Назва пясчанага поля за в. Кавалёва.

ПЛІНТОЎКА ж. Назва поля, якое некалі ўзнікла на месцы раскарчоўкі лесу. Нъ Плінтоўцы дужа добръя сена. Уперът пачкі адна Плінтоўка ўсю ферму карміла.

ПОПЛАВА н. Назва поля каля в. Манякова. Гэта поля Поплъва завецца, можа, за гэта, што кълі ракі бліска яно.

ПРОСЧЫНЫ КУСТЫ. Назва кустоў за в. Залонецкія каля хутара жанчыны па імені Проска.

ПЯСКІ мн. Тое, што і Баравіна. Нъ Пісках верьсу нълъмала.

РАМАНІШЫНА н. Месца каля в. Манякова, дзе стаяў хутар Раманіхі.

САД м. Тое, што і Калхозны сад.

САКОВІШЧЫНЫ КУСТЫ. Кусты каля хутара Саковічыхі з в. Восцевічы.

САСНЯК м. Тое, што і Баравіна. Пойдзім у къзлякі ў Съсняк.

САСОННІК м. Тое, што і Баравіна. Я ікраз з ім спъткалъся ў Сасоннiку.

СОСНІК м. Тое, што і Баравіна. Я выръзуў вудаўё ў Сосніку — нашоў добрую ядленчъну.

СТОМАВЫ КУСТЫ. Кусты каля хутара Юркі Стомы.

ТАНЬЧЫНЫ /ФЕДЗЬКАВЫ/ КУСТЫ. Кусты за в. Восцевічы, ля

якіх стаіць хутар Тацціяны і Фёдара Крыўко.

ТАРАСЕНКАВА н. Тое, што і Ляды. Ай, што грьбоў у Тьрасінкьві. Каровы нашы сягоння аш пьт Тьрасінкьвьм.

ТУМАШОВЫ КУСТЫ. Кусты каля в. Манякова, якія прылягаюць да хутара Тумаша Шаулюгі.

ЦАЛІНА ж. Назва поля на месцы былога хмызняку. Там, дзе цяпер Цьліна, во було уперьт малін, каліны, арэхуў.

ЦЕРАБЛЁНКА ж., ЦЕРАБЯЖЫ мн. Тое, што і Дыска. Надзя пасець кароу нь Ціраблёнцы. Пагонімся [пагонім жывёлу], мальцы, пасціць нь Ціръбяжы.

ЧАЛЯЁВА ГАРА. Узгорак, на якім стаяў хутар Івана Чаляя.

ЧАРЧАНІЦА ж. Крынічная канава, рачулка. У Чьрчаніцы вьда ўсягды чыстья-чыстья, крьнічнья, халоднья.

ЮРКАВЫ КУСТЫ. Тое, што і Стомавы кусты.

ЯЗЁНКА ж. Тое, што і Язніца. Дзед,бувала,многа рыбы прьнасіў з Язенкі.

ЯЗНІЦА ж. Мясцовая назва р. Авуты.

ЯНКАЎСКІ РУЧЧЭЙ. Ручай ля в. Янкава.

ЯРОШЧЫНА н. Назва раскарчаванага поля паміж лесу.

П.У.Сцяцко

# З МІКРАТАПАНІМІІ ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

Мікратапонімы, якія тут падаюцца, запісаны ў в. Грабава Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Большая частка іх -- гэта найменні ўрочышчаў, размешчаных непадалёку ад в.Грабава і суседніх вёсак.

АЛЬШЫНА́ ж. Поле, дзе раней быў зараснік альшыны (алешніку) Альшына добрых вазоў з дзесяць канюшыны дала.

АМЯЛНА́Я ж. Лес паміж в.Варонічы і в.Даўгаполічы, які перасякаецца Сашою. У Амялной, як мокры гот, много грыбоў жыве Усядякіх.

АМЯЛЯНО́ВІЧАЎ РОЎ. Сенажаць на нізкім месцы каля рова побач з хатай Амеляновіча. Амяляновічаў роў скасілі і капіцэ паставілі.

АМЯЛЯ́ЯЎ ХУ́ТАР. Поле на месцы былой сядзібы /хутара/ Амяляя /мянушка/. Камбайн жжаў Амяляяў хутар і пашоў у лахціну жаць.

АНТО́СЯЎ СЯРАДЫ́ ХУ́ТАР. Поле на месцы сядзібы Антося Сярады.

АНТОШЫНА ДЗЯСЯНЦІНА. Поле на месцы ранейшага лугу, які належаў Антошы /мянушка/. Вымакло жыто на Антошынуй дзясянціні, пярасявалі.

АСЕ́ЛІЦА ж. Поле побач з в.Грабава, дзе раней была сенажаць. На аселіцы капуста добро ўрадзіла, бураке велькія растуць.

АСТРАЎЦО́ВО н. Поле на месцы хутара, дзе жыў Астравец /мянушка/.

БА́ЦЬКАЎШЧЫНА ж. Участак поля, які сыны атрымалі ў спадчыну ад свайго бацькі. Бацькаўшчыну трэба раней гараць, хай пацсыхая, бо там ніско, мокро заўсюды.

БІ́БІЦКА ДАРО́ГА. Дарога з Сашы на в.Бібікі, якая праходзіла праз поле. Бібіцка дарога была калдобіста, кепско было егдзіць.

БІБІЦКО н. Поле, якое належала в.Бібікі. На Бібіцкум бало ўсё грыку сеялі, бо натто пяшчуга там была, нічого ні радзіло тагды.

БЯЗЭ́ННО ВО́ЗЯРО. Мясцовая назва Бяздоннага возера.

БЯРАЗІНА́ ж. Участак хвойнага лесу на месцы, дзе раней быў бярэзнік--"бяразіна". У Бяразіне той нігоднае бярэзіны німашака, адно хвайіна расце, праўда, даўней тут расла і бяразіна -- тоўста, росла.

ВАЛАТКО́ВІЧАЎ ХУ́ТАР, ДЗЯ́ЛКА. Частка поля, дзе раней была сядзіба Валатковіча. Валатковічаў хутар льном засеялі -- добро родзіць ён тут.

ВАЛЬКО́ЎСКІЯ ГО́РЫ. Невялікая ўзвышанасць паблізу в.Вальkевічы.

ВАЛЬКО́ЎСКО н. Поле, якое належала в.Валькевічы.

ВАРО́НІЦКА ДАРО́ГА. Дарога з в.Старое Сяло на Варонічы.

ВАСІМНА́ЦЦАТА ПАСА́ТКА, ДЗЯЛЯ́НКА. Частка лесу Курыны.

ВАЎКАЎНЯ́ ж. Кавалак густога лесу Курыны, дзе раней вадзіліся ваўкі.

ВІНЦЭ́СЯВА ДЗЯ́ЛКА, ХУ́ТАР. Поле на месцы хутара, дзе жыў Вінцэсь.

ВЫЦЯ́РАП м. Участак лесу на месцы былога выцерабу.

ГАСЦІ́НЯЦ м. Дарога з в.Старое Сяло на Дзярэчын, якая перасякае лес Курыны і праходзіць каля лесу Цялякоўшчына.

ГРАБАЎСКА́Я ДАРО́ГА. 1. Дарога з Сашы на Грабава. 2. Поле на месцы былой дарогі з в.Старое Сяло на Грабава. На Грабаўской дарозі добро жыто ўрадзіло, гаш палягло.

ГРАБАЎСКО́Е н. Поле, сенажаць, якія належалі в.Грабава. На Грабаўском сеялі жыто, а на Бацькаўшчыні -- пшаніцу.

ГРАБІНА́ ж. Участак лесу -- зараснік арэшніку на месцы, дзе раней рос грабняк. У Грабіне цяперака многа гарэхаў назьбіраяш.

ГРАНІ́ЦА ж. Мяжа, якая аддзяляла зямлю в.Грабава ад хутара Нябайкі.

ДАРО́ГЛЯНСКА ДАРО́ГА. Дарога з мястэчка Дзярэчын на Дарогляны /афіцыйна--Дарагляны/.

ДАРО́ГЛЯНСКО БАЛО́ТО. Сенажаць непадалёку ад в. Дарогляня.

ДАГАПО́ЛЬСКО БАЛО́ТО. Луг, сенажаць, якія належалі в.Дагаполічы /афіцыйна Даўгаполічы/.

ДЗЯВЯТНА́ЦЦАТА ПАСА́ТКА, ДЗЯЛЯ́НКА. Частка лесу Курыны.

ДЗЯРЭ́ЧЫНСКА ГАРА́. Узвышанасць непадалёку ад мястэчка Дзярэчын.

ДЗЯРЭ́ЧЫНСКА ДАРО́ГА. Дарога з в.Грабава на Дзярэчын.

ДЗЯРЭ́ЧЫНСКА САША́. Шашэйная дарога, якая вядзе ў мястэчка Дзярэчын.

ДЗЯРЭ́ЧЫНСКО н. Поле, сенажаць, паша, якія належалі мястэчку Дзярэчын. На Дзярэчынскум пасе каравэ. Касіў на Дзярэчынскум канюшыну.

ДУ́ДАРАВО н. Вялікі ўчастак поля, які належаў памешчыку Дудару.

ЖАБРУНО́Ў СТАВО́К. Поле на месцы заліўнога лугу каля хутара Жабруна.

ЗА БЯРЭ́ЗНІКАМ. Поле, якое пачынаецца за зараснікам бярозы.

ЗА ГАСЦІ́НЦАМ. Участак лесу Курыны за Гасцінцам. -- У яком лесі ты гэдулькі ягадаў нарваў? -- За Гасцінцам. Там от много людзей было.

ЗА ГРАНІ́ЦАЮ. Участак поля па другі бок Граніцы.

ЗА ГРУТКО́М. Кавалак поля за невялікім узвышшам.

ЗА КРЫ́ВІЧАМІ. Сенажаць в.Грабава, якая размешча́на за в.Крывічы.

ЗА КУ́РЫНАМІ. Поле па другі бок лесу Курыны. За Курынамі за адзін дзень згараў і пасеяў -- мало таго поля там.

ЗА МЭ́НДАЛЯМ. Участак поля за хутарам Мэндаля /мянушка/.

ЗА СЯРАДЗІ́ХАЮ. Поле, якое знаходзіцца за хутарам, дзе жыла Серадзіха. За Сярадзіхаю пасеялі кукурузу, і тым рокам урадзіла нікепска.

ЗА Я́МАЮ. Участак лесу Курыны па другі бок ад Ямы.

ЗА Я́НАКАМ. Ускраек лесу Курыны непадалёку ад поля Янака.

ЗЭ́ЛЬВЯНСКА САША́. Шашэйная дарога, якая вядзе ў г.п. Зэльву.

ЙІВА́НАЧКАВО БАЛО́ТО. Участак поля, лугу каля лесу Курыны, якія належалі Йіваначку /мянушка/.

КАБА́ЦКА ДАРО́ГА. Дарога з в. Старае Сяло на Кабакі /цяпер Снежнае/.

КАВАЛЁ́ЎШЧЫНА ж. Поле на ўзгорку паміж в.Грабава і мястэчкам Дзярэчын. На Кавалёўшчыні жалі жыто, як чалавека гром забіў.

КАЗІ́БАР м. Лес каля в.Лупачы. У Казібары вужоў много, страшно чорныя ягады было зьбірацъ. Там і грыбоў много.

КАЛА ГАРЭШНІКУ. Кавалак поля каля зарасніку лячыны ў лесе Курыны.

КАЛА ГАСЦІНЦА. Участак лесу Курыны побач з Гасцінцам.

КАЛА ЖАБРУНА. Кавалак поля непадалёку ад хутара Жабруна.

КАЛА ЁЗЯ. Поле паблізу невялікага ляска, дзе жыў Ёзя /імя/.

КАЛА ЗАЛЬВЯНКІ. Сенажаць паабапал р. Зальвянка.

КАЛА КРЫЖА. Участак поля, сенажаці непадалёку ад ручая, дзе раней стаяў крыж. Кала крыжа скасілі і састагавалі сено за два дні.

КАЛА КУРГАНА. Кавалак поля паблізу кургана.

КАЛА КУРЫНАЎ. Участак поля побач з лесам Курыны.

КАЛА ЛЮДОВІКА. Частка в.Грабава пры канцы яе, дзе стаіць "людовік"/ людовы дом "клуб"/.

КАЛА САШЫ. Поле паабапал шашэйнай дарогі. Кала Сашы грыкаю засеялі, то добро парасла, як дошч праходзіў гэтым рокам.

КАЛА СІВАГО. Ускраек лесу Курыны побач з хутарам Сівага /мянушка/.

КАЛОДЗІСЯК м. Сенажаць вакол былога калодзежа-крыніцы.

КАЛОНСКО БАЛОТО. Сенажаць, якая належала в.Калона.

КАМЯНІЦА ж. 1. Кавалак неўрадлівага поля, камяністага, пясчанага. 2. Вуліца ў мястэчку Дзярэчын.

КАПУСЬНІК м. Кавалак поля ў лагчыне, дзе раней быў капуснік /капуснішча/. Капусьнік пшаніцаю засеялі — вырасла каласістая.

КАРЧЭ мн. Участак лесу, дзе раней быў выцераб, ляжалі карчы.

КАСТУЛЯВА ГРЭБЛЯ. Кавалак поля на месцы былой грэблі, што праходзіла праз хутар Кастуля /мянушка/.

КАСТУЛЯВО БАЛОТО. Поле на нізкім лузе, які належаў Кастулю.

КРУШНЯ ж. Участак лесу, дзе некалі было шмат камення.

КУНДЗІЧАЎ ЛЕС. Участак лесу, які належаў Кундзічу.

КУРЫНЫ мн. Лес, які знаходзіцца паабапал дарогі Дзярэчын — Старое Сяло непадалёку ад в.Грабава і перасякаецца Гасцінцам.

КУТ м. Поле паміж двума выступамі лесу Курыны. У Куце картоплі пасадзілі скараспейкі, то ніблагія парасьлі летась.

ЛАЗЭ мн. і /радзей/ Лас м. Хутары непадалёку ад в.Грабава, дзе раней быў зараснік лазы. У Лазэ паехалі па картоплі. Да Лазу іду.

ЛАЗАЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога, якая ідзе з в.Грабава на Лазэ.

ЛАЗАЎСКОЁ н. Поле, якое належала хутару Лазэ. Лазаўскоё

жжалі ужэ.

ЛІНКА ж. Кавалак лесу паабапал прасекі. На Лінцы пасе ён каравэ.

ЛІСІНЫЯ НОРЫ. Участак лесу, дзе даўней былі лісіныя норы. Насёк ламаты у Лісіных норах і вязу дахаты, аш тут лясьнік спатыкая міне.

ЛУГЕ мн. Кавалак поля, дзе раней былі лагі. Луге жжалі за дзень, а на Кавалёўшчыні дня мало было, ні ўправіліся.

ЛУХ м. Сенажаць, у цэнтры якой знаходзіцца лог.

МАРАЧОЎСКА ДАРОГА. Дарога ад шашэйнай магістралі Дзярэчын--Зэльва у напрамку в.Марачы.

МАРАЧОЎСКО БАЛОТО. Сенажаць, якая належала в.Марачы і частку яе апрацоўвалі жыхары в.Грабава. Грабаўцэ паехалі Марачоўско балото касіць, як стало сухо.

МЕДУХАВО н. Лес, які пачынаецца каля в.Старое Сяло і цягнецца у кірунку в.Чырвонае Сяло. У Медухаві летась много чырвоных ягадаў было.

НА ГРАНІЦЫ. Поле паабапал Граніцы--мяжы, што аддзяляе зямлю в. Грабава ад суседніх вёсак.

НА ДЗЯДЗІНЦЫ. Кавалак поля, дзе даўней быў дзядзінец /двор/.

НОСАЛЯЎ БЯРЭЗНІЧАК. Поле на месцы былога зараснік, бярозы, які належаў Носалю /мянушка/.

НЯБАЙКІ мн. Хутары непадалёку ад в.Старое Сяло. Цяперака ужэ мало хто зная, што гэто за Нябайкі, а раней і у дакументах пісалі іх.

НЯБАЙСКО н. Поле, якое належала хутару Нябайкі. На Нябайскум лепшо жыто урадзіло, як на Грабаўском.

ПАД АМЯЛЯЯМ. Поле каля былога хутара, дзе жыў Амяляй /імя/.

ПАД АСТРАЎЦОМ. Поле перад былым хутарам Астраўца /мянушка/.

ПАД БАНЯЮ. Кавалак поля перад лазняй. Пад баняю дубін быў.

ПАД БЛЯХАРАМ. Ускраек лесу Курыны перад хутарам Бляхара /мянушка/.

ПАД БЯРЭЗІНАЮ. Кавалак поля, пасярэдзіне якога раней расла бярэзінка. Пад Бярэзінкаю авес добры урадзіў.

ПАД БЯРЭЗЬНІЧКАМ. Поле перад зараснікам бярозы /бярэзнічкам/.

ПАД ВЕЯКАМ. Ускраек лесу паблізу поля, якое належала Веяку.

ПАД ВІНЦЭСЯМ. Поле каля былога хутара, дзе жыў Вінцэсь.

ПАД ВО́ЎКАМ. Частка в.Грабава непадалёку ад хаты Воўка /мянушка/.

ПАД ВЯЛІ́ЧКАМ. Поле каля былога хутара, дзе жыў Вялічка.

ПАД ГО́ЙЛАМ. Пашa побач з сядзібай Гойла.

ПАД ГРУ́ШКАМІ. Кавалак поля вакол узгорка, дзе раней раслі грушкі.

ПАД ДЗЯРЭ́ЧЫНАМ. Поле непадалёку ад мястэчка Дзярэчын.

ПАД ДО́СТАК. Участак поля перад хутарам, дзе жыў Доста.

ПАД ЙІВА́НАЧКАМ. Ускраек лесу непадалёку ад хутара, дзе жыве Йіваначка. Пад Йіваначкам многа ў лесі апенкаў асенніх нарасло.

ПАД ЛЕ́САМ. Поле перад лесам Курыны. Пад лесам густое жыто пасходзіло, а пшаніца яшчэ ні сходзіць.

ПАД ЛІ́НКАЮ. Кавалак лесу перад Лінкаю. Пад Лінкаю пасе карову ён.

ПАД МАГІ́ЛКАМІ. Поле перад могілкамі. Пад магілкамі за дзень сажнем.

ПАД МЕ́ДУХАВАМ. Поле перад лесам Медухаво. Пашоў гараць Пад Медухавам, каб за дзень згараць, бо сеяць пара.

ПАД МО́СЬЦІКАМ. Кавалак пашы непадалёку ад грэблі, дзе раней быў мосцік. З дзясянціна будзя пад мосьцікам.

ПАД МЭ́НДАЛЯМ. Поле каля былога хутара, дзе жыў Мэндаль /мянушка/.

ПАД РЫБАКО́М. Поле непадалёку ад сядзібы Рыбака.

ПАД Я́МАЮ. Частка лесу каля Ямы. Пад Ямаю загарэўсё лес, як бамбілі.

ПАСА́ТКА ж. Частка лесу Курыны. У Пасатку пагналі каравэ пад вечар.

ПАСА́ТКА КАЛА ПУ́НТУ. Участак лесу Курыны непадалёку ад Пунту.

ПАСА́ТКА ПАД Я́НАКАМ. Участак лесу Курыны побач з пасяленнем Янака.

ПАТ КАЛО́ДЗІСЯМ. Кавалак сенажаці побач з крыніцаю-калодзежам.

ПАТ КАЛО́НСКІМ АНТО́СЯМ. Поле на ўскраіне вёскі побач з хатаю Антося Калонскага. Пат Калонскім Антосям жжалі, добра грыка ўрадзіла.

ПАТ КАПЛІ́ЦАЮ. Канец в.Грабава, дзе стаіць капліца.

ПАТ КРЫВІ́ЧАМІ. Сенажаць непадалёку ад в.Крывічы.

ПАТ ПАНКЕ́ВІЧАМ. Поле побач з сядзібаю Панкевіча.

ПАТ ПУ́НТАМ. Частка лесу Курыны непадалёку ад Пунту.

ПАТ СЁЛКАМ. Поле перад часткай в.Старое Сяло.

ПАТ СІДАРАМ. Частка в.Грабава побач з сядзібай Сідара.

ПАТ СІНКОВЫМ МІШАЮ. Ускраек лесу каля былога хутара, дзе жыў Міша Сінькоў /мянушка Сінко/.

ПАТ СТАРАСЁЛСКІМ. Сенажаць, якая мяжуе з полем в.Старое Сяло.

ПАТ СУХАБОКІМІ. Частка лесу непадалёку ад хутара Сухабокіх.

ПАТ СУХОЮ. Поле перад лесам Сухая. Пат Сухою ўжэ жжалі ўсё жыто.

ПАТ ХВЕДАРКАМ. Поле каля хутара, дзе жыў Хведарко /імя/.

ПАТ ХВОЙКАМІ. Поле непадалёку ад Хвоек.

ПАТ ЦІМОХАМ. Поле перад хутарам, дзе жыў Цімох.

ПАТ ЧАШЭЙКАЎШЧЫНАЮ. Поле непадалёку ад Чашэйкаўшчыны.

ПЛЯЦЯНІЦКА ДАРОГА. Дарога да в.Пляцянічы, якая пачынаецца ад Старога Сяла і ідзе праз лес Медухаво.

ПУНТ м. Частка лесу Курыны, дзе раней быў пункт лясніцтва. На Пунці от высокія дубэ парасьлі пасьля вайны.

ПУСТАБОРСКА ДАРОГА. Дарога з хутара Лазэ на Пустаборы.

ПЯТНАЦЦАТА ПАСАТКА. Частка лесу Курыны. Пасе воўца ў пятнаццатуй пасатцы, ідзі шукай там йіх.

ПЯШЧУГА ж. Поле перад могілкамі, дзе шмат пясчаных участкаў.

РЫХВОЙІЛАВО н. Поле, якое належала Рыхвойілу /мянушка/.

РЫШТОК м. Частка в.Грабава каля вадасцёку — "рыштоку".

РЭХВІНО н. Поле, якое належала Рэхве /мянушка/.

РЭЧАЧКІ мн. Поле на нізкім месцы, дзе даўней зліваліся ў адну некалькі невялічкіх рэчак.

САЖАЎКА ж. Месца былога вадаёма. У нашай Сажаўцы адна грась засталася, але кажуць Сажаўка.

САВІЦКА ДАРОГА. Дарога з хутара Лазэ на Савічы.

САВІЦКО н. Поле, якое належала в.Савічы.

САША ж. Брукаваная дарога, якая злучае мястэчка Дзярэчын з г.п.Зэльва. На Сашы робіць Жабруноў Коля.

СЁЛКО н. Частка в. Старое Сяло. На Сёлку гарманіста начяў на вяселё Йівану.

СІНКОЎ ЛЕС. Лес, дзе леснікем быў Сінко /мянушка/.

СІПА ж. Назва былой рэчкі, што цякла ад в.Грабава да мястэчка Дзярэчын. Яшчэ пры Напаляоні Сіпа была глыбока, тапіліся людзі ў нас, у Грабаві, расказвалі старыя.

СТАВОК м. Луг на нізкім месцы, дзе раней быў штучны вадаём -- ставок. На Стаўку бало сена шмат накошвалі, а цяперака каравэ пасем.

СТАРАСЁЛСКО н. Поле, сенажаць, якія належалі в.Старое Сяло.

СУХАЯ ж. Лес непадалёку ад Сашы побач з вв. Крывічы і Грабава.

СЯМНАЦЦАТА ПАСАТКА. Частка лесу Курыны.

ТРАХІМАВО БАЛОТО. Поле на месцы лугу, які належаў Трахіму.

У РЭЧАЧКАХ. Поле, паша на нізкім месцы, каля Рэчачак.

У НЯБАЙКАХ. Поле вакол хутара Нябайкі. У Нябайках жыто нікепско.

У ХВОЙКАХ. Поле вакол грудка, дзе раслі хвойкі.

У ЛАХЦІНІ. Кавалак поля на нізкім месцы, у лагчыне.

У ЯМОХ. Частка лесу Курыны, дзе раней былі ямы.

ЦАГЕЛЬНЯ ж. Поле на месцы, дзе раней была цагельня.

ЦІМОХАЎ ГАРЭШНІК. Поле на месцы зарасніку ляшчыны, які належаў Цімоху.

ЦІМОХАЎ ГРУТ. Поле на невялікім узгорку, які належаў Цімоху.

ЦЯЛЯКОЎШЧЫНА ж. Лес каля в.Савічы побач з Гасцінцам.

ЧАТЫРНАЦЦАТА ПАСАТКА. Частка лесу. Пагналі пасвіць каравэ ў чатырнаццату пасатку, там трава велька вырасла.

ШАРАВАРКА ж. Дарога з в. Старое Сяло на Гальнку; даўней тут жыхары навакольных вёсак адраблялі "шараварку" -- рамантавалі шашу.

ШАСНАЦЦАТА ПАСАТКА. Участак лесу Курыны.

ШКОЛКА ж. Частка лесу Курыны, дзе раней быў гадавальнік (школка).

ШНУРЭ мн. Поле, дзе даўней былі індывідуальныя палоскі зямлі.

ЯМА ж. Месца ў лесе, дзе фашысты расстрэльвалі мірных жыхароў і закопвалі ў яму.

ЯМЭ мн. Месца побач з в.Грабава, дзе раней былі ямы для захоўвання бульбы зімой.

В.В. Рудакоўскі

# МІКРАТАПОНІМЫ ВЁСКІ РОСПЫ

Вёска Роспы, дзе запісаны прыведзеныя вышэй мікратапонімы, знаходзіцца ў Капыльскім р-не Мінскай вобласці за 20 кіламетраў на паўночны ўсход ад райцэнтра над рэчкай Лошай на мяжы з Уздзенскім р-нам.

Этымалогія айконіма Роспы не ўстаноўлена. Магчыма, назва гэта паходзіць ад апелятыва россып. Паводле сведчання старажылаў, вёска пачыналася з некалькіх хат, рассыпаных у беспарадку на невялікай паляне сярод лесу.

АБРЭЧАК м. 1. Частка старога рэчышча ракі. 2. Сенажаць, якая знаходзіцца паміж ракой і старым рэчышчам. У аснове назвы апелятыў рака /рэчка/.

АЛЕШНІК м. Альховы забалочаны лес. Ад назвы дрэва элешына. Алешнік — гэта там, дзе альха з крапівою расце.

АСЕЛІЦА ж. Паша, луг за сялом. Мікратапонім утвораны ад апелятыва сяло.

АСТРАВОК м. Паша на сухім узвышаным месцы сярод балота. Мясцовае астравок 'суша, акружаная з усіх бакоў балотам'. На Астравок з каровамі, бывала, цяжка было дабрацца — кругом балота.

БАГІНАЎСКІЯ мн. Балота, сенажаць. Назва, відаць, утварылася ад назоўніка багна 'балота', хоць ёсць і іншае меркаванне: ад прозвішча Багінскі, якое сустракаецца ў навакольных вёсках. На Багінаўскіх добрае сена расло, але цяжка даставалася, што ні кажы, — багна кругом.

БАЗЫЛЁВА ВАЛО́КА ж. Поле. Названа па імені селяніна Базыля, колішняга ўладальніка поля. Купіў калісьці Базыль у казны гэту валоку зямлі, дык так яе Базылёвай і празвалі.

БАЛО́ТЦА н. Выган на нізкім месцы, дзе вясной і восенню збіраецца вада. Гэтай восенню ў Балотца носа не сунеш: усё вадою заліта.

БАРАВО́Е ДО́ЎГАЕ н. Сенажаць, якая належала раней сялянам вёскі Бор. З Бору сюды доўга ехаць, трэба было па балоту.

БАРО́К м. Лес і поле, якое да яго прымыкае. У аснове назвы — бор 'сасновы лес'. Цяпер-то Барок разросся, а некалі з дзесятак хвоек стаяла.

БЕРАЗІНА́ ж. Нізкарослы, забалочаны бярозавы лес. Ад назоўніка бярэзіна. Каровы пасвіў у Беразіне, дык хоць венікаў бярозавых навязаў.

БУГАЁВА н. Сенажаць, заліўны луг. Згодна з мясцовай легендай, тут, пераплываючы раку Лошу, затануў бадлівы бык, бугай.

БУЯ́ЧНАЕ н. Балота /цяпер асушана/. Назва суадносіцца з назоўнікам буякі 'від ягад'. Бывала, з Буячнага мяхамі буякі насілі.

ВО́МШАР м. Забалочаная мясцовасць, пароспая хмызняком. У аснове назвы мясцовы апелятыў вомшар 'мохавае балота, амшара'. З Вомшару белага моху возік на хату прывёз.

ВО́СТРАЎ м. Лес сярод балота. Параўн. мясцовае астравок 'лес або іншы геаграфічны аб'ект на ўзвышаным месцы сярод балота'. На Востраве хоць і сярод балота, але добрыя грыбы раслі раней.

ВО́ЎЧАЕ н. Невялікі ўчастак поля, паляна, акружаная з усіх бакоў забалочаным лесам. Па сведчанню старажылаў, паблізу гэтага месца часта знаходзілі воўчыя логавы. Цяпер толькі што завецца Воўчае, а ваўкамі і не пахне.

ВУ́ЗЕНЬКІЯ мн. Поле, якое было калісьці падзелена на вузкія сялянскія палоскі. Вузенькія цяпер шырокімі можна называць — ніякіх табе межаў, шырыня, прастор.

ВЫЁНКА ж. Мясцовая назва ракі Выня, прытока Лошы і лугу, які прымыкае да ракі. Каровы пагнаў на Выёнку, дык панаядаліся і вады яшчэ напіліся, дома паіць не трэба.

ВЯЛІ́КІ ВЫ́ГАН м. Паша для коней. На Вялікім выгане коней путаць не трэба: выгнаў, засаўкі засунуў і няхай ходзяць — раздолле вакол і шкоды блізка няма.

ГА́ЛА н. Паша. Гала <Галае мясцовае 'голае, пустое'. Дарма што Га́ла, а каровы добра наядаюцца.

ГАЛА́ н. Балота, сенажаць. Хоць і завецца Гала́, а трава добра расце.

ГАЛЬЯШОЎ ВЫ́ГАН м. Выган, названы па імені колішняга яго ўладальніка, селяніна Гальяша. Раней Гальяш на свой выган нікога і блізка не падпускаў.

ГАСЦІ́НЕЦ м. Стары тракт Слуцк—Мінск, які праходзіць за адзін кіламетр ад вёскі. А машыны ідуць і ідуць па Гасцінцы, і канца ім няма; мабыць, нейкія манеўры.

ГРА́БАЎКА ж. Паша. Мікратапонім лексічна звязаны з назвай дрэва граб. У Грабаўцы цяпер грабоў няма — вырадзіліся.

ГРУД м. Поле, якое мяжуе з балотам. У аснове назвы апелятыў груд 'узгорак, сухое, узвышанае месца'. Вымачыўся па пасніцу, пакуль на Груд выкараска́ўся.

ГРЭСКІЯ мн. Балота /цяпер асушанае/, сенажаць, якая належала сялянам мястэчка Грэск /мясцовае Грэзак/. Блізкі свет Грэзак, а сена касіць да нас ездзілі.

ГРЭ́БЛЯ ж. Частка дарогі праз балота, вымашчаная галлём. Цяпер толькі што называецца Грэбляй, а балота асушылі.

ДВО́РЫШЧА н. Поле на месцы двара, дзе жыў заможны селянін. На Дворышчы, дзе жыў Вярбіцкі, каноплі растуць вышэй за чалавека.

ДЗЯЛЯ́НКІ мн. Лес. Ад апелятыва дзялянка 'ўчастак лесу, адведзены пад высечку аднаму чалавеку'. Зноў Дзялянкі лесам зараслі, а былі ж спустошаны дазвання.

ДО́ЎГАЯ ж. Паша, узвышанае сухое месца, градка, якая доўгай паласой працягнулася праз балота. Раней была градка Доўгая, а цяпер толькі назва засталася: перааралі і цімафееўку пасеялі.

ДО́ЎГІ м. Лес, які доўгай паласой уразаецца ў поле. Доўгім як пройдзеш з канца ў канец, дык грыбоў поўны кош набярэш.

ДУЛЕ́ЎСКАЯ ж. Поле, названае прозвішчам колішняга ўладаль-

ніка Дулеўскага. На Дулеўскай адзін пясочак, але чалавек абрабляў, і добра радзіла.

ЗА АБОРАЙ ж. Поле, якое пачынаецца за аборай /кароўнікам/. Сёлета За аборай картофлі пасадзілі.

ЗАГАРАДЗЬ ж. Луг, што прымыкае да агародаў. Цяпер у Загарадзі сена не косяць: цялятамі спасваюць.

ЗАСЦЯНА ж. 1. Поле, якое знаходзілася за сцяной лесу /зараз лес высечаны/. 2. Лес, які прымыкае да поля з другога боку. Засцяной жыта, бывала, жалі і грыбы збіралі.

ЗА СУШНЯЙ ж. Паша за сушняй, будынкам, дзе раней сушылі, церлі і трапалі лён. Сушні той даўно няма, але так па-старому і завом — За сушняй.

ЗЕНІКОВАЯ ж. Сенажаць, уладальнікам якой быў селянін па імені Зенька < Зіновій. Зенька ды Зенька, хоць і стары, а як і малога звалі.

ІДУБАВА н. Урочышча, дзе раслі старасвецкія дубы. Ідубава цяпер не пазнаеш: толькі адзін дуб абсмалены і застаўся.

КАВАЛЁЎ НОРТ м. Сенажаць названа па прозвішчу селяніна Каваль, якому калісьці належала. Этымалогія слова норт не высветлена.

КАЗАЦКІ м. 1. Лес, які належаў казаку, кавалерысту /у казаках служыў/. 2. Поле, што знаходзіцца ля Казацкага лесу. Казака гэтага ніхто і не помніць, кажуць, нейкі прышлы быў чалавек.

КАЗЁННЫ м. Лес, што належаў казне, дзяржаве. Кругом тут сялянскія лясы былі, а гэтым дык казна ведала.

КАЗЛОВАЯ ж. Сенажаць у міжрэччы Лошы і Выні. Назва ўтварылася, відаць, ад назоўніка казёл 'галінасты, раздвоены ствол дрэва'. На Казловай раней многа каржакоў расло, дык іх узялі ды выкарчавалі.

КАЛУБЕЛЬ м. Вялікі ўрадлівы участак поля, акружаны балотам і забалочаным лесам. Этымалогія дакладна не ўстаноўлена. Магчыма, у аснове назоўнік калубе́ль — так у некаторых мясцовасцях Міншчыны называюць калыску.

КАЛЕ́ЧА н. Невялікае лясное балотца. Мікратапонім утварыўся, відаць, ад дзеяслова калечыць 'рэзаць ногі ці рукі аб асаку, жорсткую балотную траву, якой там багата расло'. У Калеча без рызінавых ботаў, бывала, не патыкайся.

КЛІН м. Поле, якое клінам спускалася да рэчкі. Як забудаваліся, кліна і не стала, але назва захавалася.

КАЛОДЗЕЖНАЯ ж. Паша, градка, узвышанае месца сярод балота. Мікратапонім утвораны ад назоўніка калодзеж. Калодзежную як перааралі, дык ад калодзежа, які быў выкапаны калісьці на градцы, і знаку не засталося.

КАЛЯ ГЕРТА м. Поле і сенажаць каля былога хутара, дзе жыў селянін па прозвішчу Герт.

КАЛЯ КЛАДКІ ж. Сенажаць, што прымыкае да рэчкі, праз якую была пакладзена кладка. Хоць кладкі даўно няма, але месца так і завом — Каля кладкі.

КЛЯНОВАЯ ж. Паша, градка, дзе раслі клёны. На Кляновай цяпер адны бярозы ды асіны растуць, а клёна з агнём не знойдзеш.

КОПАНКА ж. Штучная сажалка сярод асушанага балота. Параўн. копанка 'штучная сажалка'. Балота як асушвалі, выкапалі сажалку і карасікаў запусцілі.

КРУГЛАЯ ж. Сенажаць, сухое месца сярод балота, якое мае форму круга.

КРУШЫНОВАЯ ж. Градка, сухое ўзвышанае месца сярод балота, зарослае хмызняком. Назва бярэ пачатак ад назоўніка крушына, якой там расло калісьці многа. На Крушыновую, бывала, хадзілі крушыну збіраць — у аптэках добра плацілі за яе.

КУТ м. Частка вёскі /з канца/, якая прымыкае да выгану, утвараючы вугал /мясцовае кут/. Цяпер дык таго кута, які некалі быў, і няма.

КУЦІНА ж. Невялікі ўчастак сенажаці, акружаны з усіх бакоў дрыгвою. Ёсць меркаванне, што ў аснове назвы — кут, вугал, але, магчыма, і купіна 'грудок на балоцістай мясцовасці, парослы травою'. Бывала, на Куціну па кладцы і можна было дабрацца.

КРЫЖЫКІ мн. Пляцоўка на ўзлеску, дзе стаяла царква. Цэркаў як забралі на школу, людзі крыжыкі паставілі, а цяпер там партызаны спачываюць у магіле.

КРЫНІЦКІЯ мн. Сенажаць, якая належала раней сялянам вёскі Крыніца. Крыніцкія сюды ездзілі касіць, хоць ім і далекавата.

ЛАВЫ мн. Сенажаць. У аснове назвы, відаць, назоўнік лава

'ўчастак, паласа прадаўгаватай формы'. На Лавах сена некалі цяжка было рабіць: гразка, а палоскі вузкія, доўгія.

ЛАЗОЎШЧЫНА ж. Поле. Назва ад прозвішча колішняга яго ўладальніка Лазоўскага.

ЛЕНЯВІЦКІЯ ГРАДКІ мн. Некалькі сухіх узвышаных сярод балота месц сенажаці, якая належала сялянам вёскі Ленявічы.

ЛЕНЯВІЦКАЯ ДАРОГА ж. Дарога да вёскі Ленявічы.

ЛІСОЎШЧЫНА ж. Лес. Утварыўся мікратапонім, мабыць, ад назоўніка ліс /ліса/. Называем Лісоўшчынай, бо там лісіныя норы.

ЛУЖОК м. Поле. На гэтым месцы некалі быў невялікі луг. На гэтым Лужку добры мурог рос, а цяпер, бачыце, зааралі і лён сеюць.

ЛУЦЭЙЧАЎШЧЫНА ж. Поле, якое належала калісьці селяніну Луцэвічу.

ЛЯСКІ мн. Хутар сярод лесу. У аснове назвы апелятыў лес.

МАЛЫ ВЫГАН м. Паша для маладняку.

МАРГІ мн. Сенажаць. Мікратапонім бярэ пачатак ад старажытнай назвы меры зямлі морг /0,71 га/. Сенажаць тут была падзелена на дробныя палоскі некалі.

МЕЛКІ БРОД м. Неглыбокае месца з пясчаным дном на рацэ Лошы. У Мелкім бродзе добра было дзецям плюхацца.

МІЖХВОЙНІКІ мн. 1. Поле, акружанае з трох бакоў сасновым лесам. 2. Лес, які прымыкае да поля Міжхвойнікі. У аснове мікратапонімаў — хвоя, хвойнік.

МІХАЛОЎШЧЫНА ж. Лес, які належаў у мінулым селяніну Міхалоўскаму. Міхалоўскага даўным-даўно няма, а лес называем Міхалоўшчынай.

МІЦКЕЙШЧЫНА ж. Лес, які належаў калісьці селяніну па прозвішчу Міцкевіч. Міцкевіч тут за нашай памяццю гаспадарыў; ад яго цяпер толькі назва лесу засталася.

МУЖЧЫНСКІ БРОД м. Месца купання для мужчын на рацэ Лошы. Жанкі баяліся купацца ў Мужчынскім бродзе, бо надта глыбокі быў.

НАВОЗ або НАВОЗНІК м. Найбольш урадлівае поле побач з вёскай. Мікратапонім утварыўся, трэба думаць, ад дзеяслова вазіць, навозіць /гной/. А тут пад бокам, дык сюд-тут ды падкінеш, бывала, гною ў Навознік, таму і родзіць добра.

НАЎРОЧЧЫНА ж. Поле. Утварылася назва ад прозвішча колішняга ўладальніка, селяніна Наўроцкага.

НЕДАДЗЕЛЫ мн. Вузкая паласа поля сярод лесу. Гэта, відаць, быў участак, які дзялілі, але не дадзялілі. Нідадзелы некалі тры гаспадары засявалі, але нічога там не радзіла, таму пазней лесам засадзілі.

НІЗОК м. Поле і луг, які прымыкае да яго. Ад назоўніка ніз. Нізком таму і называюць, што знаходзіцца ў нізкім месцы.

ПАДБАБКА ж. Луг каля вёскі. Ёсць меркаванне, што назва ўтварылася ад назоўніка баба /бабка, каля бабкі/. На Падбабку коні выганяем пасціся.

ПАД МАЯКОМ м. Поле, на якім стаяў маяк.

ПАЛАВІЧНАЯ ж. Сенажаць. Ад палавіна: сенажаць, падзеленая на дзве палавіны. Сенажаць гэту два браты ў казны адкупілі.

ПАСЕКА ж. Лес. Ад дзеяслова секчы /пасекчы/. Калісьці там было поле на месцы высечанага лесу. Даўным-даўно лес тут быў высечаны, а цяпер, бачыце, як падняўся, а ўсё роўна Пасекай называюць.

ПАСТАЎНІК м. Сенажаць. Некалі, як сведчаць старажылы, гэта быў агароджаны ўчастак, куды на начлег выводзілі коней.

ПАСЯКІ мн. Поле. Гл. Пасека. Аралі сёння ў Пасяках, дык, паверыце, лямеш сарваў на корч, там іх поўна: ведама, лес быў і не так даўно.

ПЕРАВОЗ м. Хутар і поле, якое прымыкае да гэтага хутара. У гэтым месцы праз раку Лошу калісьці перавозілі людзей на пароме. Мост тут пабудавалі дзесьці ў пачатку века, а дасюль людзей паромам вазілі.

ПЕТРЫКАЎ ДВОР м. Поле на месцы былога хутара, дзе жыў селянін па імені Петрык.

Плёс м. Шырокае і глыбокае месца на павароце ракі Лошы. На Плёсе рыба так і плешча, а на кручок не бярэцца.

ПОЖАР м. Лес, пераважна сасновы, дзе быў вялікі пажар. На Пожары лес гарэў перад гэтай вайной і ўжо не першы раз, а цяпер зарос і не пазнаеш.

ПОПЛАЎ м. Сенажаць, заліўны луг. Можна меркаваць, што назва ўтварылася ад дзеяслова плысці /плаваць/. У дажджлівае

лета, бывала, пракосы на Поплаве плавалі у вадзе.

ПРЭЦИРАБ м. Хмызняк. Ад дзеяслова церабіць, расчышчаць ад зараснікy. Лес працерабілі, дык запусцілі, хмызняк зноў падняўся.

ПЧОЛЬНІК м. Рэдкі яловы лес. У аснове назвы — пчала. На елках тут у даўнія часы расстаўлялі калодкі для пчол, якія захаваліся да нашага часу.

РАГОЎШЧЫНА ж. Урочышча, дзе жыў селянін Рагоўскі.

РАКІТНАЯ або РАКІТАВАЯ ж. Сенажаць, градка, сухое узвышанае месца сярод балота. Ад назоўніка ракіта. На Ракітавую, бывала, забярэмся з каровамі пасля сенакосу, дык хоць кашоў напляцеш з ракіты.

СІНЁЎКА ж. Паша. Назва лексічна суадносіцца з мясцовым апелятывам сінёўка 'асака з сінявацым адценнем'. З Сінёўкі, бывала, коней за хвасты цягалі, а цяпер усё высахла, дык і сінёўка знікла.

СІТНІКІ мн. Урочышча. У аснове назвы мясцовы апелятыў сітнік 'від чароту'. Сітнік тут раней да самых агародаў падступаў, ведама, балота кругом.

СМАЛЕНКА ж. Поле на месцы высечанага лесу, цяпер маладыя сасновы лес. На Смаленцы перад першай вайной лес высеклі, выкарчавалі, але там ніколі не радзіла, таму зноў лесам засадзілі.

СЛАБАДСКІ ГАСЦІНЕЦ м. Назва часткі старога гасцінца Слуцк—Мінск ад ракі Лошы да вёскі Слабада.

СПУСК м. Шлюз на рацэ Лоша. Застаўкі на Спуску адкрылі і усю ваду спусцілі.

СТАРАЯ КАНАВА ж. Штучная рака, пракапаная у мінулым стагоддзі праз балота, упадае у раку Лошу.

СТАРКА ж. Сенажаць, якая прымыкае да Старой канавы /гл./.

СТАФАНАЎ БРОД м. Неглыбокае месца з пясчаным дном на рацэ Лошы насупраць Стафанавага агарода.

СУВАРАТА мн. Паша. Этымалогія мікратапоніма не устаноўлена.

СУШЫНШЧЫНА ж. Поле. Па назве хутара, уладальнікам якога быў селянін Сушынскі.

СЦЕНКА ж. Загуменная дарога. Ад назоўніка сцяна, дарога

за сцяной гумнаў. Да аборы Сценкай, пазагуменню, бліжэй будзе, чым вуліцай.

СЦЯПАНАВЫХ ХВОЙНІЧАК м. Невялічкі сасновы бор, названы імем яго ўладальнікаў — сыноў Сцяпана.

СЯРГЕЕЎ ЛЕС м. Лес, які належаў селяніну па імені Сяргей.

ТОДАРАЎСКІ м. Лес, які належаў селяніну Тодару.

ТОЙ ЗАСЦЕНАК м. Частка вёскі за паваротам вуліцы. Лексічна назва суадносіцца з указальным займеннікам той і назоўнікам сцяна /сценка/ з прыназоўнікам за 'тое, што за сценкай'. Утварылася назва, відаць, як указанне на той, больш аддалены засценак у супрацьлегласць гэтаму, бліжэйшаму. Сына дома ніяк не запыніш: усё у Той засценак яго цягне.

УЗДЗЕНСКІ ГАСЦІНЕЦ м. Дарога ад Паравоза /гл./ да г.п. Узда.

ХАРТОНАЎСКАЯ ПАЛЯНКА ж. Лес. Да Вялікай Айчыннай вайны там было поле, якое належала сялянам вёскі Харытонаўка /мясцовае Хартонаўка/. Хартонаўцы даўно адказаліся ад сваёй палянкі, дык леснікі яе лесам засеялі.

ХАЦКАЛЕЎШЧЫНА ж. Хутар, названы па імені яго былога ўладальніка Хацкаля. Да рэвалюцыі на гэтым хутары жыў яўрэй Хацкаль і хоць карчму трымаў, але, кажуць, жыў надта бедна.

ХВАЁВАЯ ж. Паша сярод балота, дзе ў мінулым раслі хвоі. Балота як асушалі, дык і лес на Хваёвай вынішчылі.

ХВОЙНІК м. Невялічкі сасновы лес сярод поля. Раней у Хвойніку страявыя хвоі раслі.

ЧАРНІЦКАЯ ДАРОГА ж. Дарога да вёскі Чарнічнае.

ЧАРНІЦКІЯ мн. Сенажаць, якая належала ў мінулым сялянам вёскі Чарнічнае. Сенажаць гэтая каля самых Роспаў, таму, як калгас арганізоўваўся, яе ў Чарнічнага забралі, а Роспам аддалі.

ШЫРОКІЯ мн. 1. Поле. Як сведчаць старажылы, там былі шырокія, хоць і кароткія, сялянскія палоскі. 2. Лес, які прымыкае да поля Шырокія.

ЯЗВІНЫ мн. 1. Поле; цяпер засаджана лесам. 2. Паша, якая прымыкае да поля Язвіны. Мікратапонім узыходзіць да апелятыва язвіны — мясцовая назва язміну, але, магчыма, утварылася

і на аснове апелятыва язвы, язвіны 'палонкі, ямы у балоце', якi бытуе на поўднi Мiнскай вобласцi, тым больш, што поле i паша знаходзяцца побач з цяпер асушаным балотам.

Аналiз мiкратапонiмаў вёскi Роспы паказвае, што этымалогiя iх звязана ў асноўным з гаспадарчай дзейнасцю людзей.

Асновай для шматлiкiх назваў з"явiлiся iмёны i прозвiшчы людзей, якiя тут жылi ў мiнулым i валодалi тым цi iншым аб"ектам, зямельным участкам: Базылёва валока, Гальяшоў выган, Дулеўская, Зенiковая, Лазоўшчына, Мiхалоўшчына, Сцяпанавых хвойнiчак, Тодараўскi.

Некаторыя мiкратапонiмы абазначаюць назвы аб"ектаў, якiя належалi не аднаму чалавеку, а групе людзей навакольных вёсак: Грэскiя, Крынiцкiя, Ленявiцкiя градкi, Чарнiцкiя, Хартонаўская палянка.

Спецыфiка гэтых дзвюх груп мiкратапонiмаў абумоўлена, мабыць, тым, што ў мiнулым сяляне тут валодалi хоць невялiкiмi, але ўласнымi надзеламi зямлi i iншых сельскагаспадарчых угоддзяў, плацiлi падаткi казне i лiчылiся адносна незалежнымi.

Многiя мiкратапонiмы ўтварылiся ад назваў прыродна-геаграфiчных аб"ектаў, якiя абазначаюць асаблiвасцi данай мясцовасцi, яе рэльеф, раслiннасць: Абрэчак, Барок, Балотца, Буячнае, Гала, Плёс, Хваёвая ; форму аб"екта, яго памеры: Астравок, Востраў, Вузенькiя, Вялiкi выган, Доўгая, Круглая, Шырокiя ; назвы-арыенцiры: Каля кладкi, Пад маяком, Той засценак, Ленявiцкая дарога, Слабадскi гасцiнец.

М.С. Васілеўскі

## МІКРАТАПОНІМЫ ВЁСКІ МАКРАНЫ

Макраны -- старажытная беларуская вёска /цяпер у складзе Капыльскага раёна Мінскай вобласці/, навакольныя сяляне яе так і называюць Старое Сяло . Да Кастрычніцкай рэвалюцыі вёска налічвала 40--50 хат, якія туліліся на адной вузкай, гразкай вуліцы, таму што мясціны кругом былі балоцістыя, нізкія. Адсюль, напэўна, і назва -- Макраны[1]. Пасля Кастрычніка на ўладаннях памешчыка Вайніловіча выраслі новыя пасёлкі: Дуброва, Селішча, Чырвоная Горка /па-мясцоваму Горка /, імя Першага Мая / Маёво /, імя Калініна / Калініно /, Чырвоны куток / Бедната /. Нядаўна рашэннем Капыльскага райвыканкома вёскі Макраны, Задвор"е і ўсе названыя пасёлкі, за выключэннем пасёлка імя Калініна, аб"яднаны адной назвай -- Чырвоная Дуброва.

Асноўныя рысы гаворкі в. Макраны даюць падставу аднесці яе да паўднёва-заходніх гаворак беларускай мовы, апісаных у кандыдацкай дысертацыі М.В.Бірылы "Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна Мінскай вобласці" /1953/ і артыкулах: "Вопыт апісання фанетычнай сістэмы адной гаворкі"[2] і "Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна Мінскай вобласці"[3]. Мікратапонімы, якія тут

---

[1] Параўн. мокрина 'твань; дрыгва'. Слоўнік мовы Скарыны. Мн., 1977, т. I, с. 328.

[2] Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. 1. Мн., 1954.

[3] Там жа, вып. IУ, 1957 .

падаюцца, запісаны і сістэматызаваны летам 1977 г., хоць аўтару, ураджэнцу Макран, большасць назваў вядома з дзяцінства[4].

АБЛУКО́ЎКА ж. Сенажаць на выгібе р. Морач. Назва ўтворана ад апелятыва лука пры дапамозе прыстаўкі аб-. Добра трава парасла ў Аблукоўцы.

АБРЭ́ЧКІ мн. Канавы, выкапаныя калісьці па загаду памешчыка для таго, каб вада па іх заходзіла на сенажаць. І сенажаць паміж канавамі таксама атрымала назву Абрэчкі . Заўтрэ Абрэчкі будам касіць.

АЗЕРЫШЧЭ н. Невялікае ўрочышча паміж Клімаўшчынай і Хорупілем, пакрытае ямамі, азёрцамі, адсюль, напэўна, і назва — Азерышчэ. Па Азерышчы даўней быў паложаны дзераўяны насціл, па ім можно было хадзіць і ездзіць, але гето даўно было.

АЛЕ́СКАЕ н. Паляна каля р. Морач, кругом якой расце невысокі альховы лес, алешнік. Ад яго, відаць, і назва ўрочышча. У Алескум вельмо граско ўвосень, ні прайці, ні праехаць там.

АНДРЫ́ЯСАЎ ПРЭЦЕРАП. Назва сенажаці ва ўрочышчы Церамошнае, якая належала братам Паўлу і Сцяпану Палешчукам /па-мясцоваму — Андрыясавы /. Андрыясаў прэцерап цепер так зарос, што зноў трэбо карчаваць, але хто его цепер карчавацьме?

БАРКО́ЎСКАГО АГАРО́Т. Сенажаць, паша. Назва антрапанімічная, паходзіць ад прозвішча лесніка, які жыў на гэтым месцы да рэвалюцыі. Цепер на Баркоўскаго агародзі паша добра, кароў там пасуць.

БЕРАЗА́К м. Урочышча, дзе рос вялікі бярозавы лес. І хоць лесу даўно няма, урочышча па-ранейшаму называюць Беразак. Летась вельмо много краснагаловікаў было ў Беразаку, хоць вазамі вазі.

БЕРО́ЗНАЕ н. Сенажаць, самая далёкая ад Макран. Некалі ек паедам сено рабіць у Беро́знае, дак і начуем там, бо далеко ездзіць.

---

[4] У зборы матэрыялу і ў тлумачэнні некаторых назваў аўтару дапамагалі старэйшыя жыхары вёскі Васілеўскі Антось Сельвестравіч /1906 г./ і Сяргейчык Костусь Паўлавіч /1892 г./.

БРАДÓК м. Невялікі, у 5—7 хат пасёлак, што вырас каля броду праз Канаву, якая цячэ паміж вёскамі Макраны і Задвор'е. Цяпер ужываецца толькі як назва пасёлка. Жыве ў Братку. Трэбо схадзіць у Брадок.

ВІ́ЛЫ мн. Сенажаць. Знаходзіцца ў развілцы рэк Морач і Канавы, якая калісьці называлася рэчкай Макранкай. Ад гэтага, як мяркуюць старажылы, і назва урочышча. У гетум годзі ў Ві́лах такая трава парасла, ек ніколі.

ВУГЛЫ́ мн. Лес і сенажаць, якая вуглом укліняецца ў лес. У Вуглох рэзалі лес на хату. У Вуглох ужэ стагі скідалі.

ВЫЖА́РЫНА ж. Нізкае месца на лузе паміж вёскамі Макраны і Задвор'е, некалі заўсёды было запоўнена вадой. Даўней гэта выжарына ніколі ні высыхала, а цепер там аруць, сеюць жыто.

ГА́ЛКІ мн. Калгасны палетак за пасёлкам імя Калініна, недалёка ад р. Морач. Калісьці было нізкае, забалочанае месца, дзе раслі галкі /мясцовая назва кветак чароту/. У Га́лках вельмо велікі ечмень вырас.

ГРУСКІ́Е мн. Лес і сенажаць пры ім, дзе калісьці было вельмі гразка, там грузлі коні, каровы. У Грускіх цепер стало сухо, усе асушылі.

ДЗЕХЦЯ́РКА ж. Месца ў лесе, дзе калісьці гналі дзёгаць, палілі вугаль. У Дзехцярцы ешчэ й зарас е ямы, капцы, дзе пры пану дзёгаць гналі.

ДУБНІКІ́ мн. Невялікі дубовы лясок сярод поля. У Піліпаўку там, у гетых Дубніках, толькó ваўкі выюць. /Бо гэты лясок—могільнік для здохлых коней./

ДУДУКÓВА ж. Сенажаць, якая знаходзіцца побач з урочышчам Прадажышча. Паходжанне назвы не ўстаноўлена. Кале Дудуковай лася ўчора бачылі.

ЖУ́РАВО н. Сенажаць, зарослая кустарнікам, чаротам, лесам. Назва, як мяркуюць старажылы, паходзіць ад жураваў, бо "... мо нідзе столькі ні было жураваў, ек ў гетым Жураве".

ЗЕЛЁНЫ ЛЕСÓК. Сенажаць на месцы невялікага ляска, які вылзяляўся зеленню. Зелёны лесок ужэ скасілі, трэбо сено сушыць.

ЗАГУ́МЕННЕ н. Месца /поле, дарога/ за сялянскімі гумнамі,

якія некалі стаялі ў канцы сялянскіх агародаў. На загуменні карова нечыя ходзіць.

КАНЧАНСКАЕ н. Сенажаць, якая раней належала сялянам суседняй вёскі Новыя Макраны або Новае Сяло ці інакш — Канчане /бо знаходзіцца ў канцы палеткаў і паплавоў в. Макраны/. Сённе касіцьмем Канчанскае.

КОПАНЬ ж. Палетак, самы далёкі ад Макран. Да рэвалюцыі 1905 г. быў вялікі лес. Добрая картопля парасла на Копані.

КЛІМАЎШЧЫНА ж. Сенажаць, невялікі лес, кустоўе. Назва антрапанімічная, паходзіць ад прозвішча колішняга яе ўладальніка Клімава, памешчыка суседняй вёскі Піліпавічы. Клімаўшчыну ўжэ пачалі асушваць, ужэ нешто сеюць там.

КАВАЛЬЧУКОВА ж. Сенажаць, якая належала сялянам в. Задвор'е Кавальчукам. Колькі таго сена было на Кавальчуковуй — адна капа.

КРЫЖЫК м., ПАД КРЫЖЫКАМ. Месца ў лесе, дзе дрэвам забіла чалавека, калі валялі пану лес, і дзе быў пастаўлены невялікі драўляны крыжык. Кале Крыжыка /Пат Крыжыкам/ вельмо много праўдзіўцаў знашоў.

КАРБУНАК м. Урочышча за пасёлкам Маёво, куды некалі пры пану цягалі здохлых коней. Назва паходзіць, магчыма, ад лац. carbunculus 'тлеючы вуталёк, вугельчык'. Цепер у Карбунак коней ужэ ні цегаюць.

КРУГЛЫ ЛЕС. Невялікі лясок і сенажаць пры ім. Назва ад формы ляска. Таго Круглаго Леска ўжэ німа: ельнік, што там рос, высеклі, заарапі і сеюць траву. І сенажаць кругом заараді і засеелі.

КАВАЛАЧКІ мн. Сенажаць, якую пасля Вялікага Кастрычніка дзялілі паміж сялянамі невялікімі часткамі, "кавалачкамі". Кавалачкі ўжэ трэбо касіць.

КАПЦЫ мн. Месца на беразе р. Морач, дзе, як сведчаць мясцовыя легенды, пахаваны пабітыя шведамі далёкія продкі макранцаў. Цепер тые Капцы ўжэ зраўнялісе, іх пашці што німа ўжэ.

КАРЧЫ мн. Палетак каля Копані, дзе доўга заставаліся карчы пасля высечанага лесу. У 20-х гадах тым быў невялікі пасёлак, які назвалі Карчы, а яго жыхароў — Карчавыя: Макар

Карчавы і інш.

ЛАЗАВІЦКІЕ мн. Сенажаць каля Пасіцкага ляска, якую прадаў калісьці памешчык Вайніловіч сялянам в. Лазавічы Клецкага р-на. Калі ўжэ Лазавіцкіе пачнуць касіць?

ЛЕЗАСЕК м. Урочышча, дзе высеклі лес, які не меў назвы. Колькі летась ягат было ў Лезасеку!

ЛОСЕВА ж. Сенажаць. Назва, як мяркуюць старажылы, паходзіць ад таго, што тут любілі паляжаць і пагрэцца на сонцы ласі. Цепер Лосева ўся вадою заліта.

ЛЕВОНАЎ ЛЕСОК. Сенажаць, дзе некалі рос невялікі лясок, выкарчаваны селянінам Лявонам з в. Макраны. Сено на Левонавум леску правяло, трэбо іці варочаць.

ЛЕВОСЕВА ж. Невялікая сенажаць, апрацаваная некалі селянінам Левосем, які ў Макраны прыйшоў у прымы з Новага Сяла. Пойдам на Левосеву пад дуп жалуды збіраць, іх свінне любець.

ЛЯДО н. Высокае месца каля вв. Макраны і Задвор'е, калісьці было абкружана гразкім балотам. Старажылы сцвярджаюць, што ў даўнія часы там рос вялікі бярозавы лес, які быў высечаны і спалены, а зямля ператворана ў поле. Калі ж зямля перастала радзіць, яе кідалі і пераходзілі ў другое месца. Сапраўды, у лядзе і цяпер нічога не расце, нават трава. У лядзі тым адны купіны велікіе, а на іх нека трава пахуча расла, больш нічого: ні травы, ні кустоў екіх.

МАЛІННІКІ мн. Сенажаць на месцы лесу, у якім расло шмат малін. Цепер Малінніці ні косець, бо пазаорвалі, сеюць нешто.

МЕЛЬНІКАВА ж. Сенажаць. Адкуль назва -- невядома. На Мельнікавуй трава вельмо смашна расце, авечкі вельмо ш любець ее.

МІХАЛІШЫН ЛУЖОК. Невялікі лужок на полі каля Чыстай Лужы, знаходзіўся на шнуры Міхалішыных /вясковае прозвішча Васілеўскіх/. Ат таго лушка цепер толькі маленькая ўпадзіна асталася і названне.

НОВА ж. Сенажаць, якую вырабілі сяляне памешчыку, высекшы лапіну лесу. Да ранейшых сенажацей пана далучылася новая, адсюль і назва. Шчэ есь людзі, што помнець, ек гету Нову рабілі.

ПАД СОСНАЮ. Палетак каля пасёлка Селішча. Жалі жыто Пат

Соснаю.

ПАД ЦАГЕ́ЛЬНЕЮ. Палетак каля былой панскай цагельні. Сённе мы картоплі капалі Пад Цагельнею.

ПАДЛЕСО́Ч'Е н. Луг і паша перад макранскім лесам, месца "пад лесочкам". Мы сённе каровы на Падлесоч'і пасвілі.

ПАДУСО́КАЕ ЛЯДО. Сенажаць, частка якой знаходзіцца на высокім грудзе і пакрыта купінамі. І Падусокае Лядо таксамо заарано, ек і ўсе свае сенажаці.

ПАЖА́РНА ж. Сенажаць паміж Вуглоў і Прыдаткамі, якую перадалі ў пачатку 20-х гадоў тым сялянам, хто ўваходзіў з канём у пажарную дружыну, арганізаваную ў в. Макраны. Цепер гету сенажаць ніхто Пажарна ні называе, адно мо старые помнець.

ПАЛЯ́НКА ж. Нізінны палетак перад Копанню. Калісьці вакол яе быў вялікі лес, і гэты палетак быў сапраўды палянкай сярод лесу. На Палянцы гетуй ўсегда доўго ні высыхае, мокро тамака.

ПА́СІКІ мн. або ПА́СІЦКІ ЛЕСО́К. Невялікі лясок і сенажаць пры ім. Калісьці быў вялікі лес, які высеклі, зрабілі "пасеку", названую мясцовымі сялянамі Пасікі або Пасіцкі лесок. Але ні Пасіцкаго леска, ні сенажаці цепер німа, усе заарано, усе пасеено, адно назва поля хібо й асталася.

ПО́ПЛАЎ м. Сенажаць за агародамі сялян перад Канчанскім полем. На поплаві вельмо ш мякка і пахуча трава расце.

ПРАДА́ЖЫШЧЭ н. Урочышча, дзе расце вялікі і разнастайны лес, асабліва многа ліп. Некалі макранцы лыка там драді на лапці. Паходжанне назвы не ўстаноўлена.

ПРЫГУМЕ́НЬ м. Месца перад гумном, звычайна для прасушвання сена, снапоў збажыны, для заезду ў гумно. На нашум Прыгумені конь ходзіць /у значэнні 'пасецца'/.

ПРЫДА́ТКІ мн. Сенажаць паміж Грузкіх і Вуглоў, якою надзялялі бяднейшых сялян пасля рэвалюцыі. Прыдаткі тые ні ўсім давалі, а хто беднейшы.

ПРЫ́СТАНЬ ж. Месца каля р. Морач, адкуль у даўнія часы продкі макранцаў адплывалі па рацэ ў далёкі шлях і куды вярталіся з вялікіх дарог. На Прыстані той і цепер ешчэ відно, ек млін вадзены быў.

РАЧЫ́ШЧЭ н. Сенажаць, зарослая кустоўем, лесам. Назва, магчыма, паходзіць ад таго, што ў гэтым месцы рака разліва-

лася шырока і мела выгляд вялікай ракі — рачышча. У Рачышчы цяжко касіць было, бо вельмо ш вады было много — аш па пахі.

СВАЕ ШНУРЫ. Надзелы зямлі /валокі/ і сенажаці сялянам пасля рэформы 1861 г. На тых Сваіх Шнурах ні было дзе добруй бабі сесці.

СКАРАЦІН м. або СКАРАЦІНО н. Вялікі лес, паходжанне назвы не ўстаноўлена.

СКАРАЦІНСКІЕ СЕНАЖАТКІ. Невялікія кускі сенажаці, якія прымыкаюць да лесу Скарацін. Апошнім часам там усе асушылі, Скарацінa таго не пазнаць цепер, ек і сенажатак Скарацінскіх.

СУШЧОЎШЧЫНА ж. Сядзіба, агароды,палеткі і сенажаці, якія калісьці належалі Сушчэвічам, мясцовай шляхце. На Сушчоўшчыне велікіе гуркі некалі раслі, і буракі, і гарбузы.

СЕДЗІБНЫ ПАЛЕТАК. Поле,якое пачыналася адразу за сядзібамі жыхароў в. Макраны. На Седзібным палетку ўсе добра расце, бо земля добрэ ўгноена.

СЕРГЕЕВА ж. Сенажаць, якая была апрацавана і належала сялянам в. Макраны Сяргейчыкам /па-вясковаму Сергеевым/. Тры вазы сена накасілі на Сергеевуй.

СЕРЭДНІ ЛЕСОК. Невялікі лясок паміж Пасіцкім ляском і Церамошным, адсюль і назва — Сярэдні. Так называецца і сенажаць пры ім. Серэдні лесок трэбо грапці, бо сухое ужэ сена.

УРВЕЦКІЕ СЕНАЖАЦІ або проста УРВЕЦКІЕ. Сенажаць каля пасёлка Дуброва. Да рэвалюцыі памешчык Вайніловіч прадаў гэту сенажаць урвеццам /сялянам в. Урведзь Клецкага р-на/, с тых пор ена так і называецца, хоць урвеццы там даўно ні косець.

ТАБАРЭЦ м. Невялікі кусок пашы на беразе Канавы /калісьці р. Макранкі /. Паходжанне назвы не высветлена. Некалі мы ўсё каровы свае пасвілі на гетум Табарцы.

УЗРОЎЕ н. Насып уздоўж рова, выкапанага ў даўні час, каб аддзяліць панскі лес ад сенажацей. Гетае Узроўе цягнецца ат Маліннікаў да Падусокаго Ляда.

ХОРУПЕЛЬ або ХОРПЕЛЬ м. Прыгожая высокая паляна сярод балота і лесу на беразе Морачы. Калісьці там была дача памешчыка Вайніловіча, дзе пастаянна жыў ляснік /Галавач і інш./, які вартаваў поле, сад. Назва звязана, магчыма, з 'хорь, хорек',

'востраў на рацэ або возеры' /М.Фасмер, В. Даль/. У Хоруплі й цепер палеваць можно, бо там і цепер много ласёў, дзікоў, зайцоў і ўсякае дзічыны.

ХВОЙНІК м. Лес, пераважна хвойны, і сенажаць пры ім. Хвойнік ужэ ўвесь зааралы, а лес высеклі, спляжылі даўно.

ЦАГЕЛЬНЯ ж. Участак лесу і палетак, дзе калісьці стаяла панская цагельня. Геты хвойнік, што ў Цагельні, з небам гамоніць, а некалі ш садзілі шышачкамі.

ЦЕРАМОШНАЕ н. Невялікі лясок і сенажаць. Паходжанне назвы не ўстаноўлена. Некалі ў Церамошным леснік Баркоўскі жыў, там быў его агарот, хата стаяла, хлевы.

ЧЫСТАЯ ЛУЖА. Калгасны палетак вакол калісьці вялікага і глыбокага вадаёма, дзе было шмат рыбы, дзе было царства белых чаек і дзікіх качак. Вада была чыстая, крынічная, адкуль і назва -- Чыстая Лужа. У перадваенны час калгас асушыў Лужу, зааараў, цяпер напамінаюць аб ёй толькі невялікія кустарнікі. Шчэ старые людзі помнець, ек у Чысту Лужу на дзікіх качак хадзілі на ахоту.

ЮЗІНА ХАТА. Урочышча ў лесе каля Клімаўскай лініі. У даўнія часы памешчык хацеў аддаць у салдаты селяніна в. Задвор'е Юзю, а той уцёк у лес, зрабіў зямлянку і жыў там, хаваўся, украдкам прыходзіў ноччу дадому па харчы.

ЯЗВІНЫ мн. Лясное ўрочышча і сенажаць пры ім. Урочышча вельмі нізкае, вільготнае, густа зарослае кустоўем, зараснікам, травой. Паходжанне назвы не ўстаноўлена. Параўн. укр. язвина 'овраг, пропасть', серб.-харв. 'пещера', славен. 'барсуковая нора', польск. 'барсуковая нора' / М. Фасмер /. У Язвінах вечно дарога была граска і ў выбоінах, ек у язвах, мо таму і называецца гетае место, а мо ат чаго іншаго -- хто его ведае.

М.В.Бірыла, В.П.Лемцюгова

# ПРАЦЫ ПА БЕЛАРУСКАЙ АНАМАСТЫЦЫ. БІБЛІЯГРАФІЧНЫ ЎКАЗАЛЬНІК /1976—1978 ГГ. І ДАПАЎНЕННІ ДА БІБЛІЯГРАФІІ 1955—1975 ГГ./[1]

А к а л о в і ч Л.А. Выкарыстанне тапанімічнага матэрыялу ў курсе сучаснай беларускай мовы. — Вывучэнне беларускай мовы ў педагагічных інстытутах БССР /Матэрыялы Рэсп. навукова-метадычнага семінара/. Мн., 1973 /Сааўтар Адамовіч Я.М./.

А к а л о в і ч Л.А. Тапонімы на ўроках мовы. — Настаўніцкая газета, 14 лютага 1976 г. /Сааўтар Адамовіч Я.М./.

А л е к с е ю к М. Рудни и Гуты /Топонимика Брестчины/. — Заря, 10 снежня 1971 г.

А л е к с я ю к М. Пра тапаніміку Брэстчыны. — Полымя, 1969, № 2.

А н т р о п о в Н.П. Об одном фрагменте белорусского микротопонимического словаря. — Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур /Тэзісы дакладаў III Рэсп. канферэнцыі 2—3 снежня 1977 г./. Мн., 1977.

---

1 Бібліяграфію за 1955—1975 гг. гл.: Бірыла М.В., Лемцюгова В.П. Працы па беларускай анамастыцы /1955—1975/. Бібліяграфічны ўказальнік. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

А р а ш о н к а в а Г.У., Л е м ц ю г о в а В.П. Словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Б е в з е н к о А.Т. Префиксо-бессуфиксные образования в ойконимии восточных славян. — Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур. Мн., 1973.

Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Б и р и л л о Н., А к с а м и т о в А. Как появились фамилии? — Знамя юности, 31 студзеня 1960 г.

Б и р и л л о Н.В., Л е м т ю г о в а В.П. Функции и место суффиксов с элементами -к-, -с-, -č- в славянской ойконимии. — Kniga referata. VIII Međunarodni slavisticki kongres. Zagreb-Lubljana, 3—9 сентября 1978, т. I. Zagreb, 1978.

Б і р ы л а М.В. Анамастыка. — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. 1, 1969.

Б і р ы л а М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем не- тыпу Невер, Непосед, Недвига, Недомолва. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Б і р ы л а М.В., Л е м ц ю г о в а В.П. Працы па беларускай анамастыцы /1955—1975/. Бібліяграфічны ўказальнік. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Б о н д а р у к Г.П. Перадача по-русски белорусских топонимов. Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР /Тезисы докладов и сообщений/. Рига, 1966.

Б о р е к Г. Восточнославянские топонимы с формантом -ъn. Восточнославянская ономастика. М., 1972.

Б р у й М.Е. Тураў і наваколле /Гідратапанімічныя нататкі/. — Беларуская лінгвістыка, вып. 5, 1974.

Б у т е н к о Н.П. К вопросу о "семантике" собственных имен. — Актуальные проблемы лексикологии /Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной научн. конференции 17—20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

В а н а г а с А.П. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мн., 1968 /Сааўтар Бірыла М.В./. Рэц.: А.П. Непокупный, М.В.Бірыла, А.П.Ванагас. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мн., 1968. — Мовознавство, 1969, № 2.

В а н к о в і ч В. Як утварыліся беларускія прозвішчы. —

Настаўніцкая газета, 1 лістапада 1969 г. Гл. таксама Ніва /Беласток/, 16 жніўня 1970 г.

Варченко І.О. Акцентологічне і лінгвогеографічне вивчення прізвищ на -енко. — ІУ Респ. ономастична конференция /Тези/. Київ, 1969.

Вярэніч В.Л., Янкоўскі А.Р. Былыя татарскія вёскі Кяня і Касіна /Гісторыка-этымалагічнае даследаванне/. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Гайдук М. Адкуль узяліся нашы імёны. — Беларускі каляндар на 1971 год. Беласток, 1970.

Гайдукевіч І.М. Мікратапонімы вёскі Любонічы. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Глебка П.Ф. Прамова на адкрыцці канферэнцыі па пытаннях анамастыкі. — Глебка П.Ф. Пытанні гісторыі, філалогіі, мастацтва. Мн., 1975.

Горпинич В.О. Назви жителів чоловічого роду на -иця в української та білоруської мовах. — Мовознавство, 1975, № 6.

Горпинич В.А. О некоторых способах сочетания производящих морфем в оттопонимических прилагательных восточнославянских языков. — Научные доклады высшей школы. Филологические науки, 1970, № 2.

Горпинич В.А. Словообразование имен прилагательных и названий жителей от топонимов в восточнославянских языках. Автореф. канд. дис. Киев, 1966.

Горпинич В.О. Словотвір назв мешканців на -чани в східнослов"янських мовах. — Питання словотвору східнослов"янських мов /Материали міжвузівскої респ. наук. конф./. Київ, 1969.

Григорьева Л.Н. Ойконимия Белорусского Подвинья. Автореф. канд. дис. Мн., 1978.

Григорьева Л.Н. Польские элементы в ойконимии белорусского Подвинья. — Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур /Тэзісы дакладаў III Рэсп. канферэнцыі 2—3 снежня 1977 г./. Мн., 1977.

Гринблат М.Я. Топонимические свидетельства промыслов и ремесел сельского населения Белоруссии. — Конференция по топонимике Северо-западной зоны СССР /Тезисы докладов и

сообщений/. Рига, 1966.

Гринблат М.Я. Тюркские элементы в белорусской антропо- и топонимии. — Материалы сессии, посвященные итогам археологических и этнографических исследований 1964 года в СССР /Тезисы докладов/. Баку, 1965.

Грыгор"ева Л.М. Айконімы беларускага Падзвіння з суфіксам -оўка/-аўка/-ёўка/-еўка. — Беларуская лінгвістыка, 1978, № 14.

Грыгор"ева Л.М. Айконімы гідранімічнага паходжання басейна Заходняй Дзвіны /у межах Беларусі/. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Грыгор"ева Л.М. Аналіз структуры і ўтвараючых асноў айконімаў з суфіксам -ov /-ev/ на тэрыторыі беларускага Падзвіння. — Весці АН БССР. Сер. грам. навук, 1977, № 6.

Грынавецкене А.І. Прозвішчы і мянушкі ў курапольскай гаворцы беларускай мовы. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Грынблат М.Я. Беларуска-латышскія сувязі ў тапаніміі і антрапаніміі БССР. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Грынблат М.Я. Тапанімічныя сведчанні саслоўнакласавага падзелу насельніцтва Беларусі ў феадальную і капіталістычную эпохі. — Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970.

Думин Б.Я. О составлении /белорусско-украинского/ топонимического словаря Полесья. — Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР /Тезисы докладов и сообщений/. Рига, 1966.

Емельяновіч В.М. Асноўныя словаўтваральныя тыпы мікратапаніміі Брэстчыны. — Беларуская мова і літаратура ў ВНУ /Тэзісы дакладаў навукова-метадычнай канферэнцыі/. Брэст, 1971.

Железняк И.М. Белорусская и украинская ойконимия как источник реконструкции древнейшего славянского антропонимикона. — Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур /Тэзісы дакладаў і паведамленняў II Рэсп. канферэнцыі 17—19 мая 1973 г./. Мн., 1973.

Жук А. "Фамилии" деревень /Топонимика. Барановичский р-н/. — Советская Белоруссия, 13 кастрычніка 1972 г.

Ж у р а ў с к і А.І. Як называць Скарыну? -- Звязда, 11 мая 1967 г.

Ж у ч к е в и ч В.А. Значение трудов Я. Эндзелина для изучения топонимии Белоруссии. -- Балтийские языки и их взаимосвязи со славянскими, финно-угорскими и германскими языками. Рига, 1973.

Ж у ч к е в и ч В.А. К вопросу о связях топонимии Центра с топонимией Белоруссии. -- Топонимия Центра /Тезисы докладов/. М., 1972.

Ж у ч к е в и ч В.А. К вопросу о следах обров /оваров/ в Белоруссии. -- Веснік БДУ, сер. II, 1973, № 1.

Ж у ч к е в і ч В.А. Колькасныя і статыстычныя метады ў тапаніміцы. -- Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Ж у ч к е в и ч В.А. Местные географические термины в топонимии Белоруссии. -- Вопросы географии, сб. 81. М., 1970.

Ж у ч к е в и ч В.А. Миграция географических названий. -- Известия Всесоюзного географического общества, вып. 3, т. 102, 1970.

Ж у ч к е в и ч В. Названия -- мигранты /Исследование названий-мигрантов в топонимике/. -- Неман, 1975, № 1.

Ж у ч к е в и ч В.А. О методологии топонимических исследований. -- Ономастика Поволжья /Материалы I конференции по ономастике/. Ульяновск, 1969.

Ж у ч к е в и ч В.А. О происхождении названия реки Сож. -- Вестник БГУ, Сер. II, 1969.

Ж у ч к е в и ч В.А. Ономастическая работа в вузах Минска. -- Повідомлення української ономастичної комісії, вып. 2. Київ, 1972.

Ж у ч к е в и ч В.А. Принципы использования топонимии при историко-географических разысканиях. -- IУ Респ. ономастична конференція /Тези/. Київ, 1969.

Ж у ч к е в и ч В.А. Спецкурс топонимики в вузах Минска.-- IУ Респ. ономастична конференція /Тези /, Київ, 1969.

Ж у ч к е в і ч В. Старадаўняя легенда /Тапаніміка беларускіх назваў/. -- Беларусь, 1973, № 6.

Ж у ч к е в и ч В.А. Топонимические исследования Белоруссии. -- II Респ. ономастична нарада /Тези/. Київ, 1962.

Ж у ч к е в и ч В.А. Топонимический ландшафт. — Известия Всесоюзного географического общества, 1968, № 4.

Ж у ч к е в и ч В.А. Топонимия как источник исследования этногенеза белорусов. — Этногенез белорусов. Мн., 1973.

Ж у ч к е в і ч В. Таямніцы Міёраў. — Беларусь, 1975, № 10.

І в а н о в а А.А. Земляробчая лексіка ў складзе мікратапаніміі Мазырскага Палесся. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

І в а н о в а А.А. Мікратапанімічная тэрміналогія Мазыршчыны. — Беларуская мова і мовазнаўства, вып. IУ. Мн., 1976.

И в а ш к о В.А. Влияние эмоционально-эстетических характеристик звуковой стороны личных имен на их восприятие. — Лингвистическая интерпретация результатов экспериментально-фонетических исследований речевого текста /Респ. симпозиум 23—24 декабря 1977 г./. Мн., 1977.

И в а ш к о В.А. Из истории антропонимии г. Смоленска. — Веснік БДУ, сер. IУ, 1978, № 1.

И в а ш к о В.А. К проблеме адаптации канонических имен в русской среде. — Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур /Тэзісы дакладаў Ш Рэсп. канферэнцыі 2—3 снежня 1977 г./ Мн., 1977.

И в а ш к о В.А. Роль внешних и внутренних факторов в ситуации выбора имени при наречении. — Веснік БДУ, сер. IУ, 1977, № 3.

И в а ш к о В.А. Социолингвистический и психолингвистический анализ ситуации выбора имени при наречении. Автореф. канд. дис. Мн., 1978.

Инструкция по передаче на картах географических названий Белорусской ССР. Складальнік Г.П. Бандарук. М., 1964.

Инструкция по русской передаче географических названий Белорусской ССР. Складальнік Г.П. Бандарук. М., 1971.

К а л и н к о в и ч Н. ... Где шумела Белая Вереза /Кожан-Городок Лунинецкого р-на/. — Сельская газета, 22 кастрычніка 1975 г.

К а р п е н к о М.В. Семантическая группировка литературных антропонимов. — Актуальные проблемы лексикологии /Тезисы

докладов и сообщений Всесоюзной научной конференции 17--20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

К а р п е н к о Ю.А. О семантике собственных имен. -- Актуальные проблемы лексикологии /Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной научной конференции 17--20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

К а р п е н к о Ю.А. Параметры ономастической типологии /на восточнославянском материале/. -- Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур /Тэзісы дакладаў і паведамленняў II Рэсп. канферэнцыі 17--19 мая 1973 г./. Мн., 1973.

К а р п е н к о Ю.А. Славянские композиты в белорусской и украинской антропонимии. -- Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур /Тэзісы дакладаў і паведамленняў II Рэсп. канферэнцыі 17--19 мая 1973 г./. Мн., 1973.

К а р с а к о в а М.М. Адлюстраванне сацыяльных змен у мікратапаніміцы Петрыкаўшчыны. -- Вопросы общественных и гуманитарных наук, вып. 1. Гомель, 1973.

К а р с а к о в а М. М. Мікратапонімы Петрыкаўшчыны з суфіксамі -аўк /а/, -оўк/а/. -- Вопросы общественных и гуманитарных наук, вып. I. Гомель, ~~1973~~ 1974

К а р с а к о в а М. М. Састаўныя мікратапонімы Петрыкаўшчыны. -- Беларуская мова і мовазнаўства, вып. I. Мн., 1973.

К а р с а к о в а М. М. Складаныя мікратапонімы Петрыкаўшчыны. -- Праблемы мовы і літаратуры. Мн., 1972.

К а с ь к о В.К. Белорусские топонимические предания. -- Прозаические жанры фольклора народов СССР. Мн., 1974.

К а т о н а в а А. М. Аб паходжанні некаторых гідронімаў басейна Заходняй Дзвіны на тэрыторыі Беларусі. -- Веснік БДУ, сер. IУ, 1971, № 1.

К а т о н а в а А. М. Праблемы інтэрпрэтацыі заходнедзвінскай гідраніміі. -- Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

К а т о н а в а А. М. /рэц. на кн.:/ A. Vanagas. Lietuvos TSR hidronimų daryba. Vilnius, 1970. -- 428 с. -- Беларуская лінгвістыка, вып. 7, 1975.

К а т о н а в а Е. М. Гидронимия бассейна Западной Двины на территории Белоруссии. Автореф. канд. дис. Мн., 1975.

К а т о н о в а Е.М. Группа западнодвинских гидронимов с общим значением "болотистая река". -- Актуальные проблемы лексикологии /Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной научной

конференции 17—20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

К а т о н о в а Е. М. К семантической характеристике топонимов типа утица. — Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур /Тэзісы дакладаў III Рэсп. канферэнцыі 2—3 снежня 1977 г./. Мн., 1977.

К а т о н о в а Е. М. Некоторые балтийские гидронимы бассейна Западной Двины на территории Белоруссии. — Балтийские языки и их взаимосвязи со славянскими, финно-угорскими и германскими языками. Рига, 1973.

К а т о н о в а Е. М. Некоторые балтийские гидронимы бассейна Западной Двины на территории Белоруссии. — Известия АН Латвийской ССР, 1973, № 4.

К а т о н о в а Е. М. О географических названиях типа Черная, Чернец. — Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур /Тэзісы дакладаў і паведамленняў II Рэсп. канферэнцыі/. Мн., 1973.

К а т о н о в а Е. М. О так называемых отантропонимических гидронимах. — Веснік БДУ, сер. IУ, 1973, № 1.

К а т о н о в а Е. М. Об этническом источнике некоторых гидронимов бассейна Западной Двины на территории Белоруссии. — IУ Респ. ономастічна конференція /Тези/. Київ, 1969.

К о в а л е в а Р. М. Современное состояние топонимических преданий Белорусского Полесья. — Прозаические жанры фольклора народов СССР. Мн., 1974.

К о м о л о в а З. П. Значение прагмонимов /На материале товарных марок СССР и США/. — Актуальные проблемы лексикологии /Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной научной конференции 17—20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

К о м о л о в а З. П. Про способи утворення і семантичні типи прагмонімів /На матеріалі східнослов"янських мов/. — Мовознавство, 1972, № 2.

K o n d r a t i u k M. Badania onomastyczne w regionie białostockim. Stan i perspektywy. — Rocznik Białostocki, t. XIV. Białystok, 1977.

K o n d r a t i u k M. Miejscowości o dwu nazwach w powiatach bielskim i hajnówskim. — Slavia Orientalis, Rocz. XVIII (1969), № 1. Рэц.: А.Непокупный. — Мовознавство, 1970, № 6.

K o n d r a t i u k M. Mikrotoponimy Litewskie od dugnas, karklýnas, vidugiris w gwarach polskich i białoruskich Białostocczyzny. — Acta Baltico-Slavica, t.IX. Warszawa, 1976.

K o n d r a t i u k M. O kilku dubletach w nazwach miejscowości. — Slawia Orientalis, Rocz. XVII (1968). Рэц.: Z.Brocki, Acta Baltico-Slavica, t. VII (1970).

K o n d r a t i u k M. Tendencje słowotwórcze w nazwach mieszkańców na pograniczu polsko-białorusko-ukraińskim. — Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej, t. VIII. Warszawa, 1969.

Л а г и н о в и ч Я. Фразеологизмы, включающие антропонимы — имена исторических лиц в русском и польском языках. — Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур /2—3 снежня 1977 г./. Мн., 1977.

Łapicz Cz./рэц. на кн.:/ Я ш к і н І.Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія. Мн., 1971. Slavia Orientalis. Rocz. XXI, N 4. Warszawa, 1972.

Л е м т ю г о в а В. П. Антропонимия как источник образования ойконимии. — Вопросы балтийской и славянской антропонимики. Материалы межреспубликанской конференции. Шяуляй, 1970.

Л е м т ю г о в а В.П. Функции и место суффиксов с элементами -к-, -с-, -č- в славянской ойконимии. — Knjiga referata. VIII Međunarodni slavistički kongres. Zagreb—Lubljana, 3—9 сентября 1978, т. 1. Zagreb, 1978 /сааўтар Бірыла М.В./.

Л е м ц ю г о в а В. П. Скланяць ці не скланяць. — Настаўніцкая газета, 6 снежня 1978 г.

Л е м ц ю г о в а В. П. Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах /Адантрапанімічныя айконімы/. Мн., 1973 /Сааўтар Бірыла М.В./.

Л е м ц ю г о в а В.П. Беларуская анамастыка /З гісторыі развіцця. Сучасны стан. Перспектывы і напрамкі/. — Повідомлення української ономастичної комісії, вып. 7. Київ, 1970 /Сааўтар Бірыла М. В./.

Л е м ц ю г о в а В. П. Беларуская анамастыка. Тапаніміка.

— Беларуская лінгвістыка, вып. 3, 1973 /Сааўтар Бірыла М.В./.

Лемцюгова В. П. Працы па беларускай анамастыцы /1955—1968/. Бібліяграфічны ўказальнік. — Повідомлення української ономастичної комісії, вып. 8. Київ, 1970 /Сааўтар Бірыла М.В./.

Лемцюгова В. П. Працы па беларускай анамастыцы /1955—1975/. Бібліяграфічны ўказальнік. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977 /Сааўтар Бірыла М. В./.

Лемцюгова В. П. Словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў. — Беларуская анамастыка. Мінск, 1977 /Сааўтар Арашонкава Г.У./.

Лемцюгова В.П. /рэц. на кн./: Michał Kondratiuk. Nazwy miejscowe południowo-wschodniej Białostocczyzny. Wrocław — Warszawa–Kraków, 1974. — 304 с. — Беларуская лінгвістыка, вып. 8. Мн., 1975 /Сааўтар Бірыла М.В./.

Лобач С. Г. Заонімы /уласныя назвы-мянушкі кароў/. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Марозаў В. І. Суфіксы -шчын-а і -шчызн-а ў тапонімах Гродзеншчыны. — Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур /Тэзісы дакладаў III Рэсп. канферэнцыі 2—3 снежня 1977 г./. Мн., 1977.

Мацкевіч Ю.Ф., Грынавецкене А. І. З мікратапаніміі Віцебшчыны. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Мокиенко В. М. Псковско-белорусские лексические параллели на славянском фоне /Географическая терминология/ Славянская филология, вып. 2. Л., 1972.

Мощенская Л. Г. Названия созвездий и планет в старобелорусском языке XVI в. — Беларуская лексікалогія і этымалогія. Мн., 1968.

Муромцев И.В. О семантических условиях перехода апеллятивов в имена собственные и имен собственных в апеллятивы. — Актуальные проблемы лексикологии /Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной научной конференции 17—20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

Невельский П. Б., Иванова Е.Ф. Исследование частотных списков специальных терминов. — Актуальные проблемы лексикологии Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной на-

учной конференции 17--20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

Н е д и л ь к о О. Д. Украинско-белорусские взаимосвязи в антропонимии. — Актуальные проблемы лексикологии /Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной научной конференции 17--20 июня 1970 г./. Мн., 1970.

Н е п о к у п н ы й А. П. Лингвогеографические связи литовских и белорусских форм названий г. Дятлово и его окрестностей. — Балто-славянские исследования. М., 1974.

Н е п о к у п н ы й А. П. Балтийская лексика в словаре "Беларускія геаграфічныя назвы". — Baltistica, УШ/І/. Вільнюс, 1972.

Н и к о н о в В. А. Две волны в топонимии Полесья. — Полесье/Лингвистика. Археология. Топонимика/. М., 1968.

Н и к о н о в В. А. Проблемы ономастических ареалов. — Проблемы картографирования в языкознании и этнографии. Л., 1974.

П а р а с к е в і ч Г. В. Асабовыя уласныя імёны у беларускіх бытавых прыказках. — Весці АН БССР. Сер. грам. навук, 1974, № 5.

П о б о л ь Л. Д. Топонимический анализ археологических памятников раннего железного века Поднепровья. — Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии. Мн., 1974.

П о д о л ь с к а я Н.В., С т а л т м а н е В.Э. Ономастическая работа в СССР. — Исследования по топонимике /Матер. топонимической комиссии/. М., 1974.

П р о к о п ч и к Л. Порт за болотами /д. Рум Воложинский р-н/. -- Сельская газета, 21 жніўня 1975 г.

П р о к о п ч и к Л. Порплище /Докшицкий р-н/. -- Сельская газета, 7 чэрвеня 1975 г.

П р о к о п ч и к Л. Камень /Село. Воложинский р-н/. — Сельская газета, 23 студзеня 1975 г.

П р ы ш ч э п ч ы к А. М. Тапаграфічная тэрміналогія мікратапаніміі Стаўбцоўшчыны. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Р а г а ў ц о ў В. І. Мікратапанімія некалькіх вёсак Светлагорскага раёна /Структурна-семантычная характарыстыка/. — Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Р а п а н о в і ч Я. Н. Да праблемы пра складанне Тапані-

мічнага слоўніка Беларусі. — ІУ Респ. ономастична конференція /Тези/. Київ, 1969.

Рапановіч Я. Н. Лексіка-семантычны аналіз новых айконімаў Віцебшчыны. — Актуальные проблемы лексикологии. Мн., 1970.

Рапановіч Я. Н. Паселішча і яго назва. — Маладосць, 1970, № 3.

Рапановіч Я. Н. Пра сучасныя назвы населеных месцаў Беларусі. — Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1971.

Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977.

Рапановіч Я. Н. Генезіс і структура назваў калгасаў і саўгасаў Віцебскай вобласці. — Беларуская мова і літаратура ў ВНУ /Тэзісы дакладаў навукова-метадычнай канферэнцыі/. Брэст, 1971.

Рапановіч Я. Н. Пра беларускія назвы. — Полымя, 1972, № 4.

Рапановіч Я. Н. Структурна-граматычны аналіз назваў калгасаў і саўгасаў. — Веснік БДУ, сер. ІУ, 1971, № 1.

Редько Ю. К. Словотвір українських прізвищ у порівнянні з російськими та білоруськими. — Питання словотвору східнослов"янських мов /Материали міжвуз. респ. научної конференції/. Київ, 1969.

Римша В.П. К вопросу о происхождении некоторых белорусских антропонимов. — Baltistica, 1974, № 2.

Рубцова З. В. Белорусский ареал топонимов с финалью -нь-. Аспекты лингвистического анализа. М., 1974.

Рудных С. Русские, украинские и белорусские названия на карте Канады. — Славяне, 1958, № 12.

Русакевич Ю. Е. Материалы по антропонимии села Майшегалы и его окрестностей. Польские говоры в СССР, ч. 2. Мн., 1973.

Русакевич Ю. Е. Некоторые топонимы, микротопонимы и гидронимы юго-восточной части Литовской ССР. Польские говоры в СССР, ч. 1. Мн., 1973.

Рымша В. Бел. Ліда. — Беларуская лінгвістыка, вып.5, 1974.

Р ы м ш а  В. П. Некаторыя беларускія антрапонімы балтыйскага паходжання. -- Беларуская лінгвістыка, вып. 6, 1974.

С а в к а  М. Т., Т и м ч и ш и н  Я. Д. Производственная топонимия Западного Полесья и Волыни /Украінскай і Беларускай ССР/. -- Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР /Тезисы докладов и сообщений/. Рига, 1966.

С в а щ е н к о  А.А. Об источниках системного изучения восточнославянской антропонимики. -- Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур /Тэзісы дакладаў і паведамленняў II Рэсп. канферэнцыі 17--19 мая 1973 г./. Мн., 1973.

С е д о в  В. В. Гидронимика и археология. -- Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР /Тезисы докладов и сообщений/. Рига, 1966.

С е м е н о в а  М. Ф. Восточно-славянско-латышские языковые связи по данным топонимики. -- Вопросы географии, вып. 70. Изучение географических названий. М., 1966.

С к л я р е н к о  А. М. Некоторые непроизводные топонимы в белорусском и украинском языках. -- Веснік БДУ, сер. IУ, 1973, № 3.

Словарь названий жителей СССР. М., 1975, с. 326--337. Белорусская ССР.

С у х а м л ы н  І. Д. Аб сістэмна-тыпалагічным вывучэнні рускай, украінскай і беларускай антрапаніміі. -- Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур /Тэзісы дакладаў і паведамленняў II Рэсп. канферэнцыі 17--19 мая 1973 г./. Мн.,1973.

С у х о м л и н  І. Д. Російсько-українсько-білоруські паралелі в.антропонімії та явища мовної інтерференції. -- Говори и ономастика Наддніпрянщини. Дніпропетровськ, 1970.

Т о л с т о й  Н. И. /рэц. на кн.:/ І. Я. Яшкін. Беларускія геаграфічныя назвы. Мн., 1971. -- Вопросы языкознания, 1972, № 5. 1972, № 5.

Т р у б а ч о в  О. М. Етимологічны спостереження над стратиграфією ранньої східнослов"янської топонімії. -- Мовознавство, 1971, № 6.

Т р у б а ч е в  О. Н. Ранние славянские этнонимы -- свидетели миграции славян. -- Вопросы языкознания, 1974, № 6.

У с т и н о в и ч  А. К. Мужские личные имена в гродненских

и брестских актах ХУ--ХУП вв. -- Антропонимика. М., 1970.

Усціновіч А. К. Антрапанімічныя эцюды. -- Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Федорова М. Ф. Унеин, Унеча, Кашубы и Касоги. -- Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур /Тэзісы дакладаў III Рэсп. канферэнцыі 2--3 снежня 1977 г./. Мн., 1977.

Чарапанава Я. А. Да праблемы беларуска-украінскіх лексічных сувязей /На матэрыяле мясцовай геаграфічнай тэрміналогіі/. -- Весці АН БССР. Сер. грам. навук, 1973, № 2.

Шыдлоўскі А. Беларуская тапаніміка. -- Полымя, 1968, № 10.

Юркенас Ю. Древние сложные имена в письменных памятниках Великого княжества Литовского. Автореф. канд. дис. Вильнюс, 1966.

Юркенас Ю. О древних трехчленных антропонимах балтийского происхождения, засвидетельствованных в старобелорусских письменных памятниках. -- Ученые записки высших учебных заведений Литовской ССР. Языкознание, 1971, т. 22/2/.

Янкоўскі А. Р. Былыя татарскія вёскі Кяна і Касіна /Гісторыка-этымалагічнае даследаванне/. -- Беларуская анамастыка. Мн., 1977 /Сааўтар Вярэніч В.Л./.

Янкоўскі А. Р. Мікратапанімія вёскі Адамчукі Вільнюскага р-на Літоўскай ССР. -- Першая беларуская анамастычная канферэнцыя. Тапанімія. 1--3 снежня 1967 г. /Тэзісы дакладаў/. Мн., 1967 /Сааўтар Вярэніч В. Л./.

Янкоўскі А. Р. Мікратапанімія вёскі Адамчукі Вільнюскага раёна Літоўскай ССР. -- Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970 /Сааўтар Вярэніч В. Л./.

Яшкін І. Я. Гідронімы і мікрагідронімы Слаўгарадчыны /Басейн Сажа/. -- Питання гідроніміки /Матеріали III Респ. ономастичної /гідронімічної/ наради/. Київ, 1971.

Яшкін І. Я. Стратыфікацыя і частотнасць некаторых тапонімаў Слаўгарадчыны па гісторыка-геаграфічных і картаграфічных матэрыялах. -- Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

Яшкин И. Я. Топографическая и гидрологическая лексика Белоруссии и западной части РСФСР. -- Топонимия Центральной

России. М., 1974.

Я ш к і н І. Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія. Мн., 1971. Рэц.: Cz. Łapicz, Slavia Orientalis. Rocz. XXI, № 4. Warszawa, 1972.

Я ш к і н І. Я. Этнаграфічныя і дыялектныя нататкі з паўднёвага ўсходу і ўсходу Беларусі. — Этнаграфічны зборнік. Мн., 1975.

З М Е С Т


Прадмова . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

Бірыла М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем не- тыпу Неждан, Недбай, Небаба, Некрас, Неваш, Нетреба...4

Прышчэпчык А.М. Назвы жыхароў населеных пунктаў Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці . . . . . . . . . . 28

Усціновіч Г.К. Антрапанімічныя эцюды . . . . . . . . 41

Жучкевіч В.А. Макратапанімія, агульныя заканамернасці, яе ўзнікненне і функцыяніраванне . . . . . . . . . . . 46

Лемцюгова В.П. Айконімы з лексічнай асновай погост . . . 49

Грыгор"ева Л.М. Крытэрыі і прынцыпы структурна-словаўтваральнай класіфікацыі айконімаў беларускага Падзвіння . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 74

Бабушкіна Н.І. Састаўныя айконімы Брэстчыны і іх структурныя тыпы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 88

Краўчанка З.Ф. Назвы вуліц горада Мінска . . . . . . . 101

Марозаў В.І. Сляды вайны ў тапаніміі Гродзеншчыны . . . 112

Арашонкава Г.У. Польскія элементы ў беларускай мікратапаніміі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 119

Іванова А.А. Мікратапонімы-назоўнікі Мазырскага Палесся ў форме множнага ліку . . . . . . . . . . . . . 131

Емельяновіч В.М. Структурныя тыпы мікратапонімаў-назоўнікаў /На матэрыяле Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці/ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 139

Крыўко М.Н. З мікратапаніміі Дзісеншчыны . . . . . . 161

Сцяцко П.У. З мікратапаніміі Зэльвеншчыны . . . . . . 170

Рудакоўскі В.В. Мікратапонімы вёскі Росны . . . . . . 178

Васілеўскі М.С. Мікратапонімы вёскі Макраны . . . . . 188

Бірыла М.В., Лемцюгова В.П. Працы па беларускай анамастыцы. Бібліяграфічны ўказальнік /1976—1978 гг. і дапаўненні да бібліяграфіі 1955—1975 гг./ . . . . 196

З М Е С Т

Прадмова . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
Бірыла М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем не- тыпу Неждан, Недбай, Небаба, Некрас, Неваш, Нетреба...4
Прышчэпчык А.М. Назвы жыхароў населеных пунктаў Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці . . . . . . . . . . 28
Усціновіч Г.К. Антрапанімічныя эцюды . . . . . . . . 41
Жучкевіч В.А. Макратапанімія, агульныя заканамернасці, яе ўзнікненне і функцыяніраванне . . . . . . . . . . 46
Лемцюгова В.П. Айконімы з лексічнай асновай погост . . . 49
Грыгор"ева Л.М. Крытэрыі і прынцыпы структурна-словаўтваральнай класіфікацыі айконімаў беларускага Падзвіння . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 74
Бабушкіна Н.І. Састаўныя айконімы Брэстчыны і іх структурныя тыпы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 88
Краўчанка З.Ф. Назвы вуліц горада Мінска . . . . . . . 101
Марозаў В.І. Сляды вайны ў тапаніміі Гродзеншчыны . . . 112
Арашонкава Г.У. Польскія элементы ў беларускай мікратапаніміі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 119
Іванова А.А. Мікратапонімы-назоўнікі Мазырскага Палесся ў форме множнага ліку . . . . . . . . . . . . 131
Емельяновіч В.М. Структурныя тыпы мікратапонімаў-назоўнікаў /На матэрыяле Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці/ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 139
Крыўко М.Н. З мікратапаніміі Дзісеншчыны . . . . . . 161
Сцяцко П.У. З мікратапаніміі Зэльвеншчыны . . . . . . 170
Рудакоўскі В.В. Мікратапонімы вёскі Росны . . . . . . 178
Васілеўскі М.С. Мікратапонімы вёскі Макраны . . . . . 188
Бірыла М.В., Лемцюгова В.П. Працы па беларускай анамастыцы. Бібліяграфічны ўказальнік /1976—1978 гг. і дапаўненні да бібліяграфіі 1955—1975 гг./ . . . . 196

Белорусская ономастика, 2

Издательство "Наука и техника"

На белорусском языке

Рэдактар В.І.Савельева
Мастацкі рэдактар В.А.Жахавец
Тэхнічны рэдактар Г.І.ЯкубоЎская
Карэктар З.А.Гусельцава

ІБ № 1709

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР
Падпісана ў друк 5.08.81. АТ 13578.
Фармат 60х84/16. Папера друк. № 1. Афсетны друк.
Друк. арк. 13,25. Ум. друк. арк. 12,32.
Уч.-выд. арк. 11,7. Тыраж 400 экз. Зак. №212
Цана 80 к.

Выдавецтва "Навука і тэхніка" Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Надрукавана на ратапрынце Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР. 220600. Мінск, Сурганава 15.

Белорусская ономастика, 2

Издательство "Наука и техника"
На белорусском языке

Рэдактар В.І.Савельева
Мастацкі рэдактар В.А.Жахавец
Тэхнічны рэдактар Г.І.Якубоўская
Карэктар З.А.Гусельцава

ІБ № 1709

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР
Падпісана ў друк 5.08.81. АТ 13578.
Фармат 60x84/16. Папера друк. № 1. Афсетны друк.
Друк. арк. 13,25. Ум. друк. арк. 12,32.
Уч.-выд. арк. 11,7. Тыраж 400 экз. Зак. №212
Цана 80 к.

Выдавецтва "Навука і тэхніка" Акадэміі навук БССР
і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў,
паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі
праспект, 68. Надрукавана на ратапрынце Фундаментальнай
бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР. 220600. Мінск,
Сурганава 15.

